**Рэдактар:**
праф. Ніна Баршчэўская (Варшаўскі ўніверсітэт)

**Рэцэнзенты:**
праф. Ванда Бароўка (Віцебскі дзяржаўны ўніверсітэт)
праф. Аляксандар Макарэвіч (Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт)
праф. Галіна Тычка (Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт)

**Дызайн вокладкі:**
Павел Курза

На чацвёртай старонцы вокладкі:
рукапіс байкі *Waйkałak* Альгерда Абуховіча (LMAVB, F 21–431, k. 2.)

**Skład i łamanie:**
Maryla Chaustowicz

Publikacja dofinansowana przez *Komitet Badań Naukowych*



ISBN 978-83-60951-29-3

**Wydawca:**
*Katedra Białorutenistyki*
*Uniwersytetu Warszawskiego*
*ul. Szturmowa 4, 02-678 Warszawa*
*tel. +48 22 55 34 252*
*http://www.kb.uw.edu.pl*
*e-mail: kb.wls@uw.edu.pl*

**Druk i oprawa:**
*SOWA Sp. z o.o.*
*ul. Raszyńska 13, 05-500 Piaseczno*
*tel. (22) 431-81-40; fax (22) 431-81-50*

# ЗМЕСТ

# Замест прадмовы

Мы не можам пагадзіцца (асабліва з першаю часткаю выказвання) з тым, што нядаўна напісаў адзін з модных сённяшніх літаратараў: “Беларускія гістарычныя міты даўно ўжо створаныя, ідзе працэс іх рэвізіі, героі праслаўленыя і названыя, гістарычная літаратура напісаная. Цяпер насьпеў час гаварыць пра тых, хто быў выкрасьлены і забыты ў гарачцы нацыянальнага будаўніцтва. Пра габрэйскую спадчыну Беларусі, напрыклад. Пра ўсіх тых, хто павязаны з гэтай зямлёй, але чамусьці быў залічаны да лішніх, не патрэбных, тых, хто ня ўпісваецца ў прымітыўную схему «адна краіна-адзін народ-адна ідэнтычнасьць»”.

Як далёка не ўсё яшчэ вывучана з шматпакутнае беларускае мінуўшчыны; як шмат чаго было выкраслена (менавіта з яе!), але не “ў гарачцы нацыянальнага будаўніцтва” (выбачайце, а калі гэта была – тая “гарачка”?), а ў сталым ходзе будаўніцтва нацыянальнага бяспамяцтва. Таго будаўніцтва, якім кіравалі пераважна прадстаўнікі братняга суседняга народа, а таксама тыя, чыю спадчыну нас заклікае аднаўляць знаны літаратар.

У V томе *Даследаванняў і матэрыялаў* змешчаны разнастайныя матэрыялы, якія датычаць гісторыі, культуры і літаратуры Беларусі XIX – пачатку XX стагоддзя. Першы раздзел прысвечаны вядомай амаль усім і адначасна не так, каб і вывучанай гісторыі бунту крашынскіх сялянаў супраць пана Станіслава Юрагі; падзеям, якія адбыліся на Наваградчыне блізу 200 гадоў таму і нарадзілі прыгожую легенду пра першага сялянскага паэта Беларусі. Легенду, якая вось ужо больш за сто гадоў служыць абгрунтаваннем сацыяльных тэндэнцый у беларускай літаратуры.

Разбураць легенды – справа нібыта няўдзячная, але чамусьці ўсе забываюцца, што якраз навука і павінна займацца гэтым. Ці, можа, навука павінна тварыць міфы, абараняць іх святасць і недатыкальнасць?

Навуковец мае права на даследаванне любое праблемы. Ён мусіць знаёміцца з матэрыяламі, крытычна аналізаваць іх і на гэтай аснове рабіць высновы. Нічога падобнага не было ў дачыненні да гісторыі сялянскага бунту ў Крашыне. Дзіўная сітуацыя: з аднаго боку – дастаткова вялікая колькасць архіўных матэрыялаў, а з другога – незразумелае нежаданне знаёміцца з гэтымі матэрыяламі. Урэшце, чаму гісторыкаў літаратуры не цікавілі дакументы, якія ляжаць побач? Чаму ніхто з літаратараў, перш чым пісаць пра Паўлюка Багрыма, не зазірнуў у дакументы, каб “адчуць дух часу”?

Мы публікуем справу з фонду гродзенскага цывільнага губернатара, якая фактычна з'яўляецца невядомаю, бо толькі некалькі фрагментаў з яе было калісь надрукавана. Цяжка яна чытаецца, бо гэта не аповесць, толькі суровы матэрыял да яе. Затое той, хто прачытае гэтыя дакументы, пэўна, адкажа сам сабе на пытанне: ці быў напісаны ў 1826–1829 гг. верш *За́грай, за́грай, хло́пчэ ма́лы...* У наступным томе *Даследаванняў і матэрыялаў* мы плануем апублікаваць чарговыя дакументы "крашынскае справы".

Другі раздзел кнігі – гэта спроба (з дапамогаю Пятра Кушына) узнавіць жыццё беларускае вёскі 1830–1840-х гг. у іншым, паўночна-ўсходнім рэгіёне Беларусі. Апублікаваны ў раздзеле матэрыял – гэта не архіўны дакумент, але мае гэткую ж самую фатаграфічную дакладнасць. Тут пра змрочнае і безнадзейнае жыццё кінутага на волю лёсу селяніна, які нават і не спрабуе (у адрозненне ад крашынскіх сялян) шукаць лепшую для сябе долю. Вядома, сённяшні чытач абавязкова заўважыць тую непрыязнь, якую адчувае да сваіх герояў аўтар, які нібыта і сам паходзіць з таго самага асяроддзя "гецыкаў", але адрокся ад яго, навучыўся "культурнай мове" і мае нібыта права пагардліва апавядаць пра іх. Мовазнаўцы могуць пасведчыць: асаблівасці беларускіх паўночна-ўсходніх гаворак перададзены дакладна. А таму гэты абразок П. Кушына можа лічыцца помнікам дыялектных асаблівасцяў рэгіёну, які не даў нейкіх іншых значных літаратараў, а г. зн. мастацкія тэксты з гэтай тэрыторыі не ўдзельнічалі ў выпрацоўцы агульнанацыянальнай літаратурнай мовы.

Мы ўжо няраз падкрэслівалі: вывучэнне архіўных збораў вельмі патрэбнае ў наш час. І не толькі таму, што можна спадзявацца на выяўленне высокамастацкіх твораў тае эпохі, калі беларускі літаратурны працэс з-за неспрыяльных грамадска-палітычных умоваў фактычна адсутнічаў (выяўляў сябе толькі ў іншамоўных літаратурных працэсах). Больш важна тое, што там, у архіўных зборах захаваліся залацінкі нашае мовы, берагчы якую ці не самая важная задача сёння.

Навукоўцы ведаюць пра аграмадны збор дасланых карэспандэнтамі Паўла Шэйна запісаў тэкстаў вуснае народнае творчасці, сярод якіх маюцца і літаратурныя творы. Мы, аднак, звычайна абыякава ставіліся да падобных збораў, бо лічылі, што ўсё самае вартаснае ўжо апублікаванае: што там добрага знойдзеш?!

Але ж яно – нашае! Яго занатоўвалі нашыя продкі – настаўнікі і валасныя пісары – пэўна ж, спадзеючыся, што іхняя праца не загіне, што некалі і некаму спатрэбіцца. Чаму яны запісвалі? Бо любілі сваё, усведамлялі яго каштоўнасць і бачылі пагарду ды адначасна пагрозу для яго з боку паноўнае культуры. А што мы робім цяпер? Пакідаем яго на архіўных паліцах і ганарымся гэтым?! Дык гэта ж мы нашых продкаў пакідаем у самоце і забыцці! Пакідаем іх самазнішчацца пылам архіўных сховаў. Навошта ўвогуле тады архівы, калі імі не карыстацца?

Шаснаццаць літаратурных твораў выявіў Лукаш Бэндэ ў паперах П. Шэйна. Мы публікуем тое, што ён перапісаў, і маем надзею: нехта апублікуе іх у першаснай моўнай апратцы (г. зн. з папераў П. Шэйна), а не ў адаптацыі Л. Бэндэ. І не толькі гэтыя, але і іншыя, нявыяўленыя грозным чалавекам з наганам.

Раздзел, дзе змешчаны тэксты Станіслава Замбжыцкага, не прынясе асалоды сённяшняму эстэту ад літаратуры. Бо вязынкаўскі вершаскладальнік не думаў пра друкаванне, пра кар'еру літаратара, ён адно фіксаваў малюнкі навакольнага жыцця (не сялянаў, заўважым, хоць у поле ягонага зроку траплялі часам і сяляне з іх моваю). Паэтам яго "зрабілі" ўнучкі, перадусім адна з іх, Алімпія Свяневіч, якая ў 1920–1930-х гг. вывучала, а пасля даследавала ды выкладала геаграфію і этнаграфію. Пазней, апынуўшыся на эміграцыі, яна будзе па памяці ўзнаўляць "skarbiec kultury białoruskiej", каб дыскутаваць са Станіславам Пігонем пра залежнасць *Дзядоў* Адама Міцкевіча ад беларускага фальклору і свае развагі падмацоўваць прыкладамі з жыцця і абрадаў вязынкаўскіх ваколіцаў.

Незапатрабаванае пры жыцці А. Свяневіч даследаванне *Interpretacja DZIADÓW Mickiewiczowskich na podstawie skarbca kultury białoruskiej* убачыла свет сёння (Toruń 2018). А гэта можа сведчыць, наколькі глыбока Замбжыцкія "ўраслі" ў беларускі грунт.

Выяўленыя ў старых выданнях некралогі Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Антона Трусава і Ялегі Пранціша Вуля дазваляюць удакладніць асобныя даты ў жыццяпісе знаных прадстаўнікоў беларускага літаратурнага і грамадска-палітычнага руху XIX стагоддзя. Сённяшняму даследчыку трэба будзе спраўдзіць: які гэта *Elementarz białoruski* напісаў і выдаў літаратар з Люцінкі? Мусіць ён таксама ўнесці карэктывы ў энцыклапедычныя звесткі пра дату смерці дзеяча 1-га Інтэрнацыянала.

Шчаслівы збег абставінаў (дзякуй, Антон Францішак Брыль!) падарыў новыя магчымасці пошуку матэрыялаў, звязаных з жыццёвым і творчым шляхам аднаго з самых таленавітых паэтаў Беларусі сярэдзіны XIX стагоддзя – Ялегі Пранціша Вуля (Элігі Францішка Карафа-Корбута, 1835–1894). Яшчэ зусім нядаўна мы нічога не ведалі пра ягоны лёс пасля таго, як у 1864 г. літаратара, закутага ў кайданы, вывезлі з Віцебска ў Сібір, а сёння мы можам больш дакладна акрэсліць ягоны цярністы шлях. І нават месца ягонага вечнага спачынку на варшаўскіх Павонзках знайшлося. У наступным томе *Даследаванняў і матэрыялаў* варта чакаць працягу гісторыі чалавека, які меў шанец стаць беларускім Бёрнсам ці Шаўчэнкам.

У даследаванні жыцця і творчасці Альгерда Абуховіча беларускія літаратуразнаўцы зрабілі нямала. Але варта прыгледзецца яшчэ раз да ягонае спадчыны. Ды толькі без боязі, што выяўленне нечага новага (прыгадайма: "міты даўно ўжо створаныя") можа зашкодзіць іміджу і самога літаратара, і тых даследчыкаў, якія калісь стварылі воблік першага беларускага байкапісца. Бо імкненне да ісціны не можа пашкодзіць добрай справе.

Доўгі час з вядомых прычынаў беларускія савецкія гісторыкі і літаратуразнаўцы ігнаравалі постаць і даробак Вацлава Іваноўскага. З-за гэтага ў ланцужку адраджэнскіх падзеяў трацілася вельмі важнае звяно, якое спалучала Аляксандра Ельскага і Францішка Багушэвіча з нашаніўствам. Вядома, невялікі набытак сёння – *Koladnaja pisanka* ці *Вяликодная писанка*, але нам нельга без іх. Пэўна, няхутка яшчэ беларускія выдаўцы падрыхтуюць факсімільныя ўзнаўленні першых нацыянальных выданняў ХХ стагоддзя, дык няхай будуць хоць тэкставыя. А яны некалі падштурхнуць зрабіць і нешта лепшае.

Выказваючы ўдзячнасць усім тым, хто паспрыяў падрыхтоўцы гэтага тома (асабліва хочацца адзначыць дапамогу Надзеі Чукічовае ў атрыманні копій рукапісаў з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў г. Гродне, а таксама перасылку Марыяй Свяневіч-Нагенць копій твораў свайго прадзеда Станіслава Замбжыцкага), мы звяртаемся да чытачоў з просьбаю дасылаць свае каментары і заўвагі на адрас: m.khaustovich@uw.edu.pl.

# Крашынская справа

Гісторыкі літаратуры ў сваіх даследаваннях часта сутыкаюцца з невядомым, ці з г. зв. “загадкамі”. Шукаючы разгадкі, адны з іх, маючы пэўную гіпотэзу, імкнуцца пацвердзіць яе архіўнымі матэрыяламі ці малавядомымі публікацыямі; іншыя замяняюць карпатлівыя пошукі адною толькі працаю над напісаннем уласных разваг-фантазій, якія выдаюць за гіпотэзы. Такіх, хіба, няварта называць гісторыкамі літаратуры. Яны, хутчэй, – літаратары; іхняя прадукцыя ўяўляе сабою выштукаваныя тэксты, разлічаныя на маладасведчаную публіку; для іх істотным з’яўляецца правільна расставіць акцэнты, нібыта лагічна пабудаваць аповед, напісаць літаратурны твор. Такому аўтару непатрэбная ісціна: за яе ён імкнецца выдаць тое, што ўжо ведае ён ці публіка. Галоўнае, – улавіць “настрой” публікі (а часам, – улады), каб атрымаць воплескі.

Такая сітуацыя ў гісторыі беларускага літаратуразнаўства склалася з-за агульнага ўзроўню развіцця айчыннае навукі пра літаратуру, з-за недастатковае распрацаванасці метадалогіі даследавання. Тут няма нічога дзіўнага: беларускае літаратуразнаўства пачало сваё станаўленне ў надзвычай неспрыяльны час, калі ці не адзіным метадам даследавання ў гуманітарных навуках быў сацыялагічны (вульгарна-сацыялагічны). Народжанае ў такіх умовах, беларускае літаратуразнаўства так і не здолела, на нашую думку, цалкам вылекавацца ад хваробы сацыялагізму, якая доўгі час мела надзвычай востры характар. Нам, беларускім літаратуразнаўцам, не ўдалося пазбавіцца ад гэтае хваробы ні ў 1950–1970-я, ні нават ў 1980–1990-я гг. Увесь гэты час хранічна хворае літаратуразнаўства пладзіла ўсё новыя і новыя пакаленні літаратуразнаўцаў, якія часцей за ўсё і не здагадваліся пра тое, што яны атрымалі ў спадчыну.

Вельмі горка ўсведамляць, што дзесяцігоддзямі мы займаліся не тым, што было вартасным. Мы трацілі свае сілы не на барацьбу з хваробаю літаратуразнаўства, а падтрымлівалі сваімі нібыта “даследаваннямі” даўнія міфы, народжаныя ў грамадстве, калі яно знаходзілася ў крытычна-хваравітым стане.

Цяжка адназначна адказаць на пытанне: чаму так адбывалася? Можа, з тае прычыны, што ў міфы верылі і папулярызавалі іх нашыя настаўнікі; а можа таму, што вірус хваробы запаланіў нашыя істоты і вынішчыў нашую асабовасць; што мы не здольныя ні на што іншае, апрача як паўтараць завучанае ад папярэднікаў.

Сведчаннем памылковасці таго шляху, якім мы ішлі, будуць шматлікія “загадкі”, “праблемы” і “пытанні”, якія засталіся нам ад папярэднікаў і якія

асобныя сённяшнія “знаўцы” прапануюць аб’явіць вечнымі. Узнікае пытанне: а навошта тады гісторыя літаратуры, калі можна ўсё невядомае, усё, што патрабуе настойлівае працы, залічыць да “катэгорыі вечных”? І ці не азначае гэта: не было ў нас навуковае гісторыі літаратуры, дык і не трэба, а мы будзем паўтараць за нашымі папярэднікамі даўнія міфы і выдаваць іх за “новае слова ў навуцы”?

Увогуле, што гэта за навука, якая цягам дзесяцігоддзяў не можа вырашыць тое ці іншае пытанне? Так, рэвалюцыі, войны, гістарычнае і нацыянальнае бяспамяцтва беларусаў шмат вынішчылі з таго, што магло б хутка раскрыць не адну таямніцу мінулага. Аднак практыка паказвае, што мы часцей за ўсё проста хаваемся за ўяўную адсутнасць матэрыялаў. Мы проста не жадаем працаваць з гэтымі матэрыяламі. Бо як інакш вытлумачыць тое, што нават знакавыя тэксты беларускае літаратуры XIX стагоддзя не сталі прадметам пільнае ўвагі? Няўжо за 70 гадоў (1921–1991) будаўніцтва сацыялізму і камунізму немагчыма было высветліць, напрыклад, гісторыю напісання верша *Зáграй, зáграй, хлóпчэ мáлы*? А хоць бы з тае прычыны, што яго аўтарам увесь гэты час лічыўся Паўлюк Багрым, “першы вядомы пясняр сялянскага роду” (Максім Гарэцкі). Няхай сабе з-за класавай прадузятасці мы абміналі ўвагай розных там шляхціцаў-палякаў (ці проста спаланізаваных тутэйшых шляхціцаў), але ж тут нібыта самы што ні ёсць селянін-бядняк, амаль пралетар! Але дзе даследаванні – манаграфіі, кнігі, зборнікі – пра яго?

Праўда, пачатак даследаванняў “крашынскае справы” быў шматабяцальны. У 1913 г. літоўскі гісторык Аўгусцінас Янулайціс (1878–1950) пазнаёміў грамадскасць з уласнай версіяй падзей 1826–1829 гг. у Крашыне. Да гэтага часу была вядомая толькі версія Ігнацы Яцкоўскага (перадусім, у пераказе Вацлава Ластоўскага[1]). Сваю версію А. Янулайціс засноўвае на “дакументах аб гэтым здарэньні”[2]. Што гэта за дакументы і дзе яны знаходзяцца, навуковец не паведамляе. Па ўскосных дадзеных (цытата з паказанняў князя Канстанціна Радзівіла паводле следчае справы, якую вёў Ігнацы Брадоўскі) можна меркаваць, што ён карыстаўся паперамі з канцылярыі ці то рэктара Віленскага ўніверсітэта Вацлава Пелікана, ці то апекуна Віленскае навучальнае акругі Мікалая Навасільцава (захоўваліся і захоўваюцца ў Вільні), а таксама, магчыма, іншымі гістарычнымі крыніцамі. Пішучы не навуковы, а публіцыстычны артыкул[3], А. Янулайціс дазваляў сабе спалучаць звесткі з мастацкага твора (называючы яго ўспамінамі[4]) з архіўнымі

[1] Власт, *Пятрок з Крошына*, “Наша Ніва” 1911, № 30 (28 ліп.).

[2] А. Янулайтіс, *Аб маладым паэце с Крошына*, “Maładaja Biełaruś – Маладая Беларусь” 1913, сэр. 1, сш. 3, с. 9.

[3] А. Янулайціс, як і браты Луцкевічы, паходзіў з ваколіцаў мястэчка Шаўлі (Шаўляй), а з 1908 г. жыў у Вільні. Верагодна, Луцкевічы паспрыялі, каб публікацыя А. Янулайціса з’явілася ў пецярбургскім альманаху. Цікава, што артыкул *Аб маладым паэце с Крошына* датуецца 16 красавіка 1913 г. з Вільні, а нататка *Наш шлях* Антона Навіны ў гэтым жа выданні – 22 красавіка 1913 г.

[4] Аднак сам І. Яцкоўскі ва ўступе да кнігі папярэджваў чытача: “Аўтар не пярэчыць, што тыя

матэрыяламі, калі гэта неабходна было для яго канцэпцыі. Часам ён памыляўся, напрыклад, князя К. Радзівіла называў маршалкам павятовае шляхты, а таксама адным з суддзяў крашынскіх сялянаў. Істотным, аднак, было тое, што А. Янулайціс адназначна сцвердзіў: “дакументы, якімі я карыстаўся, а ім трэба верыць”, нічога не кажуць пра тое, што ў Крашын у 1828 г. прыязджалі сенатар М. Навасільцаў і рэктар Віленскага ўніверсітэта В. Пелікан; а таксама і тое, што ён не пагадзіўся з выказваннем І. Яцкоўскага, што “Паўлу Бахрыма[1] былі здаўшы у рэкруты. Думаю, што гэта непраўда. Лішне малы быў на гэта. Яму было 15 гадоў”[2].

Зрэшты, у сваёй публікацыі А. Янулайціс, сцвярджаючы, што ў школцы В. Магнушэўскага вучні пісалі вершы, а “с чысла гэткіх хлопчыкаў вядомы нам толькі адзін, Павал Бахрым”, які, “будучы ў школі <…> вельмі спадабаў пісаць вершы”[3], нават не згадвае пра верш *За́грай, за́грай...* Але затое згадвае, што Павел Багрым “перапісваў, што нападалося, ня толькі друкаванае, але і рукапіснае”[4], спасылаючыся пры гэтым на верш *Разгавор Мужыкоў* (*Rozmowa Chłopów*).

Архіўныя матэрыялы нічога не кажуць пра Паўла Багрыма як аўтара “нѣлепыхъ сочинений”, але А. Янулайціс свядома падтрымлівае напісанае І. Яцкоўскім. Прынамсі, у чытача складваецца адназначнае ўяўленне: Пётрак з Крашына, таленавіты сялянскі паэт з кнігі І. Яцкоўскага, – гэта той жа “Павал Бахрым”, які “вельмі спадабаў пісаць вершы”.

Заўважылі мы таксама яшчэ адну недакладнасць у А. Янулайціса: ксяндза вікарыя Піуса Гарбачэўскага (Гарбацэвіча), які – паводле дакументаў – адукаваў Паўла Багрыма ў плебаніі (“читать, писать и началамъ Арифметики”), гісторык робіць настаўнікам парафіяльнае школкі: “ён чытаў ім (вучням школкі. – *М. Х.*) казкі Эзопа, польскаго паэта Нарушэвіча і «Wiadomości brukowe», каторые выхадзілі ў Вільні і ў каторых не раз пісалі аб дрэнным палажэньні селян і аб патрэбе скасаваць паншчыну”[5].

Бясспрэчна, патрэбна гэта А. Янулайцісу, каб падвысіць статус школкі Вайцэха Магнушэўскага, якая выхавала здольнага паэта. Атрымліваецца, што паэта з Паўла Багрыма зрабіў літоўскі гісторык[6]. І яму паверылі, бо ён

---

самыя матэрыялы ў іншых руках маглі б набыць зусім іншы кшталт; яму, аднак жа, здавалася, што форма раману можа быць больш цікаваю, а таму ён факты і асобы, звязаныя не так між сабою, як з апісанаю эпохаю, спалучыў у форме раману”. Гл.: І. Яцкоўскі, *Аповесць з майго часу, альбо Літоўскія прыгоды*, Warszawa 2010, с. 5.

[1] Напісанне прозвішча “маладога паэта” можа сведчыць, што яно было пададзена А. Янулайцісам недакладна [як варыянт: ягоны артыкул перакладаўся з літоўскае (?) ці польскае (?) мовы і перакладчык ужыў больш адпаведную – на яго думку – беларускую форму]. Памылку заўважыў Ісідар Бас яшчэ ў сярэдзіне 1950-х гг., але выправіць яе не здолеў: рэдакцыя газеты “ЛіМ” пакінула традыцыйнае напісанне. Гл.: І. Бас, *Новыя факты да біяграфіі Паўлюка Багрыма: З архіўных матэрыялаў*, “ЛіМ” 1954, № 20 (15 мая).

[2] А. Янулайтіс, *Аб маладым паэце с Крошына*, “Маладая Беларусь” 1913, сер. 1, сш. 3, с. 15.

[3] *Ibidem*, s. 11.

[4] *Ibidem*.

[5] *Ibidem*.

[6] Дапускаем пэўны ўдзел у гэтым працэсе перакладчыка артыкула.

сцвярджаў у сваёй публікацыі, што карыстаецца дакументамі "аб гэтым здарэньні".

Паверыў яму Рамуальд Зямкевіч, які ў хуткім часе [вясна 1915 г. (?)], пакінуўшы працу "ў Магілеўшчыне", пераедзе ў Крашын парадкаваць бібліятэку К. Святаполк-Завадскага і, пэўна, будзе пашыраць сярод крашынцаў звесткі пра Paŭła Bochryma (sic!) і ягоны верш[1]. Больш за тое, Паўла Багрыма ён называе аўтарам *Гутаркі Данілы з Сьцяпанам* і верша *Размова пана з мужыком*. Артыкул А. Янулайціса, а таксама звесткі Р. Зямкевіча сталі асноваю раздзела *Паўлюк Бахрым* у кнізе Максіма Гарэцкага *Гісторыя беларускае літэратуры*[2]. Пераканаўчасць, з якою апавядаў М. Гарэцкі пра Паўла Багрыма, прычынілася ўмацаванню ідэі пра выключную патрэбнасць такое постаці ў гісторыі беларускае літаратуры XIX стагоддзя: "Единственным исключением на этом общем фоне холопоманской, мужиковствующей, но все же господской литературы является творчество первого белорусского поэта-крестьянина – Павлюка Багрима. В его стихах – неподдельный голос самих масс угнетенного белорусского крестьянства"[3].

Нават Лукаш Бэндэ ў суровыя 1930-я гг. не меў нічога супраць такога паэта ў гісторыі літаратуры мінулага стагоддзя, супрацьпастаўляў яго пісьменнікам "пануючых класаў" – Яну Баршчэўскаму, Яну Чачоту, Аляксандру Рыпінскаму, Вінцэнту Дуніну-Марцінкевічу: "Творчасць Паўлюка Бахрыма, творы невядомых нам аўтароў <…> сваім вастрыём накіраваны супроць прыгонніцтва, супроць прыгоннікаў-памешчыкаў. Гэтыя творы, праўдзіва адлюстроўваючы ў мастацкіх формах (праўда прымітыўных) прыгоннае становішча сялянства і яго імкненні да «зямлі і волі», будучы накіраванымі сваім вастрыём супроць прыгоннікаў-памешчыкаў і ўсяго прыгоннага ладу, цалкам аб'ектыўна выяўлялі ідэі антыпрыгонніцкай, сялянскай рэволюцыі"[4].

Аднак грунтоўна вывучаць жыццё і творчасць першага сялянскага паэта ў Савецкай Беларусі не было магчымасці: як высветліцца пазней, асноўныя матэрыялы, якія маглі б дакументальна пацвердзіць ключавы момант у гісторыі ўзнікнення верша *За́грай, за́грай...*, знаходзіліся ў Вільні і Гродне – за межамі БССР. Літаратуразнаўцам-даследчыкам (якіх было няшмат) і чытачу заставалася толькі верыць у напісанае А. Янулайцісам.

Не заняліся вывучэннем дадзенага пытання і заходнебеларускія гісторыкі, публіцысты і літаратуразнаўцы. Антон Луцкевіч адно толькі паўтараў колькі разоў пра вялікае значэнне асобы Паўла Бахрыма ў гісторыі беларускага адраджэнскага руху[5], Адам Станкевіч, перадрукаваўшы ў сваёй

---

[1] Гл.: R. Sunica, *M–ko Kroszyn*, „Biełarus" 1915, nr 21–22 (4 czerwienia).

[2] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 59–62. Тое самае ў другім і трэцім выданнях. І толькі ў чацвёртым выданні М. Гарэцкі адмовіцца ад ідэі прыпісваць Паўлюку Багрыму *Гутарку Данілы з Сьцяпанам* і верш *Размова пана з мужыком.*

[3] М. Горецкий, *Белорусская литература: Краткий очерк* [у:] М. Гарэцкі, *Творы*, Мінск 1990, с. 327. Артыкул упершыню быў апублікаваны ў часопісе "Октябрь" (1928, № 4).

[4] Л. Бэндэ, *Аб літаратуры XIX века*, "Полымя рэвалюцыі" 1935, № 4, с. 163.

[5] Гл.: Ант. Навіна, *Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры*, "Наша думка" 1921, 4 лют.; Ант.

брашуры *Mahnušeŭski, Paŭluk Bachrym, Babroŭski* (Wilnia 1937) артыкул А. Янулайціса, толькі задаваўся пытаннем: “Što heta byli za dakumenty, ci ŭsio jon z ich wykarystaŭ, i dzie jany znachodziacca”[1].

Пытанне А. Станкевіча “пачуў” Ісідар Бас: у сярэдзіне 1950-х гг. ён высветліў, што ў гарадзенскіх, віленскіх і маскоўскіх архівах захоўваюцца шматлікія матэрыялы, датычныя сялянскага бунту (зрэдку казалі нават: паўстання) супраць пана-памешчыка, а таксама асобы самога паэта і ягоных настаўнікаў[2]. Вядома, публікацыя архіўных матэрыялаў у тыя часы была даволі рэдкаю з’яваю. Тым больш, што дадзеная справа, на думку тагачасных навукоўцаў, не патрабавала нейкага дадатковага вывучэння: літаратуразнаўцы як аксіёму прымалі нібыта даведзенае папярэднікамі, што верш з кнігі І. Яцкоўскага належыць пяру Паўлюка Багрыма. Вольная інтэрпрэтацыя асобнымі літаратуразнаўцамі пэўных дэталяў крашынскае справы падыктавала І. Басу неабходнасць выпраўлення памылак, а таксама публікацыі некалькіх дакументаў з трох архіваў. Калі больш дакладна, то навуковец падае ў дадатку паказанні П. Багрыма І. Брадоўскаму ад 3 ліпеня 1828 г. (у перакладзе з расейскае на беларускую мову), верш *Размова хлопаў*, фрагменты дзвюх версій рапарту Міхайлы Бабяцінскага да М. Навасільцава (кастрычнік 1828 г.), фрагменты паказанняў Станіслава Юрагі і К. Радзівіла І. Брадоўскаму ад 16 ліпеня 1828 г., фрагмент рапарту І. Брадоўскага да В. Пелікана, а таксама паведамленне літоўскага ваеннага губернатара Аляксандра Рымскага-Корсакава пра меркаванне М. Бабяцінскага адносна пакарання крашынскіх сялянаў у Міністэрства унутраных спраў (з Асобнага журнала Камітэта міністраў ад 27 кастрычніка 1828 г.).

Характэрна тое, што даследчык, пазнаёміўшыся з матэрыяламі трох архіўных спраў, не знайшоў пацвярджэння, што Павел Багрым напісаў верш *Зáграй, зáграй...*, што М. Навасільцаў і В. Пелікан у 1826–1829 гг. былі ў Крашыне, што бацька паэта браў удзел у сялянскім бунце і быў забіты. Здавалася б, у даследчыка ёсць усе падставы засумнявацца ў сапраўднасці расказанае І. Яцкоўскім гісторыі, але спыняла, відавочна, наяўнасць апублікаванага ў 1854 г. беларускага верша. Таму І. Бас прапанаваў сваю гіпотэзу: М. Навасільцаў і В. Пелікан “наведалі мястэчка пасля 1829 года”, “«кіямі забіты» бацька Багрыма быў пазней 1829 года”, “выходзіць, што

---

Навіна, *Эвалюцыя беларускае адраджэнскае ідэалёгіі і адбіццё яе ў літаратуры: Паводле публічнае лекцыі, прачытанае ў Вільні*, “Студэнцкая думка” 1926, № 1; Ант. Навіна, *Галоўныя кірункі ў беларускай паэзіі* [у:] *Гадавік Беларускага навуковага таварыства*, Вільня 1933, кн. І.

[1] Цыт. па: A. Stankiewič, *Mahnušeŭski, Babroŭski* [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны зборнік*, Мінск 1993, с. 56.

[2] Спачатку І. Бас пазнаёміў грамадскасць з матэрыяламі пра крашынскія падзеі з Гродзенскага філіяла Цэнтральнага дзяржаўнага гістарычнага архіва (І. Бас, *Новыя факты да біяграфіі Паўлюка Багрыма: З архіўных матэрыялаў*, “ЛіМ” 1954, № 20; 15 мая), а пасля з Цэнтральнага дзяржаўнага архіва ЛітССР (І. Бас, *Паўлюк Багрым*, “Полымя” 1955, № 3, с. 147–153; І. Бас, *З літаратурнага мінулага*, “Беларусь” 1956, № 10, с. 28; І. Бас, *Каму належаць вершы*?, “Беларусь” 1963, № 11, с. 29). Усё гэта пазней будзе ўключанае ў кнігу: І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 61–76, 133–140.

*Зайграй, зайграй, хлопча малы...* напісаны быў пасля таго, як на месца памерлага плябана прыйшоў другі”[1]. І заклікаў да далейшай даследчай працы.

Было бачна, што легенда разбураецца. Але сітуацыю “выратаваў” Адам Мальдзіс: выкарыстаўшы асобныя спрэчныя моманты і недакладнасці ў разважаннях І. Баса, ён нівеляваў ягоныя сумненні і прапанаваў свой варыянт вырашэння праблемы: “У дакументах пакінуў след адзін выпадак, калі Багрым чытаў Нервалодаву (sic!) *Размову хлопаў*, у Яцкоўскага – другі, калі той жа Багрым чытаў Навасільцаву і Пелікану верш *Заграй, заграй, хлопча малы*. Але апошні выпадак не быў зафіксаваны дакументальна, бо Навасільцаў і Пелікан, як адказныя за адукацыю ва ўсёй акрузе, проста не былі зацікаўлены ў агалосцы. І ў Крошын яны заязджалі нібы зусім выпадкова і неафіцыйна, «па дарозе ў Слонім»... Вядома, усё гэта пакуль толькі гіпотэза, аднак яна тлумачыць яўную супярэчнасць паміж мемуарамі І. Яцкоўскага і дакументамі, апублікаванымі І. Басам”[2].

Гіпотэза А. Мальдзіса, аднак, разбураецца адразу: калі і сапраўды “незацікаўленыя ў агалосцы” М. Навасільцаў і В. Пелікан “неафіцыйна” заязджалі ў Крашын, то дзе і якім чынам наваградскі адвакат І. Яцкоўскі далучыўся да высокіх царскіх саноўнікаў? (Бо ж ён нібыта прысутнічаў пры чытанні верша Пётракам). І яшчэ: калі М. Навасільцаў і В. Пелікан “пазнаёміліся” з маладым паэтам і яго творчасцю яшчэ пры жыцці Вайцэха Магнушэўскага, г. зн. у 1828 г., то ў вершы *За́грай, за́грай...* не павінна весціся гаворка пра пакаранне сялянаў (“бацька кіямі забіты”), бо прысуд па справе крашынцаў прывялі ў выкананне толькі вясною 1829 г. І зусім ужо выглядае дзіўным тое, што выяўлены сенатарам і рэктарам верш не быў далучаны да крымінальнае справы, але падлетка праз некалькі дзён паліцыя забрала і здала ў рэкруты. І нічога гэтага не ведаў гродзенскі цывільны губернатар Міхайла Бабяцінскі[3], працягваючы апраўдвацца перад вышэйшым начальствам за тое, што ягоныя падазрэнні прывялі да арышту і следства над ксяндзом Вайцэхам Магнушэўскім, які, заўважым, увесь гэты час (да смерці ў снежні 1828 г.) знаходзіўся пад хатнім арыштам.

На нашу думку, матэрыялы, апублікаваныя і пераказаныя І. Басам, не былі належным чынам прааналізаваныя. Сцвярджаем гэта на той падставе, што ніхто з літаратуразнаўцаў не выкарыстаў у сваіх працах дакументаў, апублікаваных І. Басам у дадатку. А яны, думаецца, дастаткова важныя дзеля разумення таго, што адбылося ў Крашыне ў апошнія дні мая 1828 г.

Новым этапам у справе вывучэння кола пытанняў, звязаных з вершам *За́грай, за́грай...*, стала публікацыя раздзела *Паўлюк Багрым* у кнізе Генадзя Кісялёва *Пачынальнікі*[4], а таксама старонкі кнігі Івана Ралько, прысвечанай

---

[1] І. Бас, *Літаратурныя пошукі, знаходкі, даследаванні*, Мінск 1969, с. 75, 76.

[2] А. Мальдзіс, *Бяспрэчнае і гіпатэтычнае*, “Полымя” 1970, № 9, с. 230.

[3] Заўважым: асоба, якая адказвала за рэкруцкі набор у губерні.

[4] *Паўлюк Багрым (1813 – каля 1891)* [у:] *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 185–212.

асаблівасцям метрычнай сістэмы славутага верша[1]. Г. Кісялёў надрукаваў XXIX раздзел (*Працяг, кс. Магнушэўскі, Юрага, Пётрак-паэт*) *Аповесці з майго часу* І. Яцкоўскага, а таксама 17 з 28 дакументаў са справы *О приходскомъ училище состоящемъ Новогрудкаго уѣзда въ мѣстѣчкѣ Крошинѣ и о неповиновеніи крошинскихъ Крестьянъ противу владѣльца ихъ помѣщика Юраги. 1828–1829*, якая паходзіць з канцылярыі рэктара Віленскага ўніверсітэта. Тэксты дакументаў і грунтоўны каментар да іх праблізілі крашынскую справу да чытачоў, спрыялі ўсведамленню тых падзей, што здарыліся ў 1828 г. і сталі падставаю дзеля ўзнікнення верша *За́грай, за́грай...*

Даследаванне І. Ралько, якое звяртала ўвагу на харэічны рытм верша, магло падказаць чытачу даволі крамольную ў той час думку: калі твор узнік пад уплывам акцэнталогіі польскае мовы, то роднаю (ці першаю) моваю паэта была польская.

Публікацыі апошніх трыццаці гадоў у справе атрыбуцыі верша *За́грай, за́грай...*, па сутнасці, не былі запатрабаваныя літаратуразнаўчаю навукаю, бо ні адна з прапанаваных гіпотэз не была дастаткова абгрунтаванаю і аргументаванаю, а таксама з тае прычыны, што гісторыка-літаратурны досвед нешматлікіх сучасных літаратуразнаўцаў і чытацкае публікі знаходзіцца на дастаткова нізкім узроўні.

Мы бачым адзінае выйсце з тупіковае сітуацыі, у якім апынулася “багрымазнаўства” (што не можа вырашыць свае асноўнае задачы), – публікацыю ўсіх тых крыніцаў, якія праліваюць святло на падзеі амаль двухсотгадовае даўніны. Перш-наперш, – матэрыялаў, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў г. Гродне (НГАБГ) у справе *Дѣло по веленію великаго князя о неповиновеніи крошинскихъ крестьянъ помѣщику Юрагѣ [и] о поверенномъ ихъ Каминскомъ. 30 декабря 1826 – 29 марта 1829 г.*[2], у склад якое ўваходзіць больш за сто дакументаў. Як ужо казалася, І. Бас апублікаваў з гэтае справы верш *Размова хлопаў*, а таксама асобныя фрагменты з некалькіх дакументаў. На нашую думку, публікацыя архіўнае справы, якая вялася цягам амаль трох гадоў, дасць магчымасць убачыць падзеі такімі, якімі яны былі, і адказаць на пытанне: ці мог Павел Багрым напісаць верш *За́грай, за́грай...* Пераважная большасць дакументаў гэтае справы, асабліва калі іх разглядаць асобна, не мае вялікае вартасці. 62 са 104 дакументаў – гэта чарнавікі загадаў ці рапартаў гродзенскага цывільнага губернатара М. Бабяцінскага. Нават можна сказаць больш: яны анічога новага не дадаюць да справы атрыбуцыі верша. Аднак, думаецца, іх асноўная вартасць заключаецца ў стварэнні агульнага малюнка тых драматычных для крашынцаў падзей. Яны – часткі тае мазаікі, якая захоўвае праўдзівае адлюстраванне складаных жыццёвых – бытавых і культурна-адукацый-

---

[1] І. Ралько, *Вершаскладанне: Даследаванні і матэрыялы*, Мінск 1977, с. 9–11.

[2] Звычайна гэтая справа называецца паводле тытулу, дадзенага ў савецкі час: *О неповиновении крестьян местечка Крошина своему помещику Юраге*. Гл.: І. Бас, *Новыя факты да біяграфіі Паўлюка Багрыма: З архіўных матэрыялаў*, “ЛіМ” 1954, № 20 (15 мая).

ных – калізій насельніцтва невялікага мястэчка на паўднёва-ўсходняй Навагрудчыне.

Мы дакладна не ведаем, колькі гаспадарскіх двароў было ў той час у мястэчку[1]. Але бясспрэчна тое, што адна частка насельніцтва Крашына мела права называцца мяшчанамі (сярод іх – Восіп Багрым, бацька Паўла), другая – была падданымі парафіі Божага Цела (60 двароў, але, відавочна, не ўсе яны знаходзіліся ў мястэчку), трэцяя – належала Радзівілам–Юрагам (апрача местачкоўцаў – сяляне вёсак Схеда-Крашын і Юрысдыка-Крашын).

Трыццаць сем чалавек, якія раней лічылі сябе мяшчанамі, не пагадзіліся з планам новага гаспадара маёнтка павялічыць колькасць сваіх падданых, а г. зн. і свае прыбыткі[2]. Вядома, трыццаць сем чалавек – гэта не трыццаць сем крашынскіх двароў: больш верагодна, што С. Юрага паквапіўся на 20–25 гаспадарак (прыкладна 250 асобаў абодвух палоў). Сяляне адмовіліся падпарадкоўвацца загадам С. Юрагі і шукалі абароны спачатку ў павятовай адміністрацыі, а пасля нават звярнуліся ў Варшаву да царскага брата, цэсарэвіча Канстанціна. Ксёндз В. Магнушэўскі, вельмі верагодна, падтрымліваў сялян, але падчас следства, якое вялі павятовы маршалак Юзаф Верашчака і саветнік губернскае ўправы Мартын Явароўскі, адмовіўся ад іх (калі вядома, ягоныя паказанні запісаныя былі дакладна).

Дакументы канцылярыі гродзенскага цывільнага губернатара, на нашую думку, паказваюць (як гэта заўважыў яшчэ І. Бас), што ад верасня 1826 г. па сакавік 1829 г. у Крашыне не мог быць напісаны верш *Зáграй, зáграй...* Больш за тое, вопыт чытання перад прадстаўніком улады, які набыў Павел Багрым напрыканцы мая 1828 г. (і адначасна ці не ўсе жыхары мястэчка, бо пра выпадак ведалі ўсе), выключаў магчымасць нечага падобнага перад любым чужаніцаю (у тым ліку і перад наваградскім адвакатам І. Яцкоўскім). То якім чынам М. Навасільцаў і В. Пелікан схілілі Паўла Багрыма да чытання перад імі верша *Зáграй, зáграй...*? Няўжо ён другі раз трапіў у тую ж самую пастку, што і ў маі 1828 г. Гэта азначае, што гісторыя лонданскага эмігранта прыдуманая ім самім на аснове таго выпадку, які адбыўся ў Крашыне ў маі 1828 г. і які быў зафіксаваны ў дакументах двух следстваў – Гродзенскае губернскае ўправы і Віленскае навучальнае акругі.

Сапраўднага аўтара верша *Зáграй, зáграй...*, мы лічым, можна адшукаць, вывучаючы матэрыялы (калі яны захаваліся) лонданскае друкарні Аляксандра Рыпінскага і К°, ліставанне лонданскіх і парыжскіх прыяцеляў І. Яцкоўскага, прыватнае жыццё Вялікае эміграцыі.

Дакументы друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу паводле: Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў г. Гродне (НГАБГ), ф. 1, воп. 2, спр. 1334, а. 1–195: *Дѣло по веленію великаго князя о неповиновеніи крошинскихъ крестьянъ помѣщику Юрагѣ [и] о поверенномъ ихъ Каминскомъ. 30 декабря 1826 – 29 марта 1829 г.*

---

[1] На расейскай вайсковай карце 1870-х гг. паказана, што ў Крашыне было 68 двароў.

[2] Паводле *Słownika geograficznego Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, напрыканцы XIX ст. маёнтку Крашын належала 1100 дзесяцінаў зямлі (t. XV, cz. 2, s. 168).

**Прынцыпы перадачы тэксту дакументаў**

Вертыкальнаю рыскаю адасабляецца (дзеля зручнасці чытання) напісанае ў арыгінале злітна. Мы ўсведамляем, што ў чарнавіках пісар дзеля хуткасці пісання адмыслова не дзяліў тэксту на словы, але і тут прытрымліваемся агульнага правіла: напісанае злітна пакідаем так, як было ў рукапісе.

Пачатак кожнае старонкі рукапісу мы перадаём дзвюма прамымі рыскамі з устаўленым паміж імі нумарам аркуша ў ніжнім рэгістры: |1r| – правая старонка аркуша (ад лац. rectus – проста); |1v| – левая старонка аркуша (ад лац. verso – адваротная старонка).

Перакрэсленыя ў рукапісе словы і сказы падаём адпаведна – ~~при Семъ~~, напісанае зверху, між радкамі – у верхнім рэгістры – у Сего въ возвратъ.

Занатаваныя збоку (на палях) праўкі і дадаткі падаём напрыканцы асноўнага тэксту пасля пазнакі: * *Ad marginem*.

Дзеля кампактнасці тэксту элементы кутняга штампу (назва ўстановы, дата, выходны нумар і інш.) падаюцца ў верхнім радку дакумента.

Той тэкст рукапісу, які не ўдалося расчытаць, сігналізуецца кутнімі дужкамі са словам “нечытэльна” – <*нечыт.*>.

У квадратных дужках [ ] узнаўляюцца скарачэнні ў рукапісе, а таксама (па магчымасці) словы і часткі слоў у канцы (звычайна) радка, дзе папера аказалася пашкоджанаю.

# ДАКУМЕНТЫ АРХІЎНАЕ СПРАВЫ

## 1. Цэсарэвіч Канстанцін да Міхайлы Бабяцінскага

Найдаўнейшы дакумент у гэтай справе – загад вялікага князя Канстанціна Паўлавіча (1779–1831), расейскага цэсарэвіча, намесніка ў Царстве Польскім, гродзенскаму цывільнаму губернатару Міхайлу Бабяцінскаму[1] ў сувязі з прашэннем Казіміра Камінскага. Атрыманае пісьмовае хадайніцтва крашынскага селяніна цэсарэвіч пакідае "безъ дѣйствія"і адначасна патрабуе правесці следства адносна таго ж К. Камінскага ды, фактычна, рэкамендуе аддаць яго пад суд.

|**1 r**| Списокъ съ Повелѣнія Его Императорскаго Высочества Цесаревича, Гродненскому Гражданскому Губернатору отъ 4. Сентября 1826º года за № 1877.

Предписываю Вашему Превосходительству[2] объявить жителю Новогрудскаго Повѣта мѣстечка Крошина Казимиру Каминскому, называющемуся повѣреннымъ жителей того мѣстѣчка, что присланное ко мнѣ отъ него прошеніе, о|неправильномъ якобы обращеніи вышеозначенныхъ жителей владѣльцемъ въ крестьянскія, повинности, оставлено мною безъ дѣйствія, по непредставленіи при ономъ довѣренности на ходатайство. При чемъ возвративъ ему прилагаемый при семъ документъ[3] и взыскавъ съ него за употребленную по Канцеляріи моей вмѣсто гербовой простую четыре и одинъ за приложеніе на несоотвѣтственной писанное, всего за пять листовъ бумагу слѣдующія деньги, отослать въ Казначейство.

Усматривая же изъ прошенія что выше упомянутый Каминскій занимается ходатайствомъ по дѣлу жителей и несколько разъ, какъ самъ пишетъ, принужденъ былъ бѣжать изъ дому, поручаю Вашему Превосходительству произвѣсти розысканіе какъ объ немъ, такъ и о|писавшемъ прошеніе нѣкоемъ Демъянѣ Панкратьѣвѣ[4], не подговарываютъ ли они Крестьянъ, къ подачѣ жалобъ на владельца, равно кто сей Панкратьевъ и какого повѣденія? За тѣмъ |**1 v**| буде окажутся они въ семъ поступкѣ виновны, то предав ихъ Суду, съ содержаніемъ подъ стражею, о|послѣдующемъ донести мнѣ съ возвращеніемъ препровождаемаго при семъ вышеозначенаго прошенія, и съ объясненіемъ на щотъ жалобы въ оной изложенной.

*Копія. Пазнака пра дату атрымання адсутнічае.*

---

[1] Міхайла Бабяцінскі (1773–1832) паходзіў са шляхты Віцебскае губерні. На расейскай дзяржаўнай службе з 1789 г. Служыў спачатку ў Полацку, а пасля ў Вільні і Гародні. У 1824–1831 гг. быў на пасадзе гродзенскага цывільнага губернатара.

[2] Так тытулаваліся цывільныя чыны 3 і 4 класа. М. Бабяцінскі быў у той час сапраўдным стацкім саветнікам (4 клас).

[3] Дакумента ў справе няма.

[4] Гаворка пра Дзям'яна Панкрацьева, пісара Валынскага ўланскага палка. Полк быў сфармаваны ў 1807 г. з вольнапісаных Валынскае і Віленскае губерняў. Камандзірам з'яўляўся палкоўнік Мікалай Філімонаў, які пазней загінуў у баі з паўстанцамі ў 1831 г.

## 2. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

На выкананне загаду цэсарэвіча гродзенскай управе спатрэбілася тры з паловаю месяцы. У ніжэйпададзеным допісе М. Бабяцінскага няма аніякае інфармацыі пра тое, што адбылося за гэты час, але да допісу прыкладаўся “Списокъ постановленія” (у справе адсутнічае) губернскае ўправы. Відавочна, гаворка там магла ісці пра следства ў Крашыне восенню 1826 г., якое вёў асэсар (засядацель) Наваградскага Ніжняга земскага суда Юзаф (Іосіф) Сабалеўскі, у выніку якога К. Камінскі і яшчэ сем чалавек трапілі ў астрог.

|**2 r**| Его Высочеству.

Рапортъ.

Въ слѣдствіе повелѣнія ко|мнѣ Вашего И[мператорскаго] Высочества отъ 4$^{\underline{o}}$ Сентября сего|года за № 1877. съ препровожденіемъ прошенія жителя мѣстечка Крошина Казимира Каминскаго, о|неправильномъ якобы обращеніи тамошнихъ ~~крестьянъ~~[*1] мѣщанъ владѣльцомъ въ|крестьянскіе повинности; въ|какомъ содержаніи состоялось въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленіи 16$^{\underline{o}}$ Сего декабря постановленіе. |**2 v**| Съ|онаго Вашему И[мператорскому] Высочеству имѣю щастіе ~~у Сего~~ всепокорнѣйше представить у Сего засвидѣтельствованный Списокъ, подносся ~~при Семъ~~ у Сего въ возвратъ и выше означенное ~~помянутаго Казимира~~ Каминскаго прошеніе.

[*1] *Ad marginem*: Крошински$^{хъ}$.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*[1]: № 11066. 30. Декабря 1826 Года.

## 3. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Дакумент трапіў у “крашынскую справу”, здаецца, выпадкова. Але для нас ён цікавы тым, што тут, верагодна, згадваецца адзін з продкаў Ларысы Геніюш – Мацвей Міклашэвіч. Да гэтага часу вядома было, што дзед паэткі зваўся Павел (1844–1929), а прадзед – Франц (г. н. прыкладна 1820).

|**3 r**| Его Высочеству.

Въ слѣдствіе повелѣнія ко мнѣ Вашего И[мператорскаго] В[ысочества] отъ 25 Декабря прошлаго 1826 года за № 2811$^{\underline{й}}$ по|прошенію имянующихся Мѣщанами Мѣстечка Крынокъ, Матвѣя Микласѣвича и Николая |**3 v**| Янисимовича жаловавшихся на медленное производство Дѣла, объ отыскиваемой ими свободѣ изъ владѣнія тайнаго Совѣтника Дивова[2], ~~и~~ въ излишнемъ требованіи отъ нихъ Дворовымъ начальствомъ повинностей |**4 r**| и прочее; въ|какомъ содержаніи состоялось въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленіи 12 ~~сего~~ настоящаго Генваря Мѣсяца Постановленіе, съ онаго имею щастіе всепокорнѣйше представить у|сего засвидѣтельствованный Списокъ[3].

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 436. 20 Генваря 1827 [г.].

---

[1] Тут і далей пазнака на дакуменце – гэта інфармацыя пра дату яго напісання ці атрымання, а таксама нумар, нададзены канцылярыяй губернскае ўправы.

[2] Маецца на ўвазе Павел Дзіваў (1765–1841), кіраўнік справамі Міністэрства замежных спраў. Быў чалавекам скрайніх кансерватыўных поглядаў; вёў зацятую барацьбу супраць асветы, лібералаў і палякаў.

[3] Дакумента ў справе няма.

## 4. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Паліцэйскую ўладу ў павеце ажыццяўляў не толькі спраўнік і Ніжні земскі суд, але і павятовы маршалак. Ім падчас крашынскіх падзеяў 1820-х гг. на Наваградчыне быў Юзаф Верашчака (1790–1871), брат Міхала (каля 1790 – 1857) і Марылі (1799–1863), прыяцель Адама Міцкевіча, Тамаша Зана і Яна Чачота; уладальнік маёнтка Туганавічы і Райца[1]. Хоць чарнавік нататкі-загаду М. Бабяцінскага нічога не кажа, якую пастанову гродзенскае ўправы павінен быў выконваць маршалак вясною 1827 г., але з пазнейшых дакументаў справы вынікае, што Ю. Верашчака абавязваўся "увещевать" крашынскіх сялян. Відавочна, "Спісокъ постановленія" рабіўся паводле журнала "Литовско-Гродненскаго правленія" і ў матэрыялы справы не трапіў.

|**5 r**| Г[осподину] Новогрудскому повѣтовому Маршалу.

Къ|точному и непремѣнному со|стороны Вашего высокородія[2] исполненію препроваждаю у|сего Списокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 22 Марта состаявшагося съ|следующимъ къ|оному приложеніе |**5 v**| о Крошинскихъ Крестьянахъ, называющихъ себя Мѣщанами упорствующихъ противу Дворовой власти и прочее.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: [№] 2560. 29 Марта 1827 [г.].

## 5. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Чарговы раз гродзенскі цывільны губернатар дасылае ў Варшаву пастанову ўправы (у справе яе няма), што грунтавалася на загадзе цэсарэвіча адносна крашынскіх сялян і ўжо раней была даслана павятоваму маршалку дзеля непасрэднага выканання.

|**6 r**| Его Высочеству.

Рапортъ.

Вашему Императорскому Высочеству имѣю щастіе всепокорнѣйше представить списокъ Постановленія состоявшагося въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленіи 22º сего Марта въ|слѣдствіе Повѣленія Вашего Высочества о|неповинующихся Дворовой власти |**6 v**| Крестьянахъ Мѣстечка Крошина называющихъ себя Мѣщанами.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 2639. 31 Марта 1827º [г.].

---

[1] У расейскай павятовай адміністрацыі ён служыў з 1818 г.: быў спачатку павятовым харунжым, а з 1824 г. – павятовым маршалкам. З-за адсутнасці дакументаў, мы не ведаем, ці быў ён абраны на гэтую самую пасаду на чарговы трохгадовы тэрмін у 1830 г.

[2] Так звычайна тытулаваліся цывільныя чыны 5 класа (стацкі саветнік), а таксама радавітая шляхта. Ю. Верашчака чыну не меў.

## 6. Цэсарэвіч Канстанцін да Міхайлы Бабяцінскага

Дакумент сведчыць, што вясною 1827 г. цэсарэвіч Канстанцін рэкамендаваў М. Бабяцінскаму стлуміць непадпарадкаванне крашынскіх сялян з дапамогаю войска і стварыць з прадстаўнікоў павятовае судовае ўлады і вайскоўцаў суд, які павінен быў пакараць "возмутителей". Раней супраць сялян дзейнічала павятовая паліцыя, а таксама губернаская судовая ўлада.

|7 r| Отъ Его Императорскаго Высочества Цесаревича Главнокомандующаго Литовскимъ Отдельнымъ Корпусомъ.

Господину Гродненскому Гражданскому Губернатору.

Расмотрѣвъ представленное ко мнѣ при рапортѣ Вашего Превосходительсва отъ 31. прошлаго Марта № 2639 постановленіе Гродненскаго Губернскаго Правленія, по предмѣту приведенія въ повиновеніе Крестьянъ Мѣстечка Крошина обнаруживших непослушаніе владѣльцу ихъ Юрагѣ[1] я нахожу здѣланно[е] Губернскимъ Правленіемъ разпоряжені[е] о увещеваніи ихъ посредствомъ Новогрудскаго Повѣтоваго Маршала оснавательнымъ и согласнымъ съ существующими на сей случай правилами. Но если Крошинскіе Крестьяне и послѣ увещевані[я] Повѣтоваго Маршала не|возчувствуют[ъ] заблужденія своего и не|окажутъ явственнаго въ онномъ разкаянія, то не терая времени приступить къ мѣрамъ изображеннымъ въ Высочайше утвержденномъ 20 Іюля прошлаго 1826 Года постановленіи Комитета Г[осподъ] Министровъ изтребовавъ для приведенія въ повиновеніе Крестьянъ военную Команду |7 v| и учредя на мѣстѣ изъ наличныхъ офицеровъ той Командуы по поламъ съ членами Повѣтоваго Суда военный Судъ, для преданія главнѣйшихъ Начищиковъ и возмутителей всей строгости законовъ съ содержаніемъ подъ стражею и объ учрежденіи того Суда, а равно о подвергающихся оному лицахъ мнѣ донести. Въ противномъ|же случаѣ если Крестьяне убѣдясь въ неосновательности разсужденій ихъ на щетъ мѣщанскихъ правъ, о коихъ не|заводили установленымъ порядкомъ иска, объявить надлежащее Помѣщику повиновеніе, то обнаруживъ имъ неправильность ихъ поступковъ, строго подтвердить, чтобы впредь не выходили изъ повиновенія владѣльцу подъ опасеніемъ строгаго наказанія.

Варшава. 12 Апреля 1827 Года. Генералъ Инспекторъ всей Кавалер[іи][2]. № 804.

*Копія. У гары першае старонкі пазнака*: 20 Апреля [1827 г.].

---

[1] Гаворка пра Станіслава Казіміра Юрагу, гербу Гедройц (каля 1790 – 1851), сына віленскага земскага і гродскага рэгента Юзафа Юрагі, уладальніка маёнтка Крашын. На пачатку 1820-х гг. ён ажаніўся з Антанінай Людвікай Тэафіляй Радзівіл (19.12.1790–1851), дачкою Мацея і Эльжбеты з Хадкевічаў Радзівілаў, з якою меў дачку Тэафілю (17.10.1822–13.03.1851). Тэафіля Юрага выйшла замуж за Эўгеніуша Роберта Святаполк-Завадскага (1817–1880) і нарадзіла пяцёра дзяцей. Іхні сын Пётр Станіслаў Святаполк-Завадскі (1847 – пасля 1884) валодаў Крашынам у др. пал. XIX ст.

[2] Гэтую пасаду займаў цэсарэвіч Канстанцін.

## 7. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

М. Бабяцінскі вёў актыўную перапіску з цэсарэвічам, ягоная губернская ўправа прымала ўсё новыя і новыя пастановы, дасылала новыя загады павятовай уладзе, а ў Варшаву – справаздачы пра прынятыя пастановы, але крашынскія сяляне ўпарта трымаліся, абараняючы сваё права на мяшчанскае званне.

|**8 r**| Его Императорскому Высочеству Цесаревичу.

Рапортъ.

Въ ~~исполненіе~~ Слѣдствіе повелѣнія ко мнѣ Вашего Императорского Высочества отъ 12º минувшаго апреля за № 804мъ по предмѣту привѣденія въ повиновеніе крестьянъ мѣстечка Крошина владѣльцу ихъ Юрагѣ; въ какомъ содержаніи состоялось ~~постановленіи~~ въ Грод[ненскаго] Губ[ернскаго] Правленія постановленіе <*~~нечыт~~.*> съ оного имѣю счастье всепокорнѣйше поднесть у сего засвидѣтельствованный Списокъ[1].

Новогруд[скому] Маршалу таковой|же Списокъ къ надлежащему исполненію*[1].

*[1] *Ad marginem*: № 4168.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 3998. 12 Маія 1827 [г.].

## 8. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

"Списка" ў справе няма, а таму цяжка сказаць, якія новыя меры ў дачыненні да крашынцаў вымысліла губернская ўправа. Магчыма, якраз у гэты час было прынятае рашэнне ўвесці ў Крашын каманду Валынскага ўланскага палка, які знаходзіўся тады на Наваградчыне.

|**9 r**| Его Высочеству.

Въ|благоуваженіе Вашего И[мператорскаго] Высочества имѣю щастіе всепокорнѣйше поднесть у|сего засвидѣтельствованный Списокъ Постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 10 настоящаго Маія состаявшагося о приведеніи |**9 v**| Крошинскихъ Крестьян[ъ] въ надлежащее послушаніе помѣщику ~~своему~~ ихъ Юрагѣ, и прочее.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 4145. 15 Маія 1827 [г.].

[1] Дакумента ў справе няма.

## 9. Цэсарэвіч Канстанцін да Міхайлы Бабяцінскага

Дадзены дакумент цікавы тым, што можа засведчыць: крашынскія сяляне не пакінулі ў бядзе свайго заступніка Казіміра Камінскага, які быў пасля следства асэсара Ю. Сабалеўскага арыштаваны. Аднак іхнюю просьбу цэсарэвіч Канстанцін адхіліў: царскі рэжым бараніў адно “владѣльцевъ”.

|**10 г**| Отъ Его Императорскаго Высочества Цесаревича Главнокомандующаго Литовскимъ Отдельнымъ Корпусомъ.

Господину Гродненскому Гражданскому Губернатору.

Предписываю Вашему Превосходительству поручить кому слѣдуетъ объявить Новогрудскаго Повѣта Мѣстечка Крошина крестьянамъ: Михаилу Ивановскаму и Яну Лукашевичу[1] вступившихъ ко мнѣ съ прошеніемъ о освобождении изъ подъ стражи тамошняго жителя Казимира Каминскаго и о|дозволеніи ему отыскивать права Крошинскихъ крестьянъ на мѣщанство: что какъ сказанный Каминскій преданъ Суду за подговоръ означенныхъ крестьянъ къ неповиновенію помѣщику ихъ, и дѣло объ немъ еще не рѣшено то прошеніе ихъ, объ освобождении Каминскаго не|можетъ быть удовлетворено и потому оставлено оное мною безъ дѣйствія при чемъ подтвердить помянутыхъ крестьянъ, чтобы они состояли въ надлежащемъ повиновеніи своему владѣльцу подъ опасеніемъ въ противномъ случаѣ строгаго по законамъ отвѣта.

Варшава. 18 Іюля 1827 Года. Генералъ Инспекторъ всей Кавалеріи. № 1712.

*Копія*. *У гары старонкі пазнака*: 23 Іюля [1827 г.].

## 10. 1ы Дэпартамент Літоўска-Гродзенскага галоўнага суда да Міхайлы Бабяцінскага

Справаю крашынскіх сялян напачатку займалася мясцовая ўлада: Наваградскі Ніжні земскі суд вёў следства, а Гродскі суд вызначаў кару. Калі ж ёй не ўдалося сціхамірыць вяскоўцаў, то ўвосень 1827 г. справу разглядаў Галоўны суд Гродзенскае губерні. Увогуле следства вялося ў асноўным вакол асобы К. Камінскага, якога пасадзілі ў Наваградскі астрог за “ослушаніе и дерзкіе поступки”. Аднак “злачынствы” ён здзяйсняў у 1825–1826 гг., а таму трапіў пад амністыю, аб’яўленую з нагоды каранацыі Мікалая І. Галоўны суд Гродзенскае губерні сваёй пастановай ад 30 лістапада 1827 г. вызваліў К. Камінскага з вязніцы і адаслаў на месца жыхарства з умоваю, што яго “прыме” гаспадар маёнтка Станіслаў Юрага. У адваротным выпадку К. Камінскага чакала высылка ў Сібір на пасяленне.

У дадзеным дакуменце ўпершыню ў сувязі з крашынскаю справаю згадваецца імя святара Вайцэха[2] Магнушэўскага. Калі больш дакладна, то тут ідзе гаворка пра тое,

[1] Міхал Іваноўскі будзе пакараны ў ліку пяці галоўных “начинщиковъ” непаслушэнства ў Крашыне. А вось які з Янаў Лукашэвічаў пісаў да цэсарэвіча Канстанціна, – невядома. Бо ў мястэчку былі як мінімум дзве асобы, якія насілі імя Ян: Іван Іосіфаў Лукашэвіч ды Іван Пятроў Лукашэвіч. Абодвух пакаралі ў ліку трыццаці сялян, што “не были главными начинщиками неповиновенія а|только послѣдовали примѣру предъ идущихъ”. (Гл. дакумент 86).

[2] Часам Магнушэўскі замест імя Вайцэх выкарыстоўваў яго лацінскі адпаведнік – Adalbertus.

што падданы святара селянін Машукевіч садзейнічаў К. Камінскаму. Гэта можа быць ускосным сведчаннем, што В. Магнушэўскі заступаўся за крашынскіх сялян, у пэўнай ступені падбухторваючы іх да непадпарадкавання С. Юрагу.

Пра В. Магнушэўскага ў публіцыстыцы і навуковай літаратуры напісана даволі шмат, аднак – як і ў амаль усіх працах пра крашынскую справу – тут многа блытаніны. Відавочна, амаль ніхто з аўтараў не ведаў, што захавалася адмысловая следчая справа В. Магнушэўскага, дзе зафіксаваныя важныя дэталі ягонае біяграфіі (гл. дакумент 55 нашае публікацыі).

Год нараджэння В. Магнушэўскага высветліў дамініканец, тэолаг і гісторык, супрацоўнік Дамініканскага гістарычнага інстытута ў Кракаве Марак Мілавіцкі[1]: ён выявіў у г. зв. "схематызмах Віленскай дыяцэзіі" на 1818 і 1820 гг. (у дадатку да літургічнага календара дыяцэзіі) згадку пра святара, дзе быў паказаны ягоны ўзрост: "пры а. Магнушэўскім напісана: «55 гадоў» – а гэта значыць, што ён павінен быў нарадзіцца ў 1765 г."[2]. Гэтая дата пацвярджаецца і матэрыяламі следства: святар кажа, што ён вучыўся ў Наваградскай павятовай школе (відавочна, пры кляштары дамініканцаў), калі яе праграму вызначала Адукацыйная камісія (г. зн. пасля 1773 г.). У 1790 г. В. Магнушэўскі пачынае навуку ў Віленскай семінарыі, а ў 1793 г. атрымлівае святарскае пасвячэнне. Пасля ён два гады служыць як адміністратар касцёла (відаць, св. Ганны ў Варончы), які належаў да ўладанняў наваградскага ваяводы Юзафа Несялоўскага (1728–1814). Затым доўгі час (1795–1810) з'яўляецца Нягневіцкім плябанам, відавочна, "перайшоўшы" ад Несялоўскіх да Радзівілаў. Дадзенае сцверджанне В. Магнушэўскага, здаецца, выключае інфармацыю І. Яцкоўскага, што святар выхоўваў Антаніну Радзівіл: як вядома, Мацей Радзівіл, вярнуўшыся з Галіцыі, жыў у Паланечцы, а гэта дастаткова далёка ад Нягневіч (у функцыі выхавальніка хутчэй быў бы святар касцёла св. Юрыя ў Паланечцы). У 1810 г. В. Магнушэўскі становіцца крашынскім плябанам; у 1817 г. аднаўляе парафіяльную школку, заснаваную з дазволу[3] Віленскага ўніверсітэта ягоным папярэднікам ксяндзом

А гэта бянтэжыла даследчыкаў: "Публікуючы метрыку нараджэння паэта, я ў сваёй кнізе *За архіўным парогам* услед за кс. Жураўскім палічыў, што хрост Паўлюка чыніў крашынскі пробашч Войцех Магнушэўскі (*За архіўным парогам*, Мінск 2002, с. 109). Насамрэч у метрычным запісе (на лаціне) названы Адальбэрт Магнушэўскі («Ego Adalbertus Magnuszewski C[urator] K[roszyn.] baptisavi infantem nomine Paulum, natum heri, filium legitimorum conigum Josephi et Annae Bahrymow»). Але ці існаваў святар Адальбэрт (Альбэрт) Магнушэўскі, яшчэ трэба высветліць". Гл.: Я. Янушкевіч, *Духоўныя апекуны Паўлюка Багрыма*, "Наша вера", 2013, № 1, с. 52.

[1] Адзначым, што няраз рабіліся спробы "зрабіць" В. Магнушэўскага манахам дамініканскага закону. Пачалося з таго, што Аўгусцінас Янулайціс (але, магчыма, нехта з рэдактараў выдання) змясціў у артыкуле *Аб маладым паэце з Крошына* ("Маладая Беларусь" 1913, сер. 1, сш. 3, с. 9–15) партрэт нібыта ксяндза Магнушэўскага ў дамініканскай вопратцы. Гэта стала падставай для Адама Станкевіча прыпісаць адназначна крашынскага святара да дамініканцаў (гл.: Ad. Stankiewič, *Mahnušeŭski – Paŭluk Bachrym – Babroŭski: Da vytokaŭ biełaruskaha adradžeńnia,* Wilnia 1937). Блытаніна вынікала ў тым ліку і з-за таго, што ў дакументах і літаратуры часта сустракаліся звесткі пра Мацея Магнушэўскага, прыёра дамініканскага кляштара ў Верках пад Вільняю.

[2] Гл.: *Дык хто ж такі Магнушэўскі*? [21.10.2005] [online], https://nn.by/?c=ar&i=100794 [доступ 02.12.2018].

[3] Звернем на гэта ўвагу, бо І. Яцкоўскі даводзіў, што школка была нелегальнаю.

Маліноўскім[1]. І яшчэ адзін міф, часта паўтараны ў сувязі з дзейнасцю В. Магнушэўскага, павінен быць развенчаны матэрыяламі следства: крашынскі святар, хоць і "спрасцеў" ды часта карыстаўся ў сваёй гаворцы народнаю фразеалогіяй, аднак не ўводзіў у школку беларускае мовы: навучанне адбывалася па-польску. Ды і адкуль жа маглі ўзяцца ў той час беларускамоўныя лемантары і катэхізісы?

|**11 r**| Его Превосходительству Господину Гродненскому Гражданскому Губернатору Дѣйствительному Статскому Совѣтнику и Кавалеру Михайлѣ Трофимовичу Бобятинскому.

Литовского Гродненского Главного Суда 1. Департамента.

Сей Департаментъ состоявшееся въ 24. день Октября 1827. Года Опредѣленіе по Дѣлу поступившему на|ревизію изъ Новогрудскаго Гродскаго Суда о Крестіянѣ Казимирѣ Каминскомъ преданнамъ Сужденію за Ослушаніе своему Владѣльцу Поручтику Польскихъ войскъ Станиславѣ Юрагѣ и подговоръ протчихъ Крошинскихъ Крестіянъ къ подачѣ жалобъ на того|жъ Владѣльца коимъ заключено: Крестіянинъ Казимиръ Каминскій бывъ избранъ Крошинскими Крестіянами къ ходатайствованію объ оставленіи ихъ на|той повинности которая опредѣлена привилегіями Польскихъ Королей съ коихъ представляютъ они копію таковаго, Кароля Зигизмунта I.[2] вмѣсто навѣденія ихъ на путь истинный и должнаго Владѣльцу Своему Юрагѣ послушаніе*[1] |**11 v**| не окончивъ Дѣла Сего Законнымъ порядкомъ довѣлъ до того: что Крестіяне оказали Двору неповиновеніе и даже по требованію Установленною властью отъ ни[хъ] подписки чтобы они мѣщанами не|имяновались къ выдаче таковой не|приступили, сверхъ того оказал[ъ] ослушаніе дворовой власти упорствуя прибыть к[ъ] оной по Созыву – во первыхъ въ Ноябре М[ѣся]цѣ 1825º Года для объясненія о привезенной въ|домъ Его водки[,] во вторыхъ въ вѣсняное время того|жъ Года для объясненія по|редмѣту[3] соучавствованія въ выдачѣ записки на переходъ Крестіянской Земли, – отъ одного къ другому за какое Его ослушаніе и дерзкіе поступки хотя|бы слѣдовало подвергнуть Его Каминскаго всей строгости Законовъ но какъ таковые учинены имъ до состоянія Всемилостивѣйшаго Манифеста 22. Августа 1826.[4] Года и подъ военны^мъ^ Судомъ онъ не|находился послѣ же изданія Манифеста Онъ Каминскій приличился токмо виновнымъ въ невыдачѣ вмѣстѣ съ протчими Крошинскимъ Крестіянами подписки, и неподписаніи допроса, за что подвергнулся аресту, то за|таковой Его послѣ Всемилостивѣйшего Манифеста |**12 r**| оказанное упорство вменя Ему въ наказаніе Тюремное Содержаніе водворить Его на прежнее жилище съ отдачею за росписокою Его владѣльцу Поручтику Юрагѣ буде же Онъ Юрага принять Его Каминскаго не|пожелаетъ то представить Ему о принятіи и объ отсылкѣ

---

[1] У згаданым вышэй артыкуле А. Янулайціса (с. 10) папярэднік В. Магнушэўскага названы Малішэўскім, што не адпавядае сапраўднасці.

[2] Маецца на ўвазе Жыгімонт I Стары (Zygmunt I Stary, 1467–1548), вялікі князь літоўскі (1506–1548) і кароль польскі (1506–1548). Пяты сын Казіміра IV, унук Ягайлы.

[3] Відавочна, *по|предмѣту*.

[4] Маецца на ўвазе заканадаўчы акт ад 22 жніўня 1826 г. з выпадку каранацыі Мікалая, якім дараваліся народу "милости".

Его Каминскаго въ Сибирь на поселеніе просить въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленіи распораженію коего согласно требованію выше изъясненному въ Сообщеніи отъ 2. минувшаго Іюня предать и протчи$^{хъ}$ Крошинскихъ Крестіянъ а въ томъ числе и принадлежащаго Ксендзу Магнушевскому Крестіянина Машукѣвича[1] содействовавшихъ Каминскому въ неповиновеніи, что|жъ касается писаря Волынскаго Уланскаго Полка Панкратіева одобраемого Военнымъ Начальствомъ въ хорошемъ поведѣніи, хотя Онъ писалъ прошеніе Его Императорскому Высочеству Государю Цесаревичу отъ имяни Каминскаго изъ чернаваго сочиненія некоего Улана по имени и прозваніи Слѣдствіемъ не обнаруженнаго[2], но какъ изъ Дѣла невидно чтобы онъ Панкратіевъ учинилъ сіе съ дозволенія Своего Начальства то обстоятельство сіе предоставить |**12 v**| распоряженію и Законному положенію того|жъ военнаго Начальства. При Семъ Вашему Превосходительству честь имѣетъ представить на Согл[а]сіе съ донесеніемъ что таковое было въ просмотрѣ Г[осподина] Гродненскаго Губернскаго Прокурора[3] и возвращенно имъ безъ протеста и что по Сему Дѣлу выше сказанный Каминскій въ Новогрудскомъ Городовомъ Острогѣ содержится подъ арестомъ.

[*Подпісы*:] Советникъ Малиновскій[4], Секретарь Денисевичъ[5].

№ 1440. Ноября 30 дня 1827. Года.

*[1] *Ad marginem*: 11 Декабря Его Высочеству № 10476.

*Арыгінал. На першай старонцы ўгары пазнака*: № 5137. полу[чено] 3 Декабря 1827 [г.]. Черновое. № 10483. 11 Декабря 1827 Года.

### 11. Міхайла Бабяцінскі да 1$^{га}$ Дэпартамента Літоўска-Гродзенскага Галоўнага суда

М. Бабяцінскі дае згоду на ажыццяўленне пастановы Галоўнага суда Гродзенскае губерні.

|**13 r**| 1. Департаменту.

Соглашаясь съ представленнымъ ко мнѣ онымъ Департаментомъ отъ 30º минувшаго Ноября № 1440$^{й}$ и у сего возвращаемымъ определеніемъ 24º Октября сего года состоявшимся, по Дѣлу о Крестьянинѣ Казимирѣ Каминскомъ преданномъ сужденію за ослушаніе своему владѣльцу Поручтику польскихъ войскъ Станиславу Юрагѣ и подговоръ прочихъ Крошинскихъ Крестьянъ ~~къ подачѣ жалобъ на того|жъ владельца~~ къ равномерному непослушанію и прочее; предлагаю Департаменту исполнить оное |**13 v**| узаконеннымъ порядкомъ.

*Чарнавік.*

---

[1] Машукевіч адсутнічае ў спісе прызначаных для пакарання крашынскіх сялян. Праўда, у вядомым нам дакуменце няма прозвішчаў шасці асоб, залічаных судом да другое групы злачынцаў.

[2] Маецца на ўвазе, відаць, Ануфры Давыдоўскі.

[3] Губернскім пракурорам быў у той час Іван Сакалагорскі.

[4] Калежскі саветнік Венцаслаў Маліноўскі служыў у той час саветнікам 1$^{га}$ Дэпартамента Галоўнага суда Гродзенскае губерні.

[5] Тытулярыны саветнік Міхаіл Дзянісевіч быў у той час сакратаром 1$^{га}$ Дэпартамента Галоўнага суда Гродзенскае губерні.

## 12. Міхайла Бабяцінскі да імператара Мікалая

Чарнавік рапарту М. Бабяцінскага да імператара Мікалая. Дакумент сведчыць, што пра крашынскія падзеі мясцовая ўлада інфармавала не толькі цэсарэвіча Канстанціна, але і цара.

|**13 v**| Его Величеству.

Отъ 18º минувшаго Ноября имѣлъ я счастіе всеподданнѣйше донесть Вашему И[мператорскому] Величеству, что по Дѣлу о Крестьянинѣ Казимирѣ Каминскомъ преданномъ сужденію за ослушаніе своему владѣльцу Помѣщику Юрагѣ и подговоръ прочихъ Крошинскихъ Крестьянъ ~~къ подачѣ жалобъ на того|жъ владѣльца~~ къ равномерному непослушанію и прочее, состоялось ~~уже~~ въ 1мъ Департаменте Гродненскаго |**14 r**| Главнаго Суда 24 прошедшаго Октября определеніе, и оное переписывается на бѣло для представленія ко мнѣ на согласіе.

Нынѣ получивъ означенное опредѣленіе 1º Департамента ~~отъ 30 Ноября за № 1440~~ и по разсмотреніи найдя оное согласнымъ съ Законами, возвратилъ я въ 1й Департаментъ для исполненія по законамъ.

О чемъ всеподданѣйше доношу вашему И[мператорскому] Величеству поднося въ засвидѣтельствованно[мъ] |**14 v**| Спискѣ помянутое представленіе Департамента при коемъ доставлено мнѣ было сказанное определеніе для усмотренія о содержаніи онаго.

Его Высочеству тоже[1].

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: Декабря 15 [1827 г.].

## 13. Цэсарэвіч Канстанцін да Міхайлы Бабяцінскага

Вызвалены пастановаю Галоўнага суда Гродзенскае губерні з вязніцы К. Камінскі, аднак, працягваў там знаходзіцца. Апрача таго ўлады не выконвалі (і, відавочна, не думалі выконваць) патрабаванні сялян. Дык вясною 1828 г. у Крашыне з'явіліся новыя лідары сялянскага руху: Казімір Ярмакоўскі і Мацвей Шыслоўскі звяртаюцца да цэсарэвіча Канстанціна з тою самаю просьбаю, што і ў 1826 г. Казімір Камінскі. Будучы непахісным у справе вяртання сялянам зямлі і мяшчанскіх правоў, цэсарэвіч Канстанцін, аднак, патрабуе выканання пастановы Галоўнага суда Гродзенскае губерні аб вызваленні з вязніцы К. Камінскага.

|**15 r**| Отъ Его Императорскаго Высочества Цесаревича Главнокомандующаго Литовскимъ Отдѣльнымъ Корпусомъ.

Господину Гродненскому Гражданскому Губернатору.

Новогрудскаго Повѣта мѣстечка Крошинъ крестьяне Казимиръ Ермаковскій и Матвѣй Шисловскій[2], именуясь Повѣренными Общества тамошнихъ крестьянъ, обратились ко мнѣ съ жалобою о не основательномъ якобы изслѣдованіи жалобъ ихъ по дѣлу съ помѣщикомъ Юрагою, касательно отыскиваемыхъ

[1] Відавочна, гэта загад падрыхтаваць рапарт падобнага зместу і для цэсарэвіча Канстанціна.
[2] Выракам суда яны абодва будуць залічаны да "главныхъ начинщиковъ неповиновенія", хоць Мацвей Шыслоўскі быў падданым плябаніі, а не С. Юрагі.

ими мѣщанскихъ правъ изнуреніи повѣреннаго ихъ Каминскаго продолжительнымъ тюремнымъ заключеніемъ и объ отнятіи Юрагою собственныхъ земель ихъ и подлинной привилегіи на мѣщанское право: въ разсужденіи чего просятъ моего распоряженія: объ изслѣдованіи дѣла ихъ посредствомъ Чиновниковъ другой Губерніи возвращеніи отнятыхъ земель и привиллегіи и предоставленіи имъ мѣщанскихъ правъ.

|**15 v**| Изъ происходившей по Гражданской Канцеляріи моей, по дѣлу Крошинскихъ крестьянъ переписки, я усматриваю во перьвыхъ: что по случаю оказаннаго ими въ 1826 году помѣщику своему Юрагѣ неповиновенія, и въ слѣдствіе доходившихъ ко мнѣ не основательныхъ прошеній касательно предоставленія имъ по древней привиллегіи мѣщанскихъ правъ, Гродненское Губернское Правленіе употребляло мѣры къ возстановленію должнаго отъ тѣхъ крестьянъ помѣщику своему повиновенія которое слѣдствіемъ тѣхъ меръ и возстановлено; <u>и во вторыхъ</u> что именовавшійся повѣреннымъ тѣхъ крестьянъ Каминскій бывъ обнаруженъ въ подговорѣ ихъ къ неповиновенію, преданъ былъ сужденію по рѣшенію Гродненскага Главнаго Суда 1º Департамента состоявшимся 30 Ноября 1827 года вмѣнено ему въ наказаніе протерпѣнное имъ тюремное заключеніе, съ каковымъ рѣшеніемъ какъ видно изъ донесенія ко мнѣ Вашего Превосходительства еще отъ 11º Декабря того|жъ года № 16473<u>й</u> согласясь и Вы обратили оное въ Главный Судъ для исполненія.

|**16 r**| По соображеніи сихъ обстоятельствъ а равно по непредставленію Просителями Ермаковскимъ и Шисловскимъ довѣренности на хожденіе отъ имени общества Крошинскихъ Крестьянъ, я настоящее прошеніе о назначеніи новаго изслѣдованія возвращеніи имъ земель и привиллегіи и предоставленіи мѣщанскихъ правъ, какъ какъ[1] неподлежаще ко мнѣ присланное и неосновательно[е] оставя безъ дѣйствія, предписываю Вашему Превосходительству вразумить чрезъ кого слѣдуетъ просителей чтобы они отыскивали правъ своихъ на мѣщанство и удовлетворенія въ претензіяхъ къ помещику Юрагѣ установленымъ порядкомъ посредствомъ мѣстныхъ властей не выходя между тѣмъ изъ должнаго ему повиновенія подъ опасеніемъ подверженія виновныхъ Военному Суду. Что|же касается описываемаго ими содержанія до нынѣ крестьянина Каминскаго подъ стражею, отъ которой слѣдовало его освободить по силѣ рѣшенія Главнаго Суда еще въ Ноябрѣ М[ѣся]це прошлаго Года состоявшегося то въ случаѣ если таковое рѣшеніе до|нынѣ |**16 v**| не исполнено обязываетесь настоять за симъ, буде въ исполненіе онаго рѣшенія не имѣется законныхъ препятствій, и мнѣ донести о причинахъ по коимъ столь продолжительно рѣшеніе Главнаго Суда не приводилось въ дѣйствіе.

Варшава. Апреля 14 дня 1828 [г.]. Генералъ Инспекторъ всей Кавалеріи. № 1064.

*Копія. На першай старонцы ўгары пазнака*: 23 Апреля 1829 [г.]. *Год атрымання пададзены недакладна. Трэба*: 1828.

[1] Так у дакуменце.

## 14. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Зварот Казіміра Ярмакоўскага і Мацвея Шыслоўскага да цэсарэвіча Канстанціна М. Бабяцінскі ўспрыняў як сведчанне няскоранасці крашынскіх сялян, а таму літаральна адразу Гродзенская губернская ўправа прыняла новую пастанову адносна прывядзення іх “въ послушаніе”. Ажыццяўляць рашэнне Гродзенскае губернскае ўправы павінен быў павятовы маршалак. Самое пастановы ў матэрыялах справы няма.

|**17 r**| Г[осподину] Новогрудскому Маршалу.

Къ свѣденію Вашаго Высокородія препровождаю у сего Списокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 27$^{\underline{го}}$ сего Апрѣля состаявшагося Относительно приведенія въ послушаніе Крошинскихъ Крестьянъ.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 3958. 30. Апрѣля 1828º Года.

## 15. Міхайла Бабяцінскі да Арсенія Закрэўскага

Гэты ж самы “Спиcокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія” быў высланы ў Пецярбург.

|**18 r**| Г[осподину] Управляющему М[инистерствомъ] В[нутреннихъ] Дѣлъ[1].

Вашему Высокопре[восходительст]ву честь имѣю покорнѣйше представить у сего Списокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 27. минувшаго Апрѣля состаявшагося о|предпринятыхъ онымъ Правленіемъ мѣрахъ къ приведенію въ послушаніе Крошинскихъ Крестьянъ.

Его Высочеству тоже съ особою краткою запискою.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 3483. 1. Маія 1828º [г.].

## 16. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Гэты ж самы “Спиcокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія” быў высланы і ў Варшаву. Адно што з дадаткам, бо за лад у заходніх губернях адказваў у першую чаргу цэсарэвіч Канстанцін. “Краткой Записки” ў справе няма.

|**19 r**| Его Высочеству.

Рапортъ.

Вашему Императорскому Высочеству имѣю щастіе всепокорнѣйше представить у сего $^{въ}$ Списакѣ постановленіе Гродненскага Губернскага Правленія 27. минувшаго Апрѣля состаявш~~агося~~$^{еся*1}$ ~~въ слѣдствіе повеленіе ко мнѣ Вашего Высочества объ ослушаніи противу Двороваго Начальства~~ о|принятыхъ онымъ Правленіемъ мѣрахъ къ приведенію въ послушаніе Крестьянъ Мѣстечка Крошина принадлежащ[его] Помѣщикамъ Юрагамъ.

*1 *Ad marginem*: съ Краткой изъ онаго Запискою.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 4524. 3 Маія [1828 г.].

---

[1] 19 красавіка 1828 г. міністрам унутраных спраў быў прызначаны Арсень Закрэўскі (1783–1865). Яго папярэднік Васіль Ланскі (1754–1831) лічыўся “управляющимъ Министерствомъ”. Адсюль такі зварот на пачатку ліста.

## 17. Міхайла Бабяцінскі да Арсенія Закрэўскага

Інфармацыя пра чарговую пастанову Гродзенскае губернскае ўправы ў справе крашынскіх сялян. Самое пастановы ў матэрыялах няма.

|**20 г**| Г[осподину] Министру Внутреннихъ Дѣлъ.

Вашему Высокопре[восходительст]ву честь имѣю Покорнѣйше Представить у сего Списокъ Постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 8[го] настоящаго Мая Состоявшегося, о|принятыхъ онымъ Правленіемъ мѣрахъ къ приведенію въ послушаніе Крестьянъ мѣстечка Крошина.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 4848. 11 Маія [1828 г.].

## 18. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Тую ж самую пастанову губернская ўправа выслала, відавочна, наваградскаму маршалку ў той самы дзень – 11 мая 1828 г.

|**20 г**| Новогруд[скому] Маршалу.

Къ самоскарѣйшему Со|стороны Вашего Высокородія исполненію.

*Чарнавік. Злева ад тэксту пазнака*: [№] 4849.

## 19. Міхайла Бабяцінскі да Ануфрыя Тамашэвіча

Шмат гадоў наваградскім павятовым спраўнікам быў герой рамана Ігнацы Яцкоўскага надворны саветнік Пётр Берг. Аднак у 1827 г. (у перыяд з сакавіка па снежань) ён ці то памёр, ці то па іншай прычыне пакінуў пасаду. На яго месца быў прызначаны паручнік у адстаўцы (на цывільнай службе атрымаў тытул калежскага рэгістратара – чын XIV класа) Ануфры Вікенцьеў Тамашэвіч, які раней (з 1826 г.) займаў пасаду асэсара ад кароны ў Лідскім Ніжнім земскім судзе.
Дадзены дакумент сведчыць, што следства на пачатку мая 1828 г. ужо вылучыла з групы сялян тых, каго можна было лічыць “главнѣйшими начинщиками”.

|**21 г**| Г[осподину] Новогрудскому Исправнику.

Къ надлежащему [и|самоскарѣйшему] исполненію провождаю у|сего Засвидѣтельствованный Списокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія о|подущаніи Крошинскихъ Крестьянъ къ|неповиновенію своему помѣщику Юрагѣ.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 4877. 12 Маія [1828 г.].

## 20. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Пратэсты крашынскіх сялян вясною 1828 г. сталі падставаю рашучых дзеянняў з боку ўладаў. Відавочна, М. Бабяцінскі меў загад і абавязак як можна хутчэй прывесці няскораных да “послушанія”. Гэтым тлумачыцца ягоная актыўная карэспандэнцыя са сваім непасрэдным кіраўніцтвам.

|22 r| Его Высочеству.

Рапортъ*[1].

Въ|какомъ Содержаніи состоялись въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленіи Постановленія $1^{\underline{е}}$ отъ $8^{\underline{го}}$ сего мая объ ослушаніи Крестьянъ Новогрудскаго Повѣта Имѣнія Крошина, противу владѣльца $и^{хъ}$ Юраги, и|определеніи изъ нихъ $главнѣши^{хъ}$ Начинщиковъ непослушанія Военному Суду; и $2^{\underline{е}}$ отъ $12^{\underline{го}}$ сего|же М[ѣся]ца, о подверженіи Слѣдствію, и|если по оному окажутся виновными тому же военному суду <*нечыт.*> |22 v| Крестьянъ, нѣкоихъ, Давидовскаго, Броневича, Дроздовича и Самойлы; съ $оны^{хъ}$ <*нечыт.*> всепокорнѣйше поднесть у сего на|высокое Благоусмотрѣніе Вашего Им[ператорскаго] Высочества вѣрные списки.

*[1] *Ad marginem*: Его Величеству тоже послано 22 Маія [1828 г.].

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 4943. 13 Маія [1828 г.].

## 21. Міхайла Бабяцінскі да Арсенія Закрэўскага

Фрагмент чарнавіка справаздачы М. Бабяцінскага пра сваю працу і прынятыя супраць крашынскіх сялян меры міністру ўнутраных спраў.

|23 r| Г[осподину] Министру Внутреннихъ Дѣлъ. ~~Новогрудскому Повѣтовому Маршалу.~~

<~~*Нечыт.*~~> Въ дополненіе къ представленію моему отъ $10_{\underline{го}}$ сего мая имѣю честь покорнѣйше представить у сего засвидѣтельствованный Списокъ постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія $12^{\underline{о}}$ настоящаго Маія состоявшагося, по прошенію Помѣщика Юраги о неповиновеніи <…>.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 5073. 15 Маія [1828 г.].

## 22. Маршрут роты Літоўскага пяхотнага палка

Пасля таго, як каманда Валынскага ўланскага палка пакінула Крашын, М. Бабяцінскі выклікаў новую вайсковую адзінку – $9^{ю}$ мушкецёрскую роту Літоўскага пяхотнага палка, якая знаходзілася ў Вільні. Замест 50–60 уланаў Валынскага палка ў Крашын у сярэдзіне чэрвеня 1828 г. прыйшло блізу 150 мушкецёраў.

|24 r| Маршрутъ роты Литовского пѣхотнаго полка изъ Города Вильно въ Крошинъ / Гродненской Губерніи Новогрудскаго уѣзда.

№ 9. маія 21 дня 1828 года

| | Мѣста ночлеговъ и растаховъ[1] | число верстъ | число дворовъ | Замечанія о качествѣ дороги и переправахъ |
|---|---|---|---|---|
| | отъ Вильно<br>Едлино | 22½ | | |

[1] Ад ням. Rasttag – дзень адпачынку.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | Салешники | 21 | | |
| | Вороновъ | 16½ | | |
| | растахъ | | | |
| | Жирмуны | 13½ | | |
| | Г. Лида | 14 | | |
| | Лапеница | 16½ | | |
| | растахъ | | | |
| | Бѣлица | 13 | | |
| | Дзенціолъ[1] | 21½ | | |
| | Дворецъ | 15 | | |
| | растахъ | | | |
| | Молчадь | 18 | | |
| | Столовичи | 25 | | |
| | м. Крошинъ | 10 | | |
| | итого | 206½ | | |
| | въ 15 дней и 12 переходовъ | | | |

[О]беръ Квартирмейстеръ Полковникъ [*подпісь нечыт.*].

*Арыгінал.*

## 23. Міхайла Бабяцінскі да Лідскага, Слонімскага і Наваградскага спраўнікаў

Гродзенскі губернатар загадвае спраўнікам трох паветаў свае губерні забяспечыць усім неабходным 9ю мушкецёрскую роту, калі яна будзе рухацца па іх тэрыторыі.

|**25 r**| Лидскому – Слонимскому*[1] – и Новогрудскому*[2] исправникамъ.

Препровождая у|сего Копію Маршрута полученнаго мною при Отношеніи*[3] Г[осподина] Командира Литовскаго Отдѣльнаго Корпуса отъ 22го Маія съ № 2177мъ на слѣдованіе 3о Баталіона Литовскаго Пѣхотнаго Полка 9ой Мушкатерской Роты*[4], Новогрудскаго Повѣта до Мѣстечка Крошина, для усмиренія тамошнихъ Крестьянъ неповинующихся своему владѣльцу, предписываю Вамъ <*нечыт.*> |**25 v**| распорядится о|заготовленіи во время слѣдованія ея нужнаго числа подводъ, и объ оказываніи ей всякого законнаго вспомоществованія.

*[1] *Ad marginem*: [№] 5352.
*[2] *Ad marginem*: [№] 5353.
*[3] *Ad marginem*: Подлинное отношеніе передано въ Губ[ернское] Прав[леніе].
*[4] *Ad marginem*: посылаемой.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 5351. 25 Маія [1828 г.].

[1] Сённяшні горад Дзятлава.

## 24. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Гродзенскі губернатар дасылае чарговую пастанову губернскае ўправы ад 24 мая 1828 г. Яе змест невядомы.

|**26 г**| Новогрудскому Г[осподину] Уезд[ному] Мар[шалу].

Къ|надлежащему со|стороны Вашего Высокоблаг[ородія] исполненію препровождаю у|сего Списокъ съ|постановленія Губернскаго Правлѣнія, состоявшагося въ 24. день сего Маія о Крошинскихъ Крестьяна[хъ] и о подущавшихъ ихъ къ возмущенію.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: "№ 5372. 26 Маія 1828 [г.].

## 25. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Дадзены дакумент, а таксама наступныя сведчаць, што прыезд высокае асобы на месца сялянскіх хваляванняў абавязкова павінен быць зафіксаваны ў дакументах іх канцылярый. Аднак даследчыкам пакуль невядомыя такія дакументы з канцылярый М. Навасільцава і В. Пелікана, якія нібыта выязджалі ў Крашын.

|**27 г**| Г[осподину] Новогрудскому Повѣтовому Маршалу.

По поводу упорно оказываемаго Крестьянами мѣстечка Крошина непослушанія, отправляясь Сего числа[1] Самъ въ оное мѣстечко по тракту[2] чрезъ Слонимъ; прошу Ваше Высокородіе непремѣнно съ Завтрашняго числа прибыть въ Крошинъ къ исполненію извѣстнаго Вамъ распоряженія Губернскаго Правленія.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 5383. 27 Май [1828 г.].

## 26. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Відаць, "неповиновеніи крестьянъ мѣстечка Крошина" ў маі 1828 г. набыло вельмі востры характар. І гэта нягледзячы на прысутнасць каманды Валынскага ўланскага палка. М. Бабяцінскі, відавочна, разумеў, што і ў Варшаве, і ў Пецярбурзе маглі негатыўна ацаніць ягоныя меры па прывядзенні "бунтаўнікоў" у "послушаніе". А таму гродзенскі губернатар асабіста выязджае ў мястэчка, пра што паведамляе афіцыйна ўсім сваім кіраўнікам. Магчыма, ён спадзяваўся паспяхова выканаць заданне, каб пасля трыумфальна рапартаваць ім.

|**28 г**| Его Высочеству.

Рапортъ*[1].

О|продолжающемся не повиновеніи Крестьянъ мѣстечка Крошина Владьцу Своему Юрагѣ и|законнымъ властямъ, а|такъ|же о|принятыхъ Гродненскимъ Губернскимъ Правленіемъ мѣрахъ къ усмиренію неповинующихся и прочее; въ како[мъ] содержаніи состоялось*[2] въ ономъ правленіи Постановленіе, въ присутствіи Губернского Маршала, Вице Губернатора и Губернскаго Прокурора, съ онаго поспѣшу поднесть у сего въ Благоусмотреніе Вашего

---

[1] Г. зн., што М. Бабяцінскі накіраваўся ў Крашын 27 мая.

[2] У той час адзін паштовы тракт з Гродна ішоў праз Ліду, Слонім, Сталовічы да Нясвіжа, а другі праз Ліду, Наваградак, Мір, Нясвіж (з магчымасцю вярнуцца ў Сталовічы).

Им[ператоскаго] Высочества вѣрный Списокъ |**28 v**| всепокорнѣйше докладывая, что по причинѣ Столь Упорно оказываемаго Крестьянами Крошинскими непослушанія, и|желая Личнымъ моимъ Присудствіемъ, Сколь возможно содѣйствовать Г[осподину] уѣздному Маршалу къ|успѣшнѣйшему исполненію по Его долгу распоряженія губ[ернскаго] правленія; Самъ сего|же числа отправляюсь въ Крошинъ; но|къ открытію рекрутскаго Присудствія въ Гроднѣ подъ моимъ Предсѣдательствомъ, непремѣнно возвращусь прежде $1^{го}$ числа наступающаго Іюня м[ѣся]ца.

*[1] *Ad marginet*: Его Величеству тоже.
*[2] *Ad marginet*: 24 сего мая.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 5393. 27 Маія [1828 г.].

## 27. Міхайла Бабяцінскі да Сцяпана Мікульскага

Чарговы дакумент сведчыць пра тое, як грунтоўна М. Бабяцінскі рыхтаваўся да паездкі.

|**29 r**| Г[осподину] Предсѣдателю Гродненскаго Главнаго Суда $2^{го}$ Департамента Микульскому.

Отправляясь сего числа на короткое время Новогрудскаго Повѣта въ мѣстечко Крошинъ ~~для ближайшаго узнанія о причинахъ неповиновенія Крестьянъ онаго~~ владѣльцу Юрагѣ*[1]; по|поводу отъѣзда отсель Г[осподъ] Вице Губернатора и Предсѣдателя $1^{го}$ Департамента въ отдѣленія Рекрутскихъ Присудствій, прошу Ваше Высокородіе ~~впредь~~ до возврата моего заступить мое мѣсто.

[№] 5452. Министру Внутреннихъ Дѣлъ
[№] 5453. Военному Губернатору } тоже <*нечыт.*>

*[1] *Ad marginet*: и наблюденія за точнымъ исполненіемъ распоряженія Губернскаго Правленія.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 5384. 29 Маія[1] [1828 г.].

## 28. Міхайла Бабяцінскі да Аляксандра Рымскага-Корсакава

Гродзенская губерня знаходзілася ў падпарадкаванні Літоўскага вайсковага генерал-губернатара. Аляксандар Рымскі-Корсакаў (1753–1840) займаў гэтую пасаду ў 1806–1809 і 1812–1830 гадах. Рапарт М. Бабяцінскага быў ужо напісаны начыста, але пасля, здаецца, сам губернатар выкрасліў некалькі фраз і зверху дапісаў іншае. На жаль, прачытаць дапісанае не ўдалося.

|**30 r**| Его Высокопревосходительству Господину Генералу отъ Инфантеріи Литовскому Военному Губернатору и разныхъ орденовъ Кавалеру Александру Михайловичу Римскому Корсакову.

Гродненскаго Гражданскаго Губернатора
Рапортъ.

~~Отправляясь сего числа на|короткое время Новогрудскаго Повѣта въ мѣстечко Крошинъ для личнаго~~ <*нечыт.*> содѣйствія <*нечыт.*> Уѣздному Маршалу къ

---

[1] Пазнака зроблена іншаю рукою і, відавочна, пазней. Бо М. Бабяцінскі няраз будзе пісаць, што 28 мая ўжо быў у мястэчку.

успѣшнѣйшему исполненію по его долгу распоряженій Губернскаго Правленія <*нечыт.*> жителей означенного мѣстечка по поводу отъезда отсель Г[осподъ] Вице Губернатора и Предсѣдателя 1го Департамента въ отдѣленія рекрутскихъ присудствій; исправленіе должности моей до возврата, поручилъ я предсѣдателю Гродненскаго Главнаго ~~Суда 2го Департамента Микульскому, но~~ къ открытію рекрутскаго присудствія въ Гроднѣ подъ моимъ предсѣдательствомъ непремѣнно |**30 v**| возвращусь прежде 1го числа наступающаго Іюня месяца.

О чемъ Вашему Высокопревосходительству честь имѣю покорнѣйше донесть.

Гражданскій Губернаторъ.

№ 5452. 29 маія[1] 1828. Гродно.

*Чарнавік.*

## 29. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Дадзены рапарт М. Бабяцінскага – гэта фактычна пачатак следчае справы В. Магнушэўскага, а таксама пачатак “багрымаўскага” пытання ў беларускім літаратуразнаўстве. Пільны чыноўнік для асаблівых даручэнняў Фёдар Нечвалодаў[2], якога Павел Багрым па загаду Вайцэха Магнушэўскага бавіў вершамі, звярнуў увагу губернатара на “возмутительные стихи”, якія ведае на памяць падлетак. Для М. Бабяцінскага гэтага было дастаткова, каб сцвердзіць, што верш П. Багрым вывучыў у школцы, а значыць, яна, школка – настаўнікі і дзеці – мае ўплыў на крашынскіх сялян і на тое, што адбываецца ў мястэчку. Відаць, гродзенскаму губернатару патрэбен быў больш важкі аргумент, каб у пэўнай ступені апраўдацца за тое, што ён і ягоныя чыноўнікі доўгі час не могуць адолець супраціў даволі невялікае групы сялян. Зусім інакш выглядала б справа, калі б на чале яе паставіць святара і заснаваную ім школку.

Начыста перапісаны рапарт М. Бабяцінскага быў высланы ў Варшаву. Ён, здаецца, не захаваўся. А вось зробленая ў канцылярыі цэсарэвіча і адасланая М. Навасільцаву копія рапарту гродзенскага губернатара маецца ў архіве Апекуна віленскае навучальнае акругі (гл.: LVIA, F. 567-2-2317a, k. 3–7 v: *Дѣло о обнаруженномъ крестьянами мѣстечка Крошина неповиновенія противу владѣльца ихъ помѣщика Юраги и о заведеніи въ мѣстечкѣ Крошинѣ ксензомъ Магнушевскимъ для крестьянскихъ дѣтей училища. 13 Іюня 1828 г.*). Яна была апублікаваная ў чацвёртым томе *Даследаванняў і матэрыялаў* (Warszawa 2018, с. 57–61).

---

[1] Нумар і лічба “29” дапісаныя пазней.

[2] У дакументах імя Нечвалодава не падаецца. Аднак называецца пасада: “чиновник по особым поручениям”. Гэтая пасада з’явілася ў наменклатуры Гродзенскае губернскае ўправы толькі ў 1827 г. І заняў яе, здаецца, новы ў губерні чалавек – тытулярны саветнік (IX клас), кавалер ордэна св. Станіслава 4 ст. (знак XX гадоў незаганнай службы ён атрымае напачатку 1830-х гг.) Фёдар Якаўлеў Нечвалодаў. Ці быў ён сынам Якава Іванава Нечвалодава, які пасля вайны 1812 г. служыў саветнікам губернскае ўправы (да 1827), – невядома. Але ў навуковай літараратуры іх атаясамлівалі, хоць Якаў Іванаў Нечвалодаў быў калежскім саветнікам (VI клас) і займаў больш высокую пасаду. Нечвалодавы – нетутэйшыя. Пра ўраджэнца Харкаўшчыны Грыгорыя Нечвалодава (прататып Пячорына з *Героя нашего времени* Міхаіла Лермантава) апавядае пісьменнік Міхаіл Пыляеў (1842–1899) у кнізе *Замечательные чудаки и оригиналы* (1898).

|31 r| Секретно.
Его И[мператорскому]му Высочеству Цесаревичу.

Рапортъ.

Въ дополненіе къ рапорту моему Вашему И[мператорско]му Высочеству отъ 27. ~~сего~~ минувшаго маія за № 5393. спѣшу всепокорнѣйше донесть, что за прибытіемъ моимъ 28. того мѣсяца въ мѣстечко Крошинъ тотъ часъ собраны были мною всѣ наличные того мѣстечка жители хозяева въ домъ тамошняго Плебана Ксендза Магнушевскаго, у коего и я останавливался, и по предьявленіи имъ въ присудствіи уѣзднаго маршала, Самаго сего Плебана и другихъ чиновниковъ и стороннихъ лицъ повелѣнія Вашего Им[ператорска]го Высочества отъ 14. апрѣля за № 1064.[1] въ разрѣшеніе |31 v| Прошенія отъ именующихся повѣренными сихъ же жителей и по нѣсколькократномъ прочитаніи имъ онаго въ голосъ самимъ убѣдительнѣйшимъ образомъ, были мною уговариваемы и склоняемы чтобы повинились и пошли обрабатывать раздѣленную между ими по равнымъ участкамъ землю; но всѣ сіи увѣщеванія и предваренія о наказаніи, какое ожидаетъ ихъ за не послушаніе были тщетны, по ложному воображенію, что ежели дотронутся къ обработкѣ раздѣленной между ими земли (которую почитаютъ своею собственностію, а себя мѣщанами) то тѣмъ самымъ лишатся права собственности и мѣщанскаго званія. Сіи самыя увѣщеванія по|32 r|вторяемы были имъ мною и на другой день, то есть 29. маія; но и за симъ они остались при своемъ упрямствѣ. За тѣмъ не предусматрывая никокого способа склонить ихъ къ послушанію кроткими мѣрами и не могши терять времени въ Крошинѣ, по поводу ~~ожидаемаго меня въ Гроднѣ~~ предстоящаго рекрутскаго пріема, предоставивъ Г[осподину] Уѣздному Маршалу обще съ Земскою Полиціею за прибытіемъ ожидаемой въ Крошинѣ изъ Вильна роты Литовскаго пѣхотнаго Полка, дѣйствовать по ихъ обязанности согласно распоряженіямъ Гродненскаго Губернскаго Правленія и прописаннымъ въ оныхъ узаконеніямъ.*[1]

|32 v| Изъ постановленія Губернскаго Правленія отъ 24. маія, съ коего имѣлъ я щастіе при выше упомянутомъ рапортѣ моемъ поднесть Ва[ше]му И[мператорско]му Высочеству списокъ видно, что по сему дѣлу обвиняется 12. человѣкъ въ томъ числѣ 8. ~~кресть~~ Крошинскихъ Крестьянъ и 4. человѣка разнаго состоянія, изъ коихъ о 9ти ~~военный~~ изданъ уже приговоръ военнымъ Судомъ, о трехъ же послѣ преданныхъ военному Суду Губернскимъ Правленіемъ, долженъ таковой скоро послѣдовать приговоръ за прибытіемъ въ Крошинъ выше упомянутой роты Литовскаго Пѣхотнаго Полка.*[2] Приговоры сіи на основаніи Высочайше утвержденнаго положенія Комитета |33 r| 22. Іюня 1826. Года состоявшагося, должны ~~будутъ~~ получить исполненіе съ утверждениія моего, когда число присуджаемыхъ къ наказанію составлять будетъ менѣе 10. человѣкъ; но если по приговору Суда присуждатся будетъ къ тѣлесному наказанію или къ сылкѣ въ Сибирь болѣе 9. человѣкъ, тогда приговоры сіи должны взносится чрезъ Генералъ Губернатора дабы доносилъ Гну Министру Внутреннихъ дѣлъ для донесенія Комитету Г[осподъ] Министровъ, что безъ сомнѣнія замедлило бы не только ходъ дѣла о Крошинскихъ Крестьянахъ, но и самое приведеніе

[1] Гл. дакумент 13.

оныхъ въ должное послушаніе. По сему поводу я осмѣливаюсь ~~предать~~ |33 v| всепокорнѣйше испрашивать разрѣшенія Ваш[е]го Им[ператорска]го Высочества, не позволено ли мнѣ будетъ оба выше упомянутыя опредѣленія обще съ подлиннымъ дѣломъ поднесть на Высокое благоусмотрѣніе Ваше[го] Им[ператорска]го Высочества, въ такомъ случаѣ, когда по сему дѣлу присуждено будетъ къ тѣлесному наказанію или къ ссылкѣ въ Сибирь болѣе 10. человѣкъ.

Между тѣмъ долгомъ моимъ поставлено присовокупить слѣдующее:

Въ мѣстечкѣ Крошинѣ существуетъ не большая школка или училище, въ коемъ обы|34 r|кновенно, по окончаніи лѣтнихъ работъ съ осѣни и въ продолженіи всей зимы обучаются дѣти обоего пола тамошнихъ жителей. Основателемъ сей школки и Главнымъ наставникомъ обучающихся въ ономъ дѣтей, какъ самъ мнѣ объявилъ есть Выше упомянутый Плебанъ Магнушевскій, управляющій сею плебаніею съ принадлежащими къ ней съ лишкомъ 60. Дворами Крестьянъ[1] отъ 18. лѣтъ тому назадъ.

По случаю нынѣшняго рекрутскаго набора, н~~и~~е могши ни сколько оставаться далѣе въ Крошинѣ, я не былъ въ состояніи войти въ подробное разсмотрѣніе какъ и чему точно обучаются въ ~~тамошней~~ Крошинской |34 v| школкѣ крестьянскія дѣти; но подносимый у сего списокъ стиховъ ~~говоренныхъ~~ съ рускимъ на скоро переводомъ <~~*нечыт.*~~> разсказываемыхъ однимъ ученикомъ означенной школки сыномъ тамошняго Слѣсаря мальчикомъ 15. лѣтъ и его рукою списанныхъ ~~даютъ поводъ~~ заставляютъ имѣть довольно не выгодное о сей школкѣ*[3] ~~мнѣніе~~: ибо въ сихъ стихахъ*[4] воспоминается пребываніе здѣсь Французовъ, дѣлавшіеся крестьянами грабежи, о равенствѣ состояній, о предполагавшемся востановленіи Польши, о прежнемъ щастливомъ положеніи крестьянъ, о нынѣшнихъ ихъ бѣдствіяхъ отъ рекрутскаго набора и прочее. Но это можетъ быть только часть тѣхъ |35 r| нелѣпостей,*[5] ~~какія описываются и коимъ обучаются наизусть обоего пола дѣти Крошинскихъ жителей?~~

Сверьхъ того, во время моей бытности въ Крошинѣ, Новогрудскій Маршалъ Верещака, владѣлецъ имѣнія Крошина Юрага и прибывшій туда на то время шуринъ Юраги Князь Константинъ Радзивилъ[2] въ присутствіи моемъ*[6] упрекали Плебана Магнушевскаго, что онъ имѣя на жителей Крошинскихъ всевозможное вліяніе и пользуясь особенною ихъ довѣренностію и уваженіемъ, не только не принималъ участія какъ бы слѣдовало |35v| къ вразуменію ихъ и послушанію, но тщательно старался избѣгать сего. Если же и былъ вынужденъ промолвить къ нимъ нѣсколько словъ, то въ такихъ выраженіяхъ которыя не могли быть никому вразумительны и тотъ часъ уходилъ отговариваясь страдаемою имъ болѣзнію; ~~а~~ Князь же Константинъ Радзивилъ въ особенности ~~выговаривалъ и съ жаромъ~~ укорялъ Его Магнушевскаго, что всему случившемуся нещастію въ имѣніи Сестры Его причиною учережденная имъ Магнушевскимъ школка и обращеніе ~~они~~ Его съ Крошинскими жителями*[7] и что онъ*[8] |36 r| на

[1] У той час у мястэчку Крашын было не больш за 60 двароў. Значная колькасць з іх належала Юрагам. А г. зн., што плябаніі належалі сяляне не толькі ў мястэчку, але і ў навакольных вёсках.

[2] Гаворка пра Канстанціна Мікалая Радзівіла (1793–1869), сын Мацея і Эльжбеты з Хадкевічаў Радзівілаў.

конецъ, Маршалъ Новогрудскій*[9] увѣряли меня, что во время ~~производившагося~~ онаго Суда въ Крошинѣ ~~военнаго суда надъ выше означенными 9. человеками, нѣкаторые изъ нихъ а в особенности~~ нѣкоторые изъ подсудимыхъ, въ томъ числѣ и повѣренный Каминскій, увѣщеваніями членовъ Суда и представленіемъ ожидаемой ихъ будущности*[10] ~~начали колебатся съ приметною готовностью к покоренію и послушанію и просили~~ и только просили позволенія ~~посовѣтоватся~~ видѣться съ плебаномъ Магнушевскимъ и съ нимъ посовѣтоваться; когда же оказано было имъ сіе снисхожденіе, то за возвратомъ отъ Магнушевскаго |**36 v**| не только не показали*[11] ~~уже прежняго~~ ~~вида къ покорности и послушанію~~; но изъявили рѣшительность лучше подвергаться всѣмъ <~~*нечыт*~~.> ожидаемымъ ихъ послѣдствіямъ.

|**37 r**| До какой степени*[12] ~~упреки сіи и укоризны могутъ имѣть свое основаніе, я также по краткости пребыванія моего удостовѣриться не могъ~~; но не ~~замѣтилъ~~ видѣлъ однако|жъ и того, чтобы Плебанъ Магнушевскій и въ моемъ присудствіи ~~оказ~~ старался оказать какое либо особенное усиліе къ вразумленію Крестьянъ, онъ по нѣсколькимъ приглашеніямъ моимъ всегда отказывался, что болѣзненное состояніе Его, не позволяетъ Ему говорить много и тотъ часъ уходилъ |**37 v**| съ глазъ моихъ, подъ предлогомъ или въ самомъ дѣлѣ отъ того, что онъ не сидѣть ни стоять на одномъ мѣстѣ долго не можетъ, ~~въ прочемъ Плебанъ Магнушевскій, имѣетъ роду какъ примѣтно болѣе 60. лѣтъ.~~ Въ прочемъ Плебанъ Магнушевскій*[13] за 60. лѣт отъ роду, ~~и отъ нѣсколькихъ уже лѣтъ по звѣренію выше означенныхъ лицъ, не исполняющій уже церковныхъ требъ отъ нѣсколькихъ уже лѣтъ по замѣчаніямъ моимъ есть такъ совершенно безполезенъ~~, кромѣ всѣхъ прочихъ пороковъ могущихъ въ немъ скрываться, по мнѣнію моему безполезенъ тамъ и потому уже, что онъ*[14] отъ нѣ|**38 r**|сколькихъ лѣтъ не исполняетъ по своей обязанности церковныхъ требъ и сколько примѣтно имѣетъ наклонность къ напиткамъ, что доказываетъ самая Его наружность, странное и не приличное для духовнаго Сана обращеніе Его съ лицами или мало или совершено Ему не знакомыми, ~~такъ~~ безсмысленные же отвѣты Его сопровождаемые не приличными и ~~глупыми~~ безразсудными пословицами, ~~на конецъ~~ кривлениемъ рожи и смѣшными <~~*нечыт*~~.> тѣлодвиженіями, даютъ поводъ ~~думать~~ заключать, что онъ вообще не имѣетъ даже достаточно здраваго разсудка, есть ли однако|жъ во всемъ семъ не заключается особеннаго притворства.

|**38 v**| ~~Во ожиданіи на все сіе повелѣнія Вашего И[мператорска]го Высочества,~~ По сему уваженію, я ограничился ~~только~~ дачею только Новогрудскому Земскому Исправнику секретнаго предписанія, чтобъ онъ находясь на мѣстѣ въ Крошинѣ употребилъ всевозможныя средства*[15] ~~разведать~~ <~~*нечыт*~~.> не существуютъ ли тамъ между крестьянскими дѣтьми ~~въ тамошней школкѣ~~ еще другія какія нелѣпыя сочиненія, въ стихахъ или прозѣ, <~~*нечыт*~~.> и ежели что либо ~~замѣчено~~ обнаружено имъ будетъ, тотъ часъ бы доносил мнѣ представляя и самыя тѣ сочиненія; |**39 r**| имѣя между тѣмъ за всѣми дѣйствіями Плебана Магнушевскаго не примѣтное наблюденіе.

Предавая все сіе высокому благоуваженію Вашего И[мператорска]го Высочества, осмѣливаюсь доложить, что по мнѣнію моему въ соблюденіи строгой справедливости,*[16] можно бы было нынѣ же, ~~возложить~~ поручить Новогрудскому Земскому Суду разсмотреніе правъ ~~Крошинскихъ мѣщанъ~~*[17] ихъ на

доказываемое ими мѣщанское званіе и на землю, Которую они почитають не ~~принадлежаще~~ подлежаще раздѣленною между ими помѣщикомъ Юрагою.

*[1] *Ad marginem*: Между тѣмъ для удержанія въ м. Крошинѣ спокойствія находится теперь зводъ улановъ волынскаго уланскаго полка при одномъ офицерѣ.

*[2] *Ad marginem*: Такъ какъ составлявшіе о выше упомянутыхъ 9. подсудимыхъ офицеры Волынскаго уланскаго полка отправились теперь на Компаментъ[1] въ Пружанѣ.

*[3] *Ad marginem*: и о преподающихся въ оной наукахъ мнѣніе.

*[4] *Ad marginem*: въ простомъ и слѣдственно самомъ внятномъ для крестьянъ нарѣчіи составленныхъ.

*[5] *Ad marginem*: Какими напитываются дѣти Крошинскихъ жителей изъ числа <~~*нечыт*~~.> коихъ есть и содержащійся нынѣ въ Новогрудскомъ тюремномъ замкѣ, повѣренный Крошинскихъ Крестьянъ Каминскій, обучавшійся также въ оной школкѣ, не имѣющій отъ роду какъ только съ небольшимъ 20. лѣтъ[2], ~~есть воспитанникъ Его школки~~ но самый закоснѣлой ослушникъ.

*[6] *Ad marginem*: бывшаго при мнѣ чиновника для особыхъ порученій Нечволодова и прочихъ.

*[7] *Ad marginem*: ~~изъ числа коихъ, содержащійся нынѣ въ Новогрудскомъ тюремномъ замкѣ, повѣренный Крошинскихъ Крестьянъ Каминскій не имѣющій отъ роду какъ только съ небольшимъ 20. лѣтъ, есть воспитанникъ Его школки самый закоснѣлой ослушникъ~~.

*[8] *Ad marginem*: Князь Радзивилъ, не променетъ жаловаться на него Епископу.

*[9] *Ad marginem*: и Президентъ Гродскаго суда[3] составлявшій судъ съ военными ~~человѣками~~ чиновниками о девяти человѣкахъ.

*[10] *Ad marginem*: до такой степени ~~были тронуты что готовы были~~ были поколеблены, что начали раскаиваться и готовы были <~~*нечыт*~~.> къ послушанію.

*[11] *Ad marginem*: прежняго вида разкаянія.

*[12] *Ad marginem*: До какой Степени все выше означенное можетъ имѣть основаніе я по краткости пребыванія моего въ Крошинѣ не имѣлъ способу удостовѣрится.

*[13] *Ad marginem*: имѣющій далеко.

*[14] *Ad marginem*: также подъ предлогомъ болѣзни.

*[15] *Ad marginem*: безъ малѣйшей огласки узнавать.

*[16] *Ad marginem*: не зависимо отъ мѣръ принятыхъ къ приведенію въ послушаніе Крошинскихъ жителей.

*[17] *Ad marginem*: законнымъ порядкомъ.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 88. Іюня 3. дня 1828. Года.

## 30. Пераклад на расейскую мову фрагмента паэмы Яна Баршчэўскага

Доўгі час лічылася, што верш, які ведаў на памяць П. Багрым, захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным архіве ў двух экземплярах-варыянтах: "Адзін напісаны лацінскімі літарамі, другі – рускімі. Абодва гэтыя экземпляры з'яўляюцца копіяй таго тэксту, які быў напісаны П. Багрымам для Нервалодава"[4]. Аднак гэта не так. У Гродзенскай губернскай управе з арыгіналу *Rozmowy Chłopow* зрабілі некалькі, відаць, копій, а таксама пераклалі верш на расейскую мову. Арыгінал твора і копія перакладу былі дасланы ў Варшаву цэсарэвічу Канстанціну. Не выключаем, што копіі

---

[1] Компаментъ (з фр. *campement*, праз польск. *kampament*) – вайсковы лагер, месца пастаяннае дыслакацыі.

[2] К. Камінскі меў на той час 34 гады.

[3] Старшынёю Наваградскага гродскага суда быў Хрызастом Булгак.

[4] І. Бас, *Невядомы варыянт верша Яна Баршчэўскага* [у:] *Дзень паэзіі – 69: Альманах*, Мінск 1969, с. 132.

верша (па-беларуску і па-расейску) маглі быць дасланы ў Вільню вайсковаму генерал-губернатару і ў Пецярбург міністру унутраных справў. Арыгінал (?) перакладу і копія перапісанага П. Багрымам верша засталіся ў справе.
Упершыню пераклад верша Я. Баршчэўскага на расейскую мову апублікаваны ў чацвёртым томе *Даследаванняў і матэрыялаў* (Warszawa 2018, с. 71–73).

|**40 r**| Переводъ съ польскихъ Стиховъ ~~на нарѣчіи литовскихъ простолюдиновъ писанныхъ~~ простымъ нарѣчіемъ писанныхъ.

### ***Разговоръ Крестьянъ.***

Вотъ Вы мои братія
Хотя не одной матери;
Скажу я Вамъ одну вещъ;
а кто не повѣритъ, по~~шелъ~~ди прочъ;
“Когда то французская сила,
Изъ за Немна наступила,
Стало и намъ картить,
Какъ бы то польщу зворотить;
А мы сидѣли тихо
Покуда принесло лихо,
Они у нашъ Дворъ
Нутка и мы дѣлить здоръ*[1];
А такъ мяса наварили
Чтобъ мы ихъ уговорили:
Амбары во Дворахъ поразбивать
Господъ въ лѣсъ по разгонять.
Первой Крестьянинъ сѣлъ за столъ
и смотритъ въ уголъ какъ Соколъ;
А какъ ноги разопретъ –
то хоть шестирніою поезжай,
А какъ началъ говорить
И вещъ распространить,
Они роты порастворяли
и уши по наставляли
|**40 v**| Ребята! худо намъ жить,
Бросимъ пригонъ служить,
Сдѣлаемъ вольность и уречъ
Насъ урядникъ не будетъ сѣчъ!
Развѣ мы люди не такіе,
Что намъ угрозы всякі́я,
идешъ во Дворъ и боишся
покуда къ Господину приступи́шся;
Да еще на томъ не конецъ,
Положи на столъ десять яецъ,
И такъ еще страхъ беретъ,
Что мой Господчикъ запоетъ;

Э! уже съ этого не лады
Худые наши разгады,
Помните Вы ребята
Тѣ вѣки какъ живали Поляки;
Что то за Господа бывали,
Насъ у рекруты не брали!
А ума у нихъ ли мала?
Хоть чуприна сверху мала,
Хоть воло́съ на лбу нѣтъ
да ужъ усы на ввесь Свѣтъ!
А какъ хорошо ходили
Платье какъ жаръ носили,
Два рукава красные
а два съ зади запасные;
|**41 r**| а заднія полы у тыхъ Пановъ
теперешніе шьютъ по сѣмеро штановъ,
а эти и сами сголѣли
и насъ съ душами поели!
Вотъ ~~Братцы~~ [видите], Вы дѣти,
Какіе теперь Господа на Свѣти,
Надобно намъ за колы братся,
Старой Польщи добираться".
Какъ этакъ Крестьянинъ сказалъ,
Всѣмъ охоты додалъ,
Первой Данила
У коего большая сила
Сказалъ: хоть мне побьютъ штаны
Да уже не будутъ Паны!
А такъ пили и гуляли
Вмѣстѣ Господъ разбивали
Олово и серебро, бралъ какъ кто могъ
Чтобъ облить дуду и рогъ,
Платья брали на вѣровки,
Чтобъ пошить женамъ шнуровки;
А такъ скоро завернули
Дворы въ пустки обернули. –

*[1] *Ad marginet*: Сало, солонина.

*Арыгінал* (?).

своему Помѣщику и|прочимъ Законнымъ властямъ; на щетъ [же] неисполненія по|нынѣ означенной |**188 r**| Высочайшей конфирмаціи, Гродненское Губернское Правленіе вмѣстѣ съ симъ дѣлаетъ вашему Высокопревосходительству особое представленіе.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 1564. 8 Февраля 1829 г.".

## 99. Грыгорый Розан да Міхайлы Бабяцінскага

Дадзены дакумент дазваляе меркаваць, што да 12 лютага экзэкуцыя над 28 крашынскімі сялянамі яшчэ не адбылася. У той жа час з паказанняў К. Камінскага ў маі 1829 г. бачна, што яго, аддадзенага 14 студзеня 1829 г. у рэкруты, пакаралі ў Гродне 11 лютага.

|**189 r**| Командира Литовскаго Отдѣльнаго Корпуса. № 777. 12[го] Февраля 1829[го] [г.]. Г. Бѣлостокъ.

Гродненскому Граждаскому Губернатору Господину Дѣйствительному Статскому Совѣтнику и Кавалеру Бобятинскому.

По рапорту ко мнѣ Начальника 24[й] пѣхотной Дивизіи Г[осподина] Генералъ Лейтенанта Савоини, въ слѣдствіе отзыва къ нему Гродненскаго Губернскаго Правленія отъ 1[го] Февраля за № 3429[мъ], о|томъ что наказаніе шпицрутенами 28[ми] человѣкъ Крошинскихъ крестьянъ, опредѣленное Высочайше утвержденнымъ положеніемъ Комитета Г[осподъ] Министровъ, должно быть приведено въ исполненіе на|мѣстѣ преступленія, я испрашиваю разрѣшенія Его Императорскаго Высочества Цесаревича, слѣдуетъ ли таковую Конфирмацію позволить выполнить находящеюся въ М. Крошинѣ 9[ю] Мушкатерскою ротою Литовскаго пѣхотнаго Полка. О чемъ извѣщая Ваше Превосходительство на|отношеніе за № 1525[мъ], покорнѣйше прошу |**189 v**| предварительно увѣдомить меня: есть ли таковое наказаніе позволено будетъ произвѣсть означенною ротою, то можно ли будетъ послѣ онаго возвратить сію роту къ своему мѣсту, или должна оная еще находиться тамъ, для какой имянно надобнасти и какъ долго?

Генералъ Адъютантъ [*подпіс*:] Баронъ Розенъ.

*Арыгінал. У гары першае старонкі пазнака*: 13. Февраля 1829. [г.].

## 100. Міхайла Бабяцінскі да Грыгорыя Розана

Гродзенскі губернатар запэўнівае камандзіра Літоўскага асобнага корпуса, што пасля выканання прысуду 9[я] мушкецёрская рота пакіне Крашын.

|**190 r**| Генералу Розену.

На|предписаніе Вашего Высокопре[восходительст]ва отъ 12[о] сего Февраля № 777. спѣшу покорнѣйше донесть: что послѣ приведенія въ|исполненіе Высочайше утвержденной о|Крошинскихъ Крестьянахъ Конфирмаціи наказаніемъ изъ нихъ 28[и] человѣкъ шпицрутинами, не|будетъ кажется предстоять надобности удерживать долѣе въ Крошинѣ 9[ю] Мушкатерскую Роту Литовскаго Пѣхотнаго Полка. Въ прочемъ если|бы по|выходѣ сей роты со|стороны |**190 v**| Крестьянъ означенного имѣнія содѣланы были новыя непослушанія, то для

усмиренія ихъ можно истребовать Команду отъ Квартирующаго тамъ Волынскаго Уланскаго Полка.

*Чарнавік*. *У гары першае старонкі пазнака*: “№ 1652. 14 Февраля 1829 [г.]”.

### 101. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Гродзенскі губернатар рапартуе цэсарэвічу пра селяніна, якога, відавочна, разам з К. Камінскім здалі ў рэкруты, але ён аказаўся няздатным да службы, дык быў вернуты дзеля пакарання ў Крашыне.

|**191 г**| Его Высочеству.

Рапортъ.

Вашему Императорскому Высочеству имѣю счастіе нижайше поднесть у сего засвидѣтельствованный Списокъ Постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 6º сего Февраля состоявшагося.

|**191 v**| О|Крестьянинѣ имѣнія Крошина Семене Григорович[ѣ] ~~объ одномъ числа крестьянинѣ~~ оказавшемуся неспособн[ымъ] ~~мѣстечка Крошина~~ въ военную службу ~~судимыхъ за неповиновение~~ и обращенномъ на мѣсто ~~дворовому Начальству и~~ для наказанія шпицрутинами, ~~установленой власти~~ по особой ~~Семенѣ Григоровичѣ~~ высочайшей утвержденной Конфирмаціи.

*Чарнавік*. *У гары першае старонкі пазнака*: № 1907. 19 Февраля 1829 [г.].

### 102. Міхайла Бабяцінскі да Юзафа Верашчакі

Гродзенскі губернатар дасылае павятоваму маршалку пастанову губернскае ўправы пра вайсковую каманду. Відавочна, гаворка ідзе пра ўсё тую самую 9ю роту Літоўскага пяхотнага палка. Самое пастановы ў справе няма.

|**192 г**| Новогрудскому Маршалу.

Къ надлежащему Вашего Высокородія исполненію препровождаю у сего засвидѣтельствованный Списокъ Постановленія Гродненскаго Губернскаго Правленія 9. Марта состаявшагося на|шчетъ военной команды отряженной въ М. Крошинъ для усмиренія неповьвшихся тамошнихъ крестьянъ.

*Чарнавік*. *У гары першае старонкі пазнака*: № 2637. 15 Марта 1829 [г.].

### 103. Міхайла Бабяцінскі да цэсарэвіча Канстанціна

Вельмі верагодна, што пастанова губернскае ўправы ад 20 сакавіка 1829 г. датычыла справаздачы з экзэкуцыі над 28 крашынскімі сялянамі ў сакавіку 1829 г.

|**193 г**| Его Высочеству.

Рапортъ.

~~О подверженіи возмутившихся Крестьянъ противу двороваго Начальства, наказаніямъ соотвѣтственно степени всякого изъ нихъ преступленія, по силѣ Высочайше Конфирмованнаго въ 17. день Ноября прошлаго 1828 Года положенія Комитета Г[осподъ] Министровъ~~.

О дѣйствительномъ приведеніи въ исполнеіне высочайше конфирмаванного положенія Комитета Г[осподъ] Министровъ о|наказаніи Крошинскихъ Крестьянъ За ослушаніе своему владѣльцу и|прочимъ Законнымъ властямъ. Въ какомъ содержаніи |**193 v**| состоялось 20. ~~настоящаго~~ Марта въ Гродненскомъ Губернскомъ Правленія постановленіе, съ|онаго ~~имѣю шастіе~~ всенижайше

подн~~есено~~ошу у сего Вашему Императорскому Высочеству Засвидѣтельствованный Списокъ.

*Чарнавік. У гары першае старонкі пазнака*: № 3036. 29 Марта 1829 [г.].

## 104. Цэсарэвіч Канстанцін да Міхайлы Бабяцінскага

Дадзены дакумент – гэта незацверджаная копія загаду цэсарэвіча Канстанціна, якую пісарчук губернскае ўправы няправільна датаваў (трэба: 10$^{го}$ Іюня 1828$^{го}$ года), у выніку яна апынулася на неналежным месцы ў справе.
Загад цэсарэвіча паўстаў на падставе рапарту М. Бабяцінскага ад 3 чэрвеня 1828 г. (гл. дакумент 29). Падобны загад цэсарэвіча атрымаў і М. Навасільцаў, які даслаў яго рэктару В. Пелікану, каторы ў сваю чаргу пераслаў арыгінал дырэктару вучылішчаў Гродзенскае губерні І. Брадоўскаму.

|**194 r**| Списокъ повелѣнія Его Императорскаго Высочества Гродненскому Гражданскому Губернатору отъ 10$^{\underline{го}}$ Іюня 1829$^{\underline{го}}$ года за № 1698$^{\underline{мъ}}$.

Разсмотрѣвъ Рапортъ Вашего Превосходительства отъ 3$^{\underline{го}}$ сего Іюня подъ № 88$^{\underline{мъ}}$ о|неповиновеніи Крошинскихъ крестьянъ владѣльцу ихъ Юрагѣ и|находя что въ семъ дѣлѣ обращаетъ на себя сильное подозрѣніе тамошій плебанъ ксендзъ Магнушевскій уклонявшійся отъ дѣятельного пособія во|внушеніи крестьянамъ таковаго неправильнаго поступка и|что заведено имъ въ|Крошинѣ училище въ которомъ крестьянскіе дѣти разсказываютъ возмутительные стихи, а при|то$^{мъ}$ помѣщики Юрага и князь Константинъ Радзивилъ упрекаютъ означеннаго ксендза Магнушевскаго въ Связяхъ съ крошинскими крестьянами и|въ дачѣ повода къ|возмущенію заведеніемъ зловреднаго училища, я по|таковымъ обстоятельствамъ |**194 v**| признаю нужнымъ обнаружить противозаконныя дѣйствія ксендза Магнушевскаго и|въ слѣдствіе того предписываю вамъ взявь Его подъ арестъ и забравь у него вс[ѣ] бумаги, произвесть надъ нимъ при депутатѣ съ|духовной стороны строжайшее изслѣдованіе, а|затѣмъ по|окончаніи онаго слѣдственное дѣло и Самаго Магнушевскаго съ|забранными у|него бумагами отправить подъ стражею для|преданія подлежащему Суду къ Литовскому военному Губернатору, которому вмѣстѣ съ симъ дано мною о|томъ предложеніе что|же касается Военнаго Суда производимаго надъ Крошинскими крестьянами виновными въ|возмущеніи, то какъ приговоры онаго на основаніи Высочайше утвержденнаго 22$^{\underline{го}}$ Июня 1826$^{\underline{го}}$ года положенія Комитета Г[осподъ] Министровъ должны быть представляемы Министру внутреннихъ дѣлъ |**195 r**| для внесенія въ помянутый Комитетъ въ такомъ только случаѣ, когда присуждается болѣе 9$^{\underline{ти}}$ человѣкъ къ тѣлесному наказанію, а|потому и слѣдуетъ Вашему Превосходительству въ|семъ послѣднемъ случаѣ приговоры военнаго Суда надъ крошинскими крестьянами представить Министру Внутреннихъ дѣлъ установленнымъ на|то порядкомъ; наконецъ отнесся въ мѣстѣ съ симъ къ Попечителю Виленскаго Учебнаго Округа Дѣйствительному Тайному Совѣтнику Сенатору Новосильцову о|разсмотреніи учрежденія ксендзомъ Магнушевскимъ Крошинской Школы и|преподаваемаго въ|оной крестьянскимъ дѣтямъ вреднаго ученія, препроводя къ|нему въ|копіяхъ рапортъ вашъ и|приложенные къ|оному Стихи для|зависящаго со стороны Его по сему предмѣту распоряженія.

*Копія.*

## Беларуская мова ў расейскамоўным творы

*Гецыки*, апублікаваныя ў восьмым нумары часопіса "Москвитянинъ" за 1843 г., былі першым у расейскім пісьменстве літаратурным тэкстам з беларускамоўнымі ўстаўкамі. Ухвалены Міхаілам Пагодзіным да друку твор Пятра Кушына сучаснікі ацэньвалі ці то цалкам станоўча, ці то рэзка адмоўна. Літаральна праз некалькі месяцаў пасля публікацыі *Гецыковъ* супрацоўнік пецярбургскага "Журнала Министерства народнаго просвѣщенія" Пётр Білярскі (1819–1867), выпускнік Маскоўскай духоўнай акадэміі і вучань М. Пагодзіна, захоплена напісаў у рэцэнзіі пра новую з'яву ў расейскай пісьменнасці: "Обращаемъ вниманіе Читателей на рѣдкое въ своемъ родѣ явленіе – *Гецыки* (Москв. № 8) Г. Петра Кушина: оно любопытно во многихъ отношеніяхъ. Во первыхъ, тогда какъ Малороссійскій языкъ такъ часто и такъ слѣпо вступаетъ въ Русскую Литературу, языкъ Бѣлорусскій остается въ какомъ-то забвеніи, не смотря на то, что онъ въ своихъ особенностяхъ замѣчателенъ не меньше своего собрата. Г. Кушинъ, природный Бѣлоруссъ, знакомитъ насъ съ нарѣчіемъ Бѣлорусскимъ. Во вторых, нѣтъ надобности говорить о нуждѣ и потребности изученія нравовъ, умственнаго и нравственнаго образованія и зависящей отъ того степени благосостоянія жителей того края: въ этомъ отношеніи статья Г. Кушина столько удовлетворительна, сколько можетъ быть такою статья литературная. Со стороны литературной этимъ очеркамъ не льзя отказать въ художественности. Нѣкоторые анекдоты, разсказываемые Авторомъ о своихъ землякахъ, уже не новость, и народное остороуміе Великороссіянъ не приписываетъ ихъ именно Бѣлоруссамъ; но, представляя себѣ характеры, такъ живо нарисованные Г. Кушинымъ, чувствуешь, что эти анекдоты здѣсь всего болѣе на своемъ мѣстѣ. Трогательный разсказъ Хомки Ахрѣмника, въ конце статьи, показываетъ, что нравы и языкъ Бѣлоруссовъ могутъ доставлять матеріалъ не для однихъ комическихъ сценъ"[1].

Для рэцэнзента, святарскага сына, народжанага сярод казанскіх татараў і чувашоў, што вывучаў славянскую філалогію, адкрыццём стала знаёмства з яшчэ адною моваю, пра якую амаль не было звестак у расейскай навуковай ды мастацкай літаратуры, хоць Павел Шафарык апісаў яе як адну з чатырнаццаці самастойных славянскіх. Вядома, ён не мог, як зрэшты і М. Пагодзін, заўважыць у *Гецыкахъ* пагардлівае стаўленне аўтара да селяніна і народа ў цэлым, бо тагачасная расейская літаратура яшчэ не ведала іншага мужыка, апрача як п'янага, цёмнага і дзікага. Расейскія аўтары

[1] П. Билорскій, *Обозрѣніе русскихъ газетъ и журналовъ за третье трехмѣсячіе 1843 года*: *X. Изящная словесность*, "Журналъ Министерства народнаго просвѣщенія" 1843, № 12, отд. VI, с. 286.

яшчэ не сказалі свайго слова спачування “бесправному и невежественному крестьянину”: толькі ў 1847 г. з’явіцца аповесць Дзмітрыя Грыгаровіча (1822–1899) *Антон-Горемыка*, якую высока ацэніць Вісарыён Бялінскі: “По прочтении этой трогательной повести в голове читателя поневоле теснятся мысли грустные и важные”. Не цяжка здагадацца, што крытык мае на ўвазе думкі пра прычыны бяспраўнага становішча мужыка[1]. Аднак такіх людзей, як В. Бялінскі, у расейскім грамадстве было вельмі мала. П. Кушын не належаў да іх ліку; ён не ставіў перад сабою задачу адказаць на пытанне, чаму селянін жыве “так” і чаму гэты селянін “такі”. П. Кушын усяго толькі злосліва выявіў сваю горыч з-за непрынятых да друку “знойдзеных” ім “скороувядаемыхъ цвѣтовъ въ дикихъ пустыняхъ поэзіи”.

Зусім з іншага пункту гледжання ацэньваў *Гецыки* Рамуальд Падбярэскі (1812–1856)[2]. Анекдоты (“кінутыя на вецер жарцікі”) П. Кушына ён успрыняў як спробу зняславіць беларускіх жыхароў і беларускі край. Той край, які ўсё яшчэ чужы Расеі; той край, які Расея бязлітасна эксплуатуе ды прыніжае, не дае ўраджэнцу гэтага краю быць у ім гаспадаром. Р. Падбярэскі заступаецца за беларусаў-“гецыкаў” яшчэ і таму, што ён сам належыць да ліцвінаў, значная частка якіх таксама замест расійскага “это” ці польскага “oto” ўжывае слова “гэта”. Такое іранічнае найменне народа, лічыць ён, сведчыць толькі пра кепскі “густ і досціп аўтара”.

Р. Падбярэскі, вярнуўшыся з чатырохмесячнае вандроўкі па Беларусі, пазнаёміўся з тэкстам П. Кушына і вырашыў з дапамогаю сабранага матэрыялу “абвергнуць хлуслівую думку, якою бездапаможныя радкі цэлы край спрабавалі зняважыць перад чужымі”.

Публіцыст акцэнтуе ўвагу на гістарычнай абумоўленасці тых прычын, якія прывялі да такога бядотнага становішча ў краі, а таксама імкнецца заўважыць і выпукліць усё тое, што сведчыць пра інтэлектуальны і эканамічны рух у наддзвінскіх правінцыях, каб аргументавана запярэчыць бяздумна кінутым П. Кушыным “фактам”, якія ў эпоху рэалістычнай тыпізацыі маглі прынесці вялікую шкоду краю і яго жыхарам. Знамянальна, аднак, тое, што Р. Падбярэскі ці не ўпершыню ў расейскай публіцыстыцы адважна абараняе самага пакрыўджанага ў тагачасным грамадстве чалавека. Менавіта яго, беларускага селяніна, а не прадстаўніка вышэйшага класа, як магло гэта падацца ў адпаведнасці з прынятымі нормамі: “Я і не думаю ламаць тут коп’і за напаўдзікіх панкоў, што ў адсталых паветах распаўсюджваюць у гнюснай адміністрацыі сярэднявечнае васальства, абсалютнае злоўжыванне правам валодання, ні таксама за асобных шамбелянаў і маршалкаў, якія прагульваюць жончыныя маёнткі; не маю прадузятасці і ў лепшы бок, – але чаму пан Кушын, спакусіўшыся намаляваць карціну беларускага жыцця, чапляецца да беднага селяніна і злою насмешкаю сцёбае невіноўную ў сваёй

[1] Цікава тое, што М. Пагодзін, які салідарызаваўся з славянафіламі, не заўважыў у тэксце П. Кушына нічога абразлівага ў дачыненні да беларускага народа. А вось самі славянафілы крытыкавалі прыніжэнне рускага народа ў творах Д. Грыгаровіча.

[2] У трох нумарах газеты “Пецярбургскі штотыднёвік”, хоць у першых двух *Гецыки* не згадваюцца. Гл.: R. Podbereski, *Listy o Białejrusi*, “Tygodnik Petersburski” 1844, nr 79, 81–82.

знявазе істоту; лезе ў ягоную бедную хатку, высмейвае ягоныя недахопы і простыя звычаі, дамешваючы паўсюль ганебную адукаванаму сэрцу іронію?”[1].

Высновы Р. Падбярэскага, хоць нібыта і пададзеныя ў форме рытарычных пытанняў, па сутнасці катэгарычныя ў непрыняцці падобнае пісаніны: “Таму, вяртаючыся да пана Кушына, які намагаецца зняславіць беларускага земляроба, я пытаюся: ці ж не паклёпам на край з’яўляецца ягонае апісанне? Ці дакладна адлюстроўвае яно дух жыхароў сёння? Распаўсюджванне неаб’ектыўных поглядаў, ці ж гэта не ўплыў на грамадскую думку? Справа набывае супярэчлівы характар, а значыць становіцца больш шкоднаю, калі рэдактар часопіса сваімі прыпіскамі пацвярджае кінутыя на вецер жарцікі. А так зрабіў вучоны-прафесар, знаёмячы публіку з першаю празаічнаю працаю свайго выхаванца, якога, як ён тлумачыць, павярнуў ад рыфмаплёцтва да апісанняў мясцовасці. (Бадай бы лепш пісаў кепскія вершы.) Рэдактар лічыць, што ўдзячны выхаванец прынёс дакладнае апісанне, «як жыве кожны беларускі грамадзянін». Не спыняючыся на гэтым, вучоны-рэдактар мяркуе, што за тое дакладнае апісанне і выхапленыя недарэчныя фразы з карчмарскага жаргону яму будуць удзячныя сапраўдныя вучоныя: Сразнеўскі, Прэйс, Бадзянскі і нават сам вялікі Шафарык, сонца славянскае вучонасці! Вось, уласна, кропка адліку, адкуль, аналізуючы гэтую рэч, заўважаецца шкоднасць падобнае пісаніны. Таму нярварта рэдактару так манкіраваць грамадскаю думкаю, а нікчэмнасці-пісаку надаваць вартасць літаратара”[2].

Пецярбургскі выдавец смела выступіў супраць маскоўскага часопіса і ягонага рэдактара, бо абапіраўся на падтрымку братоў Кірэеўскіх і славянафілаў, для якіх падобнае адлюстраванне жыцця народа было непрымальным. Апрача таго, Р. Падбярэскі, відаць, балюча ўспрыняў той факт, што беларуская тэма, якая стала, як ён піша, накірункам ягоных думак, і якой ён прысвяціў ужо некалькі сваіх публікацый, выразна знеслаўляецца папулярным “Москвитяниномъ”. Не мог ён не заўважыць, што апублікаваны ім у “Roczniku Literackim” беларускамоўны тэкст (*Гарэліца*) здзекліва называецца “нацыянальнай песенькай”. Магчыма, з гэтай прычыны Р. Падбярэскі ў нарысе *Беларусь і Ян Баршчэўскі* не адважыўся назваць *Гарэліцу* творам Яна Баршчэўскага. Абараняючы беларускага селяніна, ён адначасна абараняў і нешматлікіх у той час прыхільнікаў беларушчыны, і самога сябе.

На нашую думку, П. Кушын, паходзячы з Невельскага ці Гарадоцкага павета, не мог не ведаць Яна Баршчэўскага, які з сярэдзіны (?) 1830-х гг. летнія месяцы праводзіў на Беларусі, вандруючы ад фальварка да фальварка ды збіраючы падпіску на альманах “Niezabudka”. Больш за тое, ён мог ведаць і пра аўтарства папулярных сярод люду тэкстаў. Прыгадайма Юльяна Барташэвіча: “Яго паэтычныя творы разыходзіліся ўсюды па руках. Ведалі іх дзеці, а нянькі напявалі над калыскамі думкі Баршчэўскага, калі гэтак можам назваць тыя творы арыгінальнае музы, складзеныя не зусім

[1] R. Podbereski, *Listy o Białejrusi: List III*, “Tygodnik Petersburski” 1844, nr 82 (20 paźd./1 list.).
[2] *Ibidem*.

умела і без прэтэнзій"[1]. Невыпадкова, відаць, у *Гецыкахъ* намаляваны вобраз краснабая Юды – селяніна, які складае вершы і які высмейваецца, хіба, найбольш за іншых.

Вядома, нашае меркаванне – гіпатэтычнае, аніякіх аргументаў, каб пацвердзіць яго мы не маем. Але грунтуецца яно на тым, што вышэйшы клас павятовага грамадства ў той час выдатна ведаў адзін аднаго, а таксама тых, хто з'яўляўся ў павеце нават на кароткі час.

Пра тое, што Р. Падбярэскі надаваў вялікае значэнне крытыцы *Гецыковъ* П. Кушына, сведчыць публікацыя *Listów o Białejrusi* на расейскай мове (пад тытулам *Очерки о Бѣлоруссіи*) у "Журналѣ Министерства внутреннихъ дѣлъ" (1845, ч. 9). На жаль, мы не мелі магчымасці пазнаёміцца з дадзеным выданнем, а таму не ведаем, ці друкаваўся па-расейску цалкам *List III*. Загадкаю застаецца і тое, чаму імя П. Кушына больш не з'явілася ў расейскім друку. Ці не паспрыяла гэтаму крытыка Р. Падбярэскага?

Зноў цікавасць да *Гецыковъ* П. Кушына ўзнікла напрыканцы XIX – пачатку XX ст. Перш-наперш Аляксандар Пыпін, канстатуючы, што ў 1830–1840-я гг. расейскія даследаванні Беларусі былі "все еще скудны", вылучае, аднак, некалькі "работъ собственно этнографическихъ" спачатку ў часопісе "Маякъ" (*Слова два о языкѣ и грамотности Бѣлой Руси* Іосіфа Цытовіча і *Памятники бѣлорусской письменности* Льва Кавеліна), а пасля ўжо *Гецыки* ў "Москвитянинѣ", хоць тэкст П. Кушына з'явіўся ў друку першым. А. Пыпін дае такую вось "характарыстыку" *Гецыкамъ*: "разсказъ изъ бѣлорусской жизни съ нѣсколькими пѣснями, плясовыми и свадебными"[2]. Пазней Яўхім Карскі, больш дэталёва аналізуючы публікацыі на беларускую тэматыку першае паловы XIX стагоддзя, зноў жа вылучае *Гецыки* сярод "довольно цѣнныхъ произведеній, содержащихъ въ себѣ народныя пѣсни, разсказы, розговоры". І менавіта "разсказу П. Кушина" належыць "первое мѣсто": "«Гецыками» прозываютъ бѣлоруссовъ сѣверной части Витебской губерніи, откуда взято содержаніе для разсказа, сосѣди великоруссы за произношеніе «это» какъ «гето» и *ч* какъ *ц*. <…> въ разсказѣ, дающемъ нѣсколько очень вѣрныхъ картинъ изъ бѣлорусскаго быта временъ крѣпостничества, написанныхъ къ тому же занимательно, приведено нѣсколько точно даже съ удареніями записанныхъ бѣлорусскихъ пѣсенъ <…>, выраженій и подчасъ довольно длинныхъ разговоровъ"[3]. Прыкладна тое самае Я. Карскі паўторыць і ў 1922 г., калі будзе аналізаваць беларускую пісьменнасць XIX ст: П. Кушына ён тут назаве папярэднікам Аляксандра Пшчолкі і будзе абараняць апошняга ад Лявона Гмырака, які бачыў у тэкстах "писателя народническаго типа" пагардлівае стаўленне да мовы і звычаяў беларусаў[4].

---

[1] J. B., *Jan Barszczewski*, „Czas" 1851, nr 101 (2 maja).

[2] А. Пыпинъ, *Исторія русской этнографіи*, т. IV: *Бѣлоруссія и Сибирь*, С.-Петербургъ 1892, с. 72.

[3] Е. Карскій, *Бѣлоруссы*, т. I: *Введеніе въ изученіе языка и народной словесности*, съ приложеніемъ двухъ картъ, Варшава 1903, с. 212–213.

[4] Е. Карскій, *Бѣлоруссы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 143–145.

Звесткі Я. Карскага пра *Гецыковъ* П. Кушына выкарыстаў Максім Гарэцкі ў раздзеле *Беларуска-маскоўская школа пісьменнікаў* (у трэцім, маскоўска-ленінградскім выданні – *Расійска-беларуская літаратура*) свае *Гісторыі беларускае літэратуры*[1]. Сам ён, відавочна, часопіса "Москвитянинъ" не бачыў, а таму адно слова ў слова паўтарыў (без спасылкі) тое, што было ў Я. Карскага.

Беларускія савецкія літаратуразнаўцы звярнуліся да *Гецыковъ* у сярэдзіне 1950-х гг. Сцяпан Майхровіч, назваўшы П. Кушына "беларускім літаратарам <…>, які, дарэчы, не вызначаўся перадавымі поглядамі", а *Гецыки* гісторыка-этаграфічным нарысам, толькі паведаміў, што "ў нарысе даецца апісанне звычаяў і абрадаў беларускага народа, прыводзяцца шматлікія народныя песні, паданні і г. д."[2] ды працытаваў рэдакцыйную заўвагу М. Пагодзіна. А вось Васіль Барысенка даў прынцыповую "марксісцка-ленінскую" характарыстыку творчасці "панска-шляхецкага", "кансерватыўнага пісьменніка Кушына": "Ужо нават у самой назве твора адчуваецца пагардлівае стаўленне Кушына да сваіх герояў. Панска-пратэктарскія адносіны да беларускага народа спалучаюцца ў *Гецыках* з скажоным паказам прыгонніцкай рэчаіснасці, з прыніжэннем беларускага сялянства. Кушын малюе беларускіх сялян разумова адсталымі, духоўна абмежаванымі людзьмі, заўзятымі гультаямі і п'яніцамі. Такімі выступаюць у яго галоўны герой апавядання мужык Янка і ўсе іншыя сяляне. Па тэндэнцыйнаму ўяўленню Кушына, сяляне праводзяць вельмі багата свайго часу на кірмашах і розных гульбішчах. <…> Галечу, цемру беларускай прыгоннай вёскі пісьменнік спрабуе вытлумачыць нядбайнасцю, гультайствам і п'янствам мужыка. <…> Нарысаваныя Кушыным карціны беларускай прыгоннай вёскі і вобразы сялян супярэчаць гістарычнай праўдзе. У іх скажона паказана жыццё беларускага народа"[3].

Такое стаўленне тагачаснага (да 1974 г.) дырэктара Інстытута літаратуры да творчасці пісьменніка 1840-х гг. прадвызначыла амаль поўнае выключэнне *Гецыковъ* з літаратуразнаўчага дыскурсу[4]. Нашая згадка пра апавяданне П. Кушына на пачатку 1990-х гг. тлумачыцца адно працаю над перакладам *Listów o Białejrusi* Р. Падбярэскага ды наяўнасцю ксеракопіі твора з фондаў Львівської національної наукової бібліотеки України імені В. Стефаника[5]. Нашае тагачаснае негатыўнае стаўленне да ідэйна-мастац-

---

[1] М. Гарэцкі, *Гісторыя беларускае літэратуры*, Вільня 1920, с. 75.

[2] С. Майхровіч, *Нарысы беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, выд. другое, папраўленае, Мінск 1959, с. 10–11.

[3] В. Барысенка, *Францішак Багушэвіч і праблема рэалізма ў беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, Мінск 1957, с. 106.

[4] Мы ведаем літаральна некалькі згадак пра П. Кушына ў навуковых працах. Напрыклад: "Ён [Р. Падбярэскі. – *М. Х.*] абураўся рэакцыйнай выхадкай "Москвитянина", які апублікаваў шавіністычна-паклёпніцкі опус П. Кушына *Гецыкі*, дзе зневажаўся беларускі селянін, кідаўся цень на яго быт, высмейваліся звычаі, народная песня". Гл.: Г. Каханоўскі, Л. Малаш, К. Цвірка, *Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму*, Мінск 1989, с. 70.

[5] Гл.: М. Хаўстовіч, "*І хоць родам я літвін...*" [у:] *Шляхам гадоў: Гісторыка-літаратурны*

кага зместу *Гецыковъ* грунтавалася хутчэй на эмацыйным успрыняцці тэксту, на прачытанні аўтарскае пагарды да свайго народа і ягонае мовы, на заўважаным тут адрачэнні ад беларускасці і закліку да іншых адракацца ад яе. Аднак сёння, не адмаўляючыся ад ранейшага трактавання ідэйнага зместу апавядання П. Кушына, мы разумеем важнасць ягонае прысутнасці ў літаратуразнаўстве. *Гецыки* фактычна распачалі эпоху шырокага ўжывання беларускае мовы ў мастацкіх творах: хутка з'явілася *Sielanka* Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча і *Szlachcic Zawalnia, czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach* Я. Баршчэўскага.

У 2014 г. часопіс "Полымя" надрукаваў апавяданне *Гецыки* ў перакладзе на беларускую мову. Праўда, перакладчык Аляксандар Вашчанка, неабазнаны ў рэаліях XIX стагоддзя, не заўсёды дакладна перадае сэнс арыгінала. Напрыклад, шамбелян (ганаровы тытул) Казімір Бернардовіч становіцца ў яго Казімірам Берна́рдавічам Шамбялянам, "сендзи, подсендки, коморіе, подкоморжіе" ператвараюцца ў "ксяндзоў, падксяндзоў, каморнікаў, падкаморнікаў", "маршалкъ" (предводитель дварянства) – у вышэйшую службовую асобу ў ВКЛ, "хлѣбные магазины" – у хлебныя крамы і г. д. Што ж, гэта не першы раз: спроба апублікаваць малавядомы тэкст даўняе эпохі не ў навуковым, а ў літаратурна-мастацкім выданні рэдка калі бывае ўдалаю.

Нібыта вырашаная гэтак праблема знаёмства з тэкстам апавядання вымагае біяграфічную даведку пра аўтара. На жаль, тут абапірацца даводзіцца толькі на М. Пагодзіна і на самога літаратара. Паходзіў ён з Паўночнае Віцебшчыны, хутчэй за ўсё – з Невельскага, Себежскага ці Гарадоцкага павета. Паводле *Архива Юго-Западной России*, у 1649 г. у Невелі служыў праваслаўны поп Іван Кушын. Звесткі пра святароў Кушыных з Віцебшчыны часта сустракаюцца ў даведніках XIX стагоддзя. Напрыклад, Іосіф Кушын быў святаром Віцебскае епархіі; дыякан Пётр Іосіфавіч Кушын, які паходзіў з Віцебскае епархіі, у 1860–1880-я гг. служыў спачатку ў Спаса-Бачарынскай, а пасля ў Благавешчанскай Васільастраўской цэрквах Пецярбурга і інш. Ці быў Пётр Кушын праваслаўным святаром? Зусім магчыма. На пачатку 1840-х гг. ён едзе з Віцебска (думаецца: з Віцебскай губерні) у Вятку, вядома, не як ссыльны, а як, скажам, поп ці дыякан – выпускнік (як і герой ягонага апавядання) Магілёўскае духоўнае семінарыі. Праўда, нібыта не зусім спалучаецца са святарскім званнем ягоная прыхільнасць да вершаскладання, ягонае жаданне "выжимать изъ сердца мотивы и выставлять передъ людьми свои страданія". Зрэшты, неабавязкова гэтыя вершы былі пра "плавающую въ розовыхъ облакахъ поэзіи луну". Больш істотна тое, што аўтар ледзь не ў кожнай сцэне (анекдоце) свайго апавядання "дае слова" ці то "царковнослужителю" (дзяку), ці то "свещеннослужителю" (дыякану або семінарысту). Прычым, першыя (дзяк, панамарыха) – гэта тыя ж самыя гецыкі, якіх так не любіць і аўтар, і семінарыст. А вось да другіх

*зборнік*, уклад. Я. Янушкевіч, Мінск 1994, с. 244–248.

стаўленне і аўтара, і семінарыста зусім іншае; магчыма, таму, што яны гецыкамі ўжо перасталі быць.

Прыняўшы прапанову М. Пагодзіна "занятся лучше описаніемъ своего края, нарѣчія, образа жизни жителей", П. Кушын, відавочна, хутка выканаў заданне: *Гецыкі* датуюцца жніўнем 1843 г. і нібыта напісаныя ў Маскве, хоць, як сведчыць М. Пагодзін, былі яму ўсё ж дасланыя. Можам меркаваць, што апісаныя ў творы падзеі паходзяць з прыкладна таго самага часу – г. зн. 1830-х – пачатку 1840-х гг.

Месца дзеяння аўтар лакалізуе геаграфічна дакладна, хоць робіць гэта дастаткова завуалявана, адно апасродкавана называючы пэўную воласць Гарадоцкага павета. Праўда, месца дзеяння ў першым "анекдоце" – маёнтак на 300 душ Галалобава і вёска на 10 душ Пачывалава шамбяляна Казіміра Бернардовіча – падаюцца неакрэслена: аўтар, відавочна, не хоча, каб чытач суаднесіў героя апавядання з нейкаю канкрэтнаю асобаю з нейкае канкрэтнае мясцовасці[1]. Дастаткова таго, што аўтар сцвердзіць: "Тамъ есть очень много похожихъ на Почиваловскаго хорунжаго". Галалобава і Пачывалава – гэта мясцовасці, назвы якіх навеяны літаратурнымі творамі Мікалая Гогаля (Маниловка-Заманиловка, Вшивая Спесь, Задирайлово, Трухмачевка, Гурмайловка).

А вось асноўнае дзеянне ў апавяданні лакалізавана ў чатырох вёсках[2] – Лянцяі (тут жыве Янка з Салохаю і Уліта з Магдаю), Галяшова (тут жыве Юда Краснабай з Мацюхом), Палуянава (тут царква і карчма) і Пакоціна (тут жыве Зося, каханая Хомкі Ахрэмінка), якія – як пазней высвятляецца – знаходзяцца ў складзе Палуянаўскай воласці[3] Гарадзецкага павета. Цікава тое, што апрача вёскі Палуянава іншых населеных пунктаў на картах,перадусім, сярэдзіны XIX ст., не існавала: яны створаны фантазіяй аўтара на падставе, магчыма, вёсак Паганяйліна, Гарэлышы і Палавіцы.

Наколькі дакладны быў П. Кушын, калі перадаваў беларускую гаворку Гарадзецкага павета? На жаль, не маем дастаткова матэрыялаў, каб адназначна адказаць на гэтае пытанне. Я. Карскі адзначае, што ў Гарадоцкім павеце часцей назіраецца замена [ц] на [ч], чым [ч] на [ц]. А вось "смѣшеніе *ц* и *ч* въ бѣлорусскомъ нарѣчіи изрѣдка встрѣчается вообще въ сѣвернобѣлорусскихъ говорахъ, но особенно распространено въ части Себежскаго уѣзда, въ Велижскомъ, Бѣльскомъ Смол. г., Духовщинскомъ, Порѣчскомъ и Ржевскомъ"[4]. Паказальна, што ён у сваім даследаванні не падае аніводнага прыкладу замены [ч] на [ц] у Гарадоцкім павеце. Аднак, думаецца, што П. Кушын, хоць і мог паходзіць з нейкага іншага, суседняга, а не Гарадоц-

[1] Уклаўшы, аднак, у вусны шамбяляна беларускую мову, аўтар прывязаў яго да паўночнаўсходняй Віцебшчыны.

[2] Згадваецца яшчэ Руднянскае сяло.

[3] У другой палове XIX стагоддзя Палуянава (Полуяновское сельское общество) уваходзіла ў склад Бескатаўскай воласці.

[4] Е. Карскій, *Бѣлоруссы*, т. I: *Введеніе въ изученіе языка и народной словесности*, съ приложеніемъ двухъ картъ, Варшава 1903, с. 498.

кага павета, даволі дакладна адлюстраваў рысы гаворкі сялян Палуянаўскае валасці[1].

Найменне “гецыки” – вельмі верагодна – сапраўды існавала і выкарыстоўвалася ў XIX стагоддзі. П. Кушын не меў тут патрэбы выдумляць. Але ці было яно шырока вядомым і распаўсюджаным? Хутчэй за ўсё – не. Нам толькі аднойчы ў літаратуры трапілася згадка на гэтую тэму. Вацлаў Ластоўскі ў нататцы *Народны падзел між беларусамі* падае “прозвішчы” беларусаў паводле “асобнасьцяў мовы” на падставе сабранага “між 1912–1914 годам, часьцю ад этнографаў (Сержпутоўскі, Романов, Ельскі, Сьнітка), часьцю ад самога народу”[2]. Цікава тое, што ён ведае два “прозвішчы” беларусаў паўночна-ўсходняе Віцебшчыны. Па-першае, “*гэцікі, гегуны, гэтукі*; так называюць беларусаў наўзьмежныя маскалі, якія замест беларускага гэты, гэта, гэткі, кажуць – етот, еты, еткі”[3]; па-другое, “*цакунамі* завуць жыхароў Вяліжскага і суседніх паветаў, якія не вымаўляюць літары «ч», а кажуць: – цаго, цалавек, цотка, цакаць”[4]. На жаль, В. Ластоўскі не называе крыніцаў інфармацыі, аднак упэўнена можна казаць, што не запазычаныя яны з працаў Я. Карскага, які “вывеў” і патлумачыў “гецыковъ” з тэксту П. Кушына (навуковец у дадзеным слове-“прозвішчы” беларусаў бачыў і “гэгатане”, і “цакатанне”).

Зварот П. Кушына да беларускае тэматыкі і беларускае мовы насіў выпадковы характар; ён фактычна быў прымушаны заняцца тым, да чаго не гарнулася ягоная душа; ён пісаў пра тое, што было яму прыкрым і ненавісным. Пагарда да народа і ягонае мовы – гэта пагарда чалавека, які адрокся ад свайго на карысць больш “цывілізаванае культуры” ці, хутчэй, культуры народа, які пануе, прыгнятаючы і вынішчаючы іншыя. Феномен П. Кушына народжаны палітыкай і ідэалогіяй расейскага імперыялізму. Гэтая з’ява, народжаная на беларускіх землях яшчэ ў другой палове XVIII ст., імкліва пашыралася ў XIX-м, але ўсё ж не здолела дамінаваць у тагачасным грамадстве, прынамсі, заангажаваным літаратурай. Адкрыта пагардлівае стаўленне да народа і ягонае мовы засталося на перыферыі. Бо на першым плане заўсёды былі тыя, хто з прыязнасцю і замілаваннем ставіўся да беларушчыны.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі паводле часопіса “Москвитянинъ: Учено-литературный журналъ” (1843, № 8, с. 383–412).

---

[1] “У гаворках паўночнага ўсходу Віцебскай вобласці (Гарадоцкі і Віцебскі раёны) зычныя ***ч*** і ***ц*** вымаўляюцца як ***ц*** і ***ц’***: *п’ецка, ав’ецка, с’в’ецка, цап’ец, в’інцайіц’, ц’ерпайіц’* (Навасёлкі Віцебскага р-на), *цалав’ек, цула, н’іцога, цорт, цоц’в’орты, ціп’ел’н’ік, кац’ірга, ц’іц’в’ер, ц’есна* (чэсна), *пацот, скацуц’, пув’інцайуц’, дъцка, праўнуцка дз’евацка, платоцак, л’іс’іцка* (Баннікі Гарадоцкага р-на). Неадрозніванне ***ч*** і ***ц*** называецца цоканнем, а гаворкі, у якіх ёсць такая з’ява, – цокаючымі. Аднак і ў цокаючых гаворках ужываецца афрыката ***ч***: *чалав’ек чац’в’орты, дочка, сумачка, скам’ейічка, ч’есна* (Баннікі Гарадоцкага р-на)”. Гл.: Э. Блінава, Е. Мяцельская, *Беларуская дыялекталогія*, Мінск 1969, с. 50.

[2] В. Л., *Народны падзел між беларусамі*, “Крывіч” 1923, № 1, с. 42.

[3] *Ibidem*, s. 43.

[4] *Ibidem*.

# Ге́цыки*[1]

Съ той поры, какъ знаменитый критикою мужъ[1], насмѣявшись надъ плавающей въ розовыхъ облакахъ поэзіи луною, пристыдивъ вѣтренную мечту и оконфузивъ скромную дѣву, не соизволилъ снабдить стихотворцевъ богатѣйшими источниками поэзіи, имъ осталось разбить лиру и приняться за прозаическое перо... Лучше писать простые разсказы, чѣмъ тосковать, ища скороувядаемыхъ цвѣтовъ въ дикихъ пустыняхъ поэзіи; лучше говорить равнодушно о какихъ нибудь Гецыкахъ, чѣмъ выжимать изъ сердца мотивы и выставлять передъ людьми свои страданія; лучше выводить на литературное поприще мало извѣстное и не совсѣмъ пріятное для слуха нарѣчіе, чѣмъ пускать въ свѣтъ нарядные строфы.

Родившись и выросши въ Бѣлоруссіи и зная хорошо этотъ край, я начинаю разсказывать о своихъ Гецыкахъ... Насъ Бѣлоруссцевъ жители Великороссійскихъ Губерній называютъ Гецыками за то, что мы употребляемъ, вместо слова – это, ге́то. Какъ бы то ни было – хорошо-ль, худо-ль это названіе; но оно принадлежитъ намъ... И я смиренно принимаюсь за перваго своего Гецыка – пана Шамбеляна[2] Казимира Бернардовича.

У Казимира Бернардовича было когда-то триста душъ. Въ его помѣстье Гололобово считалось лучшимъ въ цѣломъ уѣздѣ[3]. Не говоря о мѣстоположеніи, которое имѣло свою прелесть, о садахъ и бесѣдкахъ, въ которыхъ Казимиръ Бернардовичъ пировалъ съ друзьями своими, въ этомъ имѣніи было пять винокуренныхъ заводовъ, приносившихъ ему чистый доходъ и за то опустошавшихъ закромы его хлѣбныхъ магазиновъ. Казимиръ Бернардовичъ любилъ жить попански: у него было двѣнадцать борзыхъ и столько же гончихъ собакъ, и страстно любилъ онъ охоту. Къ нему съѣзжались изъ цѣлаго уѣзда маршалки, маршалковичи, сендзи, подсендки, коморіе, подкоморжіе, хорунжіе и проч.[4]. Всѣ эти господа носятъ титла не по заслугамъ, а по состоянію. Если же кому нибудь изъ нихъ удавалось быть недѣлю

[1] Магчыма, гаворка пра Вісарыёна Бялінскага (1811–1848).

[2] Шамбялянамі з XVI ст. тытулаваліся на французскім каралеўскім двары высокія ўрадоўцы. Пазней шамбяляны з'явіліся на іншых каралеўскіх дварах Еўропы. (У Расеі – камергеры). У часы Станіслава Аўгуста Панятоўскага ганаровы тытул шамбяляна атрымалі блізу дваццаці чалавек. Сярод іх, здаецца, не было асобы з беларускіх земляў, якая насіла б прозвішча Бернардовіч. Мы ведаем адно Немíровічаў-Шчытаў (кажан-гарадоцкіх і полацкіх) ды Яна Макавецкага.

[3] У якім павеце "размешчана" вёска шамбяляна П. Кушын не паведамляе. Адзначым, аднак, што на картах Віцебшчыны сярэдзіны XIX ст. вёсак з такой назваю няма. Затое яны часта сустракаліся на тэрыторыі Смаленскай, Маскоўскай і Бранскай губерняў.

[4] Маршалки, маршалковичи, сендзи, подсендки, коморіе, подкоморжіе, хорунжіе – маршалкі, маршалковічы (сыны маршалка), суддзі, падсудкі, каморнікі, падкаморыі, харунжыя. На беларускіх землях, захопленых Расеяю паводле I падзелу Рэчы Паспалітае, у афіцыйнай павятовай наменклатуры толькі да паўстання 1830–1831 гг. выкарыстоўваліся даўнія найменні пасадаў. Але, відавочна, і пазней неафіцыйна шляхта карысталася даўнімі адпаведнікамі расейскіх пасадаў і ганаровых тытулаў.

предводителемъ дворянства, то ужъ онъ оставался неоспоримымъ маршалкомъ до самой смерти; – дѣти жь его будутъ маршалковичи.

Казимиру Бернардовичу, разумѣется, какъ Шамбеляну, всѣ низко кланялись, льстили, объѣдали и опивали его. Поутру ѣздили на охоту, за обѣдомъ не было недостатка въ винахъ и готовыхъ пить за здоровье Шамбеляна. Послѣ обѣда гости гуляли въ саду, играли въ бостонъ, задорные игроки просиживали ночи, и всѣ были довольны хозяиномъ.

Нечего сказать, Шамбелянъ жилъ весело. Иногда только находила на него тоска, что незабвенная его половина рано перешла въ вѣчность и единственная дочь воспитывается у своей тетушки… Но это случалось очень рѣдко. Казимиръ Бернардовичъ не имѣлъ времени заниматься скукой, – онъ былъ всегда окруженъ друзьями.

Впрочемъ Шамбелянъ былъ порядочный человѣкъ. Одно только въ немъ не похвально: терпѣть не могъ хозяйства. Ему не было надобности до своихъ крестьянъ, на то былъ управляющій панъ Шадевичъ, которому аккуратно производилось жалованье, и онъ былъ полный хозяинъ. Жалобъ на строгое обращеніе съ крестьянами, доносовъ на его лихоимство Казимиръ Бернардовичъ никогда не принималъ и считалъ унизительнымъ для Шамбелянской чести вѣрить злорѣчію мужика на шляхетную особу Шадевича.

Нужны бываютъ деньги, панъ Шадевичъ занимаетъ на имя своего вѣрителя; не вѣрятъ, – надо перезаложить имѣніе. И такимъ родомъ Казимиръ Бернардовичъ опутался долгами; но никогда не хотѣлъ перемѣнить образа жизни, пока уже самой судьбѣ не вздумалось потѣшиться надъ Шамбеляномъ.

Въ одно роковое утро, когда еще Шамбелянъ покоился въ постелѣ, прискакало на дворъ нѣсколько троекъ съ колокольчиками[1]. Выходя изъ спальни Казимиръ Бернардовичъ перваго гостя встрѣтилъ исправника[2] съ бумагою въ рукахъ, а за нимъ и другихъ чиновниковъ.

– «Честь имею доложить Пану Шамбеляну, сказалъ исправникъ, что во исполненіи Указа Губернскаго Правленія должны мы нынѣ же приступить къ описи всего движимаго и недвижимаго вашего имѣнія за неплатежъ казенныхъ и частныхъ долговъ на сумму 75.000 рублей серебромъ, подъ опасеніемъ за противное со стороны нашей строжайшей отвѣственности по законамъ.

Выслушавши реляцію исправника, Шамбелянъ принялъ видъ спокойствія и отвѣчалъ хладнокровно: «*калú гéта тáкъ, нихáй бýдзиць гéдакъ! Рóбце, панове, описаніе*...» Казимиръ Бернардовичъ топнулъ ногой и человѣкъ принесъ нѣсколько бутылокъ шампанскаго; – Шамбелянъ крикнулъ: «*паль*!»[3] и пробка въ потолокъ... Онъ задалъ Комиссіи чудесный пиръ, и,

---

[1] У Расейскай імперыі дазвол на ўжыванне “колокольчиков” мелі толькі тыя, хто служыў на пошце альбо ў земскай паліцыі. Усе іншыя аматары язды са звонам павінны былі задавальняцца “бубенцамі”.

[2] Спраўнікам называўся кіраўнік павятовага земскага суда (павятовае паліцыі).

[3] Страляй! (ад польск. *pal!*).

когда въ послѣдствіи Гололобово было продано съ публичнаго торга, задалъ еще лучшій на славу цѣлому уѣзду, и выѣхалъ преспокойно на четвернѣ въ коляскѣ въ имѣніе женниной сестры; – какъ онъ былъ тамъ принятъ – это семейная тайна... Только въ прошломъ году я видѣлъ Казимира Бернардовича. Онъ поселился въ деревнѣ, принадлежащей, по наслѣдству, отъ покойной его жены, малолѣтней дочери. Эта деревня состоитъ изъ десяти душъ, и зовется Почиваловомъ. Мнѣ случилось видѣть Казимира Бернардовича за ломбернымъ столом: онъ игралъ съ семинаристомъ въ дурачки и называлъ эту игру игрою въ шамбеляны. А это почему? Потому что онъ, съ лишеніемъ Гололобова, низведенъ друзьями въ хорунжіе.

Это маленькій образчикъ Бѣлорусскаго помѣщика; но самый вѣрный. Тамъ есть очень много похожихъ на Почиваловскаго хорунжаго.

Теперь посмотримъ на крестьянина, о которомъ подобные хорунжіе еще менѣе заботятся, какъ о себѣ. По множеству винокуренныхъ заводовъ, равномѣрно тамъ множество корчемъ, и крестьянинъ, существо лѣнивое имѣетъ всегда способъ пьянствовать и хлѣбъ обращать въ вино. Съ Февраля мѣсяца у крестьянина нѣтъ хлѣба. Почему? Потому что у него очень часто не бываетъ лошади и даже коровы. Естественно – какъ онъ обработаетъ поле, запашетъ и какой получитъ плодъ.

Вотъ мужичекъ Янка: живетъ онъ хозяиномъ[1] лѣтъ пятнадцать, – ему ужъ подъ сорокъ лѣтъ. Есть у него жена Солоха и четверо дѣтей. Деревня его прозывается Лѣнтяями[2]. На этомъ мѣстѣ, двадцать восемь лѣтъ тому[3] назадъ, былъ фольварокъ, устроенный какимъ-то Немецкимъ барономъ, владѣвшимъ тогда имѣніемъ, къ которому принадлежали предки Янкины. При этомъ фольваркѣ было пропасть необработанной земли. Владѣлецъ, купивши имѣніе, хотѣлъ устроить въ немъ порядокъ и побудить крестьянъ къ трудолюбію. Онъ выдумалъ замысловатую методу: если замѣчалъ, что крестьянинъ закоснѣвалъ въ лѣности и предавался пьянству, а между тѣмъ не имѣлъ хлеба, то этакага молодца отсылалъ на фольварокъ, подъ команду сердитаго своего соотечественника Родомино, который кормилъ крестьянъ до сыта и съ бичемъ слѣдилъ за ихъ работами, будилъ ихъ вмѣстѣ съ восходомъ и отпускалъ съ поля вмѣстѣ съ закатомъ солнца. Но эта мѣра не исправила крестьянъ и разчетливый барононъ почелъ за лучшее продать имѣніе, которое и купилъ отецъ Янкина помѣщика панъ маршалокъ. Тогда пошли другие порядки и этотъ фольварокъ уничтожился; а развелась тамъ деревня изъ пяти хозяевъ, въ числе коихъ былъ и Янкинъ отецъ. По этому случаю деревня, где живетъ Янка называется Лѣнтяями.

---

[1] Г. зн. атрымаў ад пана дазвол, а таксама хату і колькі дзесяцінаў зямлі на самастойнае вядзенне гаспадаркі.

[2] Вельмі верагодна, што аўтар утварыў "сваю" вёску па аналогіі з вёскай Гульцяі Невельскага павета, дзе жылі панцырныя баяры, што мелі прывілеі ад караля Баторыя. Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. III, Warszawa 1882, s. 207.

[3] Даволі дакладная лічба як на мастацкі твор. Аўтар, відавочна, мае пэўную канкрэтную мясцовасць.

У Янки трехлѣтній бычекъ исправляетъ должность лошади. Это бѣдное животное, впряженное пребезобразно въ дровнишки[1], изо всей силы тащитъ дрова въ ближайшій городъ. У заставы его окружаютъ Жиды, и ужъ эти дрова купитъ у него непремѣнно Мовша, или Гилька, который обманетъ и общитаетъ его въ нѣсколькихъ копѣйкахъ. Въ городѣ Янка покупаетъ калачъ и селіодку, ложится на дровни, и, съ жадностію уплетая свое благопріобрѣтеніе, тянется до первой корчмы. Тутъ непремѣнно онъ найдетъ дьячка[2] Семена, дядьку и дядину, золовку и швагра и всю свою родню.

– «*Дабры́дзинь у ха́ту*», говоритъ Янка вошедши, и ему отвечаютъ тѣмъ же – «*дабры́дзинь*!»

– «*А што́ – зъ го́рода*?»

– «*Зъ го́рода. Дра́вишки прада́въ, да смярдзю́къ*[*2]*, пага́ный обмани́въ, капѣ́ишникъ скруци́въ*[*3]».

– «*Ну, што́, паню – Янка, капѣ́ишникъ ницо́хъ*[*4]*, купи́ цахо́вку*[*5] *гарѣ́лки*».

Янка соглашается, что копѣйка ничего не составляетъ, притомъ уважая почтенную компанію, особенно дьячка Семена, топаетъ ногой и обращается къ корчмарю: *«ранда́рь*[3]*, цахо́вку!»* Рандарь приноситъ бутылку водки и ставитъ ее на столъ; Янка наливаетъ и первую рюмку подноситъ Семену, а тотъ, поглаживая свою клинообразную бороду, начинаетъ разсказывать: *«я́къ я́ чита́въ ра́зъ Салты́рь*[4]*, мярцве́цъ уста́въ, узя́въ мяне́ за гру́дзи да й дава́й би́ць у кирше́нь*[*6]*; до́бри, што́ я пирижигна́вся*[*7]*, – я́къ пырижигна́вся, да́къ іо́нъ пашо́въ и ліо́хъ...*

– *«До́саць!»*[*8] сказалъ, качая головой Янка, – *ну́дна*[*9]*, зро́билась, а́шъ мура́шки па-за шку́рью пабѣгли... ранда́рь! Ящо́ цахо́вку, запяё́мъ валѣй*[*10] *пѣсню»*, и честная компанія заводитъ свою національную пѣсенку – горѣлицу.

*“Горѣ́лица, горѣ́лица, да ты́ висялу́ха,*
*Бра́ла мянѐ це́ризъ усю̀ но́цку сукруха*[*11].
*Ци ліо́хка|жъ мнѣ́ былò цярпѣ́ць це́ризъ усю̀ но́цку:*
*Ви́дзивъ я́ сабѣ уво́|сни паро́зную бо́цку?*
*Пагляжу́ я на ву́лицу – па́нава каля́ска...*
*Як папа́лись мнѣ́ у ру́ки што́хвицык и хля́шка*[5].
*Заю́каю, заю́каю да й запаклика́ю:*
*Хва́ла Богу, штò дажда́вся, во́тъ ту́тъ папива́ю.*
*Ай пабѣ́дная гало́вка, гдзѣ мнѣ ту́тъ падзе́цца?*

---

[1] Паводле *Толкового словаря* Дзмітрыя Ушакова, “плохие дровни”, г. зн. сялянскія сані для перавозкі дроў і сена.

[2] Царкоўны служэбнік, які не меў ступені святарства.

[3] Арандатар, карчмар.

[4] Маецца на ўвазе *Псалтыр*, ці *Кніга псалмаў*. Адзін з абавязкаў дзячка – чытаць Псалтыр. “В дальнем углу сидел дьячок и тихим однообразным голосом читал псалтырь” (Леў Талстой).

[5] Маецца на ўвазе штофік (?) і пляшка. Штоф (ад ням. *Stof* – чаша) – даўняя расейска мера, роўная 1,2 літра, штофік – 0,3 літра, а таксама посуд для піцця алкагольных напояў; невялікі кілішак.

*Якъ давѣ́даицца жо́нка съ зло́сци апряжэ́цца!**[*12]
*Якъ приду́ я́ въ свою̀ ха́тку, ту́тъ жо́нцы вярёвка,*
*А во́тъ съ па́намъ разбира́цца ге́та ві́ць ня ло́вка...*
*Пи́ридъ па́намъ мужику́ цы́мъ бу́дзиць атвѣ́циць?*
*Еды́ную ма́ю сви́нку и тая пале́циць...*
*Ай, пано́цыкъ, бу́ду каза́ць, цяпѐръ мае́ го́ря,*
*Сѣ́на ка́сивъ, сѣ́на гра́бивъ цѣ́лый дзе́нь уцо́ра...*
*А па́нъ мяне́ паслуха́иць и ми́лась пака́жиць,*
*Ящо̀ хло́пцу ру́мку во́дки падне́сь мнѣ́ прика́жиць...*"[1].

Вслѣдствіе этой пѣсни корчмарь, не ожидая приказанія, самъ приноситъ и ставитъ на столъ бутылку. Такимъ-то порядкомъ, Янка пропиваетъ не только полученныя имъ за дрова деньги, но еще корчмарь запишетъ за нимъ нѣсколько черточекъ мѣломъ на стѣнѣ въ счетъ будущаго благополучія... Хочетъ идти, но его останавливаетъ занимательный разсказъ; съ острыженною бородою Юда разлагольствовался: *«во́сь*[2] *ака́зія*[3]*: у ту́ю нядзе́лю у ге́тай са́май ра́ндзи была́ бальша́я ака́зія: пришо́въ дзисятникъ*[4] *Цимо́ха, Вави́ла – анхвали́дный салда́тъ, кума́ Те́кля спикла́ пиро́хъ, а я узя́въ цахо́вку гарѣ́лки. Сядзи́мъ на куцѣ́ сваи́мъ цы́намъ, а́шъ іо́нъ*[5] *– брязге́ль, брязге́ль! – я гля́ць у вако́шка – ци|ни спра́вный*[6]*, ци ня Це́царь и дзяся́тникъ, паглядзе́въ, а́шъ не́ ни спра́вный, ни Це́царь. Вайшо́въ у ра́нду – затро́навъ, зало́навъ – про́цъ вы́ – туды́-сюды́! а цаго́|жъ на́мъ бая́цца? Мы́ усі́ свои́мъ цынамъ; дзися́тника и бля́ха у яго́ на сви́тцы**[*13]*... а́шъ іо́нъ калы́пъ па мо́рдзи дзися́тника, ашъ іонъ бри́къ падъ ла́вку, а дзися́тникъ заво́йкавъ, а салда́тъ то́льки ля́пу разня́въ, а́шъ іо́нъ яго́ калы́пъ па ля́пи, а іонъ и балты́хъ па́дъ сто́лъ, а кума́ за пиро́хъ, да за паро́хъ, а я за хля́шку да за кумой, пыта́имся у ху́рмана: а́шъ іонъ карчави́на**[*14] *зъ губерни, и бля́ху садравъ и кажуць ке́пска бу́дзиць дзися́тнику. Во́сь ака́зія!*»

Выслушавши эту окказію, Янка почесываетъ затылокъ и уходитъ; ложится на свои дровни и бычекъ едва къ полуночи притянетъ его домой.

---

[1] Лічыцца вершам Я. Баршчэўскага. Першая публікацыя – у альманаху Рамуальда Падбярэскага "Rocznik Literacki", які выйшаў у свет у красавіку 1843 г. Больш падрабязна гл.: Я. Баршчэўскі, *Выбраныя творы*, Мінск 1998, с. 448–449.

[2] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 67: "ВОСЬ, межд. 1. угрозы. Вотъ, ужо. *Вось я цебе*. 2. удивл. приклад. къ другимъ словамъ. Вотъ. *Вось-якій*! *Вось як*!".

[3] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 361: "ОКАЗЕ́Я", и. с. ж. Произшествіе. *Во якая случилась тутъ оказея*" і "ОКА́ЗЫЯ, и, с. ж. (Лат. Occasio). 1. Случай, средство. *Оказыи нема, штобъ переслаць*. 2. Извѣстіе. *Ниякей оказыи не давъ, ци живъ ёнъ ци здоровъ*".

[4] Выбраная на загад паліцыі ад дзесяці сялянскіх двароў асоба, што выконвала дапаможныя функцыі. Як знак улады меў г. зв. бляху.

[5] Ніжэй Юда называе тую асобу, што ўварвалася ў карчму ды пабіла дзясятніка Цімоха і "анхвали́днага салда́та" Вавілу, "карчави́наю зъ губерни", а аўтар тлумачыць, што карчавінаю ў Беларусі нацываюць шляхціца. Аднак больш верагодна, што Юда карчавінаю называе прадстаўніка губернскае ўправы.

[6] Тое, што і спраўнік (исправник).

[*2] Смердюками Бѣлорусцы зовутъ Жидовъ по преданию, – будто бы весь родъ ихъ смердитъ съ того времени, какъ предки ихъ брали, въ запасъ, низпосылаемую имъ Богомъ съ неба манну[1]. [*3] Сплутовать. [*4] Ничего. [*5] Четверть гарнца[2]. [*6] Въ затѣекъ[3]. [*7] Перекрестился. [*8] Полно. [*9] Страшно[4]. [*10] Лучше[5]. [*11] Сокрушеніе. [*12] Издохнетъ[6]. [*13] Верхней одеждѣ. [*14] Корчевиной называютъ Дворянина въ Бѣлоруссіи. Собственно это слово означаетъ негодное дерево – полуизгнившій пень. [*15] Кушанья. [*16] Заплакалъ[7]. [*17] На дняхъ. [*18] Извини. [*19] Передъ глазами. [*20] Увидалъ. [*21] Отозвалась. [*22] Погребеніе. [*23] Свадьбу. [*24] Башмакъ изъ толстой конской или свиной кожи. [*25] Женихъ. [*26] Шаферы. [*27] Невѣста. [*28] Разумѣю. [*29] Не понялъ. [*30] Ученый[8]. [*31] Сморщился. [*32] Кусокъ кожи. [*33] Лице. [*34] Кланяется. [*35] Любезничаетъ. [*36] Хозяйки. [*37] Не шути. [*38] Оцарапаю. [*39] Тамъ есть повѣрье, что, когда воробей влѣтитъ въ окно, то въ томъ домѣ долженъ кто-нибудь вскорости умереть. [*40] Старая водка. [*41] Растолковать. [*42] Ругается. [*43] Бездѣльница[9]. [*44] По щекамъ[10]. [*45] Кнутъ. [*46] Съ малолѣтства. [*47] Картофель. [*48] Поздоровались. [*49] Обѣими руками. [*50] Лучше.

[*51] Авторъ, природный Бѣлоруссъ, проѣздомъ изъ Витебска въ Вятку, доставилъ мнѣ нѣсколько стихотвореній – я посовѣтовалъ ему занятся лучше описаніемъ своего края, нарѣчія, образа жизни жителей, и вотъ первая статья имъ доставленная, которую я, съ благодарностію помѣщаю. Желаю усердно, чтобъ его примѣръ нашелъ подражателей, и чтобъ такимъ образомъ сдѣлались извѣстными всѣ разнородные края нашего неизмѣримаго Отечества. Я получилъ уже многое о Смоленскѣ, Архангельскѣ, Вологдѣ. Ничего такъ мало мы не знаемъ какъ себя. “Москвитянинъ” почитаетъ себя счастливымъ, что получаетъ безпрестанно болѣе и болѣе возможности знакомить Русскихъ съ Россіей. *М. П.*

---

1856) і інш. Разам з Мікалаем Устралавым актыўна распрацоўваў і папулярызаваў тэорыю афіцыйнай народнасці Сяргея Уварава (Православие, Самодержавие, Народность).

[1] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 594: “СМЕРДЗЮ́КЪ, и, с. м. <…> 3. слово ругат. Еврей. *Парху-смердзюку николи не падамся*”. “СМЕ́РДЗЬ, и, с. ж. <…> 4. собир. Жиды, слово ругат. *За смердзію гетаю пройци не можно. Возъ нашъ одна смердзь опановала.* (Евреи вообще имѣютъ отвратительный запахъ)”.

[2] Іншае тлумачэнне – у слоўніку У. Даля. Гл.: *Толковый словарь живого великорусскаго языка Владиміра Даля*, второе изданіе, исправленное и значительно умноженное по рукописи автора, т. IV, С.-Петербургъ – Москва 1882, с. 588: “***Цахо́вка*** *ж. зап.* мѣра жидкости, кружка, 1/10 ведра”.

[3] Трэба: Въ затылокъ.

[4] Слоўнікі не фіксуюць дадзенае значэнне слова “нудна”.

[5] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 43: “ВАЛѢ́Й, нар. сравн. ст. 1. Лучше, повольнѣе. *Валѣ́й тобѣ, а мнѣ то яково*! 2. союз желат. Чтобы. *Валѣ́й яго, якъ яго зовуць. Валѣ́й бы ты не дождавъ, пропа́въ*. См. Велѣ́й”.

[6] У І. Насовіча падаюцца іншыя значэнні гэтага слова. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 365: “ОПРЕГА́ЦЬЦА, сов. Опре́жчьца, гл. возв. 1. Истощаться, сгарать жаждою или желаніемъ. *Опрегаемся, опреглись мы тутъ безъ пиццят. Опрегаецца дужо, хочець ѣхаць. Опрегся, плачучи, просючи. Опрегаецца надъ грошами.* 2. Сгарать отъ водки. *Опрёгся отъ горѣлки. Опрежись ёнъ отъ мене*”.

[7] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 591: “СЛИ́НЬКИ, -некъ, с. ж. употр. во множ. Дѣтскій плачъ. *Слиньки справила, якъ маленькій дзѣцёнокъ. Слиньки пусцила, якъ сказали праўду*”.

[8] Больш дакладна – адукаваны.

[9] Гл.: *Толковый словарь живого великорусскаго языка Владиміра Даля*, второе изданіе, исправленное и значительно умноженное по рукописи автора, т. IV, С.-Петербургъ – Москва 1882, с. 566: “***Хлыстка*** *пск.* плетка. || Потаскуша”.

[10] Гл.: *Толковый словарь живого великорусскаго языка Владиміра Даля*, второе изданіе, исправленное и значительно умноженное по рукописи автора, т. I, С.-Петербургъ – Москва 1880, с. 54: ***Батарлы́га*** *ж. прм.* кость, мосолъ, особ. говяжья, ножная, плечевая”.

# Беларускія літаратурныя тэксты ў фондзе П. Шэйна (паводле матэрыялаў Л. Бэндэ)

Павел Шэйн (1826–1900), маючы матэрыяльную падтрымку ад Акадэміі навук і Расейскага геаграфічнага таварыства, з 1860-х гг. актыўна займаўся вывучэннем вуснай народнай творчасці і этнаграфіі "русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края". Да гэтага часу ён ужо меў дастаткова вялікі вопыт: падрыхтаваў, а пазней выдаў *Русскія народные пѣсни* (1868–1870)[1], якія запісаў (пераважна сам, а таксама іншыя людзі) у Маскоўскай, Цвярской, Разанскай, Сімбірскай і Тульскай губернях. Апынуўшыся ў Віцебску (з 1865 г. настаўнік нямецкае мовы Віцебскае гімназіі), ён ужо ў 1867 г. распрацаваў адмысловую праграму, якую назваў *Просьба*, і надрукаваў яе ў 600 асобніках ды з дапамогаю памочніка апекуна Віленскае навучальнае акругі А.К. Серна-Салаўевіча[2] даслаў 200 асобнікаў дырэктарам народных вучылішчаў Магілёўскае і Віцебскае губерняў[3]. І хоць "плодотворных" аказалася няшмат, аднак у хуткім часе П. Шэйн меў аграмадную колькасць тэкстаў, запісаных паводле ягонае *Просьбы*. Надрукаваць усё сабранае ў 1874 г. не атрымалася, а таму навуковец меў намер падрыхтаваць другі том. Аднак толькі напрыканцы 1880-х гг. ён зноў вярнуўся да беларускіх фальклорных матэрыялаў і падрыхтаваў, выкарыстоўваючы створаную ім шырокую сетку карэспандэнтаў з розных куткоў Беларусі, тры тамы даследавання *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края* (1887, 1893, 1902).

Апошні, трэці том выйшаў ужо пасля ягонае смерці.

Тэкстаў, якія адназначна можна назваць літаратурнымі, у зборніках П. Шэйна даволі мала. Можна прыгадаць адно: *Горелычка мыя висялуха*, *Сядзиць дзяцька, пипку курыць*[4], *На гуры вѣцеръ вѣе*, *Цеперъ у насъ такихъ много*[5]. Цікава адзначыць, што да апошняга твора навуковец дадаў камен-

---

[1] Гл.: "Чтенія въ Императорскомъ Обществѣ Исторіи и Древностей Россійскихъ при Московскомъ университетѣ" (1868, кн. I, II, IV; 1869, кн. I, III, IV; 1870, кн. I), а таксама асобныя выданні (1870, 1877).

[2] У Віцебску ў другой палове 1860-х гг. "почетнымъ членомъ Губернскаго Статистическаго Комитета" быў Аляксандар Канстанцінавіч Серна-Салаўевіч. Верагодна, менавіта яго мае на ўвазе П. Шэйн.

[3] *Бѣлорусскія народныя пѣсни, съ относящимися къ нимъ обрядами, обычаями и суевѣріями, съ приложеніемъ объяснительнаго словаря и грамматическихъ примѣчаній. Сборникъ П.В. Шейна*, С. Петербургъ 1874, с. 540–541.

[4] Дадзены верш, як пазначана ў зборніку, "зап. художникомъ М.О. Микѣшинымъ".

[5] Не згадваем тэкстаў рэлігійнага зместу.

тар: “Подобныхъ виршей не мало въ ходу среди русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края. Несмотря на неуклюжесть ихъ внѣшней формы, онѣ отличаются значительнымъ богатствомъ своего религіозно-нравственнаго и бытоваго содержанія, и потому не могутъ не послужить подспорьемъ для научныхъ изслѣдованій въ области этногафии означеннаго края. Со временемъ мы надѣемся сообщить этого рода виршей въ бóльшемъ количествѣ”[1]. Хіба, абяцанне сваё П. Шэйн не ажыццявіў: мы ведаем, што толькі аднойчы ён выкарыстаў у сваім артыкуле *Крѣпостное право въ народныхъ пѣсняхъ* *Гутарку Данілы са Сцяпанам*[2].

Асноўная колькасць “произведеній новѣйшей народной или полународной бѣлорусской музы” засталася ў рукапісных зборах навукоўца, якія ў 1931 г. трапілі ў Архіў Акадэміі навук СССР (сёння: Санкт-Петербургский филиал Архива РАН). Паводле двух вопісаў “фонду П. Шэйна”, у ім захоўваецца 1288 спраў, значная частка якіх датычыць фальклору і этнаграфіі беларусаў[3].

Першым з беларускіх даследчыкаў пазнаёміўся з фондам П. Шэйна вядомы вульгарызатар Лукаш Бэндэ. У сярэдзіне 1930-х гг. ён, нягледзячы на тое, што не існавала дэталёвага вопісу фонду (В. Круцікава апрацавала яго ў 1957 г.), атрымаў мажлівасць прагледзець справы, відаць, карыстаючыся падказкамі супрацоўнікаў архіва.

Не выклікае сумнення, што Л. Бэндэ знаёміўся з архіўным матэрыялам з мэтаю выяўлення беларускіх мастацкіх твораў. Трэба сказаць, што на той час даследчык быў дастаткова абазнаны з айчыннаю літаратураю XIX стагоддзя: ён ужо з’яўляўся аўтарам вялікага артыкула пра беларускую пісьменнасць данашаніўскага перыяду[4].

Працэс пошуку ў фондзе П. Шэйна фіксаваўся Л. Бэндэ ў адмысловым блакноце[5]. Прааналізаваўшы запісы з яго, можна сцвердзіць, што даследчык праглядаў звычайна толькі тыя справы, у назве якіх падаваліся тытулы літаратурных твораў ці гаварылася пра “штучныя” творы прыгожага пісьменства. Усяго ім было прагледжана і пераважна коратка анатавана блізу трыццаці спраў фонду.

Мы не ведаем, ці хто-небудзь з беларускіх гісторыкаў літаратуры грунтоўна працаваў з дадзеным фондам П. Шэйна[6]. Нейкіх паведамленняў,

---

[1] П. Шейн, *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западного края*, т. 2, Санктпетербургъ 1893, с. 680.

[2] Гл.: П.В. Шейн, *Крѣпостное право въ народныхъ пѣсняхъ*, “Русская старина” 1886, т. XLIX, февраль, с. 483–492; мартъ, с. 667–678.

[3] Гл.: СПФ АРАН, ф. 104: *Шейн Павел Васильевич, (1826-1900), этнограф, лингвист*.

[4] Гл.: Л. Бэндэ, *Аб літаратуры XIX века*, “Полымя рэволюцыі” 1935, № 4, с. 153–163; № 5, с. 113–131.

[5] Гэта быў блакнотам з грыфам “Літаратурнае аб’яднанне Чырвонай Арміі і Флёту. Цэнтральны Савет”, якое існавала ў 1930–1932 гг.

[6] Пасля таго, як Л. Бэндэ апублікаваў ліст Янкі Лучыны да П. Шэйна ад 10.10.1887 г. (без архіўнага адрасу) [Гл.: Л. Бэндэ, *Новыя матэрыялы аб Янку Лучыне*, “Полымя” 1945, № 9, с. 161], Сцяпан Майхровіч выкарыстаў яго ў сваіх публікацыях пра Янку Лучыну [гл.: С. Майхровіч, *Нарысы гісторыі беларускай літаратуры XIX стагоддзя*, выд.

перадусім, у друку не сустракалася. На жаль, і нам пакуль не ўдалося пазнаёміцца з матэрыяламі, сабранымі колісь навукоўцам-этнографам. Аднак, зважаючы на велізарную іх каштоўнасць, лічым неабходным грунтоўна праштудзіраваць блакнот Л. Бэндэ, што сёння захоўваецца ў БДАМЛіМ[1].

Хоць беларускія архівісты датуюць матэрыялы Л. Бэндэ 1940 годам, але насамрэч даследчык працаваў з фондам П. Шэйна крыху раней. Мы мяркуем, што было гэта прыкладна ў 1935 г.: пасля таго, аднак, як даследчык аддаў у друк ці ўжо надрукаваў артыкул *Аб беларускай літаратуры XIX века*. Пра 1935 г. сведчыць і адзін з запісаў на адваротнай старонцы тыльнае вокладкі (запісы вяліся чамусьці з канца блакнота і пераважна толькі на адным баку аркуша): "Звонить 15/XI 35 г. тел. 7107. Петров ст. инстр. політсек-ту ПВК".

Першай у блакноце анатаваная справа № 587, якая мела тытул *Белорусские песни и стихотворения*. Л. Бэндэ пазначыў таксама, што запісаныя тэксты "рукою Шейна <нечыт.> О.О. Миллера" і што "помещено" тут наступнае: 1. *Воскресение Христа*, 2. *Сватовство*, 3. *Тарас Полесовщик*, 4. *Что делал Эол в то время, когда Юнона пришла просить его заступничества*, 5. *Бедность* (*весна голод*). Магчыма, аніякіх іншых твораў тут не было, бо з падрыхтаванага В. Круцікавай вопісу справа № 587 (называецца яна так, як і падаў Л. Бэндэ) мае ўсяго 22 аркушы. А гэта азначае: апрача пералічаных тэкстаў, даволі вялікіх па аб'ёму, наўрад ці што магло яшчэ тут змясціцца.

Даследчык параўнаў спісы П. Шэйна з публікацыямі вядомых твораў у зборніку (1873) Івана Насовіча[2] і *Выпісах*[3] і палічыў патрэбным занатаваць, падаючы нумар радка, адрознае словаўжыванне ў асобных з іх. Так,

---

другое, папраўленае, Мінск 1959, с. 240–275], хоць арыгінала ліста ён не бачыў (памылкова сцвярджаў, што ён захоўваецца ў Дзяржаўным архіве Ленінградскай вобласці, фонд 14). Пазней Янка Саламевіч, пазнаёміўшыся з працаю Мікалая Новікава (1911–1997) *Павел Васильевич Шейн: Книга о собирателе и издателе русского и белорусского фольклора* (Минск 1972), напісаў на яе рэцэнзію і яшчэ раз апублікаваў ліст Я. Лучыны [гл.: И. Соломеевич, *Неутомимый собиратель*, "Нёман" 1973, № 2, с. 172–176]. У 1977 г. Г. Кісялёў ажыццявіў навуковую публікацыю ліста Я. Лучыны, дакладна пазначыўшы архіўны адрас [гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с. 464–465].

[1] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563: *Бэндэ Лукаш Апанасавіч. Запісы вершаў, песень, паэмы* ТАРАС ПАЛЯСОЎШЧЫК *з архіва П.В. Шэйна* (Архіў Акадэміі Навук СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 587). Блакнот. Колькасць лістоў: 42.

[2] Цікава адзначыць, што са 108 радкоў *Пречистой середь ночи* І. Насовіча М. Гарэцкі перадрукаваў 106, апусціўшы 11 і 12 ("Хоць на пупъ жыды жиды кричаць, // Што нарушена печаць"), але менавіта яны дазваляюць зразумець, чым карыстаўся Л. Бэндэ. Дарэчы будзе заўважыць, што тытул твора – *Воскресение Христово* – паходзіць менавіта са спіса П. Шэйна ці з рукапіснага зборніка *Беларускія народныя легенды, быліны і песні сялян былога Себежскага павета Віцебскай губерні, 1882 – 1890 гг.*

[3] З пэўнасцю можна сказаць, што былі гэта ці то *Выпісы з беларускае літаратуры: Часьць другая: Новы і найноўшы кругабегі* (Масква-Пецярбург 1923), ці то *Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.* (Менск 1926) Уладзіслава Дзяржынскага, але не *Хрыстаматыя беларускае літэратуры: XI век – 1905* (Вільня 1922) Максіма Гарэцкага.

у *Воскресении Христовом* ён заўважыў каля сарака адрозненняў – слоў і нават радкоў.

Не менш уважліва Л. Бэндэ параўноўваў друкаваны варыянт *Тараса на Парнасе* з *Тарасам Полясоущикам* П. Шэйна. Амаль у кожным чатырохрадкоўі ім выяўлены адрозненні. Асобныя строфы даследчык перапісаў цалкам.

Фрагмент *Энеіды навыварат*, які ў П. Шэйна названы *Что делал Эол в то время, когда Юнона пришла просить его заступничества*, у блакноце перапісаны, хіба, цалкам. Ён невялікі, усяго 59 радкоў, якія – да таго ж – з пропускамі (адносна вядомага нам тэксту) перадаюць спатканне Юноны з Эолам, а таксама просьбу Энея і гнеў Няптуна на вятры[1].

З верша *Бедность* (*весна голод*) Л. Бэндэ перапісаў першыя 12 радкоў, але не пазначыў, колькі іх было ў рукапісе. Пра яшчэ адзін тэкст – *Сватовство* – даследчык апрача тытула нічога больш не падаў.

Наступныя справы фонду Л. Бэндэ анатаваў вельмі коратка: № 590 (Полный текст *Тараса на Парнасе*. З вариантами)[2], № 656 (*Гутарка Данилы к Степану* и *Гуторка Кондрата до свайго брата*)[3], № 655 (*Нячысцік* Рыпінскаго [нечыт.] по выд. 1853 г.), № 559 (*Сборник песен Н. Суборовского*)[4].

Даследчык у гэты блакнот нічога са справы № 590 не занатаваў. Але мы ведаем, што ў паперах Л. Бэндэ захоўваецца спіс *Тараса на Парнасе* на асобных картках, перапісаны якраз з гэтае адзінкі захоўвання[5]. Не зусім зразумела, што яшчэ знаходзіцца ў гэтай справе П. Шэйна. Усё ж на *Тараса* дастаткова 10–15 старонак, а тут – паводле вопісу – 177 аркушаў. Няўжо вядомы этнограф сабраў разам з дзясятак спісаў вядомае беларускае паэмы?

Справа № 655 у вопісе фонду П. Шэйна анатаваная наступным чынам: “655. *Нячи́сьцик: белару́ская баллада Написа́ў сіѣ учи́цель языко́ў Александръ Рыпи́ньской, вицѣблянúк, у Ло́ндони*. Лл. 10”[6]. Тэкст твора Л. Бэндэ не перапісваў, але на наступных двух старонках блакнота зрабіў выпіскі.

Вядома, *Нячысцік* і яго аўтар займаюць куды больш сціплае месца ў гісторыі беларускае літаратуры, чым *Тарас на Парнасе*. Аднак Аляксандар Рыпінскі ў 1920-я гг. “прысутнічаў” ва ўсіх тагачасных хрэстаматыях і школьных падручніках. Л. Бэндэ мусіў з гэтым лічыцца, хоць ставіўся да паэта і характарызаваў яго творчасць адмоўна: “Александр Рыпінскі – таксама польскі шляхецка-панскі этнограф. Пасля польскага паўстання 1831 г., у якім ён прымаў удзел, павінен быў эміграваць у Францыю. Жывучы

[1] У гэтым жа архіве (ф. 216, оп. 3, д. 376) Л. Бэндэ выявіў у матэрыялах Ізмаіла Сразнеўскага і перапісаў у сшытак *Энеіду навыварат*, запісаную дзесяцірадковымі строфамі. Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 564.

[2] У вопісе фонду: “590. *Тарас на Парнасе с поправками и добавлениями П.В. Шейна*. 177 лл.”.

[3] У вопісе фонду: “656. *Гутарка Данила к Степану*. 14 лл.”.

[4] У вопісе фонду: “559. *1867 г. Белорусские песни, записанные Н. Суберовским*. 68 лл.”.

[5] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 581, а. 17–22 v.

[6] *Опись архивного материала: Рукописи П.В. Шейна и других лиц по фольклору и этнографии* [online] http://www.isaran.ru/bookreader/bookreader.php?guid=6367D772-EDF7-AA3A-5F53-6685803A1AC0&ida=2&kod=4#page/1/mode/1up [доступ: 05.09.2018].

ў Парыжы, ён, час ад часу, чытае ў гуртку польскіх эмігрантаў лекцыі аб Беларусі. У сваіх лекцыях Рыпінскі цалкам і поўнасцю стаіць на пазіцыях польскіх паноў, што Беларусь «ёсць і будзе польская, становіць сабой непадзельную частку нашай дарагой айчызны...» Рыпінскі надрукаваў па-беларуску толькі баладу *Нячысцік*. Гэтая балада выйшла ў трох выданнях. Апошняе выданне выйшла ў 1853 г. Балада пабудавана на фольлорным матар'яле. Легенда аб чорце і бабе, якая парушыла пост, забіла кабана і купіла гарэлкі, пад рукамі Рыпінскага паслужыла асновай для клерыкальнага павучэння. Баладу Рыпінскі заканчвае яўна клерыкальнай, дыдактычнай высноўкай:

Я запісаў ту штуку
Тым жанчынам на навуку,
Што скаромнае так любяць,
А такіх у нас не мала,
Віць, цяперачка настала.

Гэтай баладай і абмяжоўваецца творчасць Рыпінскага на беларускай мове. Аднак і гэты адзін яго твор, надрукаваны па-беларуску, ясна паказвае на класавы напрамак гэтага пісьменніка"[1].

Выяўлены ў паперах П. Шэйна тэкст балады *Нячысцік* Л. Бэндэ параўнаў з хрэстаматыйным тэкстам. Заўважыўшы, што рукапіс мае пэўныя адрозненні ад таго, што было надрукаванае, ён пастараўся зафіксаваць гэтыя адрозненні.

З ягонага апісання рукапісу вынікае, што *Нячысцік* быў у асобным сшытку: "Тетрадка[,] на первом листе [–] «Александра Рыпинскаго».

На 2 странице[:] *Нячысьцикъ*[:] Беларуская Баллада[.] Написаў ее учицель языкоў: Александр Рыпиньский[,] Вицеблянин, у Лондони"[2].

Ніжэй Л. Бэндэ падае эпіграф, які адсутнічаў у зборніку Станіслава Нясцюшкі-Буйніцкага і ў беларускіх перадруках, аднак быў ва ўсіх трох лонданскіх выданнях твора (змешчаны там як другі):

„I know not if the tale be true,
But as they sang, I sing to you.
(с песни Американск:)"[3].

На наступнай старонцы сшытка было занатаванае прысвячэнне:

"На стр. 3.

Прыяцелю А. В. напамяць.

– Часта браценькам вядзеш тоя, сіоя –
А усіо-то марня, а усіо пустоя!
(З рукаписи)

Ты-ж сам, суседзка, хацеў:
Каб и я табе запеў –

---

[1] Л. Бэндэ, *Аб літаратуры XIX века*, "Полымя" 1935, № 4, с. 162.
[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 17.
[3] *Ibidem*.

Ну, я табе й паю;
Прыми песиньку маю!...
    Можа ета ня песнь? – каша –
    Да – усіо|ж дыки свая – наша!”[1].

Трэба думаць, што ўсе тры прысвячэнні – аднаму чалавеку. А здагадацца, хто такі “А. В.”, не складана – Арцём Вярыга-Дарэўскі. “Дапамагаюць” тут не столькі пачатковыя літары імя і прозвішча, колькі шырокавядомыя радкі са славутага *Альбома*.

Але ёсць сёе-тое і незразумелае. Мы ведалі два “сярэднія” вершаваныя радкі прысвячэння і раней. Яшчэ ў 1882 г. С. Нясцюшка-Буйніцкі ўключыў у свой рукапісны зборнік беларускамоўных твораў баладу А. Рыпінскага, якая пачыналася там менавіта гэтымі, праўда, крыху зменнымі радкамі: “Czasto brateńka wiadziesz toj sije // A ŭ sio to marno, a ŭ sio pustoje”. Укладальнік сцвярджаў, што тэкст балады паходзіць “ze zbioru Aleksandra Rypińskiego / wydana w Londynie w 3 tomach”. Апошнія словы паказваюць, што С. Нясцюшка-Буйніцкі – хутчэй за ўсё – не меў магчымасці карыстацца аніводным з трох лонданскіх выданняў *Niaczyścika*, бо ніколі балада не выдавалася ў трох тамах. Упершыню яна з’явілася ў першым томе двухтомніка *Poezije* ў 1853 г., пасля выйшла асобнаю брашуркаю як другое выданне, а яшчэ пазней таксама асобнаю брашуркаю як трэцяе. І другое, і трэцяе выданні не маюць пазначэння пра месца і год выхаду ў свет[2]. Апрача таго, аніводнае з лонданскіх выданняў не мела радкоў “Czasto brateńka wiadziesz toj sije // A ŭ sio to marno, a ŭ sio pustoje”.

Не мог С. Нясцюшка-Буйніцкі карыстацца і тым тэкстам балады, які А. Рыпінскі 3 лістапада 1853 г. выслаў у “Санктпетербургскій Его Императорскаго Вѣличества Цензурный Комитетъ”, бо было гэта другое Лонданскае выданне (пра гэта сведчыць тытул твора, які падаецца ў цэнзурнай перапісцы).

Застаецца дапусціць, што С. Нясцюшка-Буйніцкі меў у сваіх руках рукапісны сшытак з прысвячэннем А. Вярыгу-Дарэўскаму. Якім чынам ён трапіў да яго можна толькі здагадвацца. Верагодна, фрагменты канфіскаванае бібліятэкі Беларускае Дуды ў 1860–1870-я гг. апынуліся не толькі ў прадстаўнікоў улады, але выпадкам завалодалі асобнымі з іх і мясцовыя шляхціцы. С. Нясцюшка-Буйніцкі, відавочна, перапісаў тэкст балады з арыгінала, транслітараваўшы грамадзянскі шрыфт на лацінку.

Не выклікае сумненняў, што балада *Нячысьцикъ* у паперах П. Шэйна занатаваная грамадзянскім шрыфтам. І хоць Л. Бэндэ нічога пра гэта не кажа, але і ягоныя выпіскі з рукапісу, і апісанне справы фонду сведчаць пра гэта. Звернем увагу таксама, што ў С. Нясцюшкі-Буйніцкага галоўны герой *Niaczyścika* называецца не *Mikita*, як у лонданскіх выданнях, а *Nikita*.

[1] *Ibidem*.
[2] Бібліяграфічнае апісанне трэцяга выдання *Niaczyścika* ў Bibliotece Narodowej мае наступны выгляд: “[Tottenham: Drukarnia Polska 1856]”. На падставе чаго датаваная брашура – невядома.

(Праўда, не маючы сёння фотакопіі зборніка з Бібліятэкі Урублеўскіх у Вільні, не можам дакладна сказаць, ці дадзеная змена вытрымліваецца паслядоўна). А таму ўзнікае пытанне: ці не сам А. Рыпінскі, запісаўшы свой твор "кірыліцаю", пераназваў свайго героя? На жаль, Л. Бэндэ не палічыў патрэбным выпісваць з рукапісу фрагменты тэксту.

Асобнае пытанне – паходжанне радкоў "Часта браценькам вядзеш тоя, сіоя – // А усіо-то марня, а усіо пустоя!". З якога рукапісу яны ўзятыя? Можа, самога А. Рыпінскага? Што аўтар называе марным і пустым ды чаму звяртаецца з гэтымі словамі да А. Вярыгі-Дарэўскага?

Можна меркаваць, што А. Рыпінскі дакарае свайго маладзейшага калегу за працу сярод шляхты і мужыкоў ("браценькам вядзеш"), бо не верыць, што ўдасца ўзварушыць гэтыя грамадскія класы. (Заўважым: Ялегі Пранціш Вуль у сваім славутым вершы сцвярджаў адваротнае). Можна таксама дадзеныя словы А. Рыпінскага ўспрымаць як сумненні што да патрэбнасці беларускамоўнай творчасці А. Вярыгі-Дарэўскага. Перадусім, пра гэта могуць сведчыць радкі, якія ішлі следам: "Ты-ж сам, суседзка, хацеў: // Каб и я табе запеў". Іх трэба успрымаць наступным чынам: ён, А. Вярыга-Дарэўскі, хацеў, каб сусед А. Рыпінскі "запеў" па-беларуску.

Сумненні і дакор А. Рыпінскага ўсё ж носяць, думаецца, літаратурна-рытарычны, так назавём, характар: ён жа і раней пісаў па-беларуску, і цяпер можа яшчэ раз паспрабаваць выдаць свайго *Нячысьціка*. Цяпер нават згадзіўшыся транслітараваць яго на афіцыйную "кірыліцу".

Відаць, варта разглядаць рукапіс, які захаваўся ў зборах П. Шэйна, як тэкст балады, падрыхтаваны да выдання. Са спадзяваннямі, што А. Вярыга-Дарэўскі, дзякуючы сваім сувязям з віленскім асяроддзем, паспрыяе надрукаваць твор. Мы лічым такое магчымым па той прычыне, што проста маючы жаданне пазнаёміць "суседзьку" са сваёй баладаю, А. Рыпінскі мог пазычыць яму асобнік аднаго з лонданскіх выданняў. Ён жа фактычна, як сведчыць нават недасканалая "копія" Л. Бэндэ, дастасаваўся да вымогаў расейскае цэнзуры, запісаў баладу "рускімі літарамі", а таксама змяніў уступную частку – цалкам апусціў прадмову, але дадаў прысвячэнне.

Уласна балада пачыналася, як пазначае Л. Бэндэ, на 4 старонцы сшытка. Тут спачатку былі пададзены яе тытул і жанравая прыналежнасць (*Нячысьцик. Балада*), пасля яшчэ адзін эпіграф, які быў ва ўсіх трох лонданскіх выданнях твора [„Stvar nijedna ne gospodi // Varh cjowjeka kako scena" // G.G. Palmotta // (с Дальмацк: рукописи)[1]], а затым ішоў сам тэкст. Л. Бэндэ, занатаваўшы першы радок балады ("Таму ужо сто лет будзе..."), адзначыў: "конец инной[2]" і падаў тры апошнія ды месца і час напісання:

"Виць цяперицька настала;
Ништо ужо им ня грех!
Бог и церкау – пашли – у – смех!!
Лондон, 1853"[3].

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 18.
[2] У *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага адсутнічаюць 8 апошніх радкоў.
[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 18.

Справа ў тым, што і ў выданні “Спецыяльнай камісіі пры выдавецтве Савецкая Беларусь” [1], і ў выданні Ул. Дзяржынскага[2] апошнія два радкі С. Нясцюшкі-Буйніцкага заменены кропкамі: ужо ў 1923 г. камуністычная ідэалогія не дазваляла разглядаць пашырэнне амаральнасці як вынік занядбання рэлігійных каштоўнасцяў (Ул. Дзяржынскі, хіба, проста запазычыў тэкст з першай савецкай хрэстаматыі).

Што ж, даведаўшыся пра тое, як А. Рыпінскі насамрэч завяршаў сваю баладу, Л. Бэндэ яшчэ раз мог пераканацца, што ягоная характарыстыка творчасці паэта цалкам слушная. І мог, пэўна, абвінаваціць і камісію, і Ул. Дзяржынскага[3] ў нівеліроўцы сапраўднага аблічча “рэакцыйнага” літаратара.

Цікавым падаецца і той факт, што Л. Бэндэ палічыў патрэбным паведаміць: у баладзе “Всего строк 207, стр. 10”. У сувязі з гэтым варта падаць колькасць радкоў у творы паводле розных выданняў і рукапісаў.

| Выданне | Колькасць радкоў | Заўвагі |
|---|---|---|
| *Poezije* (1853) | 208 | Радок “Wić ksiądz Falkouśki kazau” тлумачыцца ў прыпісах наступным чынам: “Imię księdza Falkowskiego, sławnego misionarza i kaznodziei, tak się upowszechniło na Litwie i Białejrusi, że go lada chłopek jako wyrocznię cytuje. − Ci co jego naźwiska spamiętać nie mogą, a pamiętają jego nauki, w czasie ostatniego w Polsce Jubileuszu, zowią go nieraz księdzem Bileuszem; bo im się zdawało że to ksiądz tak się nazywał, a nie obchód”. Прыпіс пад баладаю: “RICHMOND-HILL, pod Londynem, 1853”. |
| *Niaczyścik: Wydanie drugie* | 207 | Адсутнічае радок “Praklatyj Moskouśkij Car!!!”. Радок “Wić ksiądz Falkouśki kazau” не тлумачыцца. Прыпіс пад баладаю: “1853”. |
| *Niaczyścik: Wydanie trzecie* | 207 | Адсутнічае радок “Praklatyj Moskouśkij Car!!!”. Радок “Wić ksiądz Falkouśki kazau” не тлумачыцца. Прыпіс пад баладаю: “1853”. |
| Сшытак са збораў П. Шэйна | 207 | Прыпіс пад баладаю: “Лондон, 1853”. |
| Зборнік С. Нясцюшкі-Буйніцкага | 209 | Балада пачынаецца радкамі з прысвячэння (паводле сшытка са збору П. Шэйна), але яны адасоблены ад асноўнага тэксту. Адсутнічае радок “Praklatyj Moskouśkij Car!!!”. Замест радка “Wić ksiądz Falkouśki kazau” выкарыстоўваецца радок “Wić ksiądz Bileusz kazaŭ”. Прыпіс пад баладаю: “Londyn 1853”. |
| *Хрыстаматыя* (1922) | 174 | Балада пачынаецца радкамі з прысвячэння (паводле сшытка са збору П. Шэйна). Адсутнічаюць радкі, у якіх характарызуецца жонка Мікіты, |

[1] *Выпісы з беларускае літаратуры: Часьць другая: Новы і найноўшы кругабегі*, Масква-Пецярбург 1923, с. 26–28.
[2] Ул. Дзяржынскі, *Выпісы з беларускае літаратуры XIX і XX ст.*, Менск 1926, с. 22–24.
[3] Усе яны, аднак, былі асуджаныя яшчэ ў 1931 г.

| | | |
|---|---|---|
| | | а таксама заключныя 8 радкоў і інш. Радок "Wić ksiądz Falkouški kazau" адсутнічае. |
| *Выпісы* (1923) | 205 | Балада пачынаецца радкамі з прысвячэння (паводле сшытка са збору П. Шэйна). Замест радка "Wić ksiądz Falkouški kazau" выкарыстоўваецца радок "Wić ksiądz Bileusz kazaŭ". |
| *Выпісы* (1926) | 203 | Балада пачынаецца радкамі з прысвячэння (паводле сшытка са збору П. Шэйна). Замест радка "Wić ksiądz Falkouški kazau" выкарыстоўваецца радок "Wić ksiądz Bileusz kazaŭ". |

Можна меркаваць, што С. Нясцюшка-Буйніцкі дзеля свайго зборніка перапісаў баладу А. Рыпінскага *Niaczyścik* з пэўнага рукапісу. Мажліва, гэта быў той самы сшытак са збораў П. Шэйна, але не выключаем, што існаваў іншы, падобны спіс лацінкаю. Спіс, які быў створаны аўтарам паводле друкаванага лонданскага выдання ўжо на Бацькаўшчыне. Вельмі верагодна, што С. Нясцюшка-Буйніцкі не меў друкаванага асобніка *Niaczyścika*, а ягоны прыпіс "ze zbioru Aleksandra Rypińskiego / wydana w Londynie w 3 tomach)" створаны на падставе даступнае яму інфармацыі пра А. Рыпінскага.

На гэтай жа, 18 старонцы блакнота Л. Бэндэ коратка анатаваў справы № 593 (*Записки 1879–80 года Копаця*[1], уч. Слуц. гимназии [нечыт.])[2] і № 627 (*Сказка Горох*, 24 записи произ. в Грод. губер.)[3].

Значна больш увагі даследчык надаў справе № 571[4]: у блакнот ён занатаваў прыпісы да верша *Стихи поздравительныя в день именин Г^жи^ Марии Яньшиной*, а пасля ў іншым сшытку – магчыма, у іншы час – цалкам перапісаў твор. Гэтая копія, разам з іншымі, перапісанымі з друкаваных выданняў XIX – пачатку XX ст., сёння захоўваецца ў справе "Бэндэ Лукаш Апанасавіч. Запісы народных і аўтарскіх песень, вершаў з перыядычных выданняў XIX ст. Блакноты, асобныя старонкі"[5]. Надрукаваны верш з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу ў чацвёртым томе *Даследаванняў і матэрыялаў* (2018, с. 295–298).

Зацікавілі гісторыка літаратуры таксама справы № 577 (там знаходзіўся літаратурны твор "*Пип завидливый*. Большая украинская легенда искуст. происхождения")[6] ды № 578 ("*Песня О восст. 1863 г.* на руском языке" і "*Ганка*: искус. стих."). Верш з апошняе справы ён перапісаў на наступнай старонцы блакнота:

---

[1] У трохтомніку П. Шэйна *Матеріалы для изученія быта и языка русскаго населенія Сѣверо-Западнаго края* (1887, 1893, 1902) даволі часта сустракаюцца тэксты, запісаныя Якубам Копацем, вучнем VIII класа Слуцкай гімназіі, у вёсцы Падлессе.

[2] Паводле вопісу: "593. 1879–1880. *Песни, сказки, легенды, пословицы, обряды*, *собранные Копацем. В переплете*. 130 лл.".

[3] Паводле вопісу: "627. *Сказка о горохе*. 49 лл.".

[4] Паводле вопісу: "570–580. *Сборники песен, собранных и записанных Е.Г. Дурново, Н.А. Иваницким, П.В. Шейном, А.Н. фон Геллером, И.И. Манжурой и др*. 1298 лл.".

[5] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 616, арк. 3–7.

[6] Відавочна, маецца на ўвазе вядомы твор *Цуда Божае: Поп і Кірык*.

Ганка
Ах ты Ганка моя Ганка,
Ты красотачка мая
Твое чорныя вочы
Пякуць смалюць як цяпло
Будишь спать ты перини[1]
На куте под вобразом,
Я тагды тябе покрыю
Сваім белым кажухом
Буду лапти табе плесци[2]
Белы ножки абувать
Калачи ты будишь есци[3]
Пива медам запивать
Дау бы я табе цалкавый
Каб на йгрыщи паскакаць
Купиўбы платок шауковый
Каб тябе пацаловать[4].

Пад тэкстам верша прыпис: "Борисов. уез. ученик уез. училища Рудольф Брес…" [прозвішча нечыт.].

Увагу Л. Бэндэ прыцягнула і справа № 130, якую ў блакноце ён запісаў пад тытулам *О повстании или мятеже 1863 г. расказ И.О. Карского*[5]. Побач з тытулам – пазнака даследчыка: "Любопытный документ. Снять копию"[6]. Тытул справы № 119 ён перапісаў больш дакладна: *Местные простонародные песни, думы и другие стихотворения крестьян района Козловичского народного училища, Костровичской волости, 2го мирового участка, Слонимского уезда, Гродненской губерни*, а з пазнакі можна даведацца, што гэта запісы "1890 года, Августа 14 дня д. Козловичи"; у рамку ўзятае прозвішча, магчыма, перапісчыка: "А. Гусак"[7].

У справе № 158 Л. Бэндэ выявіў даволі вялікае вершаванае апавяданне[8] – *Песнь составленная в 1867 г. крест. д. Козлович Семеном Рипинским по поводу воровских проделок, учиненных на винокуренном заводе им. Сынкович двумя рабочими из дер. Елки, за что, кк[9] им, так и другим рабочим, имение отказало в заработках на том заводе*.

---

[1] Спачатку было: *пярыни*.
[2] Спачатку было: *плести*.
[3] Спачатку было: *ести*.
[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 19.
[5] Паводле вопісу: "130. 1863 г. *О повстании или мятеже 1863 г.* Сообщено псаломщиком И.О. Карским. 10 лл.".
[6] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 20.
[7] Паводле вопісу: "119. *1890 г. Местные простонародные песни, думы, стихи крестьян Костровичской волости, Слонимского уезда, Гродненской губернии*. 131 лл.".
[8] Паводле вопісу: "158. *Песни хлыстов Калужской губернии*. 18 лл.". Відаць, нумар справы пададзены памылкова. Справы з матэрыяламі са Слонімскага павета – гэта №№ 116–123.
[9] Тут і далей скарачэнне, відаць, Л. Бэндэ – *как*.

У шесьдзесят седьмом гаду,
Аб’явілі[1] у нас вайну
Два Гулевіча*[1] – на усю
Сыньковичскую імперыю
    Наберались яны злосці,
    Начавалі усе ў каросці;
    Дажыдалі суботы,
    Нарабілі работы;
Захацелі выгоды
І палезлі на сходы...
Яны цяжка уздыхалі, –
Іх са сходаў паспіхалі!
    рабочіе услыхалі
    І да Моўши*[3] прыскакали: –
    Прабудзісь, Моўша, ў періні*[4].
    Бо там воры есць на рыні!*[5]
Моі вы – рабочіе,
Слугі найвярнейшые!
Не уважайце нічаго,
Не бойцеся нікаго!
    Есць у мяне стары Абрам*[6]
    Ен кажа*[7] “Я ніц не дам!”[2]
    Есць у мяне адзін Еля*[8]
    Ен то іх ўсіх памеле!
Не глядзеў Моўша на шабас[3]
Дай прыскочыў туды зараз;
Даў салдату адну ляпу[4]
І салдат той згубіў шляпу
    Яны два*[12] – голы, як бічі*[13],
    Уцякаюць у Хадзевічі*[15],
    Я ж убегу чрез Серакоўку*[16];
    Пападу я ў саму Елку*[17]
    І нажену сабе колку[5]!
За спирт да за гарелку –
Узбунтаваў я усю Елку;[6]

---

[1] Напісанне літараў ***і***, ***и*** ды ***ў*** Л. Бэндэ не тлумачыць.

[2] Збоку прыпіс: “Был верным слугою”.

[3] Шабас (ці шабат) у жыдоў і хрысціян – гэта субота, апошні дзень тыдня (ад захаду сонца ў пятніцу да захаду сонца ў суботу). Памятка, што ў сёмы дзень пасля заканчэння Тварэння Бог адпачываў.

[4] Спачатку – *плату*. Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 276: “ЛЯПЪ, отгл. слово, означающее 1. Стучаніе. *Ляпъ-ляпъ въ хвортку, а никого не чуць*. 2. Ударъ. *Ляпъ по щоцѣ*”.

[5] Наганю сабе колікі (боль у грудзях ці жываце).

[6] Збоку прыпіс: “Не солдат, но крестьян”.

Сабраў я тагды раду
І прывадзіў ў двор грамаду!
Мы*[19] затор*[20] усе зацерялі,
Яны (Гулевичы) на то пазіралі.
Ах, вы – гіцлі, каналупцы!*[22]
Есцека у нас тры купцы!
Зададуць яны вам перцу;
Будзе прыкренька на сэрцу!
Адзін купец у нас – Орко*[24],
Будзе ім (гулевічам + врагам)[1] на души горко!
Ходзіць па дзедзінцу Енкель*[26]
А судзіць іх за то Штэмфель!*[27]
Ім та штучка не ўдалася,
А нас разгажае[2] Бася*[29].
Моі вы – рабочіе,
Слугі найвернейшіе!
Не уважайце нічаго,
Небойціся нікаго!
Як прыедзе Ярошенько*[30],
Той асудзіць харашенько!
Ох, ты, салдатік палковой,
Пацераў ты шесць целковых!
Просіць салдат – гренадзера[3]
Да памоцы Пабудзея*[31];
І нашаму суду кончик,
А бунтуе Марцін Борчик*[32]!
Наша песня – да канца,
Нам па рюмачке вінца!
Вот, мы песенку спелі,
Мы яиницу з'елі;
Когда будзе весело,
То запросим усе село!

*[1] Один из них С. был салдат, а другой Л. крестьянин. *[3] Арендатор им. Сынкович. *[5] Рина[4] идущая из винокурни на двор. *[6] Надсмотрщик за волами. *[8] Елька, который был мукомолом, вернее, досмотрщиком муки в имении. *[10] Гулевичу. *[12] Гулевичи. *[13] Кк кнуты. * [15] дер., находящеяся 6½ вер. от Сынкович. *[16] Луг за священнической усадьбою и рощей. *[17] дер. наход. в 1 вер. от Сынкович. *[19] Все

[1] Тут тлумачэнне перапісчыка знаходзіцца ў сярэдзіне радка.
[2] Прыводзіць да згоды.
[3] Збоку прыпіс: "Салдат-гренадзер".
[4] Гл.: І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 276: "РИ́НА, ы, с. ж. (отъ Слав. Ри́нути). Желобъ или водяной мѣшокъ въ водяной мельницѣ, устраеваемый наклонно съ цѣлію дать стремительное паденіе водѣ на мельничное колесо. *Вынь за́стовку, пусци воду въ рину*".

винокур. рабочие. *[20] Приглашение на роботу[1]. *[22] Коноводы. такими словами ругали Сем. и Луку Гулевичей евреи. *[24] Корчмарь прожив. в д. Хадевичах. *[26] Слонимский [нечыт.] под третьим же купцом подразумевается сам арендатор Мовша. *[27] Прозвище акцизника. *[29] Жена арендатора Мовши. *[30] Акцизный управляющий. *[31] кр. дер. Козлович приглашенный солдатом С. Г., в качестве свидетеля. *[32] Свидетель из крестьян д. Елки[2].

Л. Бэндэ, аднак, не пазначыў, лацінкаю ці “кірыліцаю” быў пісаны арыгінал; няма таксама згадкі і пра тое, хто зрабіў прыпісы-каментары да верша, і чаму адзінаццаць з іх адсутнічае[3].

Пазнаёміўся гісторык літаратуры і са справай № 183[4], а выявіўшы там “вариант *Вось цяпер які люд стаў*”, ён анатуе, што запісаны тэкст мае “50 строк” і пачынаецца радкамі: “Цяпер людзей такіх многа // Што не помняць и на Бога”. Істотным для яго было і тое, адкуль паходзіць дадзены варыянт: “Записано в 1889 г. писарем Витунической[5] волости Александр Белынович и фельдшер Зенон Хауневич[6]. Витуничская волость Борисов. уезда”[7].

Са справай № 316[8], дзе захоўваўся рукапіс гутаркі *Сходка сельскіх обывателей*, Л. Бэндэ працаваў доўга: перапісаў увесь тэкст твора (194 радкі), занатаваў варыянты, якія падаў П. Шэйн, а таксама тыя прыпісы, што былі ў арыгінале. Яны падаюцца вельмі цікавымі. Так, адразу пасля тытула гутаркі чытаем: “С рукописи, написанной по белорусски польскими литерами. Владелец рукописи шляхтич из Слуцкого уезд. Минск. губ. (в скобках; рукой Шейна”[9]. Паводле рукапісу, магчыма, лепшага з дасланых яму варыянтаў П. Шэйн рыхтаваў тэкст гутаркі ці то да публікацыі, ці то дзеля свае навуковае працы.

Напрыканцы рукапісу, паведамляе Л. Бэндэ, маюцца яшчэ прыпісы шляхціца Ярмалінскага, а таксама тае асобы, што скапіравала рукапіс, відаць, транслітэраваўшы яго з лацінкі на грамадзянскае пісьмо: “В конце рукописи следующая приписка: «Slysząc jeszcze ras pierwszy takowy Wloscionski dyskurs ciekawy byłem spisac dla dalszego opowiedanie» 1863 rocu

---

[1] Хутчэй за ўсё перапісчык недакладна тлумачыць слова “затор”. Тут гаворка пра сусла – саладкаваты навар на муцэ і соладзе.

[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 21–24.

[3] У вёсцы Кастровічы Слонімскага павета жыў карэспандэнт П. Шэйна І.І. Аўсейц (И.И. Овсейц). Магчыма, гэта ён даслаў у Пецярбург запісаны і пракаментаваны ім верш мясцовага паэта. Гл.: СПФ АРАН, ф. 104, оп. 2, д. 151 [online] http://www.isaran.ru/bookreader/bookreader.php? guid=27AAEA2C-1400-44FA-B8C9-CBB105619F80&ida=2&kod=4#page/24/mode/1up [доступ: 06.09.2018].

[4] Паводле вопісу: “183. 1889 г. *Очерки народного творчества белорусов-крестьян Минской губернии, Борисовского уезда, Витуличской вол.*, собранные и написанные писарем Белковичем и фельдшером Лацкевичем. 29 лл.”.

[5] Правільна: *Витуничскай*. Сёння Вітунічы ўваходзяць у склад Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці.

[6] Прозвішчы перапісчыкаў Л. Бэндэ і В. Круцікава расчыталі па-рознаму.

[7] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 25.

[8] Паводле вопісу: “316. *Сходка сельских обывателей* (“с рукописи, написанной по белорусски польскими литерами”, с исправлениями и добавлениями П.В. Шейна. 16 лл.”.

[9] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 25.

Jarmolinski". С подлинной рукописи верно списал летом 1879 года воспитанник минской духовной семинарии Алек. Ральцевич. С. Микуличи"[1].

Маецца ў блакноце яшчэ адна кароткая інфармацыя: "Хранится два экземпляра: один переписан, а другой Ральцевича"[2].

Варта адзначыць, што ў дадзеным блакноце яшчэ будзе згадка пра гутарку *Сходка сельскіх обывателей*. Яе Л. Бэндэ выкарыстае і ў прадмове да публікацыі твора ў часопісе "Беларусь" (пад тытулам *Сход*[3]), і ў машынапісе гутаркі (захоўваецца ў БДАМЛіМ[4]): у справе №327[5] захоўваюцца два запісаныя карэспандэнтамі рукапісы гэтае гутаркі (пад тытулам *Приговор крестьян по открытии волости*; запись 1880 г. 11 июля), а таксама асобнік, перапісаны рукою П. Шэйна.

Цікавым можа быць і тое, што ў блакноце Л. Бэндэ выкарыстоўвае пры капіраванні гутаркі літары ***ў***, ***і*** ды ***и***, а вось у машынапісе літар ***ў*** ды ***и*** няма, хоць машынапіс падрыхтаваны на аснове запісу твора ў блакноце.

У справе № 598[6] Л. Бэндэ зацікавілі творы па-расейску. Ён занатоўвае: "*На кладбище из расказа белоруса Павлюка Цупа*. Большая, интересная, грамотная поэма. Подпис N Selwes. Дальше в том же сборнике *Из расказов Кондрата Кухоря*. Прекрасные стихи. Все на рус. языке. Писаны после 1861 г."[7].

Справу № 131[8] Л. Бэндэ анатаваў наступным чынам: "Легенда Ян-де-Кале и королева сообщ. И.О. Карским. Записана со слов 80 летнего старца Войтылы. На рус. языке"[9].

У справе № 775[10] ён выявіў "рецензии на труды Шейна. Особенно интер. отрывок из «Вит. губ. Вед.» № 33 за 1890 год, где расказы о народах [нечыт.] Шейном"[11].

У справе № 745[12], паводле анатацыі Л. Бэндэ, знаходзяцца "прошения к министрам"[13].

---

[1] *Ibidem*, а. 34.
[2] *Ibidem*.
[3] Л. Бэндэ, *Новыя мастацкія тэксты XIX стагоддзя*, "Беларусь" 1945, № 10, с. 18.
[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 998, а. 1–6.
[5] Паводле вопісу: "327. *Песни записанные в Минской губернии*. 496 лл.".
[6] Паводле вопісу: "598. *На кладбище. Из рассказа белорусса Павлюка Цупа*. 6 лл.".
[7] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[8] Паводле вопісу: "131. *Легенда Ян-де-Кале и королева, записанная со слов 80-летнего старца псаломщиком И.О. Карским*. 9 лл".
[9] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[10] Паводле вопісу: "775. *Материалы и заметки по русскому языку и народной поэзии*. Тетрадь. 21 лл.".
[11] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[12] Паводле вопісу: "745. *1867–1890, 1894. Черновики докладных записок, прошений П.В. Шейна на имя министра народного просвещения графа Делянова, попечителя Виленского учебного округа и др*. 19 лл.".
[13] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.

Справа № 672[1] анатаваная як “*Гутарка Данилы со Сцяпанам*. Копия напеч. в «Рус. старине» за 1886 г.”[2].

Справа № 758[3] – “*Дневник*. Много хороших зам. по языку и вообще <нечыт.> Шейна”[4].

Справа № 367[5] – “Варыянт верша *Сватанне*. Бадай што найбольш поўны. Ідзе под назв. *Казки*. зап. с. Игрушни Сен. у. Маг. губ.”[6].

Справа № 899[7] – “*Семинарские виршы*. на рус. с цер. сл. примесью любопытно”[8].

Справа № 900[9] – “Искуст. рус. стих. Очень интересные антиромант. и о Рюрике”[10].

Справа № 911[11] – “интер. выписи со сб. XVIII века”[12].

Справа № 934[13] – “ст. Ельского /учесть”[14].

Пасля гэтага запісу Л. Бэндэ занатаваў жартоўную песню са справы № 134[15] з наступнаю заўвагаю: “Пародия на одну из песней *Богогласника* (*Предвечный родился под леты*[16]):

Пред леты на пэчи родывся,
Пойіхав, на лёду вломывся,
И сокирку затопыў
И тобачку замочив
До крышки

Казав я у пэчи палиты,
Хотив я тобаку сушыты
И в пэчи не напалив
И чуприну опалиы
До крышки

[1] Паводле вопісу: “672. *Крепостнические песни*. 26 лл.”.
[2] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[3] Паводле вопісу: “758. *Дневник 1859 г. Выписки из сочинений, замечания о белорусском словаре Носовича, дополнения к Словарю Даля, запись новых книг и т. п.* В переплете. 85 лл.”.
[4] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[5] Паводле вопісу: “367. *Быт, обряды, поверья, сказки и проч. по Могилевской губернии*. 114+ 6 лл.”.
[6] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 35.
[7] Паводле вопісу: “899. *Семинарские вирши*. 4 лл.”.
[8] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 36.
[9] Паводле вопісу: “900. *Стихи на политические темы*. 19 лл.”. Было 23 аркушы.
[10] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 36.
[11] Паводле вопісу: “911. “*Чины на море разным великим и малым птицам*. *Из сборника XVIII в. хранящ. в Публ. Библиотеке. Извлечено А.Н. Майковым*. 1 лл.”.
[12] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 36.
[13] Паводле вопісу: “934. *Ельский Александр. Слово о материалах, служащих для исследования наречия, этнографии и литературы Белорусской. Газета „Chwila” январь №№ 17–23*. 13+1 лл.”.
[14] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 36.
[15] Паводле вопісу: “134. *Песни Гродненской губерни*. 180 лл.”.
[16] Відаць, маецца на ўвазе калядка, якая пачынаецца так: “Бог предвічний народився, // Прийшов днесь із небес, // Щоб спасти люд свій весь, // І утішився”.

Аж стали у пэчи палиты,
А потум пыроги садиты.
Я из пэчи высовав,
По одному даставав
Тай вси з'ев.

А вжэ мни пырогув нэ стало
Полиз я на гору по сало.
Я и сала нэ достав
З дробынкою з горы впав
Разбылся

Аж кажут: щось у синёх трусь-трусь,
А то я помалу з горы злиз.
Кличут мэнэ до хаты,
Я нэ хочу устаты
Розбывся.

"(Поется на напев песни *Богогласника*. Слышана в м. Каменец-Литовский Брестского у.). М.Ф."[1].

Фактычна апошняй для Л. Бэндэ з "фалькларыстычнай" часткі фонду стала справа № 327[2]. Яе даследчык анатаваў наступным чынам: "Стихи Слуц. уез. Минс. губ. Стих что у Носовича [нечыт.] *Рабункі мужыкоў*, *Сходка сель. обыват*. под назван. *Приговор крестьян по открытии волости*, Запись 1880 11 июля. Тут же *Гут. Данилы со Сцяпаном*. Еще раз *Сходка сель. обыв*. рук. Шейна. *Пречистая сярод ночы*. Запись в [нечыт.] уч. V кл. Минск. дух. семин. Влад. Григор. [нечыт.]"[3].

Наступныя дзве справы, анатаваныя ў блакноце Л. Бэндэ, – гэта ўжо матэрыялы другое (*Письма*) часткі фонду П. Шэйна. З допісаў амаль трох соцень карэспандэнтаў пецярбургскага навукоўца Л. Бэндэ анатаваў толькі Яўхіма Карскага ("№ 81[4]. Письмо Е. Карского о том, что отказывается от предложения написать *Введение к* [нечыт.], датировано «1 ноября», а таксама Янкі Лучыны ("№ 275[5]. Письмо Ив. Неслуховского. Дат. «10 октября 1887 г. Минск»". Апрача таго, ліст Я. Лучыны ён перапісаў[6].

На апошніх старонках блакнота Л. Бэндэ занатаваў верш са справы № 327 *Радость и занятие крестьян во время Рождества Христова*[7].

---

[1] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 36–36 v.
[2] Паводле вопісу: "327. *Песни записанные в Минской губернии*. 496 лл.".
[3] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 37.
[4] Паводле вопісу: "81. 1887–1899. *Карский Ефимий Федорович, акад*. 22 п. 33 лл.".
[5] Паводле вопісу: "275. *1887. X.10. Неслуховский Ян /псевдоним Я. Лучина/ белорусский поэт*. Минск. 1 п. 2 лл.".
[6] БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, адз. зах. 563, а. 37, 38–38 v.
[7] *Ibidem*, а. 39–40 v.

Такім чынам, Л. Бэндэ выявіў у архіўных матэрыялах П. Шэйна не менш за шаснаццаць літаратурных твораў. Пададзім іх тытулы разам з нумарамі спраў у наступнай табліцы.

| №№ | Тытул твора | №№ спраў |
|---|---|---|
| 1 | *Воскресение Христа (Воскресение Христово, Пречистая сярод ночы)* | 587, 327 |
| 2 | *Сватовство* | 587, 367 |
| 3 | *Тарас Полесовщик, Тарас на Парнасе* | 587, 590 |
| 4 | *Что делал Эол...* | 587 |
| 5 | *Бедность (весна голод)* | 587 |
| 6 | *Гутарка Данилы к Степану* | 656, 672, 327 |
| 7 | *Гуторка Кондрата до свайго брата* | 656 |
| 8 | *Нячи́сьцик* | 655 |
| 9 | *Стихи поздравительныя в день имянин Гжи Марии Яньшиной* | 571 |
| 10 | *Пип завидливый* | 577 |
| 11 | *Ганка* | 578 |
| 12 | *У шесьдзесят седьмом гаду...* | 158 |
| 13 | *Вось цяпер які люд стаў...* | 183 |
| 14 | *Сходка сельскіх обывателей (Приговор крестьян по открытии волости)* | 316, 327 |
| 15 | *Пред леты на пэчи родывся...* | 134 |
| 16 | *Радость и занятие крестьян...* | 327 |

З выяўленых твораў Л. Бэндэ апублікаваў толькі адзін – гутарку *Сходка сельскіх обывателей*. Варыянты дзевяці іншых былі ўжо на той час апублікаваныя: *Воскресение Христово*, *Тарас на Парнасе*, *Что делал Эол...* (*Энеіда навыварат*), *Бедность* (*Вясна, голад, перапала*) *Гутарка Данилы к Степану, Нячи́сьцик, Пип завидливый, Вось цяпер які люд стаў, Радость и занятие крестьян...* (як частка *Рабункаў мужыкоў* Яна Баршчэўскага). Вядома, рукапісы дадзеных твораў да сённяшняга дня з'яўляюцца вельмі цікавымі дзеля тэксталагічных даследаванняў. Якраз сам Л. Бэндэ займаўся падобным: аналізаваў варыянты паэмы *Тарас на Парнасе*. Тэксты двух з выяўленых Л. Бэндэ ў архіве П. Шэйна твораў застаюцца невядомымі – *Сватовство* і *Гуторка Кондрата до своего брата*. І калі пра першы яшчэ можна падумаць, што гэта апублікаваная пазней Еўдакімам Раманавым *Женитьба Сопрона* (аніякіх аргументаў, што пацвярджаюць дадзеную гіпотэзу, мы не маем), то тытул другога не выклікае аніякіх асацыяцый з вядомымі гутаркамі, хоць ён часам згадваўся беларускімі літаратуразнаўцамі[1]. І, нарэшце, астатнія чатыры творы, дзякуючы таму, што былі перапісаныя даследчыкам, сёння ўзноўлены паводле ягонага блакнота. Што, аднак, не здымае праблемы сённяшняга выяўлення гэтых (і, магчыма, іншых) твораў у архіўных матэрыялах П. Шэйна дзеля больш поўнага адлюстравання гісторыі беларускае пісьменнасці мінулага.

[1] Гл., напр., І. Саверчанка, *Беларуская літаратура XI – XIX стст.: гістарычныя і тэарэтычныя аспекты вывучэння* [у:] *Беларуская пісьмовая спадчына ў кантэксце еўрапейскага культурна-гістарычнага працэсу XI – XIX стагоддзяў: вытокі, традыцыі, уплывы*, Мінск 2010, с. 7.

# Летапісец Вязынкі і яе наваколля

З творчасцю Станіслава Замбжыцкага беларускага чытача спрабаваў пазнаёміў Генадзь Каханоўскі: выявіўшы *Гутарку Сталюка*, навуковец некалькі разоў у сваіх публікацыях[1] імкнуўся давесці значнасць і каштоўнасць дадзенага тэксту для гісторыі беларускае літаратуры XIX стагоддзя. Ён бачыў беларускамоўную гутарку С. Замбжыцкага як працяг ("у манеры беларускай традыцыі") шэрагу тых сямнаццаці гэтага жанру твораў, якія згадваліся ў акадэмічнай *Гісторыі беларускай дакастрычніцкай літаратуры* (1969). Дзеля гэтага Г. Каханоўскі нават дазволіў сабе – у адпаведнасці з тагачаснымі ўстаноўкамі – адметную інтэрпрэтацыю ідэйнага зместу *Гутаркі Сталюка*, твора, у якім "паказаны старасвецкія тыпы фанабэрыстай шляхты: Амодзібур, «што паганай быў натуры», Вінцэнты, які гатоў на кавалкі драць кухмістра, што той па-сялянску называў яго «Вінцуком». Шляхцюкі, каб хоць чым-небудзь падкрэсліць сваю «высокаць», стараюцца гаворыць па-польску, «модзяцца» адзін перад адным у манеры абыходжання, і ўсё гэта выглядае недарэчна і смешна"[2].

Г. Каханоўскі не паведаміў, дзе і як быў выяўлены твор. Але ягоная спасылка на Веру Тарашкевіч-Ніжанкоўскую (1901–1998), а пасля і на ўнучак С. Замбжыцкага Марыю Ай і Алімпію Свіневіч[3], дазваляе меркаваць, што паходзіць рукапіс, які "займае адзінаццаць старонак вучнёўскага сшытка", з хатняга архіва нашчадкаў паэта з Вязынкі.

Даследчыку, аднак, не ўдалося "пераканаць" навукоўцаў і рэдактараў у неабходнасці надрукаваць *Гутарку Сталюка*. Нават складальнікі другога выдання хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (1988) не зацікавіліся тэкстам С. Замбжыцкага. Таму толькі ў публікацыях пра месца нараджэння Янкі Купалы згадвалася прозвішча паэта[4], а ягоны вялікі (200 радкоў) літаратурны твор па-беларуску нібыта загінуў: яго пасля смерці Г. Каханоўскага доўгі час не ўдавалася адшукаць[5].

---

[1] Г. Каханоўскі, *Аўтар знайшоўся!*, "Літаратура і мастацтва" 1979, № 5 (2 лют.); Ён самы, *Вяршаваны твор XIX стагоддзя*, "Голас Радзімы" 1979, № 17 (26 крас.); Ён самы, *Каля замшэлага валуна* [у:] Ён самы, *Адчыніся, таямніца часу: Гісторыка-літаратурныя нарысы*, Мінск 1984, с. 99–102; Ён самы, *Замбжыцкі Станіслаў Валянцінавіч* [у:] *Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі ў 5 тамах*, т. 2, Мінск 1985, с. 482; Ён самы, *Замбжыцкі Станіслаў Валянцінавіч* [у:] *Янка Купала: Энцыклапедычны даведнік*, Мінск 1986, с. 239.

[2] Г. Каханоўскі, *Аўтар знайшоўся!*, "Літаратура і мастацтва" 1979, № 5 (2 лют.).

[3] Так у Г. Каханоўскага і ў шэрагу іншых беларускамоўных публікацый. Трэба: *Свяневіч*.

[4] Гл.: М. Дзяшкевіч, *Ад вытокаў радаводных…* "Полымя" 1971, № 10, с. 192–193; *Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы*, уклад. Г. Кісялёва, Мінск 1981, с. 43, 46.

[5] Актыўна займаўся гэтаю справаю ў апошнія гады Вячаслаў Мартысюк. Гл.: В. Мартысюк,

І толькі пасля публікацыі кнігі ўспамінаў Яна Замбжыцкага *Szmat czasu*, выдадзенай у Варшаве ў 2004 г.[1], з'явіліся новыя і пэўныя інфармацыі пра *Гутарку Сталюка*: праўнук паэта называе яе сярод пяці твораў – *Sąd kota w Wojtelach*, *Karty*, *Kolęda*, *Hutarka Staluka* і *List do Pana Antoniego Bohdanowicza*. Праўда, у дадатку да ўспамінаў надрукаваныя былі толькі першыя дзве[2].

У 2010 г. прафесар Ніна Тэйлар-Тарлецкая, выкладчыца польскае літаратуры ў Оксфардскім універсітэце, пазнаёміла беларускага чытача з навуковымі працамі Алімпіі Свяневіч (1902–1974)[3], унучкі Станіслава Замбжыцкага. Карыстаючыся матэрыяламі асабістага архіва Алімпіі, Н. Тэйлар-Тарлецкая падала таксама асобныя дэталі вязынкаўскага жыцця Замбжыцкіх як з XIX ст., так і першае паловы з XX ст.[4]

Згадалі С. Замбжыцкага[5] і ягоны беларускамоўны твор аўтары-складальнікі "краязнаўчага даведніка" *Літаратурныя мясціны Беларусі* Дзмітрый Крывашэй і Адам Мальдзіс: у слоўнікавым артыкуле пра вёску Вязынка на падставе публікацый Г. Каханоўскага коратка характарызуецца "беларускі паэт і краязнаўца", сцвярджаецца, што "захавалася вершаванае апавяданне *Гутарка Сталюка*", а таксама паведамляецца, што "сядзіба Замбржыцкіх знішчана ў 1950-я гг."[6].

Яшчэ больш шырока пра Вязынку С. Замбжыцкага і Янкі Купалы апавядаецца ў нарысе Яўгена Салаўёва[7]. Аўтар, вельмі верагодна, выкарыстаў публікацыю Н. Тэйлар-Тарлецкае.

У тым жа 2012 г. з'явілася яшчэ адна публікацыя, з якой вынікала, што

---

Гутарка Паўлюка і вяселле Баўтрука: *крыніцы тэксту, пытанні атрыбуцыі*, "Acta Albaruthenica" 2017, t. 17, s. 341–342.

[1] У 2010 г. выйшла другое выданне кнігі: J. Zambrzycki, *Szmat czasu: wspomnienia*, Warszawa 2010, 286 s.

[2] Польскамоўныя, але з беларускамоўнымі ўстаўкамі.

[3] У дзяцінстве жыла ў Вязынцы. Вывучала геаграфію ў Віленскім універсітэце, выхоўвала чатырох дзяцей, працавала настаўніцай. Пасля вайны была сведкай кантактаў Уладзіславы Луцэвіч у Вязынцы з Юзафам Замбжыцкім. У 1946 г. выехала ў Польшчу, а ў 1957 г. – на Захад, дзе далучылася да мужа Станіслава Свяневіча (1899–1997), вядомага эканаміста. У эміграцыйных выданнях друкавала працы пра беларускія абрады (*Pogrzeby, stypy i dziady we wsi Sieledczyki*, „Rocznik Polskiego Towarzystwa Naukowego na Obczyźnie" 1959–1960, t. X, s. 80–86; *Dziady białoruskie*, „Rocznik Polskiego Towarzystwa Naukowego na Obczyźnie" 1960–1961, t. XI, s. 87–91; *Interpretacja „Dziadów" Mickiewiczowskich na podstawie folkloru białoruskiego*, „Roczniku Polskiego Towarzystwa Naukowego na Obczyźnie" 1970–1971, t. XXI) і інш. Перапісвалася са Станіславам Пігонем па пытаннях уплываў беларускіх абрадаў і фальклору на *Дзяды* Адама Міцкевіча (гл.: O. Swianiewiczowa, *Spór o ludowy pierwowzór* Dziadów, "Wiadomości" 1974, nr 22, s. 1). Напісала каментар і заўвагі да вершаў Станіслава Замбжыцкага.

[4] Н. Тэйлар-Тарлецка, *Пранікненне ці сімбіёз культур? Двор Замбжыцкіх у Вязыні* [у:] *Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы: (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы)*, Мінск 2010, с. 197–202.

[5] Прозвішча тут, як і ў шмат якіх іншых публікацыях падаецца як "Замбржыцкі".

[6] Дз. Крывашэй, А. Мальдзіс, *Літаратурныя мясціны Беларусі*, "Маладосць" 2011, № 1, с. 144.

[7] Я. Салаўёў, *Арарат Яся Луцэвіча*, "Народная Воля" 2012, № 75–76 (15 мая).

беларускамоўная гутарка захавалася ў сямейным архіве нашчадкаў С. Замбжыцкага: на арганізаваную 29 мая 2012 г. Кафедрай беларускай культуры Універсітэта ў Беластоку сустрэчу, прысвечаную мясцінам Янкі Купалы, прыехалі праўнукі паэта з ХІХ стагоддзя Марыя Сvяневіч-Нагенць[1] і Ежы Свяневіч[2]. Якраз з вуснаў пані Марыі пачулі прысутныя *Гутарку Сталюка*[3].

Біяграфічныя дадзеныя пра С. Замбжыцкага, якія падаюцца ў большасці беларускіх публікацый, паходзяць з вусных пераказаў асобаў, што кантактавалі з асобнымі прадстаўнікамі роду – Алімпіяй Свяневіч і Марыяй Ай. Гэтыя дадзеныя крыху адрозніваюцца ад гісторыі сям'і, напісанай Янам Замбжыцкім[4], які карыстаўся як "notatkami", што, відавочна, дасталіся яму ад бацькі – Эўгеніюша Замбжыцкага (1893–1967), так і інфармацыяй, якую ў пісьмовай форме атрымала ад свае маці Алімпіі Марыя Свяневіч-Нагенць.

Паводле Я. Замбжыцкага, продкі Станіслава паходзілі з Мазоўша (маёнтак Замбжыцы ля Ломжы). У XVI ці XVII ст. яны ўжо мелі маёнткі ля Воршы. Сын аршанскага суддзі Юзафа Замбжыцкага Валенты (1794 – пасля 1836) набыў (магчыма, не сам, а бацька ці апякун) за сем тысяч злотых у 1807 г. у графа Пшаздзецкага[5] маёнтак пад Радашковічамі, які пазней атрымаў назву Вязынь (знаходзіўся ля ракі Вязынка). Да маёнтку належалі фальварак Крыніца (250 га), а таксама вёскі Гурнавічы (320 га), Сяледчыкі і Ліпяні[6]. Валенты ажаніўся з Юзэфаю Ясенскаю; яны абое памерлі ў маладым яшчэ веку, пакінуўшы сіротамі сына Станіслава і дачку Валянціну. Звычайна падаваўся 1831 г. як год смерці Валентыя, але ў апошні час стаў вядомы дакумент, датаваны кастрычнікам 1836 г., у якім пан Вязыня дае дазвол сваім сялянам "weyść w ślubne związki". А г. зн. Валенты памёр пасля

[1] Марыя Свяневіч-Нагенць (нар. 1928 г.) – прафесар Аграрна-тэхнічнае акадэміі ў Ольштыне, а таксама прарэктар гэтае навучальнае ўстановы.

[2] Піянер польскай інфарматыкі Ежы Свяневіч (1.04.1932– 13.11.2012) вывучаў матэматыку ў Варшаўскім універсітэце, працаваў у Акадэміі навук, а з 1989 г. – у Нацыянальнай бібліятэцы. Гл.: E. Poleszak, *Wspomnienie o śp. Jerzym Swianiewiczu*, "Fides: Biuletyn Bibliotek Kościelnych 2013, nr 1(36), s. 206–208.

[3] Г. Кандрацюк, *Чаму Купала не наведваў Вязынкі?*, "Ніва" 2012, № 25 (17 чэрв.).

[4] Ян Замбжыцкі (нар. 1933) – выпускнік Варшаўскай палітэхнікі (1956).

[5] Графскі тытул Пшаздзецкія атрымалі ў 1843 г. Верагодна, маёнтак належаў аднаму з сыноў пісара вялікага літоўскага Міхала Пшаздзецкага (1747–1799) Каралю Дамініку (1782–1832) ці Канстанціну, якія былі ў войску Напалеона. Паводле Міколы Дзяшкевіча (1947–1971), у 1815 г. эксдывізарскі суд падзяліў уладанні Пшаздзецкіх паміж крэдытораў. Асобныя з іх (у тым ліку Заслаўе) купіў падкаморы ігуменскі Міхал Прушынскі. Гл. архіўную справу ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі ў Мінску (ф. 319, воп. 2, спр. 1132, л. 158).

[6] М. Дзяшкевіч выявіў у ЦДГА СССР у Ленінградзе (цяпер – РДГА у Санкт-Пецярбурзе, ф. 1350, воп. 312, арк. 28) *Экономическое камеральное примечание Минской губернии*, дзе пра гэтую мясцовасць, якая тады належала непаўнагадоваму Міхалу Пшадзецкаму, гаворыцца: "У Сяледчыках – уніяцкая капліца. Драўляная. У імя «рождества пресвятое Багародицы». Ліпяні стаяць на сухадоле, пры калодзежах. Сяледчыкі і Гурнавічы – на беразе рэчкі Вязынкі. У Гурнавічах – млын <…> Рэчка Вязынка шырынёй бывае ў самы сухі час ад 1 да 3 сажняў, глыбінёю ад ¼ да 1 аршына". Гл.: М. Дзяшкевіч, *Ад вытокаў родных...*, "Полымя" 1971, № 10, с. 192.

1836 г. Зрэшты, Станіслаў і ў 1836 г. заставаўся непаўнагадовым, нават калі лічыць, што ён нарадзіўся ў 1823 ці 1824 г., не кажучы ўжо пра яшчэ адну дату, якая сустракаецца ў публікацыях, – 1826 г.

Прыкладна ў 1850–1855 гг. Станіслаў ажаніўся з Алімпіяй Чакатоўскаю (1834–1902). Маёнтак ягоны ў гэты час зменшыўся, бо Гурнавічы ён аддаў як пасаг сястры Валянціне, што ішла замуж за Раманоўскага[1].

Дазволім сабе на хвілінку адступіцца ад жыццяпісу паэта з Вязыня і прыгледзецца той мясціне, дзе ён жыў. У нашым уяўленні Вязынка – гэта вёска (мясцовасць), дзе калісь нарадзіўся Янка Купала, а сёння знаходзіцца хата-музей класіка беларускае літаратуры.

У зборніку Г. Кісялёва *Пуцявінамі Янкі Купалы* апублікавана метрыка класіка беларускае літаратуры. З яе мы даведваемся, што паэт быў ахрышчаны “тысяча восемсот восемдзесят второго года июля двенадцатого дня в Радошковичском р[имско-]к[атолическом] приходском костеле <…> кс. Станиславом Сульжинским, вилейским деканом”, што нарадзіўся ён “25 июня сего года ***в имении Вязынке*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*)”, што “восприемниками были Иосиф Банцаревич с Олимпиею Замбржицкою”[2]. Даследчыкі звярнулі ўвагу, што хрысціць будучага паэта вазілі ў суседні павет (Вілейскі) суседняе губерні (Віленскае), а хроснаю маці была жонка ўладальніка маёнтка, дзе ў 1881–1883 гг. бацька Янкі Купалы Дамінік Луцэвіч і ягоныя браты Антон, Юльян, Міхал, Адам ды сёстры Марыя, Эмілія і Садалія былі арандатарамі.

Маёнтак Станіслава Замбжыцкага быў дастаткова вялікі: да сялянскай рэформы 1860-х гг. ён налічваў больш за 500 дзесяцін зямлі (прыдатнай, непрыдатнай і лесу). Пазней у сувязі з выкупам зямлі сялянамі ён скараціўся напалову[3]. Зямлю гаспадар аддаваў у арэнду г. зв. “палавічнікам” (уладальнік атрымліваў палову ўраджаю), якія жылі ў фальварках пры маёнтку.

---

[1] Крыху інакш пра падзел маёнтка паміж Замбжыцкімі апавядаў на падставе матэрыялаў ЦДГА БССР (цяпер – НГАБ у Мінску, ф. 147, воп. 3, спр. 1232) М. Дзяшкевіч: “Валенты памёр у канцы 1847 года. А ў сакавіку 1848 г. нашчадкі яго, Станіслаў і Валянціна, якая на гэты час была замужам за калежскім сакратарам Раманоўскім, першы раз падзялілі між сабой Вязынку. Паводле гэтага падзелу Вязынка, Ліпяні, Сяледчыкі і Гурнавічы дасталіся на долю Станіслава. Затое Валянціна павінна была атрымаць ад Станіслава 5000 рублёў серабром. Праўда, пасля таго, як Станіслаў верне бацькаў доўг Мінскаму прыказу. Наступны падзел адбыўся ў 1855 годзе. Дзялілі натурай: Станіславу – Вязынка, Ліпяні і 9 двароў Сяледчыкаў, а Валянціне – Гурнавічы – і два двары Сяледчыкаў <…> Бацькаў доўг няхай выплачвае кожны з нашчадкаў, у залежнасці ад колькасці сялян, што дасталіся ім. Паколькі Валянціне дасталося больш, чым завяшчаў бацька, яна абяцала штогод, 11 красавіка, з гурнавіцкіх прыбыткаў выплачваць брату па 100 рублёў серабром”. Гл.: М. Дзяшкевіч, *Ад вытокаў родных…*, “Полымя” 1971, № 10, с. 192.

[2] *Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы*, уклад. Г. Кісялёва, Мінск 1981, с. 45.

[3] М. Дзяшкевіч, спасылаючыся на матэрыялы ЦДГА СССР у Ленінградзе (цяпер – РДГА у Санкт-Пецярбурзе, ф. 577, воп. 18, спра. 661), сцвярджае, што сяляне “пасля рэформы 1861 года <…> павінны былі выкупіць зямлю ў Замбжыцкіх. 187 дзесяцін на 15 сялянскіх двароў. За 1879 рублёў 37 з паловай капеек”. Гл.: М. Дзяшкевіч, *Ад вытокаў родных…*, “Полымя” 1971, № 10, с. 192. Г. Кісялёў, карыстаючыся матэрыяламі іншага архіва (НГАБ у Мінску, ф. 333, воп. 2, спр. 84 і 88 і ф. 242, воп. 2, спр. 334), піша, што ў 1861 г.

Вядома, што на пачатку XX ст. дзве сям'і арандатараў жылі ў самім маёнтку, адна – у фальварку Крыніца, чатыры – у фальварку Ліпяні і, магчыма, чатыры – у фальварку Вязынь.

Дзе жылі Луцэвічы ў маёнтку Вязынка? Мы звярнулі ўвагу, што ў пасямейным спісе Луцэвічаў за 1883 г. іх месцажыхарства і заняткі акрэсліваюцца наступным чынам: "2-го стана Минск[ого] у[езда] в ф[ольварке] Вязынка Замбржицкого хлебопаш[еством]"[1].

Ці варта адрозніваць фальварак Вязынка і маёнтак Вязынка ў Заслаўскай воласці[2]? Дзе ўласна знаходзіўся маёнтак (г. зн. гаспадарскі дом-пакоі) у 1870–1880-я гг.? Звернем увагу, што толькі ў XX ст. з'явіцца на картах найменне "Вязынка" ў звыклым для нас месцы. Прычым, – менавіта двор Вязынка (а не фальварак). У XIX ст. тут размяшчаўся фальварак Крыніца (якраз дзе сёння знаходзіцца музей Янкі Купалы). Так, перадусім, на *Военно-топографической картѣ Минской губерніи 1850 г.*: фальварак Крыніца прытуліўся паміж вёскамі Ліпяні і Сяледчыкі[3].

Тое самае зафіксаваў і Аляксандар Ельскі, калі апісваў рэчку Вязынка: "В[язынка], ці Вязонка, рэчка, у Мінскім і Вілейскім пав[етах], левы прыток Гуйкі. Пачынаецца ў паў[ночна]-зах[однім] баку Мінскага пав[ета], на ўзгорыстай ваколіцы за вёскаю Шчукі (воласць Заслаўе), імклівa плыве на паў[ночны] зах[ад] да в[ёскі] Ліпяні, тут, узмоцненая крыніцаю Ліпянёўка, паварочвае яшчэ больш на паў[ночны] зах[ад] да фаль[варка] Крыніца (млын) і в[ёскі] Сяледчыкі; за вёскаю Верамейкі[4] (млын) уваходзіць у Вілейскі пав[ет], плыве ля вёскі Павязы і за вёскаю Волкі [трэба: Валокі. – *М. Х.*] насупраць Радашковіч мае вусце. Даўжыня блізу 2 міль"[5].

А вось фальварак Вязынка, ці Вязынь, на картах XIX ст. нязменна паказваўся, здаецца, у крыху іншым месцы – блізу гасцінца з Заслаўля ў Ракаў. Усё той жа А. Ельскі ў *Геаграфічным слоўніку* падае наступную інфармацыю: "В[язынка], ці Вязынь, фальв[арак], Мінскі пав[ет], у 1 пал[іцэйскім] ст[ане] Ракаў (за 9 в[ёрст]), дзе кат[аліцкая] пар[афія] і паш[товая] ст[анцыя], вол[асць] Заслаўе, за 30 в[ёрст] ад Мінска. Досыць даўняя ўласнасць Замбжыцкіх, 320 дзес[яцін]; мясцовасць узгорыстая, даволі лясістая, глебы пясчана-глiністыя"[6].

Варта параўнаць апісанне А. Ельскім Вязынкі з апісаннямі вёскі Сяледчыкі: "Сяледчыкі, в[ёска] ля р[эчкі] Вязонка, Мінскі пав[ет], у 2 ракаўскім

---

волю атрымалі 58 асобаў мужчынскага полу з вёсак Сяледчыкі і Ліпяні, якія атрымалі ў надзел блізу 240 дзесяцін зямлі. Гл.: *Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы*, уклад. Г. Кісялёва, Мінск 1981, с. 46.

[1] *Пуцявінамі Янкі Купалы: Дакументы і матэрыялы*, уклад. Г. Кісялёва, Мінск 1981, с. 43.

[2] У Мінскім павеце вёска Вязынка мелася яшчэ ў Самахвалавіцкай воласці.

[3] Тое самае на карце сярэдзіны 1870-х гг.: чыгунка ідзе побач з фальваркам Крыніца.

[4] Чамусьці вёска Гурнавічы тут не згадваецца.

[5] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XIII, Warszawa 1893, s. 277.

[6] *Ibidem*.

пал[іцэйскім] ст[ане], вол[асць] Заслаўе, за 4 в[ярсты] ад ст[анцыі] Радашковічы Лібава-Роменскай чыгункі, мае 43 двары; глеба пясчаная"[1] і вёскі Ліпяні: "Ліпяні, в[ёска] ў паўночна-зах[однім] баку Мінскага пав[ету], ля р[эчкі] Вязынка, блізу самай Лібава-Роменскай чыг[ункі], 3 в[ярсты] ад ст[анцыі] Радашковічы, у Ракаўскім пал[іцэйскім] ст[ане], мае блізу 20 двароў"[2].

Хіба, не належыць звяртаць увагу на фактычныя памылкі: у Мінскім павеце было тры паліцэйскія станы, а Ракаўскі заўсёды лічаўся другім. Найважнейшае тое, што Вязынку Замбжыцкіх А. Ельскі "прывязвае" ў вёрстах да мястэчка Ракава, а вёскі Сяледчыкі і Ліпяні – да станцыі Радашковічы. Думаецца, каб Вязынка у той час размяшчалася ля чыгункі і ля рэчкі Вязынка, то гэта было б адлюстравана А. Ельскім у апісанні.

Дык ці азначае гэта, што фальварак Вязынка (Вязынь) Замбжыцкіх знаходзіўся блізу гасцінца з Заслаўя ў Ракаў, непадалёку ад вёсак Меткава, Заблоцкаўшчына, Шубнікі і Чарняўшчына? Відаць, так. Гэта можа пасведчыць апісанне вёсак Шубнікі і Меткава у *Геаграфічным слоўніку*: "Шубнікі, засц[енак] ля безым[еннага] правага прытоку Свіслачы, Мінскі пав[ет], у 2 Ракаўскім пал[іцэйскім] ст[ане], вол[асць] Заслаўе, блізу гасцінца з Заслаўя ў Ракаў, мае 7 двароў, 9 валок; у мясцовасці ўзгорыстай, глебы пясчаныя. Уласнасць Вярбіцкіх"[3] і"Меткава, в[ёска] ля безым[еннага] прытоку Свіслачы, Мінскі пав[ет], у Ракаўскім пал[іцэйскім] ст[ане], некалькі вёрст на поўн[ач] ад фальв[арка] Борздынь, у мясцовасці вельмі ўзгорыстай, маляўністай. Некалькі двароў, глеба пясчаная, камяністая"[4].

Нашае дапушчэнне пра тое, што ў XIX ст. фальварак Вязынка (Вязынь) знаходзіўся не ля рэчкі Вязынка, а ў іншым месцы, у пэўнай ступені пацвярджаецца *Алфавитнымъ спискомъ населенныхъ мѣстъ Минской губерніи*[5]. Гэты даведнік, апрача згаданых намі фальваркаў Вязынка (Вязынь) і Крыніца, а таксама вёсак Сяледчыкі і Ліпяні называе яшчэ і маёнтак Вязынка, які знаходзіцца побач з названымі вёскамі, а таксама фальваркам Крыніцаю і ўсе яны "прывязваюцца" ў вёрстах да станцыі Радашковічы. А вось фальварак Вязынь, як і засценак Шубнікі ды вёскі Чарняўшчына і Заблоцкаўшчына "прывязаны" да станцыі Заслаўе. Праілюструем сказанае табліцамі, падаючы толькі найбольш важныя "графы", са змешчаных у кнізе.

---

[1] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. X, Warszawa 1889, s. 532.

[2] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. V, Warszawa 1884, s. 260.

[3] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XII, Warszawa 1892, s. 65.

[4] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. VI, Warszawa 1885, s. 363.

[5] *Алфавитный списокъ населенныхъ мѣстъ Минской губерніи*, сост. В.С. Ярмоловичъ, Минскъ 1909.

| Названиіе мѣстечекъ, селъ, деревень и проч. населенныхъ пунктовъ | Названіе ближайшей жел.-дор. станціи и разстояніе до нея въ верст. отъ населеннаго пункта | Названіе ближайшего почт. учрежденія (адресъ для писемъ) и разстояніе до него въ верстахъ отъ насел. пункта | Названіе ближайшего почт.-телегр. учрежд. (адресъ для телеграммъ) и разстояніе до него въ верст. отъ насел. пункта | Число жителей обоего пола | Разстояніе въ верстахъ отъ | Число дворовъ въ населен. пунктѣ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вязынка, имѣніе | Радошковичи, ЛРжд. 2 | Заславль 10 | Радошковичи 2 | 23 | 30 | 3 |
| Криница, фольвар. | Радошковичи, ЛРжд. 3 | Заславль 9 | Радошковичи 3 | 6 | 31 | 1 |
| Липенево, фольварк. | Радошковичи, ЛРжд. 1 | Заславль 7 | Радошковичи 1 | 21 | 31 | 4 |
| Липени, деревня | Радошковичи, ЛРжд. 1 | Заславль 7 | Радошковичи 1 | 123 | 31 | 20 |
| Радошковичи, поселокъ и ст. ЛРжд. | Радошковичи, ЛРжд. 0 | Заславль 8 | Радошковичи 0 | 117 | 28 | 22 |
| Селедчики, деревня | Радошковичи, ЛРжд. 5 | Заславль 9 | Радошковичи 5 | 205 | 33 | 27 |

Як бачна з гэтае табліцы, напачатку XX ст. паміж вёскаю Ліпяні і фальваркам Крыніца "з'явіўся" маёнтак Вязынка. Прычым, і колькасцю будынкаў і колькасцю людзей, што жылі ў іх, ён пераўзыходзіў "статыстыку" фальварка Крыніца, які ў хуткім часе будзе, відаць, далучаны да маёнтка. Перадусім, на карце Wojskowego Instytutu Geograficznego (Warszawa 1929) (апрацаваная ў 1922–1924 гг.) фальварка Крыніца ўжо няма, ёсць толькі двор Вязынка (D. Wiazynka), а побач – Pasieka Ziembickiego (sic!).

У тым, што фальварак Вязынь знаходзіўся ў іншым месцы, пераконвае наступныя табліца:

| Названиіе мѣстечекъ, селъ, деревень и проч. населенныхъ пунктовъ | Названіе ближайшей жел.-дор. станціи и разстояніе до нея въ верст. отъ населеннаго пункта | Названіе ближайшего почт. учрежденія (адресъ для писемъ) и разстояніе до него въ верстахъ отъ насел. пункта | Названіе ближайшего почт.-телегр. учрежд. (адресъ для телеграммъ) и разстояніе до него въ верст. отъ насел. пункта | Число жителей обоего пола | Разстояніе въ верстахъ отъ | Число дворовъ въ населен. пунктѣ |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Вязынь, фольварок | Изяславль, ЛРжд. 8 | Заславль 8 | Изяславль 8 | 28 | 32 | 4 |
| Заблоцковщина, д. | Изяславль, ЛРжд. 6 | Заславль 6 | Изяславль 6 | 28 | 26 | 4 |
| Чернявщина, дер. | Изяславль, ЛРжд. 5 | Заславль 5 | Изяславль 5 | 26 | 26 | 7 |
| Шубники, деревня | Изяславль, ЛРжд. 4½ | Заславль 4½ | Изяславль 4½ | 85 | 28 | 13 |

Але ці належаў фальварак Вязынь (на расейскіх картах 1850-х і 1870-х гг. фальварак называецца Вязынка) блізу гасцінца з Заслаўя ў Ракаў Замбжыцкім? А. Ельскі (а ён піша пра фальварак Вязынка/Вязынь менавіта ў гэтым месцы), здаецца, не павінен быў бы памыліцца, бо Міншчыну ён ведаў добра. Тым не менш сумненні застаюцца. Традыцыя кажа нам, што

Луцэвічы арандавалі зямлю ля рэчкі Вязынка (а не ля правага безыменнага прытоку Свіслачы) і што нават іхняя хата стаяла на яе беразе (там, дзе сёння знаходзіцца Музей Янкі Купалы). Аднак варта памятаць, што ў архіўных дакументах згадваюцца і фальварак Вязынка (пасямейны спіс Луцэвічаў за 1883 г.), і маёнтак Вязынка (метрыка нараджэння паэта). Маёнтак Вязынка Замбжыцкіх – гэта ўсе тыя 327 (sic!) дзесяцін, якія здаваліся "палавічнікам". Дык дзе жылі Луцэвічы: у фальварку Вязынка ля гасцінца з Заслаўля ў Ракаў ці ў фальварку Крыніца, ля якога быў, перадусім у ХХ ст., сядзібны дом Замбжыцкіх?

Паводле М. Дзяшкевіча, які спасылаецца на матэрыялы ЦДГА БССР (цяпер – НГАБ у Мінску, ф. 319, воп. 2, спр. 1132), "на пачатак 1880 года ў фальварку Станіслава Замбжыцкага было 322 (sic!) дзесяціны зямлі. Жыў ён ў Вязынцы, у доме, які яшчэ ў 1820 годзе будавалі тутэйшыя майстры яго бацьку. Жыў з жонкай Алімпіяй, дочкамі Марыяй і Ядвігай"[1]. Але, відавочна, даследчык недакладны: не ў фальварку, а ў маёнтку Станіслава Замбжыцкага было 322 дзесяціны. Маёнтак жа дзяліўся на фальваркі: Крыніца, Ліпянёва, Вязынь (Вязынка), а, магчыма, і іншыя. А ў кожным фальварку жыло па 2–4 сям'і, г. зн. кожная з іх працавала на 30–40 дзесяцінах (паўтары – дзве валокі). Прыгадаем *Паўлінку* Янкі Купалы: у Адольфа Быкоўскага "валокі с паўтары добрые будзе"[2], а Крыніцкія гаспадарáць на трох валоках ворнае зямлі. Дарэчы, цікава ведаць: ці няма якое сувязі паміж прозвішчам героя камедыі і фальваркам Крыніца?

Калі М. Дзяшкевіч піша, што Замбжыцкія ў 1880 г. жылі ў Вязынцы (а не Крыніцы), то ці не азначае гэта, што іхні сядзібны дом у той час знаходзіўся воддаль ад асноўных зямельных уладанняў?

Вязынка актуалізавалася ў свядомасці купалазнаўцаў[3] і прадстаўнікоў улады толькі ў 1944–1945 гг., г. зн. праз больш чым 60 гадоў пасля таго, як Луцэвічы пакінулі фальварак. Ніхто з сям'і Янкі Купалы не мог ведаць, дзе была тая Вязынка, у якой іх блізкія калісь пражылі паўтара-два гады. Шукалі, вядома, Вязынку Замбжыцкіх. А яна была ўжо колькі дзесяцігоддзяў ля вёсак Ліпяні і Сяледчыкі. Замбжыцкія ўсё яшчэ жылі тут, хоць у 1939 г. і зазналі рэпрэсіі савецкае ўлады. Дзевяностагадовы Юзаф Замбжыцкі (1858–1948) не мог быць надзейным інфарматарам: гаспадаром Вязынкі ён стаў у 1906 г., а да гэтага часу з бацькамі не жыў[4] і, вядома, не мог памятаць Луцэвічаў, а тым больш, дзе яны жылі, бо на зямлі Замбжыцкіх працавалі дзясяткі, калі не сотні арандатараў.

---

[1] Гл.: М. Дзяшкевіч, *Ад вытокаў родных...*, "Полымя" 1971, № 10, с. 192.

[2] Я. Купала, *Паўлінка: Сцэны із шляхоцкага жыцьця у двух актах*, Пецярбург 1913, с. 52.

[3] Янка Купала ніколі не згадваў пра Вязынку, ніколі не наведваў блізкіх свае хроснае маці – Алімпіі Замбжыцкае. З вусных сямейных пераказаў вядома, што ў 1944 г. (ці ў 1945 г.) за Замбжыцкіх перад мясцовою ўладаю заступалася Уладзіслава Луцэвіч, жонка Янкі Купалы.

[4] Закончыўшы школу ў Мінску, ён выехаў на Урал (Ніжні Тагіл), дзе пражыў 13 гадоў. Пасля пачаў працаваць у Гомелі і толькі ўжо ў ХХ стагоддзі вярнуўся ў Вязынку, якая належала яму па спадчыне.

Не маглі памятаць Луцэвічаў і дзеці Юзафа: усе яны нарадзіліся пазней. Напрыклад, Алімпія з Замбжыцкіх Свяневіч, якая найбольш дбала пра спадчыну свайго дзеда, прыйшла на свет у 1902 г. у Гомелі.

Фактычна, роспыты, які вяла ў другой палове 1940-х гг. Уладзіслава Луцэвіч у Вязынцы Замбжыцкіх не маглі даць дакладнай інфармацыі, бо былыя гаспадары адно ведалі, дзе ў іх маёнтку жылі арандатары, але, відавочна, не маглі памятаць пра Луцэвічаў[1]. Увогуле, яны былі зацікаўленыя ў тым, каб новая ўлада менавіта іхнюю тагачасную Вязынку абрала месцам нараджэння народнага паэта.

Чаму Вязынка ля гасцінца з Заслаўля ў Ракаў не прыцягнула ўвагі купалазнаўцаў? Бо яна ўжо колькі дзесяцігоддзяў не належала Замбжыцкім. Магчыма, уладальнікі прадалі яе яшчэ на пачатку стагоддзя, але больш верагодна, што яна была страчана з тае прычыны, што апынулася на савецкім баку мяжы на пачатку 1920-х гг. Калі яе перайменавалі ў Вязанку? Гэта магло быць і ў 1920-я гг., і нават у 1970-я, калі з вёсак Сяледчыкі і Гурнавічы "зрабілі" Вязынку. Думаецца, што вызначыць гэта сёння не так і складана.

На жаль, мы не ведаем, чаму на геаграфічных картах XIX стагоддзя двор Замбжыцкіх не паказаны (калі лічыць, што іх сядзіба заўсёды знаходзілася на адным месцы, ля рэчкі Вязынка). Таксама незразумела, калі Замбжыцкія далучылі фальварак Крыніцу да свайго двара (цікава, што ў 1920–1930-я гг. літаральна ў некалькіх кіламетрах на ўсход ад двара Вязынка вёска Сялявічы будзе пераіменавана ў Крыніцу). Відавочна, магло гэта здарыцца як падчас Першае сусветнае вайны[2], так і пасля Рыжскае мірнае дамовы, калі землі Замбжыцкіх апынуліся ў Другой Рэчы Паспалітай. Прычым, мяжу праводзілі нібы так, каб уладанні Замбжыцкіх, уключна з лядамі, не трапілі ў бальшавіцкую зону (сведчыць пра гэта характэрны выступ).

Звесткі пра жыццё і творчасць С. Замбжыцкага трапілі ў беларускі друк, дзякуючы ўнучкам паэта Алімпіі Свяневіч і Марыі Ай. Асабліва шмат зрабіла А. Свяневіч: яшчэ ў 1930-я гг. яна звярнулася да дачкі Станіслава (сваёй цёткі) мнішкі-skrytki[3] Марыі Замбжыцкае (1856–1943) з просьбаю сабраць і перапісаць творы паэта. З атрыманымі тэкстамі А. Свяневіч доўгі час працавала, збірала разнастайныя звесткі і пра паэта, і пра тых асобаў, якім прысвяціў ці згадаў у сваіх творах С. Замбжыцкі. І дзялілася сабраным з іншымі прадстаўнікамі роду. У тым ліку і з праўнукам Станіслава Янам Замбжыцкім (нар. у 1933), які ўключыў гэтыя звесткі ў свае ўспаміны: "Прадзядуля Станіслаў быў чалавекам вясёлым, з пачуццём гумару, многа чытаў

[1] М. Дзяшкевіч дзеля апісання хаты, у якой жылі Луцэвічы, выкарыстоўвае ўспаміны старых людзей. Але, яны, 1889–1893 г. н., верагодна, памятаючы, як выглядала хата арандатараў у Вязынцы напрыканцы XIX – пачатку XX ст., не маглі ведаць, хто жыў у гэтай хаце ў той час, калі іх яшчэ не было на свеце. Тым больш, што тэрмін арэнды ў Замбжыцкіх – як тады было прынята ў рэгіёне – быў невялікі.

[2] З успамінаў, якія занатаваў Я. Замбжыцкі, вынікае, што сям'я падчас ваеннае завірухі жыла ў Мінску, бо там было бяспечней.

[3] Zakonnica bez habitu 'манашка без манаскае расы'. Пра тое, што яна належыць да манаскага ордэна, амаль ніхто не ведае.

і меў таксама шмат цікавых рысаў характару і талентаў. Пакінуў шэраг сваіх вершаў, што маюць гістарычна-патрыятычны характар <…>. Ён займаўся археалагічнымі даследаваннямі – зрабіў шэраг раскопак, шукаючы скарбы. Месцам гэтых пошукаў быў г. зв. замачак, альбо пагорак, размешчаны недалёка ад двара, што мог быць калісь месцам дагістарычнага паселішча. <…> Гэтыя зацікаўленні справілі, што ён не меў часу, сіл (у яго былі часткова паралізаваныя левыя рука і нага) і ахвоты гаспадарыць у маёнтку. Дык большасць зямлі аддаў апрацоўваць сялянскім сем'ям (сёння называлася б – арэнда) <…>. У перыяд паміж 1877–1880 гг. прадзядуля Станіслаў быў арыштаваны царскаю ўладаю (пасля Студзеньскага паўстання польскіх землеўласнікаў вельмі часта пераследавалі). Ягоная жонка Алімпія выстаралася пра ягонае звальненне з турмы, але з умоваю, што аддасць двух сваіх сыноў[1] у войска, да школы кадэтаў, і так сталася. <…> Ішлі гады і прадзед Станіслаў станавіўся ўсё больш нямоглым. У 1901 годзе (магчыма, у 1902) памерла прабабуля Алімпія і ён застаўся адзін. Гаспадарку ўзяла на сябе ягоная дачка Валька (была замужам за Антонам Войнам, здаецца, з княскага роду) і два гады займалася ўсім, але неўзабаве пакінула Вязынь і выехала пад Воршу, пакідаючы бацьку без апекі. У 1906 г. гаспадарку ў Вязыні прыняў дзядуля Юзаф, а домам занялася мая бабуля Зоф'я. Хутка, бо 1.10.1907 г. памёр прадзядуля Станіслаў. Абое з жонкаю спачываюць у агульнай магіле на могілках у Радашковічах (да сённяшняга дня там стаяць трывалыя помнікі). Смерць прадзядулі Станіслава была вельмі нечаканаю. У той дзень ён падняўся рана, апрануўся ў святочнае і папрасіў прыгатаваць лепшы сняданак, паведамляючы, што сёння дзень выключны, а менавіта 100-я ўгодкі Вязыня ў руках Замбжыцкіх[2]. У час, калі гатавалі сняданне, ён лёг на хвіліну ў ложак і неспадзявана памёр"[3].

Дакументы і ўспаміны даюць пэўнае ўяўленне пра жыццёвы шлях С. Замбжыцкага. Варта, аднак, больш пільна прыгледзецца да тых матэрыялаў А. Свяневіч, якія захоўваюцца ў Лондане, у Польскім інстытуце і музеі імя генерала Сікорскага (Archiwum Olimpii Świaniewiczowej w Polskim Instytucie i Muzeum im. gen. Sikorskiego w Londynie, inw. KOL 261)[4]. Магчыма, сярод іх маюцца іншыя літаратурныя творы паэта, а таксама дакументы, якія могуць больш глыбока падаць творчую асабовасць С. Замбжыцкага.

Тое, што мы сёння маем, не дазваляе адназначна сцвердзіць, што паэтычны талент уладальніка Вязынкі быў настолькі арыгінальны і самабытны, каб прызнаць яму значнае месца ў тагачасным літаратурным працэсе. Да таго ж большасць з захаваных тэкстаў С. Замбжыцкага напісаны па-

[1] Станіслаў і Алімпія мелі трох сыноў – Міхала, Уладзіслава, Юзафа і трох дачок – Марыю, Валянціну і Ядвігу.

[2] Насамрэч, Валенты Замбжыцкі набыў Вязынь у 1815 г.

[3] J. Zambrzycki, *Szmat czasu: Wspomnienia*, Warszawa 2010, s. 9–12.

[4] Н. Тэйлар-Тарлецка, *Пранікненне ці сімбіёз культур? Двор Замбжыцкіх у Вязыні* [у:] *Навагрудчына ў гістарычна-культурнай спадчыне Еўропы: (да 600-годдзя Грунвальдскай бітвы)*, Мінск 2010, с. 197.

польску, якім адзіны, амаль цалкам беларускамоўны, саступае ў мастацкасці. А вось гумарыстычныя і сатырычныя інтанацыі ў польскамоўных творах не страцілі свае вартасці да сённяшняга дня. Напрыклад, вось як аўтар выкарыстоўвае значную падзею тагачаснага мясцовага жыцця – пабудову чыгункі – у сваім вершы *Kolęda*:

Organista co jak żywy
Nie widział lokomotywy
Chodził nad żelazną drogą.
Gdy zbliżała się godzina
Kiedy miała iść maszyna
Więc mówię do organisty:
Wkrótce ujrzym wóz ognisty
Co po relsach szybko lata
W nim przyjedzie antychrysta
No i będzie koniec świata[1].

Увогуле, С. Замбжыцкі больш летапісец Вязынкі і яе наваколля, чым паэт. Аднак для нас ён цікавы тым, што быў адным з невялікае колькасці тых, хто ў складаныя паслямураўёўскія часы пісаў па-беларуску. А яшчэ тым, што пра яго, як пра верагоднага аўтара *Raskazu Вайtručka* пісаў, спасылаючыся на Р. Зямкевіча, Я. Карскі: “Въ нашихъ рукахъ была такая тетрадка, принадлежащая Б.А. Тарашкевичу. Говорятъ, не Замбржицкаго ли помѣщика это стихотвореніе? Жилъ онъ въ окрестностяхъ Радошковичъ. Р. Земкевичъ”[2]. Як бачым, Б. Тарашкевіч яшчэ ў 1910-я гг. [магчыма, ад свае будучае жонкі, што была дачкою гісторыка і краязнаўцы з Радашковіч Андрэя Сніткі (1866–1920)] ведаў пра беларускамоўную творчасць С. Замбжыцкага і нават меў перапісаныя ягоныя (?) вершы.

Нават перашае знаёмства з беларускамоўнымі тэкстамі С. Замбжыцкага (*Hutarkaj Staluka*, а таксама фрагментамі з вершаванага апавядання *Sąd kota w Wojtelach* і легенды *Karty*) можа ў пэўнай ступені пацвердзіць гіпотэзу Р. Зямкевіча і Я. Карскага: стылістыка ягоных твораў даволі блізкая да ананімных *Гутаркі Паўлюка* і *Вяселля Баўтрука*. Зрэшты, Я. Карскі згадваў зусім невядомы сёння *Raskaz Вайtručka*, які мог быць творам цалкам не звязаным з апублікаванымі нядаўна Вячаславам Мартысюком варыянтамі *Гутаркі Паўлюка* і *Вяселля Баўтрука*[3].

І, відаць, самае галоўнае тое, што мы цяпер маем тэкст гутаркі, якая хоць і не “представляетъ крестьянскій бытъ”, але выдатна ўпісваецца ў традыцыю беларускамоўных гутарак XIX стагоддзя.

---

[1] Цыт. па кн.: J. Zambrzycki, *Szmat czasu: Wspomnienia*, Warszawa 2010, s. 10.

[2] Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроград 1922, с. 108.

[3] В. Мартысюк, *Гутарка Паўлюка і вясельле Баўтрука: крыніцы тэксту, пытанні атрыбуцыі*, „Acta Albaruthenica” 2017, t. 17, s. 331–371.

# Гутарка Сталюка

Гутарка С. Замбжыцкага, колісь занадта сурова ацэненая (можа, лепш: недаацэненая) беларускімі савецкімі літаратуразнаўцамі, бясспрэчна, вартая таго, каб быць надрукаванаю. Яе эстэтычныя вартасці цалкам адпавядаюць эстэтыцы тагачаснае беларускамоўнае літаратуры. З пазнакаў на рукапісе, а таксама са зместу твора вынікае, што быў ён напісаны ў 1873 г. Задумвалася "гутарка", відавочна, як вітанне-ўшанаванне суседзяў Бжазінскіх, што былі пасэсарамі ў недалёкім фальварку Ганусін (Анусін) Фаўстыны Прушынскае (1790–1873)[1]. У *Геаграфічным слоўніку* пра фальварак і яго гаспадароў чытаем: "Ганусін, альбо Анусін, вёска[2] ў Мінскім пав[еце], з 1873 г. уласнасць Яўхіміі (Eufemii) Ястраб і Валерыі Прушынскай, 2 вярсты ад ст[анцыі] Радашковічы на лініі Лібава – Ромны, частка колішняга Заслаўскага графства на Літве, спадчына Глебавічаў, пазней – Сапегаў, а нарэшце Пшаздзецкіх. Ганусін быў колісь сціплым фальварачкам ці – хутчэй – паляўнічым домікам, названым у гонар Ганны з Радзівілаў 1 voto Пшаздзецкай, 2 voto Мастоўскай, кашталяніхі рацёнскае[3] (маці апошняга спадчынніка Заслаўя графа Міхала Пшаздзецкага). У першай чвэрці гэтага стагоддзя эксдывізорскі суд аддаў згаданыя маёнткі ў якасці кампенсацыі шматлікім крэдыторам Пшаздзецкага; у той час Ганусін з лясамі і навакольнымі землямі стаўся ўласнасцю дробных крэдытораў. Сходы align рознага абшару і вартасці, купленыя ў адны рукі, сталі ўласнасцю Атаназа Прушынскага, падкаморыя мінскага, які зрабіў з іх выдатны маёнтак, належна загаспадараваны. Пасля смерці Прушынскага ў 1847 г. ягоная ўдава Фаўстына з Багушэвічаў, якую з-за вялікіх цнотаў розуму і сэрца паўсюль ведалі і шанавалі, была пажыццёваю ўладальніцаю гэтага маёнтка, дзе ў вельмі старым веку згасла ў 1873 г. Пахвальную згадку пра Станіслава Багушэвіча, славутага пасла на сойм, бацьку с. п. Фаўстыны Прушынскае, знаходзім у "Tece wileńskiej" [нумар 2, Вільня 1857, с. 202 (130) – 203 (131)][4]. Зямлі – 600 дз[есяцін], з іх 200 дз[есяцін] апрацоўваецца, 70 дз[есяцін] лугоў, 120 дз[есяцін] пашаў і пустак. Да маёнтка належыць фальварак, размешчаны за некалькі вёрст на лядах ва ўрочышчы Зялёная, дзе на прасторы 210 дз[есяцін] знаходзіцца блізу 40 дз[есяцін] апрацаванай, пасля выкарчоўкі, зямлі, лесу (пераважна на апал) – 90 дз[есяцін], рэшта ляжыць

[1] Год нараджэння ўстаноўлены на падставе *Wielkiej Genealogii Minakowskiego*.

[2] На карце 1872 г. – "Господ[скій] д[ом] Ганусина".

[3] Рацёнж (польск. Raciąż) – горад у Польшчы (Мазавецкае ваяводства, Плонскі павет).

[4] Маецца на ўвазе праца Уладзіслава Сыракомлі *Mińsk. Peryod drugi: Mińsk jako namiestnictwo*.

аблогаю. Гаспадарка 4-польная, глеба ўраджайная, пераважна жытняя; засяваецца звычайна пшаніцаю, а таксама ячменем, гарохам, аўсом, грэчкаю, канюшынаю і іншымі кармавымі травамі. Збор сена блізу 12000 пудоў штогод. Млын (першы сярод іншых) на р[эчцы] Свіслач (прыт[ок] Бярэзіны), якая мае выток на мяжы Ганусіна паблізу вёскі Вендзелева”[1].

У спадчыне С. Замбжыцкага захаваўся невялікі верш *Wspomnienia o Anusinie*, прысвечаны памяці Фаўстыны Прушынскае:

W Anusinie mieszkała dla nas wszystkich miła
Pani Litewska i Anusińska,
Zacna Faustyna Prószyńska,
Co „powiem prawdę” w przysłowiu mówiła
Honorem Podkomorzyna
Każdy z nas czule – czcigodną babulę
Zawsze wspomina.

Była to Pani miłego oblicza,
Delikatna, dobroczynna, uprzejma, łaskawa
Godna córka pana Stanisława Bohuszewicza
Który był dzielnym polakiem,
Żyć i umierać chciał swobodnie,
Na ostatnim sejmie w Grodnie
Przeciw sile złych opozycję stawił, zgodnie
Z cnym Reytanem i Korsakiem.

Напісаны ён таксама ў 1873 г., відаць, адразу пасля смерці Фаўстыны Прушынскае. З дапамогай гэтага тэксту можна рэканструяваць асобныя фрагменты жыццяпісу герояў *Hutarki Staluka*. У першую чаргу – Фаўстыны Прушынскае. Бо ейны бацька, Станіслаў Багушэвіч (Багушэвіч-Мінкоўскі гербу Газдава, 1751–1817), добра вядомы гісторыкам: ён быў мінскім земскім суддзёю, паслом на сойм 1773–1775 гг., які зацвердзіў першы падзел Рэчы Паспалітай і на якім разам з Тадэвушам Рэйтанам і Самуэлем Корсакам пратэставалі супраць абрання маршалкам Адама Панінскага[2]. З іншых крыніцаў можна даведацца, што Станіслаў Багушэвіч быў жанаты з Тэрэзай Іваноўскай (каля 1760 – пасля 1833)[3].

Муж Фаўстыны Атаназы не згадваецца ў вядомых вершах С. Замбжыцкага,

---

[1] *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. III, Warszawa 1882, s. 30.

[2] W. Konczyńska, *Stanisław Bohuszewicz Minkowski* [w:] *Polski Słownik Biograficzny*, t. II, Kraków 1936, s. 234.

[3] У дадатку да газеты “Kuryer Litewski” (1833, nr 123, 18 października) надрукаваная позва генеральнага пракуратара Massy po Radziwiłłowskiej Ізідора Салмановіча да вялікае колькасці асобаў у сувязі з Указам Яго Імператарскае Мосці “o różnego rodzaju zawinieniach” у дачыненні да інтарэсаў Xiążąt Radziwiłłów. Сярод іншых згадваюцца: “Teresa z Iwanowskich Bohuszewiczowa, matka, i Faustyna Prószyńska, córka, sukcesorki Stanisława Bohdanowicza”, а таксама “Atanazy Prószyński”, якія “schedy z Exdywizyi Rubieżewickiey, albo sami dostali, albo od dostająsych nabyli i na possessyach sched w Rubieżewiczach znaydują się oni sami, ich sukcessorowie, lub nowonabywcy, o powrót Rubieżewicz nieprawnie zajętych i zwrót użytków”.

але варта колькі слоў сказаць і пра яго. Тым больш, што ў нататках А. Сваневіч ён чамусьці называецца Міхалам, ігуменскім падкаморым[1]. Выяўленыя намі матэрыялы сведчаць, што Атаназы Прушынскі (1780–1847)[2] быў мінскім земскім суддзём[3], а таксама ганаровым сябрам Мінскага таварыства дабрачыннасці[4]. Але даступныя нам *Мѣсяцословы* не пацвярджаюць, што ён быў яшчэ і падкаморым мінскім.

Мы звернем увагу, што першая частка *Hutarki Staluka* створана да смерці Фаўстыны Прушынскае, а другая – у хуткім часе пасля смерці. Цікавым з'яўляецца і пытанне, чаму тэкст, звернуты да шляхціцаў-"палякаў", колішніх уладальнікаў маёнтку, напісаны па-беларуску? Відавочна, таму, што пасэсары Бжазінскія карысталіся гэтаю моваю штодзённа. Жылі яны побач з домам гаспадыні, у афіцыне, а дзякуючы сваёй гасціннасці і прыязнасці, заўсёды мелі ў сябе шмат гасцей. Якраз пра хату Бжазінскіх, якая нібы магнітам прыцягвае людзей здалёку і зблізку, з гумарам апавядае паэт.

Тэорыі вершаскладання ён, хіба, не ведаў, але наследуючы знаныя яму ўзоры, часам стварае някепскія страфы. Напрыклад, першыя дзесяць радкоў *Hutarki Staluka* цалкам адпавядаюць паэтыцы дэцымы. Вядома, атрымалася гэта выпадкова. Але можам дапусціць, што С. Замбжыцкаму быў вядомы беларускі віншавальны верш *Чалом, чалом, ойцец татулька*. Менавіта паэтыку гэтага папулярнага тэксту, на нашу думку, наследаваў вязынскі паэт, паставіўшы задачу ўхваліць суседа. Праўда, хоць пра імяніны гаспадара і згадваецца, але яны не становяцца аб'ектам апісання: больш увагі надаецца аповедам гасцей і пра гасцей. З гэтых аповедаў выразна выяўляецца негатыўнае стаўленне шляхты да прадстаўнікоў улады. І калі да адных гэтае стаўленне, назавём так, памяркоўна-негатыўнае (генерал Хамутоў), то іншыя высмейваюцца зласліва (Amondibur).

Паэт, бясспрэчна, валодае сатырычным і гумарыстычным дарам. Ён з іроніяй ставіцца да знаёмых і сваіх сямейнікаў. Пад агульнае высмейванне "трапляе" і ён сам, храмы Сталюк. Дарэчы, сваё імя аўтар-апавядальнік "збеларушвае": мяркуем, што хрысціянска-каталіцкае Станіслаў у народным асяроддзі трансфармавалася ў Сталюк. Як пацвярджэнне можам спаслацца на перапіс жыхароў маёнткаў Плешчаніцы і Мятлічыцы ў 1844–1847 гадах. Відавочна, у сярэдзіне XIX ст. яшчэ сустракаліся такія формы[5].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу 1930-х гг., які захоўваецца ў хатнім архіве Марыі Сваневіч-Нагенць.

---

[1] Сапраўды, на пачатку XIX ст. (1808) падкаморым ігуменскім быў Міхал Прушынскі.

[2] Год нараджэння ўстаноўлены на падставе *Wielkiej Genealogii Minakowskiego*.

[3] У дадатку да газеты "Kuryer Litewski" (1829, nr 13, 30 stycznia) Атаназы Прушынскі падпісаў як старшыня абвестку Sądu Taxatorsko-Exdywizorskiego да крэдытораў маёнтка Кужанцы нядаўна памерлага мінскага цывільнага губернатара Казіміра Сулістроўскага.

[4] Гл.: "Kuryer Litewski" (1829, nr 39, 1 kwietnia): "W miejscu gotowych pieniędzy 15 rub. sr. za tytuł honorowego Członka płacących się, dostarczyli: Proszyński Atanazy, Prez. Z.M. żyta b[eczek] 3, grochu b[eczka] 1". Бочка – мера сыпкіх рэчываў – прыкладна роўная 400 літраў.

[5] Гл.: У.А. Акуліч, *Рэйтынг імён у Плешчаніцах XIX ст.* [online] http://pln.by/museum/naselennye-punkty/297 [доступ: 19.09.2018].

# Hutarka Staluka

II[1]

Hej! u naszaho Ihnata
Da u jaho Kazimiery[2]
Niewialiczka sabie chata,
Wuzkie wokny, nizkie dźwiery.
Ad paroha niedaleczka
Kominek i z cehły pieczka
Dajeć duchu na dzwie izby
Z druhoj izby spiżareńka
Cieraz sionki piekareńka
Ganek z łaukaj kala pryzby

Pahladzi|ż ty, Panie Bracie,
Szto robic sia u toj chacie.
Jak tut ciahnieć narod nasz
Mirem jakby na kiermasz.
Tut i w osień pa kapustu
Jeduć jakby da adpustu,
Chto adnym, a chto na pary.
Inżyniery na dryzinkach[3],
Żydy kupcy u drabinkach
Jeduć kuplać tut tawary,
A niaredka to bywajeć,
Pad tu chatu padjeżdżajeć
Niatyczanka[4] pana Chmary[5]

---

[1] Не можам вытлумачыць, чаму пад тытулам твора ў рукапісе маецца рымская лічба ***II***.

[2] Гаворка пра Ігната і Казімеру Бжазінскіх, пасэсараў фальварка Ганусін (Анусін, сёння вёска Анусіна Мінскага раёна) Фаўстыны Прушынскае. Да 1864 г. яны былі ўладальнікамі маёнтка Дзісенскага павета Манякова (Moniaków, Moniakowa), які ўлады канфіскавалі за дапамогу паўстанцкаму аддзелу Вінцэнта Казелы (1838–1863). Гл.: E. Kowalewski, *Wspomnienia z przeszłości: przyczynek do historji powstania styczniowego na Litwie*, Wilno 1907, s. 59–60. Тут і далей дзеля тлумачэння рэалій тэксту часткова выкарыстаныя каментары, якія зрабіла Алімпія Сваневіч.

[3] У студзені 1873 г. быў аддадзены ў эксплуатацыю ўчастак Новая Вялейка (Вільня) – Мінск Лібава-Роменскай чыгункі, побач з якой знаходзіўся фальварак Ганусін.

[4] Шыкоўная чатырохколавая брычка з плеценым з лазы верхам.

[5] Гаворка пра Адама Хмару (1810–1888), унука Ёахіма Хмары, брата апошняга мінскага ваяводы Адама Хмары (1720–1805). Ён быў уладальнікам маёнтка Сёмкаў Гарадок, які знаходзіцца за 20 км ад Ганусіна. Аўтар артыкулаў *Gródek Siemkowski* і *Siemków* у *Słowniku geograficznym Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich* (t. II, s. 826–829 i t. X, s. 550–554).

Albo z Borzdynia[1] Panou.
Kamu ujezd[2] bjeć pakłonom
Pryjeżdżau tu chwajatonem[3]
Sam Generał Chamutou[4]
U tych ludziej haspadarskich
Hościć, majeć tut naradu
Toj pan szto ad komnat carskich[5]
Kluczy nosić na paradu
Jon Ihnata spadabau
Z jaho haspadarki
Tak swoj pałac i falwarki
U arendu jamu dau
Aż na dwanancać hadou[6]
Daj Boże kab dla Ihnata
Dobra była tam intrata[7]
Kab żyu wiesiał i zdarou.
Czujesz, Bracie, skażuć świedki
Jak susiedzi i susiedki
Na tych panou imianiny
Hurmem da toj achwicyny

A Sylweś[8], dek jon ciszkom
Letam biażyć tut piaszkom
A z nim taja guwarnerka
Stalukowaja szwagierka[9]

---

[1] Фальварак Вішнеўскіх. Знаходзіўся ля гасцінца з Ракава ў Заслаўе. Сёння між вёскамі Мінскага раёна Вялікая Барздынь і Малая Барздынь захавалася капліца-пахавальня Вішнеўскіх. Прыкладна 10 км ад Анусіна.

[2] Відавочна, маецца на ўвазе Минскій уѣздъ.

[3] Фаэтон – лёгкі экіпаж з вялікімі коламі. Хуткі, але небяспечны.

[4] “Генералам Хамутовым” сяляне Міншчыны называлі Паўла Хамянтоўскага, які быў з 1868 г. сябрам Камісіі па сялянскіх справах пры губернатары, з 1869 г. – старшынёю Міравога з’езда, а з 1872 г. мінскім павятовым маршалкам. Чын сапраўднага стацкага саветніка (г. зн. адпаведны чыну генерал-маёра ў войску) П. Хамянтоўскі атрымаў у 1877 г.

[5] Тут таксама гаворка пра П. Хамянтоўскага. Выявіць звесткі, што П. Хамянтоўскі быў камергерам царскага двара, не ўдалося. Але вядома, што ён закончыў Пажскі корпус (Пажеский Его Императорского Величества корпус); быў на вайсковай службе (з 1838 г.), выйшаў у адстаўку ў чыне гвардыі штабс-капітана. Асабліва вызначыўся пры правядзенні сялянскае рэформы, за што атрымаў (па іншых звестках: купіў) у 1867 г. маёнтак Заслаўе, канфіскаваны ў Прушынскіх.

[6] Ігнат Бжазінскі ўзяў у арэнду Заслаўе, але да канца жыцця жыў у Ганусіне, якое калісь было часткаю Заслаўскага ключа.

[7] Прыбытак, зыск (ад італ. праз польск. *intrata*).

[8] Так жартаўліва называлі рэзыдэнтку Вязынкаўскага маёнтка Канстанцыю Вілкіцкую, пазней (?) сляпую, з тае прычыны, што вельмі любіла дэкламаваць верш *Sylweś*.

[9] Гаворка пра Юлію Чакатоўскую, якая разам з жонкай аўтара Алімпіяй з Чакатоўскіх Замб-

I z swojej siastry synkom
A kali daść Boh swiatoczki
To i Stalukowy doczki[1]
Tut dzwierami skryp, skryp, skryp.
A Sylweś tabaczku niuchajeć
Jak hutarek Pani słuchajeć
Tak ruczkami dryp! dryp! dryp!

A stary, chramy Staluk
Toj pa szpałach stuk, stuk, stuk
Pa sniahu czy pa bałocie
U dzień budni czy u światа
Zausiahdy jon u achwocie
Prybiehajeć do Ihnata
Oj zduryli[2] staryczka
Dobryje Ihnaty
Sztoż jon u ich małaczka
Szto papiu harbaty
Szto abiedau, szto wiaczery
Pajeu tut z prysmakam
Szto pirażkou Kazimiery
I z miodam i z makam.
Tut paciechu na frasunek[3]
Znajdzieć kali treba
Tut dastajeć na ratunek
I hroszy i chleba.

Oh! traktujuć, oh! ratujuć
Ludziej u pryhodzie
Tak i ludzi ich miłujuć
A Boh nadharodzia

Hladzi Brat, jak Ihnat
Haściej swaich sadzić,
Jak pytajeć, paciesząjeć,
Jak im dobra radzić.
Jak Sandzinie[4] i Waleryi[5]

---

жыцкаю заснавалі таемную школку для дзяўчат-шляхцянак. Алімпія займалася забеспячэннем вучаніц усім неабходным, а Юлія выкладала ім прынятыя ў той час навукі.

[1] Гаворка пра Марыю (1856 г. н.) і Валянціну (1861 г. н.) Замбжыцкіх, старэйшых дачок Станіслава.

[2] Відаць, *zduryli* ў значэнні ‘задурылі галаву’.

[3] Клопаты, турботы (польск. *frasunek*).

[4] Гаворка пра Фаўстыну Прушынскую (ад польск. *sędzina* – судзёвая, жонка суддзі). У іншым вершы яна называецца Падкамарынаю.

[5] Гаворка пра дачку Фаўстыны Валерыю Прушынскую (памерла ў 1912 г. ва ўзросце амаль 90 гадоў).

Szto treba razkażeć
A nikomu chwanaberyi
Swajej nie pakażeć.

Baczysz? hości abied zjeli
I jak pszczołki zahudzieli
Toj pjeć kawu, tabak kuryć
Łouczy stroić sia ihrać
A sandzina woczki żmuryć
Bo babulka choczeć spać

Ale hości spać nia choczuć
Rady z Pani łaski
A smiajuć sia aż rahoczuć
Z jej miłaj razkazki.

Jena każe pry gitary
Jak byli u Kuli[1]
Oświadczyny Chmary[2]
Szto kazau małady
Szto adkazaŭ jamu cieść
Na wiasielli u dakłady
Było mnoha spić i zjeść
Ale z żonkaj[3] mieu biady[4]
Bo sakretna każeć wieść
Szto nie mahła jaho znieść
Czahoż jamu było leźć
Biaz wusou i barady.

Pośle, ab Amondibury[5]
Szto pohanej byu natury
Usim nadta dajadau
A Imościej Paniu zwau.
Mieu jon swoj wialiki dur,
Jak toj każe byu jon gbur[6]
Dek jak jaho paminajuć
Jak ihrajuć prypiewajuć

[1] Маёнтак Бжазоўскіх.
[2] Адам Хмара ўзяў шлюб з Марыяй Бжазоўскай прыкладна ў 1830-я гг.
[3] Папраўлена на: *żonkai*.
[4] Марыя Бжазоўзкая ўзяла развод пасля сямі гадоў жыцця з А. Хмараю і выйшла замуж за Канткоўскага.
[5] Гаворка пра часовага ваеннага губернатара Мінскай губерні ў 1863–1864 гг. генерал-лейтэнанта Васіля Заблоцкага, які вельмі кепска гаварыў па-французску. Ён асабіста прыехаў у Заслаўе, каб паведаміць Фаўстыне Прушынскай пра канфіскацыю маёнтка. Магчыма, ад франц. *amour d'hibou* – каханне савы (меркаванне Анхелы Эспінозы Руіс).
[6] Нетактоўны чалавек, нахабнік, хам (польск. *gbur*).

Amondibur, amondibur
Bur, bur, bur, bur, bur bur bur.

Jak Wincenty[1] nasz padżyły,
A byu na toj czas padpiły,
I Wincenty sztuczka bystra,
Staroj Pani ekanom,
Mieli zwadku dek kuchmistra
Nazwau jaho Wincukom
I skazau jamu wyraźnie:
Wincesiu, Winculku, błaźnie!
Ot ja! dek to ja Wincenty
Tak Wincenty! jak sam Swięty
A tyś nie wart mojej pięty
Ja mam w głowie wiele mocy
Ja obiady, ja kolacye
Daje. A mam edukacyę
Bo czytałem Tysiąc Nocy!
Tu kuchmistra za stołom
Stuknuu mocna kułakom
A co? każe czy słyszałeś?
A ty tego nie czytałeś
Dek ty przeciw mnie nieuczek
Mały chłopczyk i błazniuczek
Winceś, Winculek, Wincuczek!

A czy pomnisz moj susiedzie
Jej huterku pry abiedzie
Jak sabaczka niewialiki
Krau u kuchni nalaśniki
I dla suczeczek kachanek
Nasiu u pałac pad ganek
Jak to z rozumam rabiu
I szto suczeczkam kazau
I jak chytra uciekau
Kab i kuchta nie zławiu
I suczeczki nie paznali
Szto jon razem dwuch lubiu
Boby siabie pakusali
I kachanka abbrachali
Hau! hau hau hau! hau hau hau

[1] Кухар Прушынскіх.

## **Rozmaitości**[1]

У розных кутках нашага краю можна спаткаць вельмі арыгінальныя і шляхетныя постаці, якія з’яўляюцца аздобаю нашага народу.

Такою постаццю на Беларусі быў Вінцэнт Марцінкевіч. Шляхціц паводле нараджэння, ён быў для сялян не толькі прыяцелем, але і братам. Гарачы польскі патрыёт, ён хацеў, каб польская шляхта прызнавала люд за братоў і шчыра дбала пра яго асвету. З гэтаю мэтаю ён пісаў свае творы не толькі па-польску, але і па-беларуску. Пачаткам яго пісьменніцкай кар’еры была двухактавая п’еса *Ідылія* на мове напалову польскай, напалову беларускай, у якой ён сам іграў галоўную ролю войта Навума, бо быў пэўны час акцёрам. Потым ён выдаў беларускія апавяданні, якія вельмі хваліў Сыракомля. Напісаў і выдаў *Elementarz białoruski*. Маскоўскі ўрад, які не дапускаў пашырэння асветы сярод беларускіх сялянаў, не дазволіў распаўсюджваць *Elementarz białoruski*. Самая значная праца Марцінкевіча – пераклад на беларускую мову *Пана Тадэвуша*, якога, на жаль, з-за цэнзуры разышлося прыватным чынам усяго некалькі асобнікаў. Марцінкевіч памёр у сакавіку 1885 года ва ўзросце 78 гадоў і быў пахаваны ў Тупальшчызне пад Мінскам. Яго можна лічыць стваральнікам беларускае літаратуры, што вырасла з польскае.

Пісьменнікам гэтае літаратуры быў таксама Канстанцін Каліноўскі, сябра Аддзелу Нацыянальнага ўраду на Літве, якога павесілі маскалі ў Вільні пад час паўстання 1863 года. Каліноўскі выдаваў па-беларуску народную падпольную газету і пісаў гэтак званыя *гутаркі*. Быў гэта чалавек незвычайны і такі ж сімпатычны, як Марцінкевіч.

Апошні быў таксама пераследаваны маскалямі, але ім апекавалася шчаслівая зорка: ён не стаўся ахвяраю тыраніі маскоўскіх захопнікаў на Беларусі.

Пецярбургскі “Kraj” надрукаваў біяграфію Марцінкевіча, хоць і не такую дакладную ды падрабязную, як бы належала.

[1] Назва газетнае рубрыкі.

# Знайсці Ялегі Пранціша Вуля ў Варшаве

Пра тое, хто хаваўся пад псеўданімам Ялегі Пранціш Вуль і дзе прайшлі ягоныя апошнія гады жыцця, стала вядома з артыкула Яўхіма Карскага *Стары беларускі пісьменьнік Арцэм Дарэускі-Вярыга і яго літэратурны альбом*: "Яго імя Пранцішак Элігіуш Караффа-Корбут. Памер у Варшаве у 80 годах. У яго у Варшаве зьбірауся беларускі гурток: Плуг (Пяткевіч А.), Каратынскі і др. Вестка Р. Земкевіча"[1]. Максім Гарэцкі пра гэтую публікацыю не ведаў, дык у сваіх працах (падручніках і хрэстаматыі) нататку пра Ялегі Пранціша Вуля дапоўніў толькі тады, калі рыхтаваў трэцяе (насамрэч, чацвёртае, хоць і пазначанае як трэцяе, перапрацаванае і дапоўненае разглядам вуснае народнае паэзіі, маскоўска-ленінградскае) выданне *Гісторыі беларускае літаратуры* (1924).

Дадзеным псеўданімам Ф.Э. Карафа-Корбут актыўна карыстаўся ў другой палове 1850-х – пачатку 1860-х гг. Так ён падпісваў вершы да Эдварда Жалігоўскага (*Do Antoniego Sowy: Na znak czci i na pamiątkę*), рэдакцыі газеты "Słowo" (*Pozdrowienie do Redakcyi „Słowa"*), Арцёма Вярыгі-Дарэўскага (*K Dudaru Arciomu at naddźwińskaha mużyka*, *Myśl nienowa*)[2], рэдакцыі газеты "Ruch Muzyczny" (*Koniec drogi*, *Rozmowa z przyjaciółką*)[3]. Гэтаксама, відаць, планаваў ён падпісваць свае карэспандэнцыі ў тыя выданні, з якімі спадзяваўся наладзіць супрацоўніцтва. Праўда, магчымасцяў для такога супрацоўніцтва асабліва не было: пецярбургскае "Słowo" ўлады зачынілі на 15 нумары, а ў віленскія выданні Адама Кіркора з Віцебска пісаў А. Вярыга-Дарэўскі. Заставалася дамовіцца з пэўным варшаўскім часопісам ці газетаю. Дзеля спробы сваіх журналісцкіх сілаў Ф.Э. Карафа-Корбут абраў папулярнае ў той час выданне – "Gazetę Codzienną", да якога Леапольд Крананберг і Юзаф Ігнацы Крашэўскі здолелі прыцягнуць чытацкую публіку не толькі ў Польшчы, але і ў іншых мясцінах, дзе жыло польскамоўнае насельніцтва.

Першы допіс Ялегі Пранціша Вуля быў апублікаваны ў ліпені 1860 г. Ці было што яшчэ надрукаванае ў гэтай варшаўскай газеце – выявіць пакуль

[1] Е. Карскі, *Стары беларускі пісьменьнік Арцэм Дарэускі-Вярыга і яго літэратурны альбом*, "Беларусь: Штадзенная палітычна-эканамічная і літэратурная газэта" 1919, № 50 (21 сьнежня). Пазней гэты артыкул (па-расейску) увайшоў у кнігу Я. Карскага *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорусскаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 66–69.

[2] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, т. першы, Warszawa 2014, с. 249–255.

[3] Гл. ніжэй.

не ўдалося. Але ліст да Ю.І. Крашэўскага ад 26/14 лютага 1861 г. мог датычыць як вядомай нам публікацыі ў 188 нумары "Gazety Codziennej", так і нейкай пазнейшай (магчыма, з-за рэдакцыйнай памылкі, непадпісанай)[1].

На жаль, пра дачыненні Ф.Э. Карафа-Корбута з варшаўскімі, а таксама нейкімі іншымі выданнямі ў 1861–1863 гг. нам нічога больш невядома. Калі яны і былі, дык высылка ў Сібір іх перапыніла.

Нядаўна нам удалося выявіць шэраг згадак пра віцебскіх Карафа-Корбутаў у Табольску (Вільгельм) і Іркуцку (Маўрыцы, Францішак і Ганна). Апошняя з іх датаваная ліпенем 1872 г. Завяршаючы артыкул пра шляхі і сцежкі Ялегі Пранціша Вуля, мы задаваліся пытаннем: якую з амністый царскага ўрада былым паўстанцам – *Указ* ад 9 студзеня 1874 г. ці *Высочайшее повеленіе* ад 15 мая 1883 г. – здолеў скарыстаць віцебскі паэт? І схіляліся да думкі, што менавіта апошнюю, 1883 г.[2]. Аднак насамрэч аказалася, што першую – 1874 г.

У снежні 2018 г. Антон Францішак Брыль, інфарматык і адначасна паэт ды даследчык культуры і літаратуры Беларусі, выпадкова натрапіў на кароткае паведамленне ў рубрыцы *Zmarli w ostatnich dniach* "Gazety Lwowskiej": "W Warszawie Franciszek Korbutt, literat, długoletni współpracownik warszawskiej «Gazety Polskiej», w 58 roku życia"[3].

Відавочна, дадзеная інфармацыя грунтавалася на публікацыі пэўнай варшаўскай газеты і найверагодней тае, у якой працаваў нябожчык. Без асаблівых цяжкасцяў удалося выявіць патрэбны нумар "Gazety Polskiej".

Зусім магчыма, што прозвішча беларускага паэта з'явілася ў газеце, дзе ён працаваў, толькі пасля ягонае смерці: у 282 нумары (10 grudnia) "Gazety Polskiej" за 1894 г. яно сустракаецца тройчы: на першай, другой і на чацвёртай старонках. Спачатку ў змесце нумара, пасля – на другой старонцы, дзе нехта з супрацоўнікаў рэдакцыі змясціў каротную нататку *Wspomnienie pośmiertne: Ś.* ✝ *P. Franciszek Korbutt* і нарэшце ў рубрыцы *Nekrologia* – абвестка пра смерць і пахаванне.

І *Wspomnienie pośmiertne*, і *Nekrolog* утрымліваюць важныя звесткі пра Ялегі Пранціша Вуля. "Амаль дваццаць гадоў" працы ў варшаўскай газеце могуць сведчыць, што ў сталіцы Привислинскаго края[4] сібірскі выгнаннік апынуўся ў 1874 ці 1875 г. і што адзіным месцам ягонае працы была названая газета. Цікава тое, што гэта была тая ж самая газета, у якую Ф.Э. Карафа-Корбут пісаў калісь лісты і карэспандэнцыі з Віцебска[5]. Ю.І. Крашэўскі ў ёй ужо не працаваў, але галоўным рэдактарам выдання ў 1874 г. быў

[1] Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі канца XVIII–XIX стагоддзя*, т. чацвёрты, Warszawa 2018, с. 302–303.

[2] М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, т. першы, Warszawa 2014, с. 248.

[3] "Gazeta Lwowska" 1894, nr 284 (13 grudnia).

[4] Якраз у 1874 г. ранейшае Царство Польское (Królestwo Polskie) пачалі паўафіцыйна называць Привислинский край (Kraj Nadwiślański).

[5] У 1861 г. Леапольд Крананберг (1812–1878), тагачасны ўладальнік выдання, перайменаваў "Gazetę Codzienną" на "Gazetę Polską".

Юзаф Сікорскі (1813–1896), які рэдагаваў у 1857–1862 гг. “Ruch Muzyczny”, а г. зн. тая асоба, якая надрукавала ў 1859 г. два вершы маладога паэта. Заўважым, што за ўвесь час існавання “Ruchu…” там былі надрукаваныя толькі вершы васьмі аўтараў, сярод якіх – Уладзіслаў Сыракомля, Дыятыма і інш.[1].

Лісты і карэспандэнцыі Ялегі Пранціша Вуля 1860-х гг. маглі быць вядомымі і наступнаму галоўнаму рэдактару і выдаўцу “Gazety Polskiej” ад 9 снежня 1874 г. Эдварду Леа (1829–1901), які з 1859 г. стала супрацоўнічаў з газетаю, пісаў музычныя і тэатральныя рэцэнзіі.

Мы не ведаем, хто з іх – Ю. Сікорскі ці Э. Леа – узяў на працу былога паўстанца і выгнанніка, але прапанаваная была яму адно сціплая пасада карэктара. Можа, з-за рэдактарскай палітычнай асцярожнасці, хоць наўрад ці што лепшае той мог прапанаваць: з газетаю супрацоўнічалі самыя вядомыя тагачасныя літаратары і публіцысты. Дастаткова назваць імёны Генрыка Сянкевіча, Элізы Ажэшкі, Пятра Хмялёўскага, Баляслава Пруса і інш.

Дзесяцігадовы побыт у Сібіры не аказаў негатыўнага ўплыву на веданне Ф.Э. Карафа-Корбутам польскае мовы. Да таго ж – паводле ацэнкі аўтара некралога – са сваімі абавязкамі ён спраўляўся выдатна: папраўляў не толькі арфаграфічныя і граматычныя памылкі, але і стылістычныя ды іншыя, калі гадзінамі дыскутаваў са славутымі аўтарамі.

На нашую думку, аўтарам *Пасмяротнага ўспаміну* з’яўляецца галоўны рэдактар выдання – Э. Леа, бо невыпадкова ў ім шмат месца займае ўхвальная ацэнка самаахвярнае працы Ф. Корбута на карысць газеты ды і наўрад ці нехта іншы з супрацоўнікаў ведаў яго цягам “амаль дваццаці гадоў”. Істотнай для нас інфармацыяй з’яўляецца тое, што аўтар ведае пра публікацыю Ялегі Пранцішам Вулем сваіх вершаў у “некалькіх тутэйшых выданнях” ды тое, што яны вызначаліся “высокім палётам думкі і прыгожаю формаю”. Выданні, праўда, не называюцца, але калі творы друкаваліся пад ранейшым псеўданімам паэта, то з часам яны будуць выяўленыя.

А вось з біяграфіі паэта ў *Пасмяротным успамін*е згадваецца няшмат. На пэўную ўвагу заслугоўвае інфармацыя пра месца нараджэння Ф.Э. Карафа-Корбута – Гарадок Віцебскае губерні[2]. У хроснай метрыцы ўказваецца іншае месца – Віцебск, а таксама тое, што бацькі немаўляці – парафіяне віцебскага фарнага касцёла Найсвяцейшае Тройцы. Чаму ж Гарадок? Бо, відаць, сям’я Карафа-Корбутаў была нейкім чынам звязаная з Гарадком. Магчыма, адтуль паходзіла маці паэта – Антаніна з Сабалеўскіх, дык ці не праводзіў ён свае дзіцячыя гады, а таксама вольны час якраз у Гарадку? Зрэшты, звесткі, якія падаюцца ў тут, хоць і паходзілі ад самога (?)

[1] Адной з гэтых васьмі публікацый былі беларускамоўныя вершы А. Вярыгі-Дарэўскага *Dumka: Sałdatka (z komedyo-opery pod tytułem Grzech 4ry hnieu)* і *Hymn: Do obrazu Cudownej Matki Boskiej Białynickiej nad Dnieprem* у карэспандэнцыі Беларускае Дуды ад 4 лістапада 1859 г. Гл.: “Ruch Muzyczny” 1859, nr 49 (25 listopada/7 grudnia).

[2] Цікава тое, што найстарэйшы рукапісны спіс паэмы *Тарас на Парнасе*, падпісаны прозвішчам Канстанцін Вераніцын, меў пазнаку “1855, 15 kwietnia, Horodek”.

Ф. Корбута (ці ягонае жонкі), аднак маглі быць занатаваныя недакладна. Адназначна няправільна пададзены тут год нараджэння нябожчыка: метрычнай кнізе віцебскага касцёла мы можам даць больш веры[1].

Жыццёвы шлях Ф.Э. Карафы-Корбута малюецца ў *Пасмяротным успаміне* як цярністы: і ягоную службу ў пекле (канцыляры палаты дзяржаўных маёмасцяў), і ўдзел у паўстанні, і высылку ў Сібір, і цяжкую журналісцкую працу аніяк інакш назваць не выпадала.

Інфарматыўнай аказалася і абвестка-некралог пра пахаванне Ф. Корбута, змешчаная ў тым самым нумары "Gazety Polskiej". Жалобнае набажэнства прайшло ў касцёле Усіх святых (пляц Грыбоўскі 3/5), а г. зн., што Ялегі Пранціш Вуль належаў да тамтэйшае парафіі і жыў непадалёку, хоць і невядома пакуль, ці адразу пасля прыезду ў Варшаву пасяліўся тут, ці пераехаў у гэтую ваколіцу пазней. Разам з Ф. Корбутам і ягонаю жонкаю Ганнаю жылі нібыта пляменнікі (siostrzeńcy[2]), бо менавіта ад іх імя запрашаліся сваякі, сябры і калегі на пахаванне, якое адбылося на Павонзках.

Пахавалі Ф.Э. Карафа-Корбута 11 снежня 1894 г. Пра тое, як адбывалася пахавальная цырымонія, звестак пакуль не выяўлена. Зусім верагодна, што на пахаванні прысутнічаў Адам Плуг, адзін з тых, хто належаў да г. зв. "беларускага гуртка".

Праз нейкі час на магіле беларускага паэта з'явіўся помнік. Паставілі яго жонка, Ганна з Талвінскіх Карафа-Корбут, і пляямнік, Браніслаў Карафа-Корбут: з правага боку надмагільнае пліты выбіта слова ŻONA, з левага – BRATANEK. Зроблена гэта было да 1898 г. – году ад'езду Браніслава на працу ў Туркестан (Ашхабад). У Варшаву Браніслаў вярнуўся ў 1924 г. Магчыма нават разам са сваім бацькам, Вільгельмам Карафа-Корбутам[3].

Помнік на магіле Ялегі Пранціша Вуля не вельмі шыкоўны, з пясчаніка, але трывалы. У надмагільную пліту ўмураваная мармуровая табліца з вершаванымі радкамі і надпісам: "Ś. P. Eligi Franciszek Korbutt. Żył lat 60[4]. Zm. 8 grudnia 1894 r. Wieczny odpoczynek racz mu dać Panie".

---

[1] Паводле метрычнае кнігі Віцебскага парафіяльнага фарнага касцёла Францішак Элігі Корбут нарадзіўся 9 красавіка 1835 г. Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, укл. Г.В. Кісялёў, 2-е выд., Мінск 2003, с. 368.

[2] Дзеці сястры. У Варшаве ў той час жыў і вучыўся на медыцынскім факультэце Варшаўскага ўніверсітэта Браніслаў Карафа-Корбут (1870–1933), сын брата Вільгельма. Але ён *bratanek* Ялегі Пранціша Вуля. Верагодна, у Варшаве знаходзіліся таксама ўнукі малодшых сёстраў бацькі, Маўрыцыя Карафа-Корбута: Брыгіды, Пляцыды і Мар'яны альбо сёстраў маці, Антаніны з Сабалеўскіх Карафа-Корбут. Можна таксама дапусціць, што аўтар некралога не меў дакладнае інфармацыі пра пляменнікаў калегі-нябожчыка.

[3] Ён таксама пахаваны на Павонзках (kwatera 215, rząd 5, miejsce 29). Надпіс на магільнай пліце: "Ś. P. Wilhelm Karaffa-Korbutt. Powstaniec z 1863 r. Żył lat 85. Zmarł d. 22 sierpnia 1928 r.". Пахаваў В. Карафа-Корбута, відавочна, ягоны сын, Браніслаў, які з 1924 г. амаль да самай смерці (8.10.1933 г.) жыў у Варшаве. Ён, аднак, года нараджэння бацькі дакладна не ведаў (Вільгельм Карафа-Корбут нарадзіўся ў 1845 г.). Гл.: М. Хаўстовіч, *Даследаванні і матэрыялы: Літаратура Беларусі XVIII–XIX стагоддзяў*, т. першы, Warszawa 2014, с. 245–246.

[4] Пададзеная колькасць пражытых гадоў амаль дакладная: Ф. Корбут памёр, маючы 59 гадоў і восем месяцаў.

Вершаваныя радкі ўзятыя з верша Ялегі Пранціша Вуля *Koniec drogi*:

Aureola cierpień jasno
U czoła mi świeci,
I rozwidnia drogę ciasną
Wśród mgły i zamieci.
Ale tam u drogi końca,
Na powierzchni ziemi,
Cóż to świeci na kształt słońca
Blaski cudownemi
Ach! to wyobraźni siła
Kreśli koniec drogi –
To darniowa jest mogiła,
Jasnych niebios progi.
Kiedyż zmierzę kroki memi
Całą przestrzeń drogi,
By z krawędzi szarej ziemi
Wstąpić w niebios progi.

Вялікае надзеі адшукаць магілу Ялегі Пранціша Вуля ў нас не было[1]: за сто дваццаць гадоў “miejsce grzebalne” магло быць даўно прададзенае, але нечакана пашанцавала: ажно на двух сайтах выявілася інфармацыя пра месца пахавання Ф. Корбута[2]. Праўда, кожны з іх падаваў “сваю” версію месцазнаходжання магілы (хоць і ў адной і той самай г. зв. кватэры). Аднак знайсці яе ўжо не складала цяжкасці.

Шмат гадоў ніхто магілаю Ф.Э. Карафа-Корбута не апекаваўся. Помнік пашкоджаны, адсутнічае верхняя частка (крыж ляжыць за помнікам); адсутнічае таксама на помніку г. зв. аздоба – вянец авальнае формы. Магіла калісь была агароджаная: чатыры слупкі з пясчаніку, палучаныя металічнымі прэнтамі. Цяпер засталіся толькі слупкі.

Дваццацігадовы побыт Ялегі Пранціша Вуля ў Варшаве пакінуў на сабе пэўныя сляды. Маем надзею, што пра іх зможам расказаць у наступным томе *Даследаванняў і матэрыялаў*.

[1] Цягам некалькіх гадоў мы сістэматычна аглядалі “кватэры” на Павонзках.

[2] На старонцы сайта *Warszawskie Zabytkowe Pomniki Nagrobne* месца пахавання Ялегі Пранціша Вуля выявіў А.Ф. Брыль. Тут магіла беларускага паэта паказаная недакладна. Гл.: [online] https://cmentarze.um.warszawa.pl/pomnik.aspx?pom_id=16327 [доступ: 24.12.2018]. А вось на старонцы *Sejm-Wielki* інфармацыя пададзена правільна. Гл.: [online] http://www.sejm-wielki.pl/s/cmentarze.php?kw=70 [доступ: 25.12.2018].

# Два вершы паэта

З Юзафам Сікорскім, рэдактарам двухтыднёвіка “Ruch Muzyczny”, Ялегі Пранціш Вуль наладзіў дачыненні з дапамогаю Арцёма Вярыгі-Дарэўскага. Магчыма, пра гэта маюцца звесткі ў лістах варшаўскага рэдактара да Беларускае Дуды ад 30 сакавіка і 1/13 ліпеня 1859 г.[1], але, на жаль, невыразная копія, якую маем, не дазваляе больш пэўна пра гэта гаварыць.

Не выключаем таксама, што гэта сам А. Вярыга-Дарэўскі ў верасні 1859 г. даслаў вершы маладога прыяцеля разам са сваёй карэспандэнцыяй, надрукаванай адразу пасля публікацыі твораў Ялегі Пранціша Вуля (у наступным, 41 нумары газеты).

Відавочна, меў падставы ў 1894 г. аўтар *Пасмяротнага ўспаміну* сцвярджаць, што вершы Ялегі Пранціша Вуля вызначаліся “высокім палётам думкі і прыгожаю формаю”. Мяркуючы па надрукаваных у “Ruchu Muzycznym”, гэта сапраўды так. Невыпадкова адзін з іх – *Rozmowa z przyjaciółką* будзе ўзноўлены ў літаратурна-музычным месячніку “Śpiewak” (1914, nr 7, 1 lipca). Праўда, падпісаны памылковым крыптанімам – E. F. N.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першадруку паводле: “Ruch Muzyczny” 1859, nr 40 (23 września/5 października).

### Koniec drogi

Aureola cierpień jasno
U czoła mi świeci,
I rozwidnia drogę ciasną,
Wśród mgły i zamieci.

Ale tam – u drogi końca,
Na powierzchni ziemi,
Cóż to świeci nakształt słońca,
Blaski cudownemi?

Ach! to wyobraźni siła
Kreśli koniec drogi –
To darniowa jest mogiła,
Jasnych niebios progi.

A nad wzgórkiem odpocznienia,
Ku niebu wystrzela
Godło święte odkupienia:
Krzyżyk Zbawiciela.

[1] Lietuvos valstybes istorijos archyvas, F. 1135–4–391.

A pod krzyżem na mogile
    Moja gęśl spoczywa;
Z jej strun wietrzyk w nocne chwile
    Senne dźwięki zrywa.

Jakże wdzięcznym, jasnym blaskiem
    Ten obrazek błyska!
Kiedyż, kiedyż tym obrazkiem,
    Nacieszę się zbliska?

Kiedyż zmierzę kroki memi
    Całą przestrzeń drogi,
By z krawędzi szarej ziemi
    Wstąpić w niebios progi?

## Rozmowa z przyjaciółką

ONA

Zaśpiewaj mi piosnkę, ja ci powtóruję!
Kiedy będzie tęskna, ja cię pożałuję;
A gdy piosnka będzie wesołą jak dziecie,
Uplotę wianeczek mojemu poecie.

JA

Ej ty wiejski ptaszku! wszak ty umiesz latać?
Więc gdy chcesz mi wianek za piosenkę splatać,
To podleć do nieba, i poproś aniołków,
By ci z raju dały i róż i fijołków.
I jeśli te kwiaty ubiorą me czoło,
Zaśpiewam ci piosenkę jak dziecko wesołą.
A kiedy chcesz tęsknej – to znów lec do nieba,
Bo mi ztamtąd rosy na łezkę potrzeba;
Taka jedna łezka da mi treść do pieśni,
O jakiej się nawet nikomu i nie śni.
Zgoda na to, ptaszku?
                        Lecz ona ucieka.
I paluszkiem grozi poecie zdaleka,
Że chce mu się więcej jak ptasiego mleka;
Że piosnki swe ceni kwiatów rajskich wonią
I łzami, co z nieba aniołowie ronią;
Że wcale zapomniał, iż piosnka na ziemi
Nagradza piołunem i łzami krwawemi.
A ja biedny stoję bez kwiatków, bez rosy,
I patrzę w jej postać i patrzę w niebiosy…

Eligi Franciszek Ul.

# Некралогі Элігія Францішка Карафа-Корбута

Выяўленыя *Пасмяротны ўспамін* і некралог Ялегі Пранціша Вуля ў “Gazecie Polskiej”, некралог у газеце “Kurjer Warszawski”, а таксама кароткая згадка пра смерць паэта ў “Gazecie Lwowskiej” (гл. вышэй). Можна меркаваць, што Антоні Плуг, які з названых Р. Зямкевічам сяброў беларускага гуртка ў Варшаве заставаўся ў 1894 г. у жывых, паспрыяў публікацыі некралога ў газеце “Kurjer Warszawski”, дзе з 1887 г. і да смерці з’яўляўся адным з выдаўцоў[1]. Тэксты абодвух некралогаў падобныя (відаць, былі напісаныя адною асобаю), але ў рэдакцыі “Kurjera”, у якім некралогі друкаваліся вельмі часта (блізу дзесяці ў кожным нумары, а вось у “Gazecie Polskiej” іх амаль не было), яго крыху папраўлілі.

Вялікага дастатку сям’я Корбутаў, відаць, не мела: надрукаваўшы абвесткі (кошт аднаго радка некралога складаў 15 капеек, усяго – блізу 3 рублёў) 10 снежня 1894 г., яны больш у газеты паведамленняў на дасылалі – не публікавалі ні запрашэнні на імшы г. зв. грэгарыянскія, ні на імшу ў гадавіну смерці.

Некралогі друкуюцца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацый паводле “Gazety Polskiej” (1894, nr 282, 10 grudnia / 28 listopada ) і “Kurjera Warszawskiego” (1894, nr 341, 28 listopada / 10 grudnia), а таксама ў перакладзе на беларускую мову.

Пасмяротны ўспамін – з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі паводле “Gazety Polskiej” (1894, nr 282, 10 grudnia / 28 listopada ), а таксама ў перакладзе на беларускую мову.

[1] Газета ў гэты час падпісвалася так: “Redaktor Franciszek Olszewski, wydawcy: Wacław Szymański i Antoni Pietkiewicz (Adam Pług)”.

Ś. ✝ P.

**FRANCISZEK**

# KORBUTT

LITERAT

długoletni współpracownik «Gazety Polskiej», zmarł w 58 roku życia w dniu 8-ym b. m. Nabożeństwo żałobne przy zwłokach nieboszczyka odbędzie się w dniu 11-ym b. m. we wtorek w kościele WW. Świętych, eksportacya zaś zwłok na cmentarz Powązkowski nastąpi tegoż dnia o godzinie 3-ej po południu, na które pozostała żona i siostrzeńcy zapraszają krewnych, przyjaciół i kolegów nieboszczyka. Osobne zaproszenia rozsyłane nie będą.

С. ✝ П. Францішак Корбут, літаратар, шматгадовы супрацоўнік “Gazety Polskiej” памёр на 58 годзе жыцця 8 дня б. м. Жалобнае набажэнства над астанкамі нябожчыка адбудзецца 11 дня б. м., у аўторак, у касцёле Усіх Святых, урачыстая экспартацыя астанкаў на Паванзкоўскія могілкі будзе таго самага дня а 3-й гадзіне па палудні, на якія самотная жонка і пляменнікі запрашаюць сваякоў, сяброў і калегаў нябожчыка. Асобныя запрашэнні высылацца не будуць.

Ś. ✝ P.

# Franciszek Korbutt

LITERAT

długoletni współpracownik *Gazety Polskiej*, po długich i ciężkich cierpieniach, zmarł w dniu 8-ym b. m, w wieku lat 58. Nabożeństwo żałobne odbędzie się we wtorek dnia 11-go b. m., o godzinie 10-ej zrana, w kościele Wszystkich Świętych na Grzybowie, wyprowadzenie zaś zwłok w tymże dniu i z tegoż kościoła, o godz. 3-ej po południu na cmentarz powązkowski nastąpi, na które pozostała żona i siostrzeńcy zapraszają krewnych, przyjaciół i kolegów zmarłego. Osobne zaproszenia rozsyłane nie będą.

С. ✝ П. Францішак Корбут, літаратар, шматгадовы супрацоўнік “Gazety Polskiej”, пасля доўгіх і цяжкіх цярпенняў, памёр 8 дня б. м. у 58 гадоў. Жалобнае набажэнства адбудзецца ў аўторак 11 дня б. м. а 10-й гадзіне раніцы ў касцёле Усіх Святых на Гжыбове, вынас астанкаў у гэты ж самы дзень і з гэтага ж самага касцёла а 3-й гадзіне па палудні на Паванзкоўскія могілкі, на якія самотная жонка і пляменнікі запрашаюць сваякоў, сяброў і калегаў нябожчыка. Асобныя запрашэнні высылацца не будуць.

## Ś. † p. Franciszek Korbutt

Przez tyle lat, przez lat niemal dwadzieścia, widywaliśmy go w swem gronie koleżeńskiem, przy biurku redakcyjnem.

Cichy, skromny, zajęty mozolną pracą, wzorem był współpracownika, pełnego niestrudzonej wytrwałości, przejętego wysokiem poszanowaniem dla swych obowiązków, odczuwającego głęboko zadanie dziennika i znaczenie działalności publicystycznej.

Tyle razy już porównywano zawód dziennikarski do Molocha, pochłaniającego ofiary, że porównanie to stało się nawskróś zużytem, przychodziło ono jednak zawsze na myśl trafnością swoją, ilekroć nasuwała nam się przed oczy postać jednego z tych licznych pracowników piora, którym codzienne zajęcie redakcyjne, krępujące najczęściej polot myśli, jednostajnością swą wyjaławiające zdolności, – stopniowo odbiera możność tworzenia, wyczerpuje i zniechęca. Dla redakcyi są to wielce użyteczni współpracownicy, polegać na nich można zupełnie, wiedza ich oddaje wszelkie usługi pismu, ale przechodzą oni dla ogółu mniej postrzeżenie, nie mając dla siebie nawet pociechy, aby przez ten ogół zostali należycie ocenieni.

Nieboszczyk Korbutt, o czem wiedzą wszyscy jego koledzy, szczerze kochał naszą Gazetę i pracował dla jej dobra z wielkiem poświęceniem sił własnych. Między innemi zajęciami redakcyjnemi przez długi czas prowadził korektę pisma. Nie był to jednak ów przeciętny korektor, który wyławia tylko błędy liter; pilnie śledził on myśli autorskie i nieraz godziny cale konferował z pierwszorzędnymi autorami, zwracając ich uwagę na różne zauważone przezeń niewłaściwości, a spostrzeżenia jego w wielu razach były tak słuszne, iż się do proponowanych przez niego zmian i poprawek chętnie zastosowywano. Rzec można, iz oschłą pracę korektorską, podniósł do znacznej godności i uszlachetnił. Zapewne, traktowanie korekty w ten sposób zabierało mu bardzo dużo czasu i stawało się nieraz szkopułem dla dziennikarskiego pośpiechu.

On jednak pracował tak, nie przez oschły pedantyzm, lecz przez wysoką cześć dla drukowanego słowa, dla powołania dziennikarskiego, nie bacząc, że te mozoły coraz więcej podkopują mu siły żywotne.

Odrywał się przecież nieraz od swej jednostajnej pracy, ażeby dać ujście swym myślom i uczuciom w poezyi. Wiersze jego drukowało parę z tutejszych pism, a odznaczały się i wysokim polotem i piękną formą. Z biografii zmarłego wolno nam przytoczyć niektóre szczegóły. Urodził się Franciszek Korbutt w Horodku w gub. witebskiej, w r. 1836; zamłodu już przeszedł ciernistą wędrówkę żywota, po której przystanią była znów ciężka praca dziennikarska.

Choroba, trawiąca nadwątlony organizm, od pół roku wytrąciła mu pióro z ręki i uczyniła z niego prawdziwego męczennika, jak gdyby przeznaczone mu było na tym świecie doświadczyć całego pasma rozlicznych cierpień.

Płacze po nim rodzina, żałują go szczerze koledzy, i wszyscy, co go znali, żegnają go, jako człowieka, który obrał sobie za hasło: prawdę, cnotę i miłość i służył im wiernie i stale.

## Св. † п. Францішак Корбут

Цягам столькіх гадоў, амаль што дваццаці гадоў, мы бачылі яго ў нашым калежанскім коле за рэдакцыйным сталом.

Ціхі, сціплы, заняты мазольнаю працаю, ён быў узорам супрацоўніка неспрацаванае настойлівасці, прасякнутага высокім шанаваннем сваіх абавязкаў, з глыбокім адчуваннем задачы выдання і значэння публіцыстычнае дзейнасці.

Столькі разоў ужо параўноўвалі журналісцкую прафесію з тым Молахам, які паглынае ахвяры, што параўнанне гэтае стала ўжо цалкам збітым, але яно заўсёды прыходзіла ў галаву з-за свае трапнасці, калі перад вачыма ўзнікала постаць аднаго са шматлікіх працаўнікоў пяра, у якіх аднастайны штодзённы рэдакцыйны занятак, які стрымлівае часта палёт думкі і сваёю аднастайнасцю вынішчае здольнасці, паступова адбірае магчымасць тварыць, знясільвае і знеахвочвае. Для рэдакцыі гэта вельмі карысныя працаўнікі, на іх заўсёды можна разлічваць, сваімі ведамі яны служаць выданню, але іх звычайна грамадства амаль не заўважае, і яны не маюць нават пацехі, што грамадства належным чынам ацэніць іх.

Нябожчык Корбут, пра што ведаюць усе ягоныя калегі, шчыра любіў нашую “Gazetę” і працаваў на яе карысць з вялікай самаадданасцю, не шкадуючы ўласных сіл. Сярод іншых рэдакцыйных абавязкаў ён доўгі час рабіў карэктуру выдання. Але не быў ён тым звычайным карэктарам, які выяўляе адно памылкі друку; ён пільна сачыў за аўтарскаю думкаю і няраз цэлымі гадзінамі дыскутаваў з самымі вядомымі аўтарамі, звяртаючы іх увагу на розныя, заўважаныя ім, неадпаведнасці, і ягоныя заўвагі шмат у якіх выпадках бывалі такімі слушнымі, што прапанаваныя ім змены і папраўкі ахвотна прымаліся. Можна смела казаць, што празаічнай працы карэктара ён надаў годнасці і шляхетнасці. Вядома, такое стаўленне да карэктуры забірала ў яго шмат часу і станавілася няраз перашкодаю дзеля журналісцкае паспешнасці.

Ён, аднак, працаваў так не з-за халоднага педантызму, але з-за таго, што высока ставіў друкаванае слова, з-за свайго журналісцкага прызвання, не звяртаючы ўвагі, што гэтая цяжкая праца ўсё больш і больш нішчыць яго жыццёвыя сілы.

Але, здаралася, ён адрываўся ад свае аднастайнае працы, каб даць выхад сваім думкам і пачуццям у паэзіі. Вершы яго друкавалі некалькі тутэйшых выданняў, і адзначаліся яны высокім палётам думкі і прыгожаю формаю. З біяграфіі памерлага мы можам даць адно асобныя дэталі. Нарадзіўся Францішак Корбут у Гарадку Віцебскае губерні ў 1836 г.; ужо ў маладосці прайшоў цярністы шлях жыцця, прыстанкам пасля чаго стала зноў жа цяжкая журналісцкая праца.

Хвароба, якая нішчыла падарваны арганізм, ужо паўгода як вырвала пяро ў яго з рук і ўчыніла з яго сапраўднага пакутніка, нібы наканавана яму было на гэтым свеце зазнаць усе віды цярпенняў.

Плача па ім сям’я, шчыра яго шкадуюць калегі і ўсе, хто яго ведаў, развітваюцца з ім, як з чалавекам, які абраў сабе дэвізам: *праўда, цнота і любоў* ды служыў ім аддана і стала.

# Загадкі Альгерда Абуховіча

Хто і якім чынам перадаў “паперы” А. Абуховіча ў рэдакцыю “Нашай Нівы”, – застаецца невядомым. Аднак здарылася гэта да верасня 1912 г.[1]. Можна дапусціць, што Казімір Аколаў-Падгорскі[2], выбіраючыся са Слуцка да сына ў Варшаву, даслаў у Вільню “10 сшыткоў <…> памятнікоў” сябра. Рыгор Родчанка, дзякуючы слуцкім “старажылам”, высветліў, што сапраўды на вуліцы Юр’еўскай жыў К. Аколаў[3], у доме якога, як паведаміла ў 1921 г. дачка Казіміра Язэпу Дылу, памёр А. Абуховіч[4]. Аднак аналіз даступнае літаратуры (нататак і лістоў Я. Дылы) не дазваляе адназначна сцвердзіць, што архіў і бібліятэка А. Абуховіча апынуліся ў руках К. Аколава[5]. Тым больш, што – па словах Я. Дылы – “толькі польскі патрыёт” К. Аколаў наўрад ці цікавіўся беларускім адраджэнскім рухам, ведаў пра існаванне “Нашае Нівы”. Праўдападобна, што свае рукапісныя ўспаміны А. Абуховіч перадаў перад смерцю сваёй сястры[6] ці нейкаму са сваіх маладых слуцкіх прыяцеляў.

На нашую думку, у 1912 г. “паперы” А. Абуховіча трапілі аднаму з карэспандэнтаў (ці чытачоў) “Нашае Нівы”, які выслаў ці перадаў іх у рэдакцыю. Па падліках Ядвігіна Ш., за 1911 г. у газеце было надрукавана 39 дапісаў са Слуцкага павета[7]. Яшчэ больш іх з’явілася на старонках

---

[1] На нашую думку, – летам 1912 г., г. зн. у той час, калі рэдакцыю ўжо пакінуў Рамуальд Зямкевіч, які, вядома, не выпусціў бы са сваіх рук такую каштоўнасць.

[2] Паводле Язэпа Дылы, А. Абуховіч і К. Аколаў бралі ўдзел у паўстанні 1863 г. У вядомых нам спісах удзельнікаў паўстання яны абодва не згадваюцца. У той жа час у г. Тара Омскае губерні былі высланыя шляхціцы Аколавы з Мінскае губерні: Александар, Іван (зусім верагодна: бацька Леанарда Аколава-Падгорскага), Восіп і Павел разам са сваімі сем’ямі. Гл.: [online] http://kdkv.narod.ru/1864/Ssilka-ZapSib.html#14 [доступ: 3.07.2018].

[3] Р. Родчанка, *Альгерд Абуховіч-Бандынэлі*, Мінск 1984, с. 70.

[4] Гл.: А. Мальдзіс, *Падарожжа ў XIX стагоддзе: З гісторыі беларускай літаратуры, мастацтва і культуры: Навукова-папулярныя нарысы*, Мінск 1969. Гл.: [online] http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=25679 [доступ: 3.07.2018].

[5] Пацвердзіць могуць росшукі Р. Родчанкі, які ад Барташэвічаў, што набылі ў 1928 г. дом Хведаровічаў (былая вуліца Іванаўская, сёння Р. Люксембург 25), дзе кватараваў А. Абуховіч, даведаўся: на гарышчы дома калісь захоўваліся кнігі і паперы, знішчаныя прадстаўнікамі савецкай улады ў 1930-я гг.

[6] Паводле Р. Родчанкі, сястру А. Абуховіча звалі Караліна Анэля. Яна была на 19 гадоў маладзейшая за брата. (Гл.: А. Абуховіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 59). Пасля сямейнага канфлікту і сыходу А. Абуховіча з дому, яны 18 гадоў не сустракаліся. І толькі калі пісьменнік захварэў, сястра наведалася да яго. Пэўна, яна ж і паставіла помнік на магіле брата. (Гл.: *Пачынальнікі: З гісторыка-літаратурных матэрыялаў XIX ст.*, уклад. Г. Кісялёў, Мінск 1977, с. 449).

[7] Гл.: А. Бульба, *Наш рахунак за мінулы год*, “Наша Ніва” 1912, № 6 (10 лютаго/февраля).

штотыднёвіка ў 1912 г. Варта назваць асобных карэспандэнтаў: Мікіта Абрамчык з м. Раманава, Адзінокі з засценка Пляшчэвічы, К. П. з засценка Бокшыцы, В. Грушэўскі з вёскі Белічы, Лявон Лобік з вёскі Кукавічы, Т–ае са Слуцка, Тройчанін са Слуцка, А. Калпак з вёскі Старыца, Х. Гапановіч з вёскі Сераднікі, Вокабачны з вёскі Падкалоўшчына, М. Бурачаеўскі з вёскі Малашэвічы.

Асаблівую ўвагу хацелася б звярнуць на два допісы, бо ў іх адчуваецца пэўная абазнанасць і цікавасць да літаратурнага жыцця, жаданне ўдзельнічаць у літаратурным працэсе. Перш-наперш – адказ рэдакцыі "І. К. у Слуцку": "«Бирюка» варта перэтлумачыць, а калі выйдзе добра, то пастараемося надрукаваць у тым часі, як будзе цішэй с «палітыкай» і больш мейсца астанецца пад бэльлетрыстыку. «Аброк» тлумачыце правільна"[1]. Якое цікавае супадзенне: расейскі *бирюк* 'адзінокі воўк; самотнік' – гэта ў пэўнай ступені беларускі *ваўкалак*! Аднак не маем аргументаў, каб сцвердзіць, што гэта яшчэ адна з містыфікацый Вацлава Ластоўскага (менавіта ён у той час выконваў функцыю сакратара рэдакцыі). Калі ж Янка Саламевіч правільна расшыфраваў крыптанім І. К. (як І. Кулікоўскі)[2], то пададзеная ім крыніца (ЦДАЛМ БССР, ф. 3. Сёння – БДАМЛіМ) можа даць дадатковую інфармацыю[3].

Другі допіс у "Нашу Ніву" – гэта невялікае сатырычнае апавяданне "Крука з Млынкоў[4], Слуцк. пав." пад тытулам *Калатня*. Аўтар выдае яго за "беларускую казку", якую ён нібыта "перэсказываў")[5].

Карэспандэнтамі і чытачамі "Нашае Нівы" ў 1912 г. маглі быць людзі, якія асабіста ведалі А. Абуховіча, а нехта з іх мог мець і паэтавыя рукапісы.

Не выклікае сумнення, што апынуліся яны ў руках В. Ластоўскага. Больш за тое, хіба, ніхто іншы іх не бачыў і не даследаваў. А выкарыстаў Власт "паперы" А. Абуховіча ўпершыню ў артыкуле, прысвечаным 50-м угодкам з дня смерці Уладзіслава Сыракомлі. Цікава адзначыць, што сакратар "Нашае Нівы" асноўную ўвагу акцэнтуе тут на сцвярджэнні беларускасці польскамоўных твораў Адама Міцкевіча, У. Сыракомлі ды інш.: "Кондратовіч пісаў па польску, але дух яго твороў чыста мейсцовых, беларускі. У паднявольных народаў часам бываюць дзіўные момэнты ў жыцьці, калі найлепшые сілы, найлепшые сыны ідуць скародзіць чужые нівы, чужые засекі багаціць. Ці мала наша Беларусь дала здольных людзей Польшчы на полі літэратуры затым толькі, што нас злучыла с Польшчай гістарычная доля? Але ўсе гэтые творы, хоць верхнюю адзежку – мову маюць польскую, адначэ сваей душой яны беларускіе. Кажу беларускіе, – бо

[1] *Пачтовая скрынка*, "Наша Ніва" 1911, № 13 (31 сакавіка/марца).

[2] Заўважым, што крыптанімам І. К. у нашаніўскія часы карыстаўся і Янка Купала.

[3] Гл.: Я. Саламевіч, *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)*, Мінск 1983, с. 62.

[4] Так аўтар называе два колішнія засценкі – Вялікі Млінск і Малы Млінск – якія ў XX ст. пачалі называць Млінкі, Млінка ці Млынка.

[5] Гл.: *Калатня: Беларуская казка*, перэсказываў Крук з Млынкоў, Слуцк. пав., "Наша Ніва" 1913, № 14 (10 лютаго/февраля).

зацьвілі яны з народу беларускаго, з яго душы і думак"[1]. У якасці аргументацыі В. Ластоўскі падае прыклад з фінскае літаратуры: Юхан Людвіг Рунеберг (1804–1877), нягледзячы на тое, што пісаў па-шведску, лічыцца фінскім паэтам: "фінляндцы перэклалі творы Рунэбэрга на сваю мову і лічаць яго сваім народным паэтам"[2]. А таму, "і мы, беларусы, саўсім справядліва можэм шукаць адбіцьця сваей народнай душы у творах шмат якіх польскіх пісьменьнікоў, што былі родам з Беларусі, а ў першым чародзе у творах Міцкевіча і Кондратовіча. Гэта будзе ешчэ ясьней, калі мы зьвернем увагу, як беларуская душа, адбітая у творах Кондратовіча у *Гутарках* (*Gawędach*) і лірыцы, не пасуе да душы польскага народу, і як палякі яе не разумелі"[3].

Сваю канцэпцыю В. Ластоўскі падмацоўвае яшчэ і тым, што У. Сыракомля пісаў па-беларуску. Па-першае, частку рукапісаў беларускіх твораў паэта мае пан Каратынскі ў Варшаве, "і кажуць, бытцым гэтые вершы маніцца выдаць адна з варшаўскіх кнігарэнь"[4], а па-другое, сам публіцыст мае сведчанне, што літоўскі лірнік пісаў па-беларуску: "З папероў, астаўшыхся па Обуховічу (гэтак сама ніколі не друкаваўшым сваіх твороў, беларускім паэце с пад Слуцка), мы ведаем, што Кондратовіч много пісаў па беларуску і пісаў хораша. Обуховіч пасылаў свае беларускіе вершы Кондратовічу і сам прагледаў беларускіе вершы Кондратовіча; ў пісьме да Кондратовіча ён пісаў:

> У гаворцы ёсць ружніца
> Між маею і тваей:
> Маей – пушчы, Птыч граніца;
> Ты – Панарскі салавей"[5].

З апублікаваных пазней успамінаў А. Абуховіча вынікае, што ў іх не было гаворкі пра беларускамоўныя вершы У. Сыракомлі і пра тое, што паэт са Слуцка пасылаў свае беларускамоўныя вершы літоўскаму лірніку[6]. Чаму ж у артыкуле 1912 г. з'яўляецца У. Сыракомля? Адказ можа быць толькі адзін: гэтага вымагала выказаная В. Ластоўскім канцэпцыя, якую можна ўмоўна назваць "польскамоўная беларуская літаратура" ці "беларуская літаратура на польскай мове". Больш складана адказаць на пытанне, чаму не змяніў "Францішка Багушэвіча" на "У. Сыракомлю" публікатар у 1916 г., рыхтуючы "паперы" А. Абуховіча да друку? Забыўся пра тое, што пісаў у 1912 г., ці тут хаваецца нейкая іншая загадка?

В. Ластоўскі быў у рэдакцыі "Нашай Нівы" адным з тых, хто надзвычай уважліва ставіўся да даўняй беларускай літаратуры, рабіў пэўныя крокі дзеля ейнае актуалізацыі. Магчыма, паўплываў на яго Р. Зямкевіч са сваёй прагаю збіральніцтва рукапісных і друкаваных памятак беларускага

---

[1] Власт, *Людвік Кондратовіч (Сырокомля)*, "Наша Ніва" 1912, № 36 (6/19 верэсьня).
[2] *Ibidem*.
[3] *Ibidem*.
[4] *Ibidem*.
[5] *Ibidem*.
[6] Але гэта не азначае, што ва ўспамінах такога не было ўвогуле.

прыгожага пісьменства. Зрэшты, не адзін Р. Зямкевіч меў намер напісаць гісторыю беларускае літаратуры. Цікавым у гэтых адносінах можа быць адказ "Нашае Нівы" (вельмі верагодна, што пісаў яго сакратар газеты В. Ластоўскі) І. Хадзянку[1]: "Апрацаваць біографіі беларускіх пісьменьнікоў справа вельмі важная, але пакуль што німа каму гэтым заняцца, прынамсі у нас у Вільні, ды і матэрьялы ешчэ ня ўсе сабраны. Дакумэнты беларускіе, што маеце – гэта копіі, вартасьці вялікай не маюць, але заўсёды могуць мець сваё мейсцэ у музэі, бо пісаны па беларуску, дзеля гэтаго трэба іх прыберагчы"[2].

Клопатам пра збор матэрыялаў, які ўжо вядзецца "Нашай Нівай", напоўнены артыкул В. Ластоўскага *Памажыця!* у двух нумарах газеты за 12 і 19 верасня 1913 г. Аўтар просіць чытачоў выяўляць і прысылаць у рэдакцыю рукапісы, а таксама іншыя матэрыялы, звязаныя з жыццём і творчасцю беларускіх літаратараў. Паказальна, што сярод сямнаццаці названых пісьменнікаў Власт згадвае і паэта са Слуцка: "Ольгерд Обуховіч. Родам з Бабруйскаго павету, жыў у Слуцку. Пісаў многа вершоў па беларуску, перэкладаў Міцкевіча, Кондратовіча і Лермонтава. Рэдакціія "Н. Н." мае 10 сшыткоў яго памятнікоў у каторых там і сям ёсць чэрнавікі вершоў. Патрэбна яго жыцьцёапісаньне, партрэт і болей рукапісоў"[3].

Аніякіх звестак, ці даслалі чытачы якія-небудзь іншыя "паперы" А. Абуховіча, да нас не дайшло. Дык, відавочна, трэба лічыць, што ўсё, апублікаванае са спадчыны слуцкага паэта, паходзіць менавіта з тых "10 сшыткоў <…> памятнікоў", якія рэдакцыя, а г. зн. В. Ластоўскі[4] атрымала не пазней за верасень 1912 г.

Асаблівых магчымасцяў апублікаваць творы А. Абуховіча – трэба прызнаць – у В. Ластоўскага не было. За "плошчу" ў "Нашай Ніве" ішла – у поўным значэнні гэтага слова – барацьба. Прыгадайма, успаміны В. Ластоўскага пра Максіма Багдановіча: "Вуснамі супраціўнікаў Багдановіча гаварыла іх абражаная аўтарская амбіцыя, што ў нашай мініяцюрнай часопісі замест іх твораў займаецца мейсца пад вершы Багдановіча"[5]. З гэтай, відавочна, прычыны уладальнік "папероў" А. Абуховіча змог прапанаваць два вершы слуцкага паэта адно ў літаратурную частку *Biełaruskaho kalendara na 1915 hod* (Wilnia 1914). (Тое, што праблема "плошчы" была надзвычай актуальнай, сведчыць той факт, што *Календар* выйшаў фактычна двума выданнямі з іншымі ў кожным тэкстамі). Укладальнік (мяркуем, што

---

[1] Прозвішча ўдалося ўстанавіць, дзякуючы яшчэ аднаму допісу ў паштовай скрынцы. Гл.: *Пачтовая скрынка*: *Ходзянку* ,"Наша Ніва" 1913, № 15 (12 красавіка).

[2] *Пачтовая скрынка*: *І. Хо–нку*, "Наша Ніва" 1912, № 51–52 (21 сьнежня).

[3] Власт, *Памажыця!*, "Наша Ніва" 1913, № 38 (19 верэсьня).

[4] Нават Антон Луцкевіч, з кім В. Ластоўскі працаваў супольна і ў "Нашай Ніве", і ў "Гомане", хіба, нічога не ведаў пра лёс "папераў" А. Абуховіча. Паводле сцверджання Анатоля Сідарэвіча, А. Луцкевіч у 1928 г. спрабаваў адшукаць Абуховічавыя мемуары. Гл.: Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст*., 2-выд., Мінск 2003, с. 70.

[5] В. Ластоўскі, *Выбраныя творы*, уклад., прадм. і камент. Я. Янушкевіча, Мінск 1997, с. 193.

ім быў Янка Купала) *Biełaruskaho kalendara na 1915 hod* атрымаў, відавочна, не арыгіналы вершаў, а копіі. Мяркуем так па той прычыне, што характар пісьма А. Абуховіча быў надзвычай нечытэльны, дык уладальніку "папероў" давялося літаральна расшыфроўваць напісанае паэтам. Зрэшты, гэта толькі ў тым выпадку, калі ў "паперах" А. Абуховіча былі, як сцвярджаў В. Ластоўскі, адно "чэрнавікі вершоў". Нельга, аднак, выключаць, што байкі *Waŭkałak* і *Starszyna* ў "паперах" захаваліся ў выглядзе картак, перапісаных кімсьці з прыяцеляў аўтара.

*Biełaruski kalendar na 1915 hod* выйшаў у свет напрыканцы кастрычніка 1914 г.[1], але з-за вайны і невялікага, магчыма, накладу быў малазнаны даследчыкам літаратуры. Нават Яўхім Карскі дзеля напісання раздзела пра А. Абуховіча ў трэцяй часцы трэцяга тома *Бѣлорусовъ* карыстаўся адно першым выданнем *Гісторыі беларускае літэратуры* Максіма Гарэцкага. Праўда, у своеасаблівым дадатку да выдання (*Матеріалы для словаря остальныхъ бѣлорусскихъ писателей послѣдняго времени*) ён згадвае байку *Суд* з чытанкі *Родны край* (1919), а таксама байкі *Waŭkałak* і *Starszyna* з *Дэкляматара* (1921) М. Гарэцкага[2]. Запазычыўшы асноўную інфармацыю ў М. Гарэцкага, Я. Карскі, аднак, з нейкіх іншых крыніцаў падаў гады жыцця А. Абуховіча: 1840–1898. Вытлумачэнне гэтае загадкі можа быць толькі адно: звесткі паходзяць ад Язэпа Дылы, які яшчэ ў 1920 г. "знайшоў на каталіцкіх могілках Слуцка магілу А. Абуховіча з невысокім каменным помнікам, на якім быў просты надпіс з імем і прозвішчам пісьменніка і датамі нараджэння і смерці"[3].

Вядомымі гэтыя байкі А. Абуховіча сталі дзякуючы М. Гарэцкаму, які тройчы ў 1921–1922 гг. перадрукаваў іх з *Biełaruskaho kalendara na 1915 hod*, а таксама чытанкам Леанілы Гарэцкай *Родны край*.

Значнай падзеяй у працэсе вяртання спадчыны А. Абуховіча сталася публікацыя ягоных успамінаў і верша *Duma a Karólu XII* у газеце "Homan". На жаль, аніякіх пазнак (апрача: Č czytajecca, jak CZ; š – jak SZ)[4] і каментароў публікатар не пакінуў. Як вядома, рукапіс успамінаў не захаваўся (?), а пра прынцыпы публікацыі мы можам толькі здагадвацца. Здаецца, мемуары А. Абуховіча не былі тэмаю мовазнаўчых даследаванняў. Перадусім, у энцыклапедыі *Беларуская мова* знаходзім толькі агульныя разважанні пра мову твораў пісьменніка: "На асаблівасці гаворак паўднёва-заходняга дыялекту абапіраліся ў сваёй беларускамоўнай літаратурнай творчасці Я. Чачот (Навагрудчына), А. Абуховіч (Случчына), Цётка (Гродзеншчына) і іншыя беларускія пісьменнікі 19 ст."[5].

---

[1] Гл.: "Наша Ніва" 1914, № 43 (30 кастрычніка).

[2] Гл.: Е. Карскій, *Бѣлорусы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроград 1922, с. 76–77, 376, 446.

[3] Я. Дыла, *Творы*, Мінск 1981, с. 274.

[4] Так у "Homanie" звычайна друкаваліся толькі літаратурныя творы. Графема **ž** выкарыстоўвалася ва ўсіх тэкстах газеты.

[5] А. Крывіцкі, *Паўднёва-заходні дыялект* [у:] *Беларуская мова: Энцыклапедыя*, Мінск 1994, с. 417.

Не можам мы згадзіцца са сцверджаннем Г. Кісялёва, што мова ўспамінаў “самая натуральная, арганічна спалучаецца з беларускай мовай вершаваных радкоў, якія ўжо несумненна належаць Абуховічу”[1]. На нашу думку, мова мемуараў пісьменніка мала чым адрозніваецца ад шмат у чым уніфікаванае мовы газеты “Homan”, прынамсі, першага года яго існавання. Больш за тое, адважваемся сцвердзіць, што мова мемуараў А. Абуховіча – гэта мова В. Ластоўскага, прызнаючы тым самым, што рэдактар газеты як мінімум правіў тэкст XIX стагоддзя ў адпаведнасці з вымогамі моўнае палітыкі “Homanu”.

Не можам не звярнуць увагу на яшчэ адну акалічнасць. Справа ў тым, што ў сярэдзіне XX ст. Уладас Абарамавічус, не спасылаючыся на крыніцы, назваў публікацыю “Homanu” перакладам з польскае мовы: “207. АБУХОВІЧ, АЛЬГЕРД. С папераў Ольгера Обуховіча (Успаміны з другой палавіны XIX в. гістарычна-публіцыстычнага характару). Гоман, Вільня 1916, № 33–40, латиница. Первая публикация в переводе с польского на белорусский яз. Воспоминания касаются положения белорусского селянства и политическо-народной деятельности некоторых белор. интиллигентов. Извлечения в хрестомат. Гарецкого”[2]. Г. Кісялёў аспрэчыў сцверджанне У. Абрамавічуса: “ніякіх указанняў на гэта (пераклад з польскае мовы. – *М. Х.*) у самой публікацыі няма”[3]. І дзеля пацвярджэння, спаслаўся на беларускіх літаратуразнаўцаў, якія, “мабыць[4], слушна лічаць, што мемуары Абуховіча напісаны па-беларуску і стаяць ля вытокаў не толькі нацыянальнай мемуарыстыкі новага часу, але і мастацкай прозы”[5].

Сапраўды, ніхто з беларускіх навукоўцаў ніколі не выказваў аніякіх сумненняў наконт беларускае мовы ўспамінаў А. Абуховіча. Адносна “асноўнага” аргумента Г. Кісялёва, то варта сказаць: у “Homanie” ў часы рэдактарства В. Ластоўскага, хіба, не было прынята пазначаць, што той ці іншы твор друкуецца ў перакладзе. Так, напрыклад, пачынаючы з другога нумара, “Homan” друкаваў у перакладзе асобныя апавяданні Яна Баршчэўскага (*Żabier trawa* [№ 2], *Woūkałak* [№ 5–7], *Biełaja Saroka* [№ 8–9], *Kryčačyje wałasy na haławie* [№ 10–13], *Wužawa karona* [№ 15]), але нідзе не пазначалася, што гэта пераклад з польскае мовы і хто перакладчык (апавяданні *Żabier trawa* і *Wužawa karona* ўвогуле падаваліся як беларускія легенды, а не як творы Я. Баршчэўскага)[6]. Гэтаксама, паводле публікацыі

[1] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 336.

[2] В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные (с приложением 34 иллюстраций)*, Вильнюс 1949, с. 57.

[3] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 336.

[4] Усё ж даследчык меў пэўныя сумненні!

[5] *Ibidem.*

[6] Лічыцца, што вышэйназваныя апавяданні пераклаў Янка Станкевіч. Аднак гэта не так: будучы мовазнавец толькі позняй восенню 1917 г. вярнуўся праз Расею з аўстрыйскага

“Homanu”, можна падумаць, што навэлу *Da swajho Boha* [№ 14] па-беларуску напісаў нехта M. Zych[1], а аповесць *Wiedźma* [№ 41–45] – Janka Swajak[2].

Праўда, папулярнае апавяданне Генрыка Сянкевіча *Janka-Muzyka* [№ 16–17] публікавалася ўжо інакш: у кароткай прадмове пазначана, што твор у 1904 г. пераклаў Янка Сваяк. Тое самае і ў выпадку з папулярнаю байкаю Артура Бартэльса (1818–1885) *Świńni i Barany* [№ 54]: рэдакцыя падала, што „pieratłumaczyŭ <…> Franc Boh.”[3].

Увогуле, працаўнікоў у рэдакцыі “Homanu” было мала, большасць матэрыялаў пісалі і рыхтавалі Антон Луцкевіч (на грамадска-палітычныя тэмы) і В. Ластоўскі (літаратура, гісторыя, культура Беларусі). Абодва яны звычайна карысталіся некалькімі псеўданімамі, відаць, з прычыны, каб у адным нумары адзін аўтар не падпісваў два ці больш допісаў. На нашу думку, “Jazep Hulewicz” – гэта псеўданім В. Ластоўскага. З’явіўся ён у газеце літаральна некалі разоў: напачатку ў рубрыцы *Z budnaho žyćcia*, а пасля пад нататкамі пра мову, незалежнасць і Палтаўскую бітву. Якраз гістарычная тэматыка апошняга допісу і схіліла нас да таго, каб “прыпісаць” В. Ластоўскаму яшчэ адзін псеўданім. Не згадаўшы пра 1709 год у *Кароткай гісторыі Беларусі* (1910), Власт у іншых грамадска-палітычных умовах здолеў дакладна ахарактарызаваць ролю і значэнне перамогі Пятра І у лёсе ўсходнеславянскіх народаў у прадмоўцы да верша А. Абуховіча *Duma a Karólu XII*. Характэрна, што называецца яна адметна: *1709–1916*, цалкам у стылі В. Ластоўскага-гісторыка[4]. Варта памятаць і тое, што рэдактар газеты наўрад ці аддаў бы малавядомаму супрацоўніку каштоўныя “паперы” А. Абуховіча, калі дапусціць, што Язэп Гулевіч – гэта пэўная рэальная асоба. Дарэчы, Язэп Гулевіч “знік” са старонак “Homanu”, апублікаваўшы ў № 23 свой апошні фельетон. Фактычна адначасна з сыходам з газеты В. Ластоўскага, рэдактарства якога закончылася на 32 нумары “Homanu” за 1917 г.[5].

палону. (У № 79 “Homanu” за 1917 г. знаходзім вестку, што ён яшчэ ў палоне: “У Вільні і ваколіцах. Вестка з палону. У Рэдакцію «Гомана» прыйшла вестка, што ў палон у Аўстрыю ў палове гэтаго месяца папаў беларускі грамадзкі працаўнік, Янка Станкевіч, вядомы ў беларускай прэссе пад імем «Янучонка». Нейкі час ён працаваў у «Нашай Ніве» і ў беларускай каталіцкай газэці «Беларус» у Вільні. Перад самай вайной за беларускую пропаганду яго выдалілі з духоўнай сэмінарыі, а сьледам за гэтым узялі ў салдаты”).

На нашу думку, дадзеныя апавяданні Я. Баршчэўскага пераклаў В. Ластоўскі.

[1] Маўрыцы Зых – адзін з псеўданімаў вядомага пісьменніка Стэфана Жаромскага (1964–1925).

[2] Пад псеўданімам Янка Сваяк на пачатку ХХ ст. друкаваў свае пераклады з польскае мовы Мар’ян Фальскі (1811–1974)

[3] Гаворка пра Францішка Багушэвіча.

[4] Гл., напрыкл.: W. Ł., *1491–1916*, “Homan” 1916, № 1 (15 lutaho), а таксама шэраг артыкулаў у “Нашай Ніве”.

[5] Р. Родчанка, чамусьці палічыўшы, што В. Ластоўскі пакінуў “Homan”, падпісаўшы да друку № 32 за 1916 г., паспрабаваў нават вывесці пэўную “тэорыю”: “Нумар з публікацыяй першых фрагментаў з мемуараў падпісаў новы рэдактар «Гоману» нехта Салавей. Носьбіт гэтага прозвішча, відаць, быў родам з-пад Слуцка, бо і сёння пад Слуцкам у вёсках ёсць нямала людзей з такімі прозвішчамі”. Гл.: Р. Родчанка, *Альгерд Абуховіч-Бандынэлі* [у:] А. Абуховіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 10.

Мы не ведаем, якую частку з тых “10 сшыткоў <…> памятнікоў” В. Ластоўскі апублікаваў у “Homanie”: шматабзацальнае „Dalej budzie” ў № 40 газеты дэкляравала толькі “з’яўленне” верша *Duma a Karólu XII* ці планаваўся працяг успамінаў А. Абуховіча? З артыкула *Памажыця!* мы ведаем, паэт са Слуцка “перэкладаў Міцкевіча, Кондратовіча і Лермонтава”. Аднак чамусьці фрагменты пра Кандратовіча-Сыракомлю і Лермантава не былі надрукаваныя ў “Homanie”, а пра пераклады А. Абуховічам твораў Адама Міцкевіча толькі прамільгне згадка ў нататцы пра Міхала Мікешына ў часопісе “Крывіч” (1927, № 12). Няўжо фрагмент успамінаў, напрыклад, пра паноў Дашкевічаў В. Ластоўскі палічыў больш важным за дачыненні А. Абуховіча з творчай спадчынай вядомых літаратараў?

Пытанне пра мову ўспамінаў пісьменніка са Слуцка варта разгледзець і з пункту гледжання мовы фрагменту з ягоных “папераў”, які В. Ластоўскі падаў у сваім *Расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку*: “У паперах нябошчыка Ольгерда (Аляксандра) Обуховіча (родам са Случчыны), маецца запісанае слова **спакм*е*нь**: «W czasie pobytu u. p. Czarnockich zrobiłem ciekawe spostrzeżenie do słownictwa ludu naszego, mianowicie: znalazłem, zdajemi się, zupełne ekwiwalent słowu ‘objekt’, w naszem – *spaktmień*; jakie słyszałem w żartobliwej piosence, która widocznie, posłużyła Odyńcowi do słynnego jego wierszyka *Czy to czart, czy to chart*.

Ni|to czort, ni|to chort,
Ci to cień, ci spakmień.

Hładka Marcysia, pokojowa, po długich ceregielach wypytywań w czeladnej, zgłosiła: Zdajetsa to budzie usio szto możno zdumaci, czy pobaczyci; reszto już ja sam downioskowałem”[1].

Польскамоўны фрагмент ва ўспамінах А. Абуховіча можа сведчыць, што былі яны ці то двухмоўныя, ці то пераважна польскамоўныя з беларускамоўнымі ўстаўкамі – вершамі, народнымі песнямі і адметнымі беларускімі словамі.

Зусім верагодна, што вершаў ва ўспамінах было няшмат. Закладкі-пераклады, пра якія піша Я. Дыла, не абавязкова маглі трапіць “у паперы Обуховіча”. Бо вельмі сумнеўна, што В. Ластоўскі цягам паўтара дзясятка гадоў не знайшоў бы магчымасці надрукаваць па-беларуску фрагменты з *Фаўста* Ёгана Вольфганга Гётэ, *Разбойнікаў* Фрыдрыха Шылера, вершы Віктора Гюго, Джорджа Байрана, Дантэ Аліг’еры, Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Уладзіслава Сыракомлі, Аляксандра Пушкіна, Міхаіла Лермантава[2].

---

[1] *Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік*, уклад. В. Ластоўскі, Коўна 1924, с. 533–534.

[2] Гэтых аўтараў згадвае Я. Дыла. Варта адзначыць, што ім называліся і канкрэтныя творы расейскае літаратуры: *И скучно и грустно* М. Лермантава, *Деревня* (*Приветствую тебя, пустынный уголок*), *... Вновь я посетил тот уголок*, *Арион* (*Нас было много на челне*) А. Пушкіна. Гл.: Я. Дыла, *Творы*, Мінск 1981, с. 272.

Як выключэнне трэба, відаць разглядаць той факт, што захаваліся ў “паперах Обуховіча” дзве байкі – *Sud* і *Woŭk i Lisica*, якія былі апублікаваныя ў “knižcy da czytańnia dla biełaruskich paczatkowych szkoł na 2 i 3 hod nawuki”, названую В. Ластоўскім *Rodnyje Zierniaty* (1916).

Як сведчыць спасылка прыпіс да нататкі пра М. Мікешына, у 1926–1927 г. успаміны А. Абуховіча захоўваліся “ў сабраньнях В. Ластоўскага”. Пераязджаючы ў сакавіку 1927 г. з Коўна ў Мінск, выдавец “Крывіча” не мог не забраць свае “сабраньні”. А гэта азначае, што “паперы Обуховіча” апынуліся ў сталіцы Савецкай Беларусі. Магчыма, яны былі перададзены ўладальнікам у Беларускі дзяржаўны музей, дзе В. Ластоўскі працаваў у 1927–1929 гг. дырэктарам, ці ў Інстытут беларускай культуры або канфіскаваныя органамі ГПУ пры арышце ў ліпені 1930 г.

## Пераклады на польскую мову

Пераклады А. Абуховіча двух баек Івана Крылова на польскую мову захаваліся сярод карэспандэнцыі і розных папераў Аляксандра Валіцкага (1826–1893), якія Нацыянальная бібліятэка ў Варшаве набыла ў 1949 г. ад Марыі Карповічавай. У 1955 г. яны былі апісаны ў IV томе Katalogu rękopisów Biblioteki Narodowej наступным чынам: "2981 *Pol., ros. XIX w. K. 219*. Papiery różne ze zbiorów Aleksandra Walickiego z lat 1869–1892. 1. Autografy wierszy następujących autorów: Bandinelli Olgierd[1]: *Małpa i zwierciadło*, *Wielmoża* (tłum. z ros. bajek Iwana Kryłowa) 1885 k. 1, przy tym na k. 1 v list tegoż do NN w sprawie przesłania wierszy A. Walickiemu"[2].

У 1960-я гг. Адам Мальдзіс, відаць, не ведаючы пра гэтае апісанне твораў А. Абуховіча, выявіў байкі ў аддзеле рукапісаў Нацыянальнай бібліятэкі ды коратка згадаў пра іх у прадмове да публікацыі дзевяці лістоў Янкі Лучыны да паэта і літаратурнага крытыка Зянона Пшасмыцкага (1861–1944): "Польскія пераклады баек *Вяльможа* і *Малпа і люстэрка* падпісаны «Альгерд гр. Бандынэлі. Мозыр»"[3]. Навуковец, хіба, не змог цалкам расчытаць рукапіс, і – тым самым – засталася не ўлічанай важная дэталь: год перастварэння баек І. Крылова. А гэта б дадало істотную рысу да жыццяпісу А. Абуховіча: у студзені 1885 г. пісьменнік жыў у Мазыры. [Пад перакладам байкі *Вельможа* (А. Абуховіч падае тытул твора па-расейску) чытаем: "Перакладаў у Мазыры ў першых днях студзеня 1885 ^га^ года. Olg hr Bandinelli"]. Калі ж прыгадаць, што паводле абвесткі Віленскага зямельнага банка ў снежні 1883 г. маёнтак Абуховічаў Калацічы быў выстаўлены на аўкцыён, то становіцца зразумелым, што пісьменнік пераехаў у Слуцак не ў 1883–1884 г., як меркаваў Р. Родчанка, а крыху пазней[4].

Не менш важным, думаецца, дзеля жыццяпісу літаратара з'яўляецца і ягоны кароценькі ліст да невядомай асобы[5] з просьбаю пераслаць А. Валіцкаму

[1] Польскія навукоўцы не расшыфравалі псеўданіма А. Абуховіча. Першым гэта зрабіў А. Мальдзіс.

[2] *Katalog Rękopisów Biblioteki Narodowej: Rękopisy 2667–3000 i 7001–7200*: *Korespondencja i drobne utwory XIX i XX wieku*, Wrocław 1955, s. 178.

[3] Гл.: А. Мальдзіс, *Пісьмы Я. Лучыны да З. Пшасмыцкага* [у:] *Садружнасць літаратур*, Мінск 1968, с. 153.

[4] А. Абуховічу ў 1883 г. належалі маёнткі Калацічы і Заполле ў Бабруйскім павеце (1362 дзесяціны зямлі). Яны былі ацэненыя на 24294 руб. і закладзеныя ў Віленскім зямельным банку дзеля атрымання пазыкі, якая (з працэнтамі) складала 13825 руб. Гл.: Г. Каханоўскі, *Радок у біяграфію Альгерда Абуховіча*, "Чырвоная змена" 1986, 6 снежня; Р. Родчанка, *Альгерд Абуховіч-Бандынэлі* [у:] А. Абуховіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 6; Г. Кісялёў, *Абуховіч Альгерд* [у:] *Беларускія пісьменнікі: Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах*, т. 1: *Абуховіч – Ватацы*, Мінск 1992, с. 12–13.

[5] Вельмі верагодна, што тут маецца на ўвазе Зоф'я Савіцкая, сястра А. Валіцкага, што пасля

байкі *Małpa i zwierciadło* ды *Вельможа*: “Шаноўная Пані-Дабрадзейка! Хоць бездапаможнымі пададуцца, але май ласку Пані пераслаць мае пераклады Пану Аляксандру: Ён мяне заахвоціў, дык – рады ці нярады – няхай чытае і прымае рашэнне. Альгерд. Мазыр, 17 студз. 1885 г.”.

Вядома, гаворка тут ідзе пра А. Валіцкага, вядомага выдаўца і музычнага крытыка, які ў той час быў адміністратарам кнігарні-выдавецтва Гэбэтнера і Вольфа ў Варшаве. Ліст можа сведчыць пра блізкія дачыненні былых выхаванцаў Слуцкае гімназіі. Праўда, з-за розніцы ва ўзросце яны наўрад ці маглі сустракацца ў гімназічныя часы; хутчэй за ўсё іх знаёмства адбылося ў Мінску ці Вільні[1] пасля вяртання А. Абуховіча з Заходняй Еўропы на бацькаўшчыну. Нельга таксама выключаць, што першыя кантакты між імі завязаліся ў часе паўстання ці на высылцы. Дакладна вядома, што А. Валіцкі адбываў пакаранне ў Тамбове. Туды ж мог быць высланы і А. Абуховіч.

Магчыма, выдавецтва Гэбэтнера і Вольфа рыхтавала зборнік баек еўрапейскіх паэтаў, дык А. Валіцкі, ведаючы пра сатырычны талент свайго суайчынніка, прапанаваў і яму паўдзельнічаць у такім праекце. (На жаль, падобнага тыпу выданне сярэдзіны 1880-х гг. выявіць пакуль не ўдалося).

Пераклады (лепш: наследаванні) А. Абуховіча засталіся незапатрабаванымі. Рашэнне А. Валіцкага было ці то адмоўным, ці то нехта іншы (ці нешта іншае) “перашкодзіў” байкам І. Крылова ў польскамоўнай апратцы ўбачыць друкарскі варштат. Зрэшты, не скажаш, што пераклады вылучаюцца дасканаласцю. *Вельможа* А. Абуховіча, праўда, дастаткова няблага перадае змест байкі І. Крылова, хоць і не можа пахваліцца эквілінеарнасцю: 25 радкоў расейскага паэта перададзены 22, не кажучы ўжо пра эквіметрычнасць. А вось *Małpa i Zwierciadło* можна назваць толькі кароткім пераказам байкі *Зеркало и обезьяна* (першапачатковы варыянт – *Мартышка и Зеркало*): ад 20 радкоў І. Крылова ў А. Абуховіча засталося ўсяго 12 (адсутнічае заключнае шасцірадкоўе).

Байкі занатаваныя на аркушы добрае паштовае паперы фармату А 4 (27,0x20,8). На 1 r – *Вельможа*, з пазнакаю ўнізе пра час перакладу твора. На 2 v (паводле бібліятэчнай нумарацыі), у ніжняй палове старонкі – *Małpa i Zwierciadło*. Тут жа, зверху, змешчаны ліст да “Пані-Дабрадзейкі”. Вершаваны тэкст напісаны прыгожым, каліграфічным почыркам. Магчыма, асоба, якая гэта зрабіла, рэдка карысталася польскаю моваю на пісьме (арфаграфічныя памылкі, нестандартнае напісанне насавых галосных). Відавочна, пасылаючы прызначаныя да друку творы, А. Абуховіч паклапаціўся, каб яны былі напісаныя чытэльна. Чаго не скажаш пра ліст і прыпіс да аднае з баек. Затое мы маем узор характару пісьма А. Абуховіча.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: Rkps BN 2981, k. 1–1 v.

---

арышту брата выкупіла ягоную кнігарню ў Мінску.

[1] Уладзімір Мархель выявіў у газеце “Kurjer Wileński” інфармацыю, што А. Абуховіч тройчы ў 1862 г. наведваў Вільню, у тым ліку ў дзень пахавання У. Сыракомлі. Гл.: У. Мархель, *Крыніцы памяці*, Мінск 1990, с. 97.

## Вельможа

Satrapa[1] co w Persyi zarządzał powiatem
Na pysznem[2] swem łożu pożegnał się z swiatem[3]
I ruszył nieborak do kraju Plutona[4]
Gdzie sądna komissja iest z bogów złożona
„Skąd jestes cos[5] czynił" to pierwsze pytanie
„Zrodzony wsród[6] Persów ja byłem satrapą
Sekretarz załatwiał mych rządów starania
Bywało jam słaby więc między agapą[7]
I miłym spoczynkiem dzieliłem me dzionki
Ach prędzej mu rajskie otworzcie[8] przysionki"
Tak Pluton powiada, a za to Merkury[9]
Na pana Plutona napada już z góry
„Gdzie~~sż~~ słuszność zakony braciszku Eaku[10]
Cóż chciałes[11] wymagać po takim głuptaku"
Rzekł Pluton „wszak widzisz że głowę miał owczą
A władzą nieboszczyk piastował stanowczą
By rządzić sam zechciał swojemi mozgami
To swiat[12] by się zalał rzewnemi tam łzami
I za to niech rusza szczęsliwie[13] do raju
Że w sprawy się mieszać on nie miał zwyczaju

Ja w izbie zawczora[14] widziałem sędziego
Ot zda się że w raju jest mejsce[15] dla niego.

Tłumaczyłem w Mozyrzu w pierwszych dni[16] stycznia 1885$^{go}$ roku.
*Olg hr Bandinelli*

---

[1] Сатрап – у даўняй Персіі так называўся намеснік правінцыі, які меў неабмежаваную ўладу.
[2] Тут і далей не звяртаем увагі на словы, якія напісаны паводле тагачаснага правапісу.
[3] Так у рукапісе. Трэба: *światem.*
[4] У грэцкай і рымскай міфалогіі – адно з імёнаў бога падземнага каралеўства і смерці.
[5] Так у рукапісе. Трэба: *jesteś coś*.
[6] Так у рукапісе. Трэба: *wśród*.
[7] Агапа – урачыстая вячэра ў першых хрысціянаў на памятку пра апошнюю вячэру Хрыста. Тут: банкет, бяседа.
[8] Так у рукапісе. Трэба: *otwórzcie.*
[9] У рымскай міфалогіі – бог гандлю, сын бога Неба Юпітэра.
[10] У грэцкай міфалогіі – сын Зеўса, цар вострава Эгіна; пасля смерці стаў адным з суддзяў падземнага каралеўства.
[11] Так у рукапісе. Трэба: *chciałeś*.
[12] Так у рукапісе. Трэба: *świat*.
[13] Так у рукапісе. Трэба: *szczęśliwie.*
[14] Так у рукапісе. Трэба: *zawczoraj*.
[15] Так у рукапісе. Трэба: *miejsce*.
[16] *Dni* – правільна: *dniach*, але, магчыма, трэба чытаць: *dn*.

## Małpa i Zwierciadło

Zajrzała małpeczka w zwierciadło przypadkiem
Więć[1] nózką niedzwiedzia[2] potrąca ukradkiem
Ach zobacz powiada najmilszy mój panie
Taż morda szkaradna – grymasy, dryganie
Jeslibym[3] co kolwiek przypomnieć ją miała
To wraz bym z rozpaczy najpewniej skonała
A jednak się zgodzisz że takej poczwarze
Podobnych sród[4] naszych ja kilka pokażę
I nawet na palcach gdy zechcesz wyliczę
Trud zbytny[5] spójrz raczej na|własne oblicze
Tak niedzwiedz do małpy rozsądnie powiada
Lecz czemuż bez skutku przepadła ta rada

Szanowna Pani Dobrodziejko,

Jakkolwiek niedołężne się wydadzą, ale racz Pani przesłać moje tłomaczenia Panu Aleksandrowi: On mnie zachęcił, zatem, rad czy nierad niech czyta i decyduje.

Olgierd

Mozyr
17 stycz. 1885

---

[1] Так у рукапісе. Трэба: *Więc*.
[2] Так у рукапісе. Трэба: *niedźwiedzie*.
[3] Так у рукапісе. Трэба: *Jeślibym*.
[4] Так у рукапісе. Трэба: *wśród*.
[5] Так у рукапісе. Трэба: *zbytni*.

# Старшына

Байка ўпершыню была апублікаваная Biełaruskim wydawieckim tawarystwam u Wilni ў *Biełaruskim kalendary na 1915 hod*. На жаль, дакладных звестак, хто рыхтаваў да друку гэты календар, не захавалася. Можна думаць, што тэкст твора паходзіць з тых “10 сшыткоў <…> памятнікоў”, пра якія пісаў Вацлаў Ластоўскі ў 38 нумары газеты “Наша Ніва” за 1913 г.[1].

Байка А. Абуховіча напісана паводле сюжэту *Мирской сходки* (1816) І. Крылова. Аднак гэта шмат у чым самастойны твор як з пункту гледжання зместу (тэкст А. Абуховіча мае выразныя рысы сатыры на парэформенную Расею), так і формы (аб’ём павялічаны амаль у два разы).

Друкуецца паводле: Olgierd Obuchowič, *Staršyna* [у:] *Biełaruski kalendar na 1915 hod*, Wilnia 1914, s. 36–37 з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў публікацыі.

## Staršyna[2].

Choć jaki kirunak daj  
Adno toje, bratko, znaj,  
Što krutnioju ŭsio pakruciš,  
I najlepše zbałamuciš.

———

Lwa-manarcha woŭk prasiŭ, –  
Kab wajtom[3] jaho zrabiu, –  
Bo awieczki u biezładzie  
Škodziuć wielmi ŭ pansim sadzie,  
Dy i sami prapadajuć, –  
Bo jak žyci bač nie znajuć.  
I lisa za im prasila  
(Jaje žonka lwa lubiła).  
Woŭk z lisicaju zwiazaŭsia  
I jak možna tak staraŭsia:

[1] Власт, *Памажыця*!, “Наша Ніва” 1913, № 38 (19 верэсьня).

[2] Інстытут валасных старшын быў уведзены *Общим положением о крестьянах, вышедших из крепостной зависимости*, зацверджаным 19 лютага 1861 года. У Варшаўскай губерні – солтыс.

[3] Тут, відавочна, маецца на ўзвазе асоба, якая наглядала за працай прыгонных сялян. У Беларусі ў другой палове XIX стагоддзя “афіцыйна” дадзеная пасада не існавала, але сям-там па традыцыі так маглі называць прадстаўніка адміністрацыі маёнтка і інш.

– Dzie prasili, dzie ūzdychnuli,
Dzie haścinca padatknuli:
Kab dabicca da medali[1]
I płacili, i prasili, i stahnali...
Leŭ haworyć: "Chodziuć tołki,
Što awiec zjedajuć woūki.
I sazwać skazaū narod
Na zwiaryny walny[2] schod,
Raspytać usich zwierat:
– Woūk ci dobry, ci jon had? –
Czyny ważny ūsie pryšli,
Usio naczalstwa tut było,
Dy pryczyny nie znajszli:
Zła ab woūku nie czutno:
Pad sudom jon bač nia byū,
I z načalstwam dobra žyū,
Dyk medal wajta nadzieū
Woūk na ūwieś awiečy chleū.
– A awiečki štož skazali?
– Ich na schod susim nie zwali
A ŭpisana ū pratakoli,
Što „awiečkam dana wola".

У 1921 г. М. Гарэцкі перадрукаваў з *Biełaruskaha kalendara na 1915 hod* твор А. Абуховіча *Старшына* з невялікімі зменамі (bratko – братка, najlepše – найлепша, u biezładzie – у няладзе, Škodziuć – Шкодзяць, nie znajuć – ня знаюць, Chodziuć – Ходзяць, zjedajuć – зьядаюць, zwiaryny – зьвярыны, zwierat – зьвярат, nie czutno – ня чутно, susim – зусім, nie zwali – ня звалі, ū pratakoli – ў пратаколе), транслітараваўшы тэкст на грамадзянскі алфавіт, у газеце "Беларускія ведамасці" (1921, № 9), пасля ўключыў яго ў падрыхтаваны ім зборнік *Дэкляматар*[3] ("вершы і кароткія апавяданьні, якія надаваліcь-бы для дэклямацыі на канцэртах, народных сьпектаклях, вечарынах"[4]), а таксама ў *Хрыстаматыю*[5].

У тым жа 1921 годзе Леаніла Гарэцкая (Чарняўшчынка), "wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii", уключыла (паводле *Biełaruskaha kalendara na 1915 hod*, але без пачатковага чатырохрадкоўя) гэтую байку ў "wydannie IV-aje" чытанкі *Rodny Kraj*[6]. "Olgierd Obuchowič" В. Ластоўскага стаў у яе "A. Abucho-

[1] Тут гаворка ідзе пра медаль – знак улады валаснога старшыны.
[2] Walny (польск. *walny*) – агульны.
[3] А. Абуховіч, *Старшына* [у:] *Дэкляматар*, рэдактар-выдавец М. Гарэцкі, Вільня 1921, с. 29–30.
[4] Гл.: "Беларускія ведамасці" 1921, № 7 (24 кастрычніка / 11 акцябра).
[5] А. Абуховіч, *Старшына* [у:] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 216.
[6] A. Abuchwič, *Staršynia* [y:] *Rodny Kraj*, wydannie IV-aje, ukłała L. Hareckaja, Wilnia 1921, s. 42.

wičam", а *Staršyna* падаецца як *Staršynia*. У 1923 і 1929 гг. чытанка Л. Гарэцкае выдавалася грамадзянскім шрыфтам[1], а ў 1931 і 1936 гг. – зноў лацінкаю[2]; кніжка выкарыстоўвалася ў школах Заходняй Беларусі.

У Савецкай Беларусі твор А. Абуховіча стаў вядомы толькі ў 1956 г., калі ўбачыў свет зборнік *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя*. Укладальнік Васіль Барысенка, відавочна, выкарыстаў "падказку" Уладаса Абрамавічуса, які ў раздзеле *Рукописи разного характера* машынапісу свае славутае бібліяграфіі занатаваў: "428. АБУХОВІЧ, АЛЬГЕРД. *Старшына* і *Ваўкалак*. Автографы стихо [sic!] исправленные карандашем рукох [sic!] автора, без даты (XIX в.), но с подписью и дописком – Слуцк. Хранятся ВБФ – 431, л. 1–2, латиница 28x21 см."[3].

Як засведчыў укладальнік, "байкі *Ваўкалак* і *Старшына* друкуюцца па рукапісах, якія захоўваюцца ў рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР"[4]. Публікацыя гэтая, аднак, даволі своеасаблівая: укладальнік на свой густ "выбіраў" тэкст байкі з рукапісу: папраўленае алоўкам у адных выпадках прымаў, у іншых – пакідаў без увагі, выкарыстоўваючы першасны запіс (напр. замест "атрамантавых" радкоў "Starszynoju kab jon byŭ", "I lisica paprasila" ўзятыя іх "алоўкавыя" адпаведнікі: "Каб вайтом яго зрабіў", "І ліса за ім прасіла". У той жа час "атрамантавы" радок "Dyk medal pan woŭk nadzieŭ" "мадэрнізуецца" ў "Дык медаль пан войт надзеў" – тут адвольнае спалучэнне двух варыянтаў, бо "алоўкавая" версія гучыць так: "Dyk medal wajta nadzieū". Тое самае можна сказаць пра 7 радок байкі: першаснае "Szto awieczki skroź biez ładu" і "алоўкавы" варыянт "Bo awieczki u biezładzie" спалучаюцца ў "Бо авечкі скрозь ў бязладдзі"). А вось апошнюю страфу ўкладальнік без асаблівых змен запазычыў з "алоўкавай" версіі тэксту. Апрача таго ў публікацыі маецца шэраг рэдактарскіх "удакладненняў". Найважнейшыя – наступныя: "ўсей", "вольны сход" і "Паспытаць усіх звярат" замест "ŭsio", "walny schod" і "Raspytać usich zwierat"[5]. Звяртаем на гэта ўвагу, бо дадзеныя памылкі няраз будаць паўтарацца ў пазнейшых выданнях.

Іншы падыход да ўзнаўлення байкі А. Абуховіча мелі складальнікі *Хрэстаматыі па гісторыі беларускай мовы*: у іх выданні пададзены "атраман-

---

[1] А. Абуховіч, *Старшыня* [у:] *Родны Край: Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, <…> пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выданьне перапрабленае і дапоўненае, Вільня 1923, с. 42; А. Абуховіч, *Старшыня* [у:] *Родны Край: Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, <…> пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выданьне перапрабленае і дапоўненае, Вільня 1929, с. 45–46.

[2] A. Abuchwič, *Staršynia* [у:] *Rodny Kraj*, ukłała L. Hareckaja, <…> wydannie V-aje, Wilnia 1931, s. 42; A. Abuchwič, *Staršynia* [у:] *Rodny Kraj*, L. Hareckaja, <…> wydannie VI, Wilnia 1936, s. 42

[3] В. Абрамавичюс, *Библиография по белорусской литературе XIX века: Художественные и публицистические произведения, опубликованные и рукописные (с приложением 34 иллюстраций)*, Вильнюс 1949, с. 92.

[4] *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1956, с. 344.

[5] Гл.: *Ibidem*, s. 258–259.

тавы” тэкст твора. Прычым, амаль бездакорна[1]. Чаму яны палічылі непатрэбным узяць пад увагу алоўкавыя праўкі? Пра гэта няма згадкі ў прадмоўцы да публікацыі верша.

Найважнейшае, аднак, тое, што захаваўся рукапіс байкі. Знаходзіцца ён у бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka) у фондзе 21, сігнатура 431. Ёсць усе падставы лічыць, што менавіта паводле гэтага рукапісу рыхтавалася публікацыя байкі ў *Biełaruskim kalendary na 1915 hod*: за выключэннем замены ў першым радку слова *paradak* на *kirunak* у друкаваным варыянце маюцца ўсе, зафіксаваныя на аркушы паперы памерам А 4, лексемы ўключна з подпісам *Olgierd Obuchowicz*. Што цікава, рукапіс байкі *Waŭkałak* апрача падобнага подпісу мае яшчэ характэрную пазнаку: *Słuck*.

У беларускім літаратуразнаўстве дадзены рукапіс уважаецца за аўтограф. Напрыклад, Г. Кісялёў пісаў: “Цяпер вядомы толькі два лісткі з аўтографамі Абуховіча <…> Гэта тэксты баек *Старшына* і *Ваўкалак*, напісаныя рукой паэта чарнілам, з алоўкавымі праўкамі. <…> Ды яшчэ ў Нацыянальнай бібліятэцы ў Варшаве, у папцы пад назвай *Розныя паперы са збораў А. Валіцкага*, ёсць пераклады на польскую мову баек *Вяльможа* і *Малпа і люстэрка* за подпісам: Альгерд гр. Бандынэлі. Мазыр”[2]. На якой падставае вядомы навуковец ідэнтыфікуе названыя рукапісы як аўтографы А. Абуховіча, – невядома. Здаецца, графічная экспертыза не праводзілася. Аднак нават няўзброеным вокам бачна, што “віленскія” рукапісы занатаваныя зусім іншым почыркам, чым “варшаўскія”. Рукою А. Абуховіча на ўсіх гэтых картках – з пэўнасцю можна сцвярджаць – напісаны адно толькі кароткая нататка на аркушы перакладу байкі *Вельможа* (тытул падаецца па-расейску) з подпісам *Olg hr Bandinelli*, а таксама кароткая цыдулка паэта да нейкай „Szanownej Pani Dobrodziejki” з подпісам *Olgierd* на аркушы перакладу байкі *Małpa i Zwierciadło*. Параўнанне ўласнаручных допісаў А. Абуховіча з алоўкавымі праўкамі байкі *Starszyna* не дазваляе адназначна пацвердзіць датычнаць паэта да гэтых правак.

На жаль, тэксталагічнага і графічнага даследавання байкі *Starszyna* да гэтага часу не было. Адно толькі згадвалася, што маюцца праўкі алоўкам. Але не звернута ўвагі, што праўкі былі розных асобаў. Па-першае, праўкі самога перапісчыка (toj – jon і інш.), па-другое, – нейкай трэцяй асобы (Starszynoju kab jon byŭ – Kab wajtom jaho zrabiu і інш.), а па-трэцяе, – назавём так: рэдактара-нашаніўца, рука якога пазнаецца там, дзе выкарыстаны графемы ***č*** (bač – тройчы, awieču, awiečki, awiečkam), ***š*** (Što, što**ž**) і ***ž*** (štož).

Праўкі перапісчыка ідэнтыфікуюцца даволі проста: яны выкананы тою самаю рукою і тым самым атрамантам. Больш складана з тою асобаю, якая

[1] Гл.: *Хрэстаматыя па гісторыі беларускай мовы: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў філалагічных факультэтаў вышэйшых навучальных устаноў*, рэд. Р. Аванесаў, склад.: У. Анічэнка, П. Вярхоў, А. Жураўскі, Я. Рамановіч, Мінск 1962, с. 171–172.

[2] Г. Кісялёў, *Ад Чачота да Багушэвіча: Праблемы крыніцазнаўства і атрыбуцыі беларускай літаратуры XIX ст.*, 2-выд., Мінск 2003, с. 70.

“паляпшала” тэкст, змяніла нават часткова сэнс выказвання: замяніла старшыну войтам. Праўда, толькі ў тэксце: на тытул байкі яна не замахнулася, хоць лагічна было б назваць выпраўлены твор *Войт*. Ці быў гэта аўтар? Здаецца, не. Перадусім, рукапісы трох іншых тэкстаў, якія захаваліся, Альгерд Абуховіч не правіў. А можа, варта “спалучыць” праўкі “другое” і “трэцяе” асобы? Почырк падобны, адно, што іх нібыта “падзяляе”, – ужыванне графем ***č***, ***š*** і ***ž***[1]. Верагодна, рэдагаваўся твор у эпоху нашаніўства, бо ж вельмі сумнеўна, што ў XIX ст. выкарыстоўваліся ў беларусіх тэкстах літары чэшскага алфавіта. З гэтай прычыны давядзецца адкінуць Францішка Багушэвіча як магчымага рэдактара байкі А. Абуховіча. А вось ці не прыклаў рукі да рэдагавання твора Янка Купала? Ён жа з кастрычніка 1913 г. да 1915 г. быў адказным сакратаром Biełaruskaha wydawieckaha tawarystwa u Wilni! Як пацвярджэнне дадзенай гіпотэзы будзе і ўжытае ў “алоўкавай” версіі слова *bač*: у шэрагу твораў Янкі Купалы гэтае слова ўжываецца таксама па некалькі разоў.

“Атрамантавая” версія друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: Бібліятэка Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka), F 21–431, k. 1–1 v.

## **Starszyna.**

Choć jaki paradak daj
Adno toje, bratko, znaj,
Szto krutnioju ŭsio pakrucisz
I najlepsze zbałamucisz.

Lwa-manarcha woŭk prasiŭ, –
Starszynoju kab jon[2] byŭ, –
Szto awieczki skroź biez ładu
Wielmi szkodziuć ŭ pansim sadu,
Dy i sami prapadajuć;
Bo jak żyć jany nie znajuć.
I lisica paprasila
(Jana[3] żonku[4] lwa[5] lubiła).
Woŭk z lisicaju zwiazaŭsia;
I jak można, tak staraŭsia;
Dzie prasili, dzie ŭzdychmli[6],
Dzie haścinca padatknuli:

[1] Больш дакладна: адсутнасць гукаў [ч], [ш] і [ж] у словах-праўках “другое” асобы.
[2] Магчыма, першапачаткова было *toj*. На *jon* папраўлена тым самым атрамантам, якім запісаны верш.
[3] Слова перакрэслена, а зверху напісана *Jaje*.
[4] Літара *u* перапраўлена на *a*.
[5] Літара *w* напісана па нейкай іншай, магчыма, кірылічнай літары *в*.
[6] Так у арыгінале. Звычайна, зважаючы на канцавую сугучнасць да слова *padatknuli*, перадаецца як *ŭzdychnuli*.

Kab dabicca da medali
I płacili i prasili i stahnali...
Leŭ[1] skazaŭ: "Chodziuć tołki,
Szto awiec zjedajuć woŭki".
I sazwać skazaŭ narod
Na zwiaryny walny schod,
Raspytać usich zwierat:
– Woŭk ci dobry, ci jon had? –
Czyny ważny ŭsie pryszli,
Ŭsio naczalstwa tut było,
Dy pryczyny nie znajszli:
Zła ab woŭku nie czutno:
Pad sudom-że jon nia byŭ,
I z naczalstwam dobra żyŭ,
Dyk medal pan woŭk nadzieŭ
Na awieczy cełу chleŭ.
– Nu a awieczki szto skazali?
– Ich na schodku nie pazwali:
Zapisali tolki ŭ pratakoli,
Szto awieczkam dali wolu.

*Olgierd Obuchowicz*[2]

На нашую думку, варта таксама падаць варыянт, да якога праўдападобна меў дачыненне Янка Купала. Вядома, без грунтоўнага вывучэння гэтага пытання нельга катэгарычна сцвярджаць, што менавіта ён рэдагаваў байку А. Абуховіча. Аднак абавязкова трэба пазначыць праблему, якая – існуе верагоднасць – будзе некалі вырашаная.

"Алоўкавая" версія (праўкі вылучаныя курсівам) друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: Бібліятэка Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka), F 21–431, k. 1–1 v.

## Starszyna.

Choć jaki paradak daj
Adno toje, bratko, znaj,
Szto krutnioju ŭsio pakrucisz
I najlepsze zbałamucisz.

——

Lwa-manarcha woŭk prasiŭ, –
*Kab wajtom jaho zrabiŭ*, –
*Bo* awieczki *u biezładzie*

[1] Літара *й* напісана па літары *w*.
[2] Подпіс унізе старонкі іншым алоўкам.

*Szkodziuć wielmi* ŭ pansim sadzie,
Dy i sami prapadajuć;
Bo jak *żyći bač* nie znajuć.
I *lisa za im* prasila
(Jaje żonka lwa lubiła).
Woŭk z lisicaju zwiazaŭsia;
I jak można, tak staraŭsia;
– Dzie prasili, dzie ŭzdychmli,
Dzie haścinca padatknuli:
Kab dabicca da medali
I płacili i prasili i stahnali...
– Leŭ *haworyć*: "Chodziuć tołki,
Szto awiec zjedajuć woŭki".
I sazwać skazaŭ narod
Na zwiaryny walny schod,
Raspytać usich zwierat:
– Woŭk ci dobry, ci jon had? –
Czyny ważny ŭsie pryszli,
Ŭsio naczalstwa tut było,
Dy pryczyny nie znajszli:
Zła ab woŭku nie czutno:
Pad sudom jon *bač* nia byŭ,
I z naczalstwam dobra żyŭ,
Dyk medal *wajta* nadzieŭ
*Woŭk na ŭwieś awiečy chleŭ.*
– Nu a awieczki szto *ž* skazali?
– Ich *bač* na schod *zusim* nie *zwali*:
*I* zapisali ŭ pratakoli,
Szto awieczkam *dana wola*.

Апошняя страфа адрэдагавана некалькі разоў: спачатку ўнесены асобныя праўкі ў "атрамантавую" версію (што было перакрэслена накрыж), пасля гэтая страфа была запісаная алоўкам ніжэй (што было не вельмі старанна выцерта гумкаю) і ўрэшце, яшчэ ніжэй запісаная канчатковая версія страфы:

*A awiečki štož skazali?*
*Ich na schod susim nie zwali*
~~*Dy*~~[1] *ŭpisana ŭ pratakoli,*
*Što „awiečkam* ~~*dali*~~[2] *wola.*

*Olgierd Obuchowicz*

[1] Замест закрэсленага дапісаны зверху іншым колерам злучнік *A*.
[2] Першапачатковае *dana* было папраўлена на *dali*, якое пазней закрэслілі і іншым колерам зверху напісалі *dana*.

# Ваўкалак

Як і байка *Staršyna*, *Waŭkałak* упершыню быў апублікаваны ў *Biełaruskim kalendary na 1915 hod* і, відавочна, паводле рукапісу, які захаваўся ў бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. Публікатары даволі ашчадна паставіліся да аўтарскіх (?) асаблівасцяў байкі, адно што замянілі польскія дыграфы ***cz***, ***sz*** і графему ***ż*** на чэшскія ***č***, ***š***, ***ž***. Мы яшчэ раз дазволім сабе ўсумніцца, што рукапісы з бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх – гэта аўтографы А. Абуховіча: вельмі ж ужо адрозніваецца характар пісьма дадзеных дакументаў ад уласна Абуховічавых нататак. З-за адсутнасці якіх-кольвечы сведчанняў застаецца толькі гіпатэтычна меркаваць: ці то рукапісы баек А. Абуховіча паходзяць з часоў самога аўтара і выкананыя па ягонай просьбе, ці то В. Ластоўскі дазволіў камусьці скапіраваць творы з "папероў Обуховіча", якія меў у сваіх руках.

Звяртаем увагу таксама на тое, што ў рукапісах пераклады баек І. Крылова на польскую мову падпісаныя псеўданімам ***Olg hr Bandbnelli***, а беларускамоўныя байкі – ***Olgierd Obuchowicz***. А гэта знаходзіцца ў пэўнай супярэчнасці (вядома, толькі ў тым выпадку, калі рукапісы з бібліятэкі Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх паходзяць з "папероў Обуховіча", а не з'яўляюцца пазнейшымі копіямі) са сцвярджэннем аўтара ўспамінаў: "Ja padpiswajusia na maich biełaruskich tworach «Hraf Bandinelli»". Тут адно з двух: ці то недакладны сам А. Абуховіч, ці то В. Ластоўскі дзеля патрэбаў тагачаснага нацыянальнага руху ўнёс пэўныя карэктывы ў выказванні пісьменніка са Случчыны. Нагадаем: В. Ластоўскі даволі часта кіраўся менавіта надзённымі патрэбамі, а не прынцыпамі навуковай аб'ектыўнасці; напрыклад, у артыкуле *Pamiaci Sprawiadliwaha* В. Ластоўскі (пад псеўданімам Swajak) падае фрагменты апошніх "адозваў" (*Лістоў з-пад шыбеніцы*) К. Каліноўскага ў, думаецца, змененым выглядзе[1]: "Biełarusy (sic!), braty maje rodnyje! s pad szybienicy maskoŭskaj prychodzicca mnie da was pisaci..." ці "Biełaruska (sic!) ziamielka, hałubka maja // Hdzie ž sia padzieło szczaście i jasna dola Twaja?"[2]. В. Ластоўскі, мяркуем, карыстаўся публікацыяй Агатона Гілера (*Historja powstania narodu polskiego w 1861–1864* r., t. I; Paryż 1867, s. 327), а не "odpisami <...> adozwaŭ<...> katoryje ja doŭhije hady chawaŭ

---

[1] Г. Кісялёў дапускаў, што паралельна з публікаванымі *Лістамі з-пад шыбеніцы* (*Do ludu białoruskiego: Piśmo z pod szybienicy Konstantego Kolinowskiego*) А. Гілера "ў беларускім грамадстве мелі хаджэнне варыянты асобных частак цыкла <…> Копіі маглі быць зняты з арыгіналаў у Вільні яшчэ да адсылкі за мяжу". Гл.: К. Каліноўскі, *За нашую вольнасць: Творы, дакументы*, Мінск 1999, с. 302.

[2] Гл.: Swajak, *Pamiaci Sprawiadliwaha*, „Homan" 1916, № 1 (15 lutaho).

u skrytkach – ad rupliwaho žandarskaho woka, kab, kali pryjdzie czas, padzialicca imi sa swaim narodam”[1].

У 1921–1922 гг. М. Гарэцкі перадрукаваў з невялікімі зменамі з *Biełaruskaha kalendara na 1915 hod* байку *Wałkałak*, транслітараваўшы тэкст на грамадзянскі алфавіт, у газеце “Беларускія ведамасці” (1921, № 9), пасля ўключыў яго ў падрыхтаваны ім зборнік *Дэкляматар*[2], а таксама ў *Хрыстаматыю*[3]. У адрозненне ад іншых баек А. Абуховіча *Wałkałak* у школьныя заходнебеларускія чытанкі не трапіў.

Відавочна, па ўзору выданняў М. Гарэцкага ў Савецкай Беларусі з’явіўся свой “чырвоны дэкляматар”, куды ў 1924 г. была ўключана байка *Ваўкалак* (А. Абуховіч, *Ваўкалак* [у:] *Беларускі дэкляматар “Чырвоны дудар”*, злажылі: Янка Купала, Цішка Гартны і Алесь Ляжневіч, Менск: Беларускае кооперацыйна-выдавецкае таварыства “Савецкая Беларусь”, 1924, с. 277).

І толькі праз трыццаць гадоў дадзены твор зноў з’явіцца ў кантэксце беларускага прыгожага пісьменства: укладальнік зборніка *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя* В. Барысенка апублікаваў яго паводле рукапісу “бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР”[4]. Тэкст даволі спраўны (дастасаваны адно да нормаў тагачаснага правапісу), хоць не абышлося і без кур’ёзаў: рукапіснае “S twaim panam i s siełom” чамусьці ператварылася ў “З сваім панам і сялом”[5]. Дадзеная публікацыя паслужыла асноваю дзеля амаль усіх наступных публікацый байкі *Wałkałak* у зборніках, анталогіях і хрэстаматыях[6].

Як і ў выпадку з іншымі байкамі А. Абуховіча, ідэйны змест *Wałkałaka* заснаваны на сюжэце, вядомым з часоў Эзопа і Федра. Вельмі верагодна, што паэт быў знаёмы з байкаю Жана дэ Лафантэна *Воўк і Сабака* (*Le Loup et le Chien*), а таксама з яе перастварэннем Адама Міцкевіча *Pies i wilk*, але, як адзначае Г. Кісялёў, “увядзенне спецыфічнага і неадназначнага вобраза Ваўкалака, узятага з беларускай дэманалогіі, замест традыцыйнага Ваўка істотна ўзбагачае сюжэт, карэнным чынам паварочвае яго ў бок беларускай народнай культуры”[7].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў рукапісу паводле: Бібліятэка Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka), F 21–431, k. 2.

---

[1] *Ibidem*.

[2] А. Абуховіч, *Ваўкалак* [у:] *Дэкляматар*, рэдактар-выдавец М. Гарэцкі, Вільня 1921, с. 27–28.

[3] А. Абуховіч, *Ваўкалак* [у:] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905* год, Вільня 1922, с. 215.

[4] *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1956, с. 344.

[5] А. Абуховіч, *Ваўкалак* [у:] *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, Мінск 1956, с. 257.

[6] У анталогіі К. Цвіркі тытул байкі зменены на *Ваўкалака*, а сам твор невядома на якой падставе датуецца 1860–1861 гг. Гл.: *Літаратура Беларусі XIX стагоддзя: Анталогія*, Мінск 2013, с. 737–738.

[7] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 409.

**Waŭkałak.**

Czaraŭnica urakła;
Byŭ ja koliś[1] woŭkałakam,
Biehaŭ czortam ŭzdoŭż sieła,
I k hawiadam poŭzaŭ rakam,
I ludzkuju znaŭ haworku,
I s sabakami z nadworku
Hawaryć ja sposab mieŭ.
Za humnom raz cicha sieŭ
Ażno Lysko prylacieŭ[2], −
Jak na panskaj służbie staŭ,
Pa pryjaźni jon[3] mnie każe:
"− Kiń ty, kumie, zytło ŭraże:
"Ciapier marno prapadajesz,
"A ty ż – ŭsiaki sposab znajesz:
"Majmu panu stań służyć
"Tabe dobra budzie żyć!"
− "Ach ty durnju, dumaŭ ja:
"Mnie wiarnucca da sieła?
"S twaim panam i s siełom,
"Zaduszysia ty kałom!
"Choć hałodzien − ja swabodzien,
"Hdzie mnie ciahnie − tam biahu, –
"Na swabodzi prapadu,
"A ŭ niawolu − nie pajdu!
"Budu wolnym woŭkałam[4]
"Ty|ż − na prywiazi sabakam.

*Olgierd Obuchowicz.*[5]
*Słuck.*[6]

---

[1] Нехта алоўкам словы *ja koliś* памяняў месцамі, але пасля адмяніў дадзенае перамяшчэнне.
[2] У дадзеным слове перапісчык літары *-lacie-* напісаў па *–biaża–*. Г. зн., першапачаткова было *prybiażaй*.
[3] Слова напісана па нейкім перашапачатковым, магчыма, *tak*.
[4] Так у рукапісе.
[5] Імя і прозвішча напісаныя тою самаю асобаю, што і ўвесь тэкст.
[6] Слова напісанае алоўкам.

## Фрагменты мемуараў

У сваёй першай згадцы пра паэта са Случчыны ў верасні 1912 г. В. Ластоўскі гаворыць адно пра ягоныя "паперы". Можна нават падумаць, што сакратар рэдакцыі "Нашай Нівы" атрымаў рукапісны архіў А. Абуховіча. Аднак праз год у нататцы *Памажыця!*, відаць, ужо грунтоўна пазнаёміўшыся з "паперамі", Власт сцвярджае, што мае "10 сшыткоў яго памятнікоў", г. зн. успамінаў, з чарнавікамі вершаў.

Апублікаваныя ў "Homanie" тэксты А. Абуховіча часткова пацвердзілі правільнасць азначэння В. Ластоўскага: "паперы" носяць у значнай ступені мемуарны характар, хоць часам і нагадваюць празаічныя мініяцюры. Усяго ў 1916 г. было надрукавана дванаццаць фрагментаў[1], кожны з якіх мае назву, а тры – дату. Уважлівае прачытанне тэксту ўспамінаў дазволіла Р. Родчанку сцвердзіць, што пісаліся яны ў 1894 г. у Слуцку, а часткова (раздзел *Спас*?) у маёнтку Зарэчча пад Глускам. Не раз узнікалі пытанні адносна датаў, якія зафіксаваныя ў публікацыі 1916 г., а менавіта – "4/IV 1904", "3 maja 1894 h.", "20/VII 1904". Лічачы, што В. Ластоўскі публікаваў фрагменты паслядоўна, адзін за адным, як былі яны ў рукапісе, Р. Родчанка звярнуў увагу, што 1904 г. з'явіўся ў "Homanie" памылкова, як "друкарская памылка, выкліканая неразборлівасцю почырку пісьменніка, ці рэдакцыйнай неахайнасцю"[2]. Пытанне, здавалася б, вырашанае, аргументацыя Р. Родчанкі прынятая беларускімі літаратуразнаўцамі[3]; але чамусьці даследчыкі не заўважылі яшчэ адну дату: у прадмоўцы Язэпа Гулевіча да публікацыі верша *Duma a Karólu XII* чытаем: "Nižej my drukujemo wierš niaboščyka Olhierda Obuchowiča, pisanyj u 1900 (sic!) hadu ŭ dzień pałtaŭskaj hadaŭšcyny"[4]. Мы зусім не збіраемся аспрэчваць дату смерці пісьменніка: "10 Sierp. 1898 г." выразна бачна на помніку на слуцкіх могілках. Аднак, ці не зашмат гэтых неверагодных датаў? Ці дастаткова будзе вытлумачыць усё невыразным характарам пісьма А. Абуховіча? І калі паэт памёр у 1898 г., то якую "pałtaŭskuju hadaŭšcynu" ён "ушаноўваў" сваім творам? Можа, 180-ю, г. зн. верш быў створаны ў 1889 годзе?

На рукапісах, якія бясспрэчна належаць А. Абуховічу, даты (двойчы 1885 год) чытаюцца без усялякіх цяжкасцяў. Застаецца меркаваць, што памыліўся ці то В. Ластоўскі, які рыхтаваў тэкст да публікацыі, ці то наборшчык друкарні Марціна Кухты.

[1] Трынаццаты фрагмент будзе надрукаваны ў 12 кніжцы часопіса "Крывіч" (1927).
[2] Р. Родчанка, *Альгерд Абуховіч-Бандынэлі*, Мінск 1984, с. 17.
[3] *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2007, с. 410.
[4] J. Hułewič, *S papierou Olhierda Obuchowič: 1709–1916*, „Homan" 1916, № 49 (1 žniŭnia).

Прытанне пра мову ўспамінаў А. Абуховіча мы ўжо закраналі раней. Тут варта зазначыць: дадзеная праблема вырашыцца тады, калі з'явяцца навуковыя працы пра мову В. Ластоўскага, мову "Homanu" і мову А. Абуховіча. І, вядома, надзвычай патрэбныя даследаванні "гоманаўскага" перыяду жыцця і творчасці В. Ластоўскага.

Мемуары А. Абуховіча апублікаваныя як нешта цэласнае і ўпарадкаванае. Такое, перадусім, складаецца ўражанне з-за пранумараваных раздзелаў і дадзенага Р. Родчанкам іх датавання. Аднак трэба памятаць, што В. Ластоўскі меў "10 сшыткоў"[1]; трэба памятаць, што захаваліся яшчэ два фрагменты з успамінаў літаратара са Слуцка: невялічкі тэкст пра беларускае слова "spakmień", змешчаны ў адпаведным слоўнікавым артыкуле ў *Падручным расійска-крыўскім (беларускім) слоўніку* (1924), а таксама нататка пра "беларускасць" Міхала Мікешына[2], надрукаваная ў апошнім нумары часопіса "Крывіч".

Мы пададзім з гэтае нататкі толькі тое, што датычыць А. Абуховіча.

Напачатку Карчак (відавочна, псеўданім В. Ластоўскага) пераказвае прачытанае ў "паперох" А. Абуховіча, а пасля цытуе (магчыма, у перакладзе) рукапіс:

> Ня менш цікавае здарэньне аб Мікешыне апавядае ў сваіх "Успамінах" беларускі пісьменнік (родам з пад Слуцка) Альгерд Абуховіч[3]. Па дарозе з Масквы ў Менск Абуховіч купіў на аднэй са станцій нумар журналу "Нива" [1992 г. (sic!), № 201] і зайшоўшы ў купэ II-й клясы разгарнуў куплены журнал і натрапіў на 9-й балоне[4] на рысунак з беларускага быту, работы Мікешына[5]. Рысунак выабражаў сцэну на задворках сялянскай смаленскай сялібы. Пры студні стаіць, кроў з малаком маладзіца, а перад ей дзяцюк-падростак, роўны з ей узростам. Пад рысункам подпіс:
>
> "А й вяликій же-жъ ты дурень, як погляжу: ничоганьки ты такого ня смыслишь!
>
> – Не – йща нясмыслю...

---

[1] Вельмі верагодна, што ў друк трапіла нязначная частка з таго, што меў В. Ластоўскі.

[2] Міхал Мікешын (1835–1896), расейскі беларускага паходжання скульптар, мастак, ілюстратар.

[3] З рукапісных успаміноў А. Обуховіча ў сабраньнях В. Ластоўскага (заўвага выдаўца "Крывіча").

[4] „Балона" ў значэнні 'старонка' горача адстойваў В. Ластоўскі, спасылаючыся на "інвэнтар турава-пінскай архібіскопіі, пісаным ужо на паперы ў XVII ст.". Гл. Л., *Аб слове "страніца"*, "Узвышша" 1927, № 5, с. 198; *Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік*, уклад. В. Ластоўскі, Коўна 1924, с. 687. Ужыванне гэтага слова можа быць сведчаннем, што тэкст А. Абуховіча папраўлены ці перакладзены з польскае мовы.

[5] Малюнак М. Мікешына *Бѣорусская сцена* змешчаны ў № 9 за 1892 г. (29 лютага) штотыднёвіка "Нива" на 204 старонцы (агульнагадавая нумарацыя), або на 12 старонцы газеты. Памылкова пададзены год выдання – гэта недагляд наборшчыка, а вось блытаніна з нумарам выдання і старонкаю "паходзіць" ад В. Ластоўскага. На нашую думку, А. Абуховіч свой запіс зрабіў адразу пасля сустрэчы з М. Мікешыным, бо правільна занатаваў выходныя дадзеныя газеты: год –1892, нумар – 9, старонка – 204.

Я прачытаў, усьміхнуўся і пачаў, відаць лішне ўважна і лішне доўга ўглядацца ў рысунак. На супроць мяне сядзеў пажылы чалавек, які ўрэшце заўважыў мой захват рысункам і спытаў па расійску.

– Вам падабаецца гэты рысунак?

– Больш рысунка мне падабаецца подпіс, адказаў я.

Мала памалу паміж мной і маім спадарожнікам завязалася гутарка, галоўнай тэмай якой была Беларусь. Зацікаўленьне Беларусьсю і знаньнем беларускай мовы ў расійцу мяне нямала зьдзівіла, але літэрацкая жылка папісацца перад слухачом мяне падбіла, што я прадэклямаваў яму некалькі сваіх вершыкаў і пераклад мой з Міцкевіча: "Ужо разагнаны маўроў слабоды, мір іх ў няволі бядуе..."[1]. Гэты апошні верш, мой прыгодны слухач сквапна запісаў сабе ў нотэс. Кончыўшы пісаньне сказаў: ... "якая шкада, што Міцкевіч пісаў не па беларуску". У Смаленску спадарожнік мой высядаў, і, на прашчаньне, зарэкомандаваўся: «Міхайла Мікешын, з роду племені і з пераконаньня – Беларус, заўсёды гатовы да вашых паслуг».

Я астаўся, як той казаў, з развінутай губай"[2].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі паводле газеты "Homan" (1916, № 33–40).

[1] У паэме А. Міцкевіча *Konrad Wallenrod* галоўны герой спявае *Альпухарскую баладу* (*Ballada Alpuhara*), якая апавядае пра правадыра маўраў Альманзора, які, заслужыўшы давер гішпанскіх рыцараў, адпомсціў ім за свой край – заразіў іх пошасцю. Відавочна, тут падаюцца ў перакладзе пачатковыя радкі балады: "Już w gruzach leżą Maurów posady, // Naród ich dźwiga żelaza".

[2] Карчак, *Запіскі: Вітольд Прушкоўскі і Міхайла Мікешын*, "Крывіч" 1927, № 12, с. 104–105.

# S papierou Olhierda Obuchowiča.

## I. Uspaminy Kijewa.

Radziŭsia ja, 25 lipnia (dzień sw. Jakuba)[1] 1840 hodu. Pryniali mianie z žalem i adrasaj[2]: byŭ ja kaleki. Dumali, što, abo zara[3] pamru, jak brat majho baćki, katory mieŭ hetaje samaje kalectwa, abo budu idyotam, jak Henryk Bykoŭski z Rusakowič[4], taksama trywustny. Tymčasam ja hadawaŭsia, i pastanawili addać mianie u himnaziju[5] u Słucak. Ale i mnie samomu nie chaciełosia i baćkom maim tak sama nie chaciełosia addawać kalekaho chłopca na kpinki i zdzieki rawieśnikoŭ; treba było zrabić spierša operaciju, katoraj tahočasnyje daktary na Biełarusi niejak bajalisia. Słyli tady jak operatary: Pirohoŭ[6], Koženieŭski[7] i Korowajeŭ[8]. Hety apošni byŭ prafesaram kijeŭskaho uniwersytetu, a da Kijewa było i najbližej i najlahczej dabracca. Pačali wybiracca u Kijeŭ da Korowajewa, a ŭ hetym časi razyšłasia čutka, što caryca, žonka Mikałaja I, zaniadužyła na wočy, što majuć rabić jej operaciju i što Korowajewa na wiasnu paklikali ŭ Pieciarburh. Dyk jedziem pierad wiasnoju, ale ŭžo kołami, pa čarnihaŭskich rastopach. Daroha išła na Łojeŭ i Čarnihaŭ. Zaprahali ŭ adnu karetu šeściera kaniej, a pad forysia[9] – troje, abo čaćwiora; – u kałamašku, što išła zzadu z našaj służbaj, zaprežana było piaciora koniej. My nidzie nie zahrazli, ale bačyli karety, ciahnutyje niekolkimi parami wałoŭ i to na pačtowym trakci (šosy ješče nie było). Na Deśni, pad

---

[1] А. Абуховіч выкарыстоўвае новы стыль (грэгарыянскі каляндар).

[2] Ад польск. *odraza* – агіда; антыпатыя. Ва ўсіх беларускіх публікацыях – абразай (за выключэннем *Хрыстаматыі* М. Гарэцкага, дзе гэтае слова прапушана).

[3] Гл.: *Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік*, уклад. В. Ластоўскі, Коўна 1924, с. 645: “СЕЙЧАС, зара. *Зара прыду, зраблю. Зара буду ў вас. Жыдоўскае «зара», а панскае «пачакай»*”.

[4] Гл.: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. X, Warszawa 1889, s. 21–22: “Rusakowicze, białorus. Rusakowiczy 1). wś i dobra nad rz. Ptycz, lewym dopł. Prypeci, pow. ihumeński <…>. Dobra, niegdyś Szwykowskich, z kolei Bykowskich, a teraz przez wiano Józefy Bykowskiej Weyssenhofów. <…> W domu nieco pamiątek, dzieł sztuki, zbiorek numizmatyczny, książek, papierów, krzemieni przedhistorycznych, czem się zajmuje Jan Weyssenhof”.

[5] Заснаваная Янушам Радзівілам як кальвінская школа; у 1809 г. ператворана ў павятовую школу Мінскай губерні, але ў 1827 г. зноў стала кальвінскай гімназіяй, у якой навучаліся, аднак, пераважна каталікі.

[6] Гаворка пра Мікалая Пірагова (1810–1881), расейскага хірурга і педагога, прафесара Медыка-хірургічнай акадэміі ў Пецярбурзе. У канцы 1840 – сярэдзіне 1850-х гг. знаходзіўся пераважна на Каўказе і ў Крыме ў дзейнай арміі.

[7] Гаворка пра Юзафа (Восіпа) Кажанеўскага (1806–1870), лекара і выкладчыка Віленскага ўніверсітэта, Віленскай медыка-хірургічнай акадэміі. Дырэктар Віленскай хірургічнай клінікі. Паходзіў са Случчыны.

[8] Гаворка пра Уладзіміра Караваева (1811–1892), расейскага хірурга, прафесара медыцынскага факультэта Імператараскага ўніверсітэта св. Уладзіміра ў Кіеве.

[9] Ад польск. *foryś* – памочнік фурамана, які звычайна ехаў на адным з пярэдніх коней. Г. зн. каляску цягнулі 9 ці 10 коней.

Čarnihawam, razlitaj na 10 wiorst, sarwałasia bura i parom naš zaniesła na niejki biazludny hrud[1], dzie i pryšłosia nam načawać. U Brawaroch uzjechali my na šosu i paśla stanuli nad razlitym Dniepram. Most tady ješče budawaŭsia; pierebiralisia paromam. Niestaje u mianie ahnia, kab apisać maje tahočasnyje dziciačyje ŭražeńni, kali ja ŭbačyŭ Kijeŭ, a pamiataju ŭsio: i niejkaho wajennaho starca, jaki raiŭ matcy majej, – dumajučy, što jana sama jedzie lečycca, – nie zwiertacca da daktaroŭ, ale pić wadu z Dniepra, bo: świataja; i adnaho z našych furmanoŭ, wielmi charošaho maładoha rusawałosaho chłopca, katory wykazywaŭ mnie spačućcio, što mianie buduć „rezać", – siahońnia-by pakazaŭ jaho, kab jon byŭ hetki małady i hožy, jak pierad 40 z haroj hadami (było heta u 1852 h.). U kancy kancoŭ pryjechali na Lipki[2], tam, dzie siahońnia pałac[3], a tady byli niejkije bytcam „mineralnyje wody" i haścinnica. Doŭha prahladali našy pašparty pierš, čym upuścili nas u niekolki saŭsim nie elehanckich światličak.

Na zaŭtra pajechaŭ ja z maim wučycielam, p. Pryboram, da Korowajewa, katory pryniaŭ nas u uniwersyteci (zatym pryznajecie mnie, što ja byŭ u kijeŭskim uniwersyteci!). Korowajeŭ ahledziŭ mianie i operaciju naznačyŭ na druhi dzień, u paniadziełak. A paniadziełak hety prypadaŭ u wialikim tydni, 13 krasawika[4]. Paniadziełak i trynadcataje! Korowajeŭ skazaŭ matcy, što chłoroformawać nia budzie[5], „a chłopčyk budzie kryčać". Ja skazaŭ, što kryčać nia budu. Zdajecca, što Korowajew uziaŭ za operaciju 150 rub., Cecuryn[6] 50, a Kučeŭski[7] 25; – zdajecca, što nia bolej.

Nadyjšoŭ paniadziełak. A 10 hadzinie ranicaj pryjechaŭ Korowajew s Cecurynym i studentam medykam p. Kučeŭskim. Wyniali instrumenty i zažadali łajowaj świečki, kab paciahnuć ab jaje nažy. Ja pačuŭ takoje dakučliwaje dryžeńnie na ŭsim cieli, što wybieh adlić wadu. Hetaho adrazu nichto nia ŭhledziŭ, ale skora ahledzilisia, što mianie nima, i dumali, što ja uciok, tak što ja wiertajučy sia sustreciŭ usich operataroŭ, katoryje chacieli wychodzić. Wiarnuŭ ich, sieŭ u kreśli z poručami; mianie abwiazali sarwetkaj, jak da śniedańnia. Aperacija ciahnułasia 8 minut. Nichto mianie nie trymaŭ, ja sam ruki pryciskaŭ da poručoŭ kresła. Maja matka siadzieła ŭ susiednim pakoju i kazała, što čuła niezwyčajny šum u wušach, i tolki pad kaniec pačuła, jak niekolki razoŭ niešta prykra skryhnuło: mabyć, było

[1] Узгорак.

[2] Раён тагачаснага Кіеве, дзе жылі царскія саноўнікі і арыстакратыя; непадалёку ад Кіева-Пячэрскае лаўры.

[3] Маецца, відаць, на ўвазе Клоўскі палац, пабудаваны дзеля прадстаўнікоў царскае сям'і, якія наведвалі Кіева-Пячэрскую лаўру.

[4] Аўтар памыляецца: Вялікдзень і па каталіцкім, і па праваслаўным календары ў 1852 г. быў 11 красавіка (30 сакавіка па ст. ст.). Г. зн., перадвелікодны панядзелак прыпадаў на 5 красавіка.

[5] У. Караваеў з 1847 г. рабіў аперацыі пад наркозам.

[6] Гаворка пра Хведара Цыцурына (1814–1895), прафесара кафедры тэрапіі Кіеўскага ўніверсітэта (1844–1857). Ён неаднаразова лячыў Мікалая Гогаля.

[7] Гаворка пра Аляксандра Кучэўскага, які, закончыўшы ў 1854 г. Кіеўскі ўніверсітэт, быў прызначаны лекарам аднаго з караблёў Чарнаморскага флота. Гл.: В. Крестьянников, *Врачи Черноморского флота в Крымскую войну* [в:] *Причерноморье: История, политика, культура*, вып. XVII (VII), Серия Б – В: *Новая, новейшая история и международные отношения*, Севастополь 2015, с. 25.

Zimoj 1847 hodu adbywałosia wielmi pyšnaje wiasielle panny Anieli Estko, dački Jakuba[1]. Była heta bahataja jedynačka[2], świecka adukawanaja, saŭsim prystojnaja. Ja spadziewaŭsia dla jaje bliskučaj partyi, tymčasam jana wyjšła za Ottona Jodku[3]; čeławiek jon byŭ nia bystry, ale dobry. Pan Jakub Estko byŭ heta čeławiek bahaty, pawažany i s šyrokimi stasunkami, mieŭ niejki wyšejšy urad ad wybaroŭ i byŭ pry hetym adnym z hłaŭnych mecenasoŭ Jednoty Kalwinskaj; mieŭ swajakoŭ, pryjacieloŭ i znajomych dawoli, dyk i paklikaŭ usich na wiasielle swajej jedynački. Siarod marozoŭ i bur wielmi wostraj zimy 47-ho hodu try, nawat čatyry hubernii Biełaruskije rušyli na wiasielle u Turyna[4], u Ihumienski pawiet. Biskup nominat minski ks. Rawa[5] pryjechaŭ dawać šlub. Miž inšym byŭ heta adzin z najbolš ahraničenych[6] ksiandzoŭ u minskaj dyecezii. Car Mikałaj chacieŭ jaho kaniečna zrabić biskupam i try razy predstaŭlaŭ Stalicy Apostolskaj, ale darmo. Na šlubie ks. Rawa mieŭ mowu, pačynajučujusia ad słoŭ: „Ruka ruku myje, a jakajaž miłaść josć miž rukami? Naha nahu padpiraje, a jakajaž miłaść pamiž nahami?” i t. d.[7]-

Dyk wiasielle Turynskaje było wielmi hučnaje. Poŭtarasta asob z roznych staron sabrałosia, i cełу tydzień bankietawali, da niedaŭna ješče možna było čuć roznyje ab im uspaminy. Samo saboj, kali dalej budu spisywać swaje uspaminy, to ješče kaliś niešta ab hetym wiasielli napišu, bo mieło jano šmat čaho cikawaho z abyčajoŭ wiasielnych daŭnych, što ciapier užo pazabyty. Na wiasielli byli i baćki maje. Była takže i hrabina[8] Judyckaja z dačkoj swajej, paniaj Rudziejeŭskaj. Tak maja matka, jak[9] i pania Judyckaja, byli Estkoŭny z domu i sustrelisia u Turynie pa doŭhim časie razłuki z saboj. Wiertajučysia z wiasiella, zajechalisia jany u Kałatyčy i tut najniespadziewaniej dla siabie dawiedalisia, što Zareče nie ich ułasnasć, a što jano naležyć da Nerezyuša.

---

[1] Якуб Эстка быў суддзёю Ігуменскага павятовага земскага суда ў 1820–1830 я гг.

[2] Ад польск. *jedynaczka* – адзіная дачка.

[3] Сын Атона стацкі саветнік Якуб Наркевіч-Ёдка у 1890-я гг. быў сябрам Слуцкага апякунскага пра бедных камітэта Імператарскага чалавекалюбнага таварыства і апекуном Слуцкай гарадской бальніцы.

[4] “У XVIII ст. Турын належаў да пухавіцкага ключа і быў уласнасцю Сулістроўскіх. У 1796 г. усім ключом валодаў Ёахім Сулістроўскі, канонік віленскі. Было там у той час 196 падданых мужчынскага полу. У хуткім часе пухавіцкі ключ раздрабіўся з-за прадажы і Т[урын] набылі Эсткове. Як спадчына Анэлі, адзінае дачкі Якуба Эсткі, пашлюбленай з Атонам Наркевічам-Ёдкам, перайшоў да гэтага роду і сёння з’яўляецца ўласнасцю непаўнагадовых унукаў Атона і Анэлі з Эсткаў Ёдкаў. Маёнтак мае блізу 900 дзесяц. <…> Гэта адзін з лепшых фальваркаў у павеце. А. Ельск.” Гл..: *Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich*, t. XII, Warszawa 1892, s. 660.

[5] Гаворка пра Паўла Раву (1770–1859), пралата мінскага, адміністратара мінскай дыяцэзіі (1839–1853). З-за дамовы, якую заключыў з епіскапам Антоніем Зубкам (усе католікі, бацькі якіх былі уніятамі, павінны лічыцца праваслаўнымі), не быў зацверджаны Ватыканам у якасці біскупа мінскага, хоць расейскія ўлады няраз стараліся пра гэта.

[6] Ад польск. *ograniczony* – абмежаваны, тупы.

[7] У гэтым месцы тэкст успамінаў у № 39 газеты завяршаўся пазнакаю “Dalej budzie”.

[8] Графіня.

[9] Ад польск. *Tak <…>, jak...* – як <…>, так і...

## XII. Dziady.

U wosieni narod naš światkuje pahanskaje ješče świata Dziadoŭ. Chryscijanizm zaŭsiody šanawaŭ hetaje świata, katoraje ŭliwało narodu wieru u biazśmiercie dušy. Wioski, nie zważajučy na niepahadź, panujučuju u hetym časie, majuć światočny wyhlad. Scieny ŭ haspodach wymyty da bieła, kab dušy dziadoŭ mahli z uciechaj pryblížacca da wokan i uhladacca radasna na biasiedujučych swaich naščadkoŭ. Myśli kružacca i naletajuć, jak čeławiek ab hetym padumaje: može hetak sama naletajuć i kružacca naŭkoł duchi darahich našych niabožčykoŭ? De Chataubriand[1] zaklinaje cieni karaloŭ francuskich, kab nie padchadzili da zaniečyščenaj[2] mahiły u S-t Denis[3] i kab nie zahladali u zmarnawanuju Baćkaŭščynu. Zahadywaje karalu zasiehać murawy wiaskowych mahiłak.

Siahnuŭšy myślu, skolki-ž heta bačycca sialib siahońnia apahanienych, skolki-ž heta dziadoŭ nie maje pan što zahladać u damowyje wohniščy?! Skolki-ž heta dziadoŭ nie paznało-b swajej naščadzi na tej ziamli, dzie spačywajuć ich kosci!

Ja, dziela pašanawańnia siahońniašniaho wiečaru Dziadoŭ, wyjšoŭ na most, kab padumać ab pamioršaj radzinie i pryjacielach. Ja saŭsim spakojen, ništo maich dumak nie trywožyć. Niachaj-že dumki maje buduć tryznaj chaŭturnaj, dziedoŭskaj maim antenatam[4].

Prypaminajecca mnie adno zdareńnie z dalokaj majej minuŭščyny. Było heta u Francyi, s pamiž maładzieży ja adzin byŭ z Biełarusi, dyk złažyŭsia prajekt, što ja pawinien uładzić tryznu Dziadoŭ. Achwoča na heta prystaŭ ja i wystupiŭ s pačastunkam. Byli piačonyje husi z hrybkami[5], a zamiest krupniku – dobra zapraŭlenaje *le win chaud*[6]. Hetaje apošniaje tak humar uspasobiła, a časy byli poŭny jasnych nadziej[7], što pastanawili my zrabić wajennuju muštru i to nie piachoty, a kawaleryi. Koždaje kresła stałosia žerabcom, kapitan Ildefons Kossiłoŭski (emihrant)[8] pryniaŭ kamandu, a Walerjan Kalinka[9], paźniejšy ksiondz i historyk, harcawaŭ napieradzi nas. Susiedki maje dumali, što dom zwalicca, a było heta na čaćwiortym pawiersi. Nazaŭtraje mieŭ ja wizytu palicii, ale ja ŭwieś hety harmider wytłumačyŭ, jak reč abradowuju, patryotyčnuju, i na hetym zyšło ŭsio[10].

### Заўвага

*Grabowy jość dwa ŭ Mozyrskim pawieci: „Wialikaje” – kaliś Obuchowičou i „Małoje” – kaliś Radziwiłłou. Wodka – starka, katoruju pradajuć Korkozowičy[11], pachodzić z Radziwiłłouskaho Grabowa. (Prypis. autora).

---

[1] Гаворка пра Франсуа Рэнэ Шатабрыяна (1768–1848), французскага пісьменніка і палітыка.

[2] Ад польск. *zanieczyszczonej* – засмечанай, забруджанай.

[3] Маецца на ўвазе базыліка абацтва Сен-Дэні, дзе пахаваныя амаль усе каралі Францыі.

[4] Ад польск. *antenat* – продак.

[5] Магчыма, дадзеная страва з’явілася на “tryznie Dziadoŭ” пад уплывам *Прамовы Мялешкі*.

[6] Цёплае віно (фр.).

[7] Маюцца на ўвазе аптымістычныя настроі ў асяроддзі эмігрантаў на пачатку 1860-х гг. у сувязі з падрыхтоўкаю паўстання на землях былое Рэчы Паспалітае.

[8] Гаворка пра Ільдэфонса Касілоўскага (1829–1895), публіцыста, дзеяча эміграцыі.

[9] Гаворка пра Валяр’яна Калінку (1826–1886), удзельніка Кракаўскага паўстання (1846), эмігранта, гісторыка, публіцыста, святара (1870).

[10] У гэтым месцы тэкст успамінаў у № 40 (30 чэрвеня 1916 г.) газеты завяршаўся пазнакаю “Dalej budzie”.

[11] Буйнымі землеўласнікамі на Случчыне былі Нарцыз Карказовіч і ягоны сын Ігнат.

## Верш пра значэнне Палтаўскай бітвы для беларусаў

Упершыню надрукаваны як працяг публікацыі ўспамінаў *S papierou Olhierda Obuchowiča* ў № 49 (1 жніўня) газеты "Homan" за 1916 г. Магчыма, дастасоўваўся да своеасаблівага "адзначэння" другіх угодкаў вайны: пра гэта сведчаць і матэрыялы нумара газеты, і нататка Язэпа Гулевіча.

Сапраўды, варта пагадзіцца з аўтарам прадмовы: перамога ў Палтаўскай бітве ператварыла Расею з царства з рэгіянальнымі амбіцыямі ў звышдзяржаву з прэтэнзіямі на сусветнае панаванне. Беларускі публіцыст (вельмі верагодна, што Я. Гулевіч – гэта яшчэ адзін псеўданім В. Ластоўскага) ацэньваў гістарычныя падзеі двухсотгадовае мінуўшчыны з беларускага нацыянальнага пункту гледжання і звязваў надзеі на адраджэння бацькаўшчыны з перамогай у вайне Нямеччыны. Характэрна, што ён правільна зразумеў галоўную думку верша А. Абуховіча: перамога пад Палтаваю адкрыла Расеі шлях на захад, спачатку праз г. зв. пратэкцыю над усходнеславянскім насельніцтвам Рэчы Паспалітае, а пасля і ягоную анэксію ды асіміляцыю. Паэт адно выказваў надзею, што толькі "палтаўскі" рэванш, які зможа ажыццявіць нехта падобны на Карла XII, дазволіць ягонаму, а таксама іншым прыгнечаным народам вызваліцца ад расейскага ярма; публікатар жа хацеў бачыць нашчадкам Карла XII германскага імператара Вільгельма II ці, перадусім, Паўля фон Гіндэнбурга, галоўнакамандуючага Усходнім фронтам.

Апублікаваны ў "Homanie" твор доўгі час не трапляў у поле зроку беларускіх даследчыкаў. "Прапусцілі" яго і М. Гарэцкі, і Я. Карскі. Толькі ў 1970-я гг. А. Мальдзіс звярнуў увагу, што побач з мемуарамі "змешчаны вельмі цікавы, хоць і супярэчлівы верш Абуховіча"[1]. Супярэчлівасць навукоўцы бачылі ў "антыгістарычным падыходзе да ацэнкі Палтаўскай бітве і дзейнасці Пятра I", а таксама ў тым, што "з імем Карла XII беспадстаўна звязваецца думка аб вызваленні народаў былой Расійскай імперыі з-пад улады самадзяржаўя"[2]. Не да месца будзе палемізаваць з дадзеным сцвярджэннем Вячаслава Рагойшы, адно варта адзначыць фактычную памылку: Карл XII не меў патрэбы вызваляць народы Расейскае імперыі – відавочна, беларусаў і украінцаў – ад самадзяржаўя, бо напачатку XVIII ст. яны яшчэ не былі зняволеныя ўсходняю суседкаю.

У адаптаваным выглядзе (прапушчаная страфа з пракляццямі на адрас Палтаўскае бітвы і Пятра I) твор перадрукованы ў другім выданні хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*[3], а цалкам і з меншай колькасцю пра-

[1] А. Мальдзіс, *Таямніцы старажытных сховішчаў: Да гісторыі беларускае літаратуры XVII–XIX стагоддзяў*, Мінск 1974, с. 27.

[2] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 473.

[3] *Ibidem*, s. 336.

вак – у томіку выбранага А. Абуховіча[1]. А найбольш дакладная публікацыя, адно што транслітараваная з лацінкі на грамадзянскі шрыфт, – ва ўкладзеным Л. Кісялёвай Н. Сянкевіч V томе *Залатой калекцыі беларускай літаратуры*[2].

Асобнае пытанне – змест верша А. Абуховіча. Перадусім, пра якіх “troch małojcaŭ” вядзе ён гаворку ў творы? Зрэшты, двое з іх пазнаюцца даволі лёгка: тытульны герой Карл XII называецца адкрыта, Пётр I ж – з вядомых прычынаў – праз выкарыстанне спосабу апісання. А вось не зусім выразнае акрэсленне трэцяга спрычынілася памылковаму ўспрыняццю яго. В. Рагойша палічыў, што “karaleŭskaj žadaŭ karony” Іван Мазепа (1739–1809). Праўда, пры гэтым навуковец свае сумненні выявіў пры дапамозе слова “відаць”. Пазнейшыя ж даследчыкі ужо адназначна за супольніка Пятра I (перадусім, за другога адмоўнага героя твора) уважалі ўкраінскага гетмана, хоць, як вядома, падчас Палтаўскай бітвы ён быў у лагеры Карла XII, а таксама той факт, што не меў прэтэнзій да кароны і не накідаў “na Polšču <…> całuny”[3]. Хто ж ён, трэці герой верша А. Абуховіча? Ніхто іншы, як Аўгуст II Моцны (1670–1733), кароль польскі і вялікі князь літоўскі (1697–1704, 1709–1733). Дадзеная інтэпрэтацыя неназванага наўпрост героя дазваляе сцвярджаць не толькі пра негатыўную трактоўку А. Абуховічам постаці расейскага цара Пятра I, а таксама іншых, пазнейшых прадстаўнікоў дома Раманавых, але і польскіх каралёў, перадусім, Сасаў, якія фактычна аслабілі Рэч Паспалітую і дазволілі Расеі ўмацаваць свой уплыў у рэгіёне[4].

Не раз даследчыкі выказвалі думку пра залежнасць верша *Duma a Karólu XII* ад паэмы А. Пушкіна *Полтава* (1828). На нашу думку, няма падстаў казаць ні пра залежнасць, а тым больш пра палеміку з расейскім паэтам. А. Абуховіч, відаць, выявіў свой пункт гледжання, не пагаджаючыся з афіцыйна-патрыятычным пафасам чарговага святкавання гадавіны перамогі ў расейскім друку. На жаль, ці то памылка друку ў газеце, ці то невыразна напісаная дата ў рукапісе не дазвалюць сёння вызначыць час стварэння верша. А было гэта, мажліва, у 1889, юбілейным, ці нейкім іншым годзе, калі на вочы паэта трапіў чарговы артыкул пра вялікую і слаўную вікторыю. Для А. Абуховіча і тых, хто лічыў сябе Руссю, што “u niawoli marnieje”, Палтаўская перамога Пятра I – гэта падзея, якая прывяла да нацыянальнай трагедыі.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі паводле газеты “Homan” (1916, № 49).

---

[1] А. Абуховіч, *Творы*, Мінск 1991, с. 20–21.

[2] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2, Мінск 2013, с. 239–240.

[3] Г. Кісялёў у сваім надзвычай цікавым аналізе дадзенага верша А. Абуховіча таксама лічыць ягоным героем І. Мазепу, хоць і задумваецца, чаму ўкраінскі гетман прычыніўся да трагедыі Польшчы? Урэшце здае справу на арыгінальную “трактоўку паэта”. Гл.: *Гісторыя беларускай літаратуры XI–XIX стагоддзяў у двух тамах*, т. 2: *Новая літаратура: другая палова XVIII–XIX стагоддзе*, Мінск 2000, с. 406.

[4] У вядомых нам працах В. Ластоўскага тэма Палтаўскае бітвы, а больш дакладна – гістарычных асобаў таго часу, закранаецца, хіба, аднойчы і толькі ўскосна: “У 1705 годзе, пасьля угоды Пятра I з каралём Аўгустам другім, заключанай супроць швэдзкага караля Карла XII, цар Пётр, увайшоўшы ў граніцы Літвы, разпачаў фармальны тэрор супраць уніятаў”. Гл.: Ласт., *Унія*, “Крывіч” 1926, № 1 (11), с. 96.

## 1709–1916

Dźwieści siem hadoŭ tamu nazad na pałtaŭskich paloch ważyłasia dola zachodnia-rusinskich narodoŭ Litwy i Polščy (ukraincoŭ i biełarusoŭ). Ad wyniku bitwy zaležało, pad czyje i jakije ŭpływy majuć padpaści wyszej nazwanyje narody. Błahaja dola tady sudziła pierewahu Maskowii. Z hetaho wynikło ŭsio toje, szto ad pałtaŭskaj bitwy i da naszych dzion dziejałosia u Biełarusi, Litwie, Ukrainie i Polščy. Wyhranaja maskoŭcami bitwa pad Pałtawaj wydała jej uschodnia-sławianskije narody, katoryje apynulisia ŭ maskoŭskaj niawoli. I ot, pierš napierš Maskowija raspraŭlajecca z Ukrainskaj kazackaj wolnicaj, paśla adrywaje sabie Biełaruś, paśla adchwatywaje Litwu i čaść Polščy. Praz usio XIX stalećcie maskoŭskaja hasudarstwienaść uciskaje ŭsie hetyje narody, žadajučy strawić ich u swaim čerawi.

Ciapier, pad čas hetaj wajny, jak i 207 hadoŭ tamu nazsd[1], idzie zmahańnie miž Rasiejej i siarednia-europejskimi dzieržawami za palityčnuju roŭnawahu. I ciapier, jak i tady, ad wyniku zmahańnia budzie zaležać, ci Biełaruś, Litwa, Ukraina i Polšča wyzwalacca ad ciažkaj niawoli maskoŭskaj, ci ŭsim hetym, a može ješče i inšym „ručejkam” prydziecca zahinuć u „maskoŭskim mory”[2], prydziecca być straŭlenymi ŭ čerawi maskoŭskaho molocha…

Nižej my drukujemo wierš niaboščyka Olhierda Obuchowiča, pisanyj u 1900 hadu ŭ dzień pałtaŭskaj hadaŭščyny[3], u katorym jon kliče pomstu na Maskowiju u druhoj padobnaj bitwie za zniščenyje nadziei narodoŭ.

„Z hrobu Karola, s pola Pałtawy
Ustańcie, narodoŭ nadziei!”…

– tak kliče paet pomstu na kryŭdziciela našaho, katoraja asłabiła-by jaho i źniała-by z nas akowy maskoŭskaj niawoli.

Jazep Hulewič.

---

[1] Так у газеце. Трэба: *nazad*.

[2] Аўтар нататкі выкарыстоўвае радок (“Славянскіе ль ручьи сольются въ Русскомъ морѣ?”) з верша Аляксандра Пушкіна *Клеветникамъ Россіи* (1831), які быў скіраваны супраць французскай і еўрапейскай грамадскасці, якая выяўляла спачуванне польскім і ліцвінскім паўстанцам 1830–1831 гг. ды заклікала ўрады сваіх краінаў дапамагчы Польшчы ў яе барацьбе з расейскім акупантам. Верш А. Пушкіна надрукаваны ў брашуры *На взятіе Варшавы: Три стихотворенія В. Жуковскаго и А. Пушкина*, Санктпетербургъ 1831, с. 7–9.

[3] Публікатар не палічыў патрэбным працытаваць тую мясціну рукапісу, дзе гаварылася пра акалічнасці стварэння верша. Зусім верагодна, што было гэта нешта накшталт раздзела *X. Litaraturnaje apraŭdańnie*. Але відавочна тое, што А. Абуховіч занатаваў і час напісання твора, і звязаў яго з днём “pałtaŭskaj hadaŭščyny”.

## Duma a Karólu XII.

Zory paŭnočny kroŭju pyłajuć,
Snieżny čyrwoniuć prastory;
Ludziom warožby lichi zwieščajuć
Zoraŭ paŭnočnych razory.
Oś try małojcy, – z asobna kožny, –
Bujnyje dumy hnali z ukryćcia;
Na poŭnač kidali ŭzhlady trywožny
Z myślu, što strenuć u žyćci.
Toj karaleŭskaj žadaŭ karony, –
Nie dbaŭ ab češć u patomnych,
Kab tolki djadem mieci złačony
Na swaich skroniach nikčomnych.
Hety, dzie poŭnač, zrodžen na cara,
Impieratoram mieŭ stacca,
Choć baranili narod i wiera
Ajčyźni z hruntu zmieniacca.
Dała abodwym złaja fortuna
Swaich daścihci namieroŭ:[1]
Pieršy na Polšču kinuŭ całuny,
A toj rasšyryŭ moc caroŭ.
Trećci, na stromkaj apioršyś skali,
Dzie wili hniozny[2] sakoły,
Dumaŭ prajnačyć złoj doli šali,
Nie dbaŭ ab ciažki mazoli.
Zory šyroka nieba krywawiuć,
Krywawiuć ziemli i wody, –
Hetak šyroka twajo razsławiać,
Manarše, imia narody.
K ščaściu narodoŭ, dźla ichnaj sławy
Ahnisto biło ŭ im serce…
Budźcie|ž praklaty poli Pałtawy
I ty, narodoŭ marderca![3]
Pamierkli zory, pamierkła sława,
Ruś u niawoli marnieje;
Z hrobu Karóla, s pola Pałtawy
Ustańcie, narodoŭ nadziei!

*Olgierg Obuchowič.*

[1] Дадзены радок яскрава пацвярджае, што неназваныя героі верша – гэта Аўгуст II Моцны і Пётр I: менавіта яны дасягнулі таго, да чаго імкнуліся.
[2] Так у газеце. Трэба, відаць: *hniozdy.*
[3] Ад польск. *morderca* – забойца.

## Байкі са школьнай чытанкі

У тым самым 1916 г. В. Ластоўскі апублікаваў яшчэ два творы А. Абуховіча. Ва ўкладзеную і выдадзеную ім вельмі патрэбную беларускаму школьніцтву кніжку *Rodnyje Zierniaty* (нямецкая акупацыйная ўлада ўпершыню ў гісторыі беларускага народа дала дазвол на адкрыццё школ з беларускаю моваю навучання) ён уключыў байкі *Woŭk i lisica* ды *Sud* паэта са Случчыны.

На жаль, захаваліся толькі лічаныя асобнікі гэтага выдання. Мы ведаем асобнік, які захоўваецца ў Расейскай нацыянальнай бібліятэцы (?), два экземпляры – у Бібліятэцы Вольнага ўніверсітэта Берліна (Bibliothek der Freien Universität Berlin) ды Бібліятэцы Універсітэта Гумбальдта ў Берліне (Bibliothek der Humboldt-Universität Berlin)[1], а таксама, магчыма, маецца асобнік кніжкі ў Francis Skaryna Belarusian Library and Museum (мяркуем па тым, што менавіта ім мог карыстацца Арнольд Мак-Мілін дзеля працы над артыкулам *A Conspectus and Bibliography of Byelorussian Literature in the Nineteenth Century*[2]).

У сувязі з недаступнасцю для беларускіх даследчыкаў дадзенага выдання лічым патрэбным падаць кароткую яго характарыстыку, выяўленую ў газеце "Homan". Спачатку ў нумары 87 (12 снежня) за 1916 г. з'явілася кароткае паведамленне: „Knižki dla biełaruskich szkoł. Hetymi dniami wyjdzie ŭ świet knižka dla dziaciej na 2 i 3 szkolny hod pad nazwańniem *Rodnyje Zierniaty*", а праз тыдзень – рэцэнзія (мяркуем, што гэта самарэцэнзія: В. Ластоўскі характарызаваў уласнае выданне): „*Rodnyje Zierniaty*. Pad takim zahałoŭkam wyjszła z druku knižka da czytańnia dla biełaruskich paczatkowych szkoł na 2 i 3 hod nawuki, złoženaja W. Łastoŭskim. Knižka na 240 stranicach daje bahata rožnarodnaho materjału da czytańnia. U jej jość hetkije addzieły: I – *u siamji, ŭ szkoli i miž ludźmi*; II – *czatyry pory hodu, ziemla, raśliny, źwiery i ptuszki*; III – *pa rodnym kraju*; IV – *z naszaj minŭszczyny*. Materjał padobran z najlepszych biełaruskich i inszych aŭtaroŭ, dy mnoha reczaj oryhinalnych – piora W. Łastoŭskaho, asabliwa ŭ dwoch aposznich addziełach. Knižka nadrukowana łacunskim szryftam, u katorym, jak i ŭ-wa ŭsich biełaruskich szkolnych padrucznikach zamiest sz i cz užywajecca znak š i č. Cena knižki – 1 m. 70 f., u aprawie – 2 m. *Rodnyje Zierniaty* – heta cenny dabytak dla biełaruskaj szkolnaj literatury, naahuł niebahataj. Knižka susim adpawiedaje wymoham paczatkowaj szkoły i pawinna znajści dla siabie naležnaje miejsco ŭ-wa ŭsich biełaruskich szkołach. Cennuju asabliwaść *Rodnych Zierniat* stanowić toje, szto

[1] Гл.: [online] http://www.worldcat.org/title/rodnyje-zierniaty-knizyca-dlja-skolnaho-cytannia/oclc/918554238 [доступ: 13.08.2018].

[2] Гл.: Arnold B. McMillin, *A Conspectus and Bibliography of Byelorussian Literature in the Nineteenth Centur*, "The Journal of Byelorussian Studies" 1971, vol. II, No 3, p. 271–288.

ŭ addzieli dla 2 hodu kožnaja staciejka maje ŭ kancy niawialiki sławaryk i pytańnia dla hutarak i piśmiennych rabot. Aposznije znaczna ablehczajuć rabotu wuczyciela dyj dajuć wuczniam mahczymaść samym – biaz niczyjej pomaczy – lohka razabracca ŭ praczytanym adryŭku"[1].

Байкі А. Абуховіча ўкладальнік змясціў у другім аддзеле *Czatyry pory hodu, ziemla, raśliny, źwiery i ptuszki*:

- *Woŭk i lisica* [u:] *Rodnyje zierniaty: Knižyca dla školnaho čytańnia*, zlaž. W. Łastoŭski, Wilna: Homan, 1916, s. 123.
- *Sud* [u:] *Rodnyje zierniaty: Knižyca dla školnaho čytańnia*, zlaž. W. Łastoŭski, Wilna: Homan, 1916, s. 125[2].

Паводле чытанкі *Rodnyje zierniaty* друкаваліся гэтыя байкі ў кніжках для школ, якія рыхтавала Леаніла Чарняўшчынка (жонка М. Гарэцкага).

Пададзім усе вядомыя нам выданні, дзе перадрукоўваліся байкі А. Абуховіча:

- *Воўк і лісіца* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня*, укл. Л. Чарняўшчынка, пад рэдакцыяй школьнае камісіі Беларускаго Навуковага Т–ва, Вільня 1919, с. 27–28[3].
- *Суд* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга да чытаньня*, укл. Л. Чарняўшчынка, пад рэдакцыяй школьнае камісіі Беларускаго Навуковага Т–ва, Вільня 1919, с. 35–36.
- *Woŭk i lisica* [u:] *Rodny kraj*, ukł. L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. IV-aje, Wilnia 1921, s. 33[4].
- *Sud* [u:] *Rodny kraj*, ukł. L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. IV-aje, Wilnia 1921, s. 37.
- *Воўк і лісіца* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга для чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі, пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выд. пераробленае і дапоўненае, Вільня 1923, с. 38–39.
- *Суд* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга для чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі, пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выд. пераробленае і дапоўненае, Вільня 1923, с. 43–44[5].

---

[1] (a), *U Wilni i wakolicach*, „Homan" 1916, № 89 (19 śniežnia).

[2] Бібліяграфічныя дадзеныя падаём паводле публікацыі А. Мак-Міліна.

[3] Байка *Воўк і лісіца* пададзена без указання аўтара. У гэтым жа годзе выйшла ідэнтычнае выданне лацінкаю.

[4] На жаль, мы не ведаем: чаму дадзенае выданне пазначана як IV-aje, ці выйшла ў Вільні ў гэтым годзе выданне грамадзянскім шрыфтам і чаму падручнік Л. Чарняўшчынкі *Родны край: другая пасля лемантара кніга да чытання*, надрукаваны пад грыфам "Камісарыят народнай асветы Беларусі" ў 1921 г. у Менску, падаецца як "выд. 2-е, папраўленае"?

[5] Невядома, ці гэтае, а таксама наступныя выданні выходзілі ў свет у двух варыянтах –

- *Воўк і лісіца* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга для чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі, пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выд. перароблене і дапоўненае, Вільня 1929, с. 38–39.
- *Суд* [у:] *Родны край: Другая пасьля лемантара кніга для чытаньня*, злажыла Л. Гарэцкая, вучыцелька Віленскай Беларускай Гімназіі, пад рэдакцыяй школьнай камісіі Беларускага Навуковага Т–ва, выд. перароблене і дапоўненае, Вільня 1929, с. 43–44.
- *Woйk i lisica* [u:] *Rodny kraj*, ukł. L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. V-aje, Wilnia 1931, s. 33.
- *Sud* [u:] *Rodny kraj*, ukł. L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. V-aje, Wilnia 1931, s. 37.
- *Woйk i lisica* [u:] *Rodny kraj*, L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. VI, Wilnia 1936, s. 33.
- *Sud* [u:] *Rodny kraj*, L. Hareckaja, wučycielka 1-aje Wilenskaje Biełaruskaje Himnazii, wyd. VI, Wilnia 1936, s. 37.

Нягледзячы на вялікую колькасць выданняў, у якіх друкаваліся байкі А. Абуховіча *Woŭk i lisica* ды *Sud*, а таксама тое, што ў 1920-я гг. яны друкаваліся ў Менску і вывучаліся ў школах Савецкай Беларусі[1] (гл. напр.: *Родны край: другая пасля лемантара кніга да чытання*, выд. 2-е, папраўленае, Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі, 1921, 98 с.), беларускія гісторыкі літаратуры толькі ў 1988 г. уключылі іх хрэстаматыю і тым самым – у навуковы дыскурс.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі[2]: *Woŭk i lisica [u:] Rodnyje zierniaty: Knižyca dla školnaho čytańnia, zlaž. W. Łastoŭski, Wilna: Homan, 1916, s. 123.*

---

грамадзянскім шрыфтам і лацінкаю.

[1] Р. Родчанка ў сярэдзіне 1970-х гг. байкі А. Абуховіча *Woŭk i lisica* ды *Sud* змог выявіць зусім нечаканым чынам: сябра літаб'ядняння пры Слуцкай раённай газеце Пятро Шуляк прыгадаў яе па памяці як вывучаную са школьнага падручніка ў 1920-я гг. Гл.: Р. Родчанка, *Альгерд Абуховіч-Бандынэлі*, Мінск 1984, с. 78.

[2] Шчыра дзякую Міколу Нікалаеву за дасланыя сканы чытанкі *Rodnyje zierniaty* з асобніка Бібліятэкі Расейскае акадэміі навук.

## Woŭk i lisica.

“Na, tabie, niabože,
Što mnie niazhože”.

Raz papałosia lisicy,
Ažno try zławić kurycy.
Padušyła; dźwie z ich zjeła, –
Trejciu skryła. Sama sieła −
Jak pa pracy − pad stažkom.
Woŭk hałodny jšoŭ niškom.
A što s kumoju byŭ znajom,
To takuju reč pawioŭ:
− „Ach, siastryca, − kaže kum, −
Ja ad rańnia braŭ na wum,
Kab što-kolwiek mnie padjeści,
A tut na złość niehdzie ŭleźci!
Padchapiŭ|by ja choć ptušku...
Da awiec padchodziŭ z bočku,
Dy pastuch čuprynu češe,
I sabaka prytom breše, −
Prystupicca nima składu!..
Daj ty, kumka, jaku radu!?”
− „Och, moj kumie daražeńkie!
To|ž stoh siena calusieńki
Jež, jak chočeš, − nie škaduju,
Choć paślednim dy častuju!”
A maŭčyć naša lisica,
Što pad korčam jość kuryca.
− „Dziakuj, dziakuj!” − skazaŭ šery
I paciahsia biez wiačery.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў першапублікацыі: *Sud* [u:] *Rodnyje zierniaty: Knižyca dla školnaho čytańnia*, zlaž. W. Łastoŭski, Wilna: Homan, 1916, s. 125.

## Sud.

Tam, dzie pušča, za prasiołkam
Kaliś lis žyŭ s šerym woŭkam
I, jak wieść ludzkaja kaže,
Žyło zhodnie plemia ŭraže;
Dy da času.
Chutka swarka tam pajšła:
Ŭkryŭdziŭ niečym lis waŭka.
Dajšło dzieła da suda.
Može praŭda, može nie –
Adwakaty − dwa sabaki na sudzie:
Kožny breše, na praciŭnika wiadzie.
A sudździoju byŭ hłušec.
Jon razumny, ci hłupiec,
Toje trudna razhadać,
Adno tolki, jak čuwać,
Što rašyŭ jon dzieła tak:
Wyhnać s sudu ŭsich sabak,
A woŭk z lisam płociać štraf.
Woŭk – bo chłusić jon naprasna,
Lis − bo złodziej.
Heta jasna:
Krucialoŭ čym razbirać
Lepš abodwych pakarać.

# Вершы, якія прыпісваюцца Альгерду Абуховічу

Рукапісы вершаў *Шовъ я вчора вночи съ Глуска* і *Взбійся въ гору, мой соколе!* захоўваюцца ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва сярод калекцыі дакументаў па гісторыі культуры, сабранай Ядвігай Раманоўскай (1920–2001), пляменніцай Янкі Купалы. Паводле няпэўных звестак, яны колісь знаходзіліся ў Віленскім беларускім музеі імя Івана Луцкевіча, а пасля ліквідацыі Музея савецкаю ўладаю ў 1944–1945 гг. перайшлі ў прыватныя рукі[1]: невядомы мінскі калекцыянер трымаў іх у сябе з 1946 г. да сярэдзіны 1990-х гг., каб урэшце апынуцца сярод дакументаў па гісторыі культуры, сабранай Ядвігай Юльянаўнай Раманоўскай.

Вершы занатаваныя на адмысловай картцы паштовай паперы з цісненай у левым верхнім кутку манаграмай **ML**[2]. Адразу пасля тэксту твораў тым самым почыркам нехта М. дапісвае на правінцыйнай польскай мове некалькі сказаў. З іх мы даведваемся, што беларускамоўныя вершы дасылаюцца на жаданне адрасата; паведамляецца таксама, што верш (вершы[3]) пра Zarzecze ён ужо забраў і што пасля Святаў (Калядаў, Вялікадня?) ён, адрасат, зможа прывезці нейкаму пану верш Янкі Лучыны *Старый Ляснікъ*[4], калі той гэтага верша не мае.

Крышку ніжэй тым самым почыркам напісана і нататка “kochającej matki” Станіславы. З яе вынікае, што адрасата завуць Станіслаў; ён даўно ёй не пісаў, але яна на гэты раз яму прабачае і спадзяецца сустрэць яго ў Мінску.

Упершыню гэты дакумент увялі ў навуковы ўжытак і апублікавалі беларускамоўныя вершы Ганна Запартыка і Язэп Янушкевіч у 1997 г. Прааналізаваўшы факты, якія вынікалі з дакумента, яны атрыбутавалі дадзеныя творы як тэксты А. Абуховіча: “Супастаўляючы геаграфічныя назовы (Глуск, Зарэчча), імёны аўтараў прыпіскі з імёнамі герояў *Мемуараў* Абуховіча, беручы пад увагу манаграму з літарамі **ML** – можна смела сцвярджаць: карэспандэнтамі былі па-

---

[1] Нібыта з Вільні ў Мінск яны трапілі пры пасрэдніцтве Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, якая ў 1944–1960 гг. была дырэктарам Літаратурнага музея Янкі Купалы.

[2] Так сцвярджаюць Г. Запартыка і Я. Янушкевіч. Мы ж прачыталі манаграму як **MŁ**.

[3] М. ужывае слова “wiersze” не толькі ў дачыненні да *Шовъ я вчора вночи съ Глуска* і *Взбійся въ гору, мой соколе!* ды тэкстаў (тэксту) пра Зарэчча, але і адносна верша Янкі Лучыны *Стары ляснік*.

[4] На падставе згадкі пра гэты твор Г. Запартыка і Я. Янушкевіч датуюць дадзены дакумент сярэдзінаю 1890-х гг. Аднак вядома, што польскі варыянт паэмы *Паляўнічыя акварэлькі...* узнік у сярэдзіне 1880-х гг. (друкавалася з 1887 г.). Якраз у тыя часы Я. Лучына пачаў пісаць і па-беларуску. Можна дапусціць, што беларускамоўная версія была напісаная таксама ў другой палове 1880-х гг. і распаўсюджвалася ў рукапісах. Мяркуем так з тае прычыны, што выдадзены даволі вялікім накладам “Сѣверо-Западный календарь на 1893 годъ” быў даступны аматарам беларускай пісьменнасці, у тым ліку і “temu Panu”, які, відавочна, жыў у Мінску.

ненка Марыля Легатовіч і яе маці Станіслава. Вершы Марыля перапісвала для свайго брата Станіслава”[1].

Сапраўды, агульнавядома, што паэт нарадзіўся ў Калацічах каля Глуска, а фальварак Зарэчча ва ўспамінах ён згадвае як сваю колішнюю ўласнасць, што пазней перайшла да Караля Нерэзыуша і дасталася па спадчыне Станіславе Легатовіч[2], відавочна, унучцы прыяцеля Юзафа Абуховіча, дзеда паэта.

На гэтай падставе архіўная справа з вершамі *Шовъ я вчора вночи съ Глуска* і *Взбійся въ гору, мой соколе!* ды нататкамі М. і “kochającej matki” Станіславы цяпер мае наступны адрас: БДАМЛіМ, ф. 394: *Калекцыя дакументаў па гісторыі культуры, сабраная Раманоўскай Ядвігай Юльянаўнай*, воп. 1, спр. 2: [А.Р. Абуховіч]. “*Шов я вчора в ночі с Глуска*...”, “*Взбійсе в гору мой саколе!..*”. Вершы. У канцы запіска [Марыі, Станіславы Легатовіч Станіславу Легатовічу]. Рукапіс. [1890-я гг.].

Атрыбуцыя Г. Запартыкі і Я. Янушкевіча прызнаная сучаснымі гісторыкамі літаратуры[3]: у пятым томе *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* вершы *Шовъ я вчора вночи съ Глуска* і *Взбійся въ гору, мой соколе!* друкуюцца як творы А. Абуховіча без усялякіх засцярогаў[4].

Праўда, узнікаюць пытанні, калі параўноўваць мову гэтых вершаў і мову твораў А. Абуховіча. Відавочна, вершы, якія М. (Маня Легатавічанка?) перасылае брату, пададзены тым самым правапісам і графікай, як і былі занатаваныя ў яе, напрыклад, асабістым альбоме. Яна не мела патрэбы рабіць перамены[5]. Дык, калі мы будзем лічыць аўтарам вершаў *Шовъ я вчора вночи съ Глуска* і *Взбійся въ гору, мой соколе!* А. Абуховіча, то ці не азначае гэта, што літаратар са Случчыны выкарыстоўваў пры напісанні беларускамоўных твораў не лацінку, а грамадзянскі шрыфт? Другое пытанне, якое патрабуе адказу, датычыць ужытых аўтарам займеннікаў *щось* і *що*. Вядома, гэта ўплыў не ўкраінскае мовы, а заходнепалескіх дыялектаў беларускае. Характэрна, што ў пяці вершаваных творах А. Абуховіча падобнага мы не назіраем. Аднак не выключаем, што арыгінальныя рукапісы паэта маглі ўтрымліваць гэтую дыялектную асаблівасць ягонае мовы. Якраз тую асаблівасць (называючы яе “неўласцівымі беларускай мове акцэнтамі”), за якую А. Абуховіча крытыкаваў Ф. Багушэвіч.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў паводле рукапісу БДАМЛіМ, ф. 394, воп. 1, спр. 2, а. 1–2v.

---

[1] Г. Запартыка, Я. Янушкевіч, *Яшчэ адна загадка XIX стагоддзя*, “ЛіМ” 1997, № 39.

[2] Ва ўспамінах А. Абуховіч згадвае гаспадара фальварка Сымона Легатовіча, яго дачку Маню Легатавічанку і Станіславу Легатовіч, апошнюю з роду Нерэзыушаў.

[3] Хіба, Аляксей Каўка ў артыкуле *Сігнал вечнасці* выказаў думку пра тое, што, магчыма, Янка Лучына з’яўляецца аўтарам верша *Гэй узвійся ў гору, мой саколе*… Гл.: А. Каўка, *Сігнал вечнасці* [у:] *Янка Лучына ў кантэксце самаідэнтыфікацыі беларускай літаратуры: Матэрыялы Рэсп. навук. канф.*, уклад.У. Мархель, Мінск 2002, с. 142.

[4] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2, Мінск 2013, с. 240–242, 792.

[5] Зрэшты, *Стары Лясникъ* Я. Лучыны М. занатавала як *Старый Лясникъ*, “русіфікуючы” прыметнік. Праўда, можна дапусціць, што М. мела адрозны ад тэксту *Альманаха Съверо-Западнаго края* (1893, с. 12–14) рукапіс верша ці проста памылілася, пішучы па памяці.

*   *   *

Шовъ я вчора вночи съ Глуска
Да такъ трохи зажурився
Глянувъ, щось дорога вузка!
Лихо-жъ!.. ма быть заблудився?
Я туды, сюды шататца
Що-сь не тое! Ей же Богу,
Треба вамъ уже признатца
Я попавъ не въ ту дорогу!
Що робить? Доставъ запалку
Засвѣтивъ, дай нахилився
Трохи на Леося палку
А тутъ гривеникъ сгубився
Сѣвъ на землю, мацавъ-мацавъ
Да нимашека ничого
Тутъ уже-бъ другій заплакавъ
Да пришлось не на такого
Якъ же... Тамъ яны жартуюць
Зубы скаляць да смѣютца.
Польки, кадрили танцуюць
Съ паненками въ лапы бъютца
Тутака-жъ савсимъ не жарты
За грошами лазивъ гнувся
Бо чаго-нибудь да варты
И до дому чуть вярнувся

*   *   *

Взбійся въ гору, мой соколе!
Глянь што робитца на долѣ
Глянь, ты браце, окомъ сонца
На радзимый край без конца
Глянь на пущи и розлоги
На Днѣпровы гонь пороги
Гето-жъ твоя земля маци
Тоби-жъ на ней поживаци
Одна душа въ хороводѣ
Отъ той зямли плыве взгодзе
Прислухайся той музыце
Соберемся въ вечерницѣ

А ты станешь между нами
Развеселишь насъ пѣснями
Якъ высоко ключаць гуси
Такъ до нашай Бѣлоруси
Одорвавшися отъ бѣды
Завернутца всѣ сосѣды
Такъ якъ колись приходили
Хлѣбъ ламали и медъ пили.
Только браце безъ разваги
Не касайся чужой зваги[1]
По бацьковскомъ обычаю
Будемъ ставить хату скраю.
Ладъ завести у ней треба
Кабъ на зиму стало хлѣба
Кабъ слободно и весело
Слава наша пошла въ коло
Кабъ примѣромъ мы служили
Хлѣбъ ломали и медъ пили
И кабъ Бога мы хвалили

Posyłam Ci żądane wiersze mój drogi braciszku, wiersze zaś o Zarzeczu są u Ciebie, teraz zabrałaś (sic!). Pawiedz (sic!) temu Panu że po Swiętach możesz mu przywieść „Старый Лясникъ” jeżeli on tych wierszy nie ma –

Usciskam Cię najserdeczniej. Twoja M.

Najdroższy mój Stasiuczku. Zepsuł się mój ulubieniec że tak długo nie pisał, ze mnie teraz smieją się, ale na ten raz przebaczam i piszę słów kilku, może i ja Ciebie spotkam w Miński, <…>[2]. Usciskam Cię z serca polecając opiece Matki Boskiej kochająca matka Stanisława[3].

[1] І. Насовіч, *Слоўнік беларускай мовы*, Мінск 1983, с. 197: “ЗВА́ГА, и, с. жэ. Уваженіе. *Зва́ги не маешъ къ старшимъ. Худо, пацерявши звагу*”.

[2] Старанна выкрасленыя ў гэтым месцы два радкі Г. Запартыка і Я. Янушкевічу ўдалося расчытаць: “аднак гэта цалкам будзе залежаць ад бацькавай кішэні”. Гл.: Г. Запартыка, Я. Янушкевіч, *Яшчэ адна загадка XIX стагоддзя*, “ЛіМ” 1997, № 39.

[3] Дасылаю Табе жаданыя вершы, мой дарагі брацік, вершы ж пра Зарэчча – у Цябе, ты іх цяпер забраў. Скажы таму Пану, што пасля Святаў можаш яму прывезці *Старый Лясникъ* – калі ён гэтага верша не мае. Сардэчна Цябе абнімаю. М.

Найдаражэйшы мой Стасічак! Разбэсціўся мой пястун, што так доўга не пісаў, з мяне цяпер смяюцца, але на гэты раз прабачаю і пішу колькі слоў, можа, і я спаткаю Цябе ў Мінску <…> Абдымаю Цябе, даручаючы ад усяго сэрца апецы Маці Божае. Любячая маці Станіслава.

## *Koladnaja pisanka* ў кантэксце Праграмы нацыянальнага адраджэння Вацлава Іваноўскага

Станаўленне беларускага друку і пісьменнасці на пачатку XX ст. шмат у чым[1] звязана з дзейнасцю Беларускай рэвалюцыйнай партыі, заснаванай Вацлавам Іваноўскім напрадвесні 1902 года. Менавіта гэтая арганізацыя, пра якую, на жаль, мы вельмі мала ведаем[2], ініцыявала практычную нацыянальную працу. Інфармацыя пра заснаванне партыі выклікала "характэрную рэакцыю з боку кіраўніцтва ППС: у чэрвені 1902 г. на VI з'ездзе ў Любліне была прынятая тайная «беларуская рэзалюцыя», дзе гаварылася: «Даручыць В[ыканаўчаму] Кам[ітэту] выслаць дэлегатаў на з'езд, каб выразіць ім сімпатыі і пажаданні імкнуцца да незалежнасці і федэратыўных стасункаў з намі. ППС[3] лічыць, што яна мае права ўздзейнічаць на беларускае насельніцтва даступнымі ёй сродкамі, якія не супярэчылі б прынцыпам і інтарэсам беларускай сац[ыялістычнай] арг[анізацыі]»"[4]. "Характэрная рэакцыя", відавочна, заключалася яшчэ і ў тым, што Польская сацыялістычная партыя, "баючыся канкурэнцыі", у 1902 г. распачала выданне беларускамоўнае агітацыйнае літаратуры. У Лондане выйшлі тры невялічкія (16-старонкавыя) кніжкі: *Гуторка об тым, куды мужыцкіе грошы ідуць*, *Як зрабиць, каб людзям стала добра на свеце?* і *Хто праудзивы прыяцель беднаго народу*[5], а ў Вільні – улётка *Do bracі mużykou*[6]. Надрукаваныя

---

[1] Бясспрэчна тое, што на пачатку XX ст. працягвалі даследаваць беларусазнаўчую тэматыку і выдаваць свае працы Еўдакім Раманаў, Яўхім Карскі, Міхал Федароўскі і інш. Зрэдку з'яўляліся асобнымі выданнямі літаратурныя творы. Напрыклад, *Тарасъ на Парнасѣ и другія бѣлорусскія стихотворенія: Изданіе новое, дополненное*, Могилевъ 1902 і інш. Аднак свядомая нацыянальная праца пачалася менавіта ў Пецярбурзе ў колах студэнцкае моладзі, лідарам якіх з'яўляўся В. Іваноўскі.

[2] У беларускіх навуковых і энцыклапедычных выданнях адсутнічаюць звесткі пра Беларускую рэвалюцыйную партыю. Але факт існавання партыі на падставе архіўных матэрыялаў яшчэ ў 1980-я гг. сцвердзіў Юры Туронак (гл.: J. Turonek, *PPS wobec białoruskiego ruchu rewolucyjnego w latach 1902–1906* [y:] *Studia polsko-litewsko-białoruskie*, Warszawa 1988). Больш падрабязна пра гэта гл.: J. Turonek, *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi*, Warszawa 1992, 148 s. Беларускі пераклад: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, пер. Я. Жданові́ч, Мінск 2006, 180 с.

[3] Маецца на ўвазе Polska Partia Socjalistyczna (PPS) – Польская сацыялістычная партыя.

[4] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 32.

[5] Гл.: *Гуторка об тым, куды мужыцкіе грошы ідуць*, Лъондын 1903, 16 с.; *Як зрабиць, каб людзям стала добра на свеце?*, Лъондын 1903, 16 (?) с.; *Хто праудзивы прыяцель беднаго народу*, Лъондын 1903, 16 с. Усе яны пазначаны як "Выданьни Польской Партыи Социалистычнай у Литве", а выйшлі ў свет з друкарні Польскай сацыялістычнай партыі ў Лондане, якою кіраваў Юзаф Канёўскі (сапр. Баляслаў Энджэёўскі), – "Printed and published by J. Kaniowski, 67 Colworth-Road, Leytonstone, London N. E.".

[6] На думку Ю. Туронка, гэта ўлётка, скіраваная да батракоў з-пад Скідэля, была выдадзеная ў маі 1903 г.

яны былі пасля таго, як Беларуская рэвалюцыйная партыя яшчэ ўвосень 1902 г. выдала сваю польскамоўную ўлётку – *Do inteligencyi*.

Выдавецкая дзейнасць партыі сталася магчымаю, калі В. Іваноўскі, атрымаўшы заробак за летнюю студэнцкую практыку, набыў гектограф[1], прымітыўны капіравальны апарат, які дазваляў атрымаць да ста адбіткаў. Здаецца, аніводнага асобніка ўлёткі *Do inteligencyi* не захавалася, дык цяжка меркаваць, якою яна была. Хутчэй за ўсё – рукапіснаю, як і пазнейшая *Koladnaja pisanka*. Тэкст улёткі захаваўся дзякуючы таму, што быў перадрукаваны ў лютаўскім нумары часопіса Польскае сацыялістычнае партыі "Przedświt" у артыкуле народжанага ў Слуцку Вітольда Ёдкі-Наркевіча (1864–1924)[2]. Менавіта там выявіў яго Ю. Туронак і апублікаваў у працы *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi*[3]. На думку даследчыка, аўтарам тэксту ўлёткі з'яўляецца В. Іваноўскі, а не студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута Лявон Малецкі, як сцвярджаў Алесь Бурбіс[4], бо "закладзеныя ў ёй ідэі засталіся галоўным арыенцірам яго далейшай шматгадовай дзейнасці"[5].

На нашую думку, зварот В. Іваноўскага да адукаваных людзей на Беларусі (гістарычнай Літве) адыграў значную ролю ў станаўленні нацыянальнага руху і беларускамоўнае літаратуры ў ХХ ст. І гэта нягледзячы на тое, што выдадзены ён быў невялікім – хутчэй за ўсё – накладам і па-польску. Wroń. (В. Ёдка-Наркевіч) на пачатку артыкула піша: "Pojawiła się na Litwie hektografowana odezwa, podpisana B. P. R., co oznacza prawdopodobnie «Białoruska partya rewolucyjna», może «Białoruska partya radykalna»". Дадзеныя словы могуць сведчыць, што ў Лондане не мелі дакладных звестак, хто выдаў зварот да інтэлігенцыі, а г. зн., што наўрад ці Юры Іваноўскі, брат Вацлава, быў той асобаю, якая перадала ці пераслала дакумент у рэдакцыю[6]. Верагодна, зрабіў гэта нехта з віленскіх (літоўскіх) карэспандэнтаў "Przedświtu".

Пададзім тэкст улёткі *Do inteligencyi* ў арыгінале і перакладзе на беларускую мову.

---

[1] Ю. Туронак, спасылаючыся на Адама Станкевіча (гл.: А. Станкевіч, *Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня: з нагоды 70-леьця сьмерці Кастуся Каліноўскага рэд. "Mużyckaj praudy" (1864) і 50-леьця "Гоману" (1884)*, Вільня 1935, с. 14), сцвярджае, што фінансава дапамог В. Іваноўскаму ягоны будучы швагер Мечыслаў Міхаловіч (1876–1965), актыўны дзеяч Польскай сацыялістычнай партыі.

[2] Wroń., *Z powodu odezwy białoruskiej*, „Przedświt" 1903, nr 2 (luty), s. 53–57.

[3] J. Turonek, *Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi*, Warszawa 1992, s. 38–39.

[4] Гл.: А. Бурбіс, *Беларуская соцыялістычная грамада ў першым перыядзе яе працы* [у:] *Беларусь: Нарысы гісторыі, культуры і рэволюцыйнага руху*, Мінск 1924, с. 118.

[5] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 39.

[6] Ю. Туронак на падставе архіўных матэрыялаў даводзіць, што Ю. Іваноўскі са жніўня 1902 г., жывучы і працуючы ў Варшаве, уваходзіў у склад замежнага камітэта Польскай сацыялістычнай парты, г. зн. меў кантакты з кіраўніцтвам партыі. У такім разе, аднак, ён мусіў бы паведаміць, што азначаюць літары B. P. R. Зрэшты, дзеля таго, каб "заблытаць" расейскую паліцыю, В. Ёдка-Наркевіч мог адмыслова не даваць адназначнае расшыфроўкі абрэвіятуры.

**Do inteligencyi**

Kto z was pozazdrości losu szkapy pociągowej. Marnie żywiona, bita ciągle, sprzedawana po wyzbyciu się z sił na zdarcie skóry – haruje całe swe życie, nie zaznając prawie nigdy odpoczynku... Nieprawdaż przyjemny i piękny obrazek? A jednak, jednak wy pozwalacie, nie protestujecie, nie robicie nic, by lud, z któregoście wyszli, nie doznawał podobnego losu. Ciemny – dopotopowem narzędziem wyniszcza ziemię karmicielkę; biedny, stąd – dźwiga na sobie ciężar podatków; ogłupiony, bo nie rządzący sobą, znosi z cierpliwością słonia ucisk rządowy. To wszystko na rękę tym, których istnienie jest oparte na głupocie, ciemnocie i wyzysku ludu. Wyżbyście chcieli wziąść udział w tem systematycznem okradaniu narodu swego z lepszej doli? Wyprzecie się w żywe oczy. A jednak tak jest, skoro sami posiadając światło nie udzielacie go nieposiadającym. I ta apatya mści się na was. Odcięci od ludu przez wykształcenie, odebrane w obcym języku, nie zdołaliście stworzyć własnej samodzielnej kultury dla swojej garstki i poszliście w poniewierkę u sąsiadów. I słusznie – nie zdobyliście się na to, na co zdobyli się stokroć mniej liczebni od was litwini, bulgarowie, serbowie, chorwaci etc. Dajcie ludowi oświatę, ale dajcie ją w języku ojczystym. Inaczej ona nigdy nie spłynie do nizin. Umysł dziecka, z trudnością opanowujący ogólne pojęcia, ma podwójną pracę, opanowując je w języku obcym. Ztąd niedokładność, chaos, zrażenie się do nauki. Mowa ojczysta – toż wyraz duszy, jej uczuć, myśli. Wie rząd, co robi, podając nędzne ochłapy oświaty po rosyjsku: albo zniechęca do nauki, albo tworzy gmatwaninę pojęć, najzdolniejszych zaś usuwa od bezpośredniego pokrewieństwa z ludem, mając w nich sług myślących po rosyjsku, niszcząc w zarodku odrębność narodową, tamując

**Да інтэлігенцыі**

Хто з вас пазайздросціць лёсу сялянскага каняні? Кепска кормлены, вечна біты, прадаваны, як знясіліцца, на шкурадзёрню – гаруе ўсё сваё жыццё, амаль не ведаючы адпачынку... Праўда ж, прыемны і пекны малюнак? І аднак жа, аднак жа вы дазваляеце, не пратэстуеце, не робіце анічога, каб народ, з якога вы выйшлі, не зазнаваў гэткага ж лёсу. Цёмны – дапатопнымі прыладамі вынішчае зямлю-карміцельку; бедны, а нясе на сабе цяжар падаткаў; адурманены, бо не пануе над сабою, з цярплівасцю слана трывае прыгнёт ураду. Усё гэта на руку тым, чыё існаванне грунтуецца на дурноце, цямрэчы і эксплуатацыі народу. І вы б хацелі прыняць удзел у гэтым сістэматычным пазбаўленні свайго народа лепшае долі? Ды вы адмовіцеся проста ў вочы. Але так ёсць, калі самі вы, маючы святло, не дзеліцеся з тымі, у каго яго няма. І гэтае бяздзеянне помсціць вам. Адлучаныя ад народу чужамоўнаю адукацыяй, вы не здолелі стварыць уласную самастойную культуру для свае грамадкі і пайшлі ў паняверку да суседзяў. І слушна – бо не адважыліся на тое, на што адважыліся стакроць меншыя лікам літоўцы, балгары, сербы, харваты і інш. Дайце народу асвету, але дайце яе на роднай мове. Інакш яна ніколі не трапіць у народ. Розум дзіцяці, які з цяжкасцю авалодвае агульнымі паняццямі, мае падвойную працу, авалодваючы імі на чужой мове. Адсюль недакладнасць, хаос, нежаданне вучыцца. Родная мова – гэта ж выяўленне душы, яе пачуццяў, думак. Урад ведае, што робіць, калі падае жабрачыя аб’едкі асветы па-расейску: ён ці ўвогуле адбівае ахвоту да навукі, ці стварае блытаніну паняццяў, пазбаўляе самых здольных кроўнае еднасці з народам, ператварае іх у лёкаяў, што думаюць па-расейску, у зародку вынішчаючы нацыянальную адметнасць, стрымлівае развіццё беларускае культуры. З усіх

rozwój kultury białoruskiej. Ze wszystkich jego zbrodni – ta bodaj największa: torturowanie umysłów dziecinnych, skrzywienie rozwoju umysłowego, znieprawienie moralne – bo oto tam w perspektywie – przerób się na moskala językiem i myślą, a jeśliś w dodatku prawosławny – odmyka się przed białorusinem droga dostojeństw i dostatku – za cenę zdrady narodu. I dużo jest wśród was takich sprzedawczyków. Dajcie ludowi znajomość jego przeszłości. Człowiek nie pamiętający tego, co robił, czuł, myślał, nie korzystający z doświadczeń nawet własnych – nie umie rządzić sobą, staje się igraszką, pośmiewiskiem ludzi. On umie tylko wegetować. To bydlę niemal. I los narodu zarazem, któremu obce są dzieje przodków! Wszak staliście się niewolnikami nie tylko stąd, że was zgniotły klęski – staliście się niewolnikami z duszy swojej – wy wiernopoddani moskiewskiego cara. Gdzie wasze prawa? W pyle, w zapomnieniu gniją w bibliotekach, natomiast knut wszechwładcy wisi nad wami. Całujcie go – raby! Może, gdy się wyłoni z mgły przeszłość wasza „chmurna" lecz „górna" – zaczniecie się dopominać o prawa wasze; być może – lecz bez niej nigdy. Czem dla duszy każdej jest świadomość, niżąca na jedną nić chwile minione, tem dla narodów jest sprzężenie wieków przeszłych z teraźniejszością: opanowaniem jej, rachunkiem sumienia, źródłem, z którego płyną zamiary nowej pracy na przyszłość. Dać ludowi oświatę, zapoznać z historyą ojczystą – ale jak! Niema prawie literatury ludowej – niema historii: stworzyć je należy. Czyż trzeba się powoływać na przykłady ludów, które to zrobiły, dowodzić, że to rzecz możliwa? Czesi, litwini to zrobili, wy nie potraficie? Oto szkic programu:

1) Zakładać kółka mające na celu pracę nad językiem ojczystym (gramatyka!), krajoznawstwem, historyą, literaturą. Zwrócić się do specyalistów wykształconych w odpowiednim kierunku z prośbą

яго злачынстваў гэтае, бадай, найвялікшае: катаванне дзіцячае свядомасці, скрыўленне разумовага развіцця, дэмаралізацыя – бо там, у перспектыве – перамяненне ў маскаля мовай і розумам, а калі ты яшчэ і праваслаўны – перад беларусам адкрываецца шлях да высокіх пасадаў і дастатку – цаной здрады народу. І шмат ёсць сярод вас гэткіх прадажнікаў. Пазнаёмце народ з ягоным мінулым. Чалавек, які не памятае таго, што рабіў, чуў, думаў, які не можа карыстацца нават уласным досведам, – не пануе над сабою, становіцца цацкаю, людскім посмехам. Ён можа толькі вегетаваць. Ён ледзь не быдла. І такі адначасна лёс народа, які не памятае гісторыі продкаў! Дык вы сталі нявольнікамі не толькі таму, што вас перамаглі – вы сталі нявольнікамі ў душах сваіх – вы вернападданыя маскоўскага цара. Дзе вашыя правы? У пыле, у забыцці гніюць у бібліятэках, затое кнут самадзержца вісіць над вамі. Цалуйце яго, рабы! Можа, калі прагляне з імглы мінулае вашае, "хмурнае", але "ўзнёслае" – вы пачнеце дамагацца сваіх правоў; можа быць, але без яго – ніколі. Чым ёсць для кожнае душы свядомасць, якая нанізвае на адну нітку пражытыя хвіліны, тым для народаў – сувязь мінулага з сённяшнім днём: апанаваннем яе, рахункам сумлення, крыніцаю, з якое б'е жаданне новае працы дзеля будучыні. Даць народу асвету, пазнаёміць яго з айчыннай гісторыяй – але як?! Літаратуры для народа амаль няма, няма кніг па гісторыі: належыць іх стварыць! Ці ж трэба спасылацца на прыклады народаў, якія гэта зрабілі, даказваць, што гэта – мажлівая справа? Чэхі, літоўцы зрабілі гэта, а вы не здолееце? Вось накід праграмы:

1) Засноўваць гурткі дзеля працы над роднаю моваю (падручнік!), краязнаўствам, гісторыяй, літаратурай. Звярнуцца да спецыялістаў у адпаведных галінах з просьбай прачытаць лекцыі і напісаць адпаведныя кнігі. Спрыяць ім у

o wykłady i napisanie dzieł odpowiednich. Ułatwić im tę pracę niosąc pomoc materyalną. 2) Zapoznać się z literaturą ludową polską i rosyjską, tlómaczyć i tworzyć odpowiednie dziełka. 3) Zorganizować zbieranie środków na powyższe wydawnictwa. 4) Zorganizować wyprzedaż lub rozpowszechnianie wydawnictw. 5) Mieć w pogardzie tych, którzy tego nie będą robili.

Na zakończenie mały obrazek[1] Konopnickiej (poetki polskiej): Bogaty rzymianin oprowadzał swych gości po gmachu, w którym ulokował nabytych niewolników. Germanin, scyt, numidyjczyk, grek – tonęli w tęsknocie po kraju, wpadali w szaleństwo gniewu, lub w zimną rozpacz, zionęli nienawiścią. Tylko słowianin grał na fujarce i tańczył. Umiał się pocieszyć w niewoli, zapomnieć o kraju straconym, wolności niedawnej.

Mamyż być i nadal podobni do niego?

B. P. R.

гэтай працы, ахвяруючы матэрыяльную дапамогу. 2) Пазнаёміцца з польскаю і расейскаю літаратурай для народа, перакладаць і самім пісаць гэткія кніжкі. 3) Арганізаваць збор сродкаў на названыя выданні. 4) Арганізаваць продаж альбо распаўсюджванне выданняў. 5) Пагарджаць тымі, хто гэтага рабіць не будзе.

На заканчэнне – маленькі абразок Канапніцкае (польскае паэткі): Багаты рымлянін вядзе сваіх гасцей па будынку, у якім трымае набытых нявольнікаў. Германец, скіф, нумідыец, грэк – усе тужаць па родным краі, апанаваныя то шалёным гневам, то халоднай роспачу, выяўляючы сваю нянавісць. І толькі адзін славянін іграў на жалейцы і танцаваў. Умеў ён пацешыцца ў няволі, забыць пра страчаны край, пра нядаўнюю вольнасць.

Будзем і надалей падобныя на яго?

Б. Р. П.

Гэткі зварот, пэўна, не мог у той час быць напісаны па-беларуску. Ю. Туронак тлумачыць выкарыстанне польскае мовы ў гэтай – так назавём – ПРАГРАМЕ НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ прычынамі гістарычнага і грамадска-палітычнага характару: “каб знайсці як мага шырэйшы водгук сярод апалячанай інтэлігенцыі Белай Русі – свайго адрасата”[2]. Але, думаецца, трэба браць пад увагу і той факт, што ў асяроддзі пецярбургскіх студэнтаў, хіба, не было асобы, якая змагла б фактычна распрацаваць публіцыстычны стыль беларускае мовы. Напісанае ў той час В. Іваноўскім (лісты, прадмоўкі) па-беларуску не вызначаюцца дасканалай стылістыкай. Размоўны стыль беларускае мовы тут не падыходзіў, а іншых у мове яшчэ не было.

У названым артыкуле “Przedświtu” перадрукоўваўся зварот, В. Ёдка-Наркевіч вітаў жаданне невядомых яму аўтараў Праграмы ініцыяваць працэс ператварэння беларускае народнасці ў нацыю. Больш за тое: ён абяцаў (але, пэўна, ад свайго імя, а не свае партыі) падтрымліваць беларускі рух, хоць як сацыяліст і рэвалюцыянер заклікаў спачатку стварыць на Літве сілу, якая дапамагла б (вядома, Польскай сацыялістычнай партыі) перамагчы дэспатызм. Нацыянальныя перспектывы беларусаў ён ацэньваў

[1] Маецца на ўвазе верш Марыі Канапніцкае *Sclavus saltans* (лац. нявольнік (альбо славянін), які танцуе).

[2] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 37.

невысока. Лічыў, што недаравальна будзе, калі беларускі інтэлігент займецца зборам песняў і казак, напісаннем падручнікаў і кніжак; ён павінен будзіць сацыяльную свядомасць народа, тлумачыць, што “яго эксплуатуюць і прыгнятаюць”, бо ствараць “інтэлігенцыю сярод людзей, пазбаўленых элементарных чалавечых правоў і пастаўленых на такой нізкай ступені культуры, як беларускі народ, – усё роўна, што будаваць замак на пяску”[1].

Праграма адраджэння беларускае нацыі В. Іваноўскага моцна занепакоіла кіраўніцтва Польскай сацыялістычнай партыі. Як сведчыць Ю. Туронак, ужо ў чэрвені 1903 г. партыйная канферэнцыя, што адбылася ў Вільні, па прапанове Юзафа Пілсудскага “аднагалосна прыняла рашэнне спыніць выданне агітацыйнай пэпээсаўскай літаратуры на беларускай мове”[2]. Такім чынам, апрача чатырох выданняў, якія мы раней назвалі, больш анічога з дапамогай Польскай сацыялістычнай партыі ужо не друкавалася[3].

Сацыялістычныя і рэвалюцыйныя ідэі, якія пашырала на беларускіх землях адна з самых уплывовых тут партый, аказалі значны ўплыў і на сітуацыю ўнутры беларускага руху. Пэўна, абуджаныя зваротам *Do inteligecyi* браты Луцкевічы, прыехаўшы ўвосень 1902 г. у Пецярбург, узмоцнілі Беларускую рэвалюцыйную партыю. Не выключаем, што яны ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы першага нумара газеты “Свабода”. Аднак у хуткім часе менавіта яны раскалолі беларускі рух на дзве плыні – культурна-асветніцкую (Круг беларускай народнай прасветы) і сацыялістычную (Беларуская рэвалюцыйная грамада). Падзел, па сведчанню Ю. Туронка, зафіксавала чарговая канферэнцыя Польскай сацыялістычнай партыі, дзе гаварылася пра існаванне “дзвюх беларускіх груп у Пецярбурзе, адну з якіх акрэслівалі як “радыкальна-сацыялістычную”, другую – як «радыкальна-нацыянальную»”[4].

Да рэвалюцыйных падзей на тэрыторыі Расейскае імперыі ў 1905 г. Беларуская рэвалюцыйная грамада (пазней – Беларуская сацыялістычная грамада) мала ў чым сябе выявіла. А вось Круг беларускай народнай прасветы В. Іваноўскага ў 1903–1904 гг. падрыхтаваў да публікацыі і выдаў альбо арганізаваў публікацыю наступных выданняў:

1. *Вязанка Янки Лучыны (Ивана Неслухоўскаго)*, Пецербургъ. 1903 року. Дозволено Цензурою. Спб. 24 Апрѣля 1903 г. Типо-Лит. К.Л. Пентковкаго, Б. Подѣяческая, 22. 24 с.
2. *Koladnaja pisanka na 1904 hod*, [Piecierburh. 1903 roku]. 6 s.
3. *Великодная писанка*, [Пецербургъ. 1904 року]. 8 с.
4. [Wielikodnaja pisanka], [Piecierburh. 1904 roku]. 8 (?) s.
5. *Казки*. Выдаў А. К. Пецербургъ. 1904 року. Дозволено ценз. Спб. 14 Апрѣля 1904 г. 32 с.
6. *Janka Muzykant*. Pa polski napisaŭ H. Sienkiewicz. Na biełaruski jazyk pierałazyŭ Swajak. [Kraków.] 1904. 10 s.

---

[1] Wroń., *Z powodu odezwy białoruskiej*, „Przedświt” 1903, nr 2 (luty), s. 56.
[2] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 43.
[3] Застаўся ў рукапісе перапрацаваны (кім?) верш Уладзіслава Сыракомлі *Добрыя весці*, які Беларуская рэвалюцыйная партыя планавала выдаць асобнаю ўлёткаю ў Лондане.
[4] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 45.

7. *Wiedźma*: (Apowieść). Z polskaho. Pierełażyu Janka Swajak, [Kraków] 1904 roku. 16 s.
8. *Пес'ни*, [Kraków.] 1904 року. Дозволено цензурою. Спб. 17 декабря 1903 г. Синодальная типографія. 48 с.
9. *Царская гаспадарка*, [Kraków. 1904 roku].
10. *Da swajho Boha*. Pa polski napisaŭ Maurycy Żych. Na biełaruski jazyk pierełażyu Janka Swajak, [Wilno 1904]. 6 s.

З гэтых выданняў В. Іваноўскага гісторыкам літаратуры добра вядомая толькі *Вязанка Янки Лучыны.* Іншым, можна сказаць, не пашанцавала: іхнія асобнікі кепска захаваліся, а ў ідэйна-мастацкіх ды моўна-стылёвых адносінах былі не самага высокага ўзроўню. Тым не менш, усе яны – важная частка нашае культурнае спадчыны, дык вартыя вяртання ў кантэкст гісторыі беларускае літаратуры пачатку XX стагоддзя.

Вельмі сціплай і аб'ёмам, і афармленнем атрымалася ў В. Іваноўскага *Koladnaja pisanka na 1904 hod.* Гэта было, хіба, трэцяе (пасля ўлёткі *Do inteligencyi* і *Вязанки Янки Лучыны*) выданне Круга беларускай народнай прасветы. І другое на гектографе. Прызначаныя для публікацыі тэксты, вельмі верагодна (заўважаецца пэўнае падабенства почырку), сам В. Іваноўскі перапісаў на шасці аркушах паперы анілінавым атрамантам дзеля капіравання. Звернем увагу, што толькі верш *Rodnaj staronce* Янкі Лучыны, хіба, выяўлены ўжо тады, калі *Вязанка* была надрукаваная, "паходзіў" з літаратуры, хоць і недалёкага, але мінулага. Іншыя тэксты – гэта творы маладых сяброў Круга беларускай народнай прасветы, за выключэннем крыху старэйшага Каруся Каганца, у той час аканома Мінскага таварыства дабрачыннасці. З ім В. Іваноўскі пазнаёміўся ў Лідзе ў доме Амброжыя Кастаравіцкага, брата паэта, і схіліў да супрацоўніцтва – спачатку як аўтара *Пісанак* і *Пес'няў*, укладальніка *Казак* і *Пес'няў*, а пасля як стваральніка *Беларускага лемэнтара*[1].

У якасці эпіграфа да *Koladnaj pisanki* была выкарыстана страфа з дзіцячае велікоднае песенькі. У той час хаджэнне ў "жачкі" было паўсюдным на Беларусі. Так, унучка Станіслава Замбжыцкага на пачатку XX стагоддзя з грамадкаю вясковых аднагодкаў спявала ў Сяледчыках і Ліпенях:

Ja małyj żak
Pauzu jak rak
Skaczu jak żaba
Daj jajco baba[2].

Празаічная прадмова *Da czytacielou* – гэта адно словы прабачэння за кепскі выгляд выдання ды абяцанне на другі год зрабіць лепш.

[1] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 48–51.
[2] Гл.: O. Swianiewicz, *Interpretacja DZIADÓW Mickiewiczowskich na podstawie skarbca kultury białoruskiej,* Toruń 2018, s. 118.

Верш Каруся Каганца *Malitwa*, пастаўлены на ганаровае першае месца, пэўна ж, выконваў функцыю ўшанавання нованароджанага Хрыста, даволі сціпла ды ў адзіноце выяўляючы дух каляднае ўрачыстасці. Пазней аўтар надрукаваў гэты твор яшчэ раз з адною, фактычна, праўкаю: лірычны герой просіць вызваліць "нас" не з "niawoli", а з "нядолі"[1]. Аднак нават двойчы апублікаваны тэкст не спрыяў доўгі час літаратуразнаўцам "заўважыць" яго: толькі ў 2013 г. *Malitwu* далучылі да даробку Каруся Каганца[2].

*Malitwa* ў *Koladnaj pisancy* была спачатку падпісаная псеўданімам паэта, але ў апошнюю хвіліну рэдактары паправілі жэлацінавую матрыцу: псеўданім стаўся крыптанімам K. K.

Верш Янкі Лучыны *Rodnaj staronce* укладальнікі *Pisanki*, пэўна, перапісвалі з рукапісу, а не з альманаха "Сѣверо-Западный календарь на 1892 високосный годъ". Пра гэта сведчаць не толькі арфаграфічныя адрозненні, але і лексічныя: "Радной старонцѣ" (СЗК)[3] – "Rodnaj staronce" (KP); "Ты параскинулась" (СЗК) – "Ty nam raskinułaś" (KP); "Конемъ" (СЗК) – "Kaniom" (KP); "Зъ лыка пошитые лапци" (СЗК) – "Z łyka plecionyje łapci" (KP).

У XX стагоддзі гэты твор няраз перадрукоўваўся: Сяргей Скандракоў, рэдактар першага і адзінага, бо забароненага ўладамі, нумара газеты "Голосъ Бѣлоруссіи" апублікаваў яго 1 студзеня 1905 года[4]; рэдактары "Нашае Нівы" не аднатоўваюць паходжання тэксту верша, але, відавочна, запазычаны ён з *Koladnaj pisanki*[5]; Максім Гарэцкі, публікуючы верш у *Хрыстаматыі*, крыніцу тэксту пазначыў не вельмі выразна: "*Вязанка* з дапіскамі па архіву Антона Луцкевіча, *Белар. у песнях* Я. Фарботкі"[6], сам жа тэкст у асноўным адпавядае версіі *Koladnaj pisanki*; у зборніку тэкстаў *Беларуская літаратура XIX стагоддзя*, выдадзеным у 1940 годзе, падаецца версія "Нашае Нівы"[7]; у наступным акадэмічным выданні рэдактары змянілі адно толькі слова: ранейшае "Хлеба над мерку" стала "Хлеба нам мерку"[8]. Ва

---

[1] К. Каганец, *Малітва* [у:] *Першы беларускі календар "Нашае нівы" на 1910 год*, Вільня 1910, с. 59.

[2] К. Каганец, *Малітва* [у:] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2, Мінск 2013, с. 487. Укладальніцы Л. Кісялёва і Н. Сянкевіч у каментарах да твора памылкова сцвярджаюць: "Упершыню (і ці не адзіны раз) верш публікаваўся ў выданні: *Першы беларускі календар "Нашай* (sic!) *нівы" на 1910 год*. Вільня, 1910" (с. 800). Аднак верш публікуюць у версіі *Koladnaj pisanki*: "З нявoлі вызваль нас!". Магчыма, аднак, яны выкарысталі тэкст твора з *Pieršaha biełaruskaha kalendara "Našaje niwy" na 1910 hod* (лацінкаю). На жаль, мы не маем магчымасці спраўдзіць, бо не мае дадзенае версіі календара.

[3] Н–скій, *Радной старонцѣ* [у:] *Сѣверо-Западный календарь на 1892 високосный годъ*, издаваемый подъ редакціей А.И. Слупскаго въ Минскѣ, Минскъ 1891, с. 23–24.

[4] На жаль, мы не маем гэтага выдання. Інфармацыя Эрнеста Ялугіна (*Без эпітафіі*, Мінск 1989, с. 44).

[5] Янка Лучына, *Роднай старонцы*, "Наша Ніва" 1907, № 17 (4/17 мая).

[6] М. Гарэцкі, *Хрыстаматыя беларускае літэратуры. XI век – 1905 год*, Вільня 1922, с. 264.

[7] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Янкі Купалы; матэрыялы падабраны і апрацаваны: В.В. Барысенка, М.Г. Ларчанка, Л.І. Фіглоўская, Мінск 1940, с. 209–210.

[8] *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Зборнік тэкстаў*, пад рэд. Ю.С. Пшыркова; склалі:

ўсіх наступных выданнях, дзе змяшчаўся дадзены верш Янкі Лучыны, звычайна толькі канстатавалася: "Упершыню – «Северо-Западный календарь на 1892 год» (Мінск 1891) з подпісам Н–скій", аднак пры публікацыі твора рэдактары адвольна палучалі, не агаворваючы, розныя версіі тэксту.

Лічыцца, што наступныя два вершы *Koladnaj pisanki – Mužyckaja dola* і *Mužyk nia zmianiŭsia* – належаць Цётцы (адзін апублікаваны пад псеўданімам Banadyś Asaka, другі – Haйгyła z Pałocka). Не маем нічога супраць, што псеўданім Haйгyła z Pałocka належыць Алаізе Пашкевіч: гэта засведчана іншымі публікацыямі паэткі. Што датычыць псеўданіма Banadyś Asaka, то тут, нам здаецца, не ўсё канчаткова высветлена. Нам вядома, што *Mužyckaja dola* ўключалася ў першы нумар газеты "Свабода", які выйшаў, але свету не пабачыў, а таксама ў зборнік *Пес'ни*[1]. Нявырашаным застаецца пытанне, ці быў ён падпісаны ў "Свабодзе", а вось у зборніку (як і ўсе іншыя тэксты) надрукаваны ананімна.

Доўгі час верш *Mužyckaja dola* быў па-за даробкам А. Пашкевіч[2]. Далучылі яго да літаратурнае спадчыны Цёткі толькі ў 1960-я гг., калі навукоўцы, відаць, узялі пад увагу той факт, што твор друкаваўся калісь побач з ейным тэкстам (*Mužyk nia zmianiŭsia*), аўтарства якога бясспрэчнае, а таксама тое, што сваёй тэматыкай і праблематыкай ён вельмі блізкі да большасці вершаў паэткі. Здзейсніў гэта Уладзімір Казбярук, надрукаваўшы твор у зборніку з серыі "Школьная бібліятэка"[3], аніяк не тлумачачы сваю атрыбуцыю[4]. Хіба што можна звярнуць увагу на наступныя словы ў агульнай прадмове да выдання: "Першыя яе (Цёткі. – *М. Х.*) вершы былі напісаны яшчэ да рэвалюцыі 1905 г. і сведчылі аб блізкасці аўтара да жыцця беларускае вёскі. У іх выявілася спачуванне селяніну, які марнее ***без долі і хлеба*** (вылучэнне нашае. – *М. Х.*)"[5]. Пазней атрыбуцыю У. Казберука прыняў Сцяпан Александровіч: даследчык без аніякіх агаворак характарызуе верш *Mužyckaja dola* ў кантэксце ранніх твораў Гаўрылы з Полацка[6]. Вячаслаў Рагойша на падставе падобных аргументаў спрабаваў прыпісаць Цётцы верш *Ой у поли вецер вые...*: "Кніжку (*Пес'ни*, 1904. – *М. Х.*) завяршаюць

---

В.В. Барысенка, М.Г. Ларчанка, Л.І. Фіглоўская, Мінск 1950, с. 307.

[1] *Пес'ни*, [Kraków] 1904, с. 47–48.

[2] Напрыклад, адсутнічае ён у падрыхтаваным Інстытутам літаратуры і мастацтва Акадэміі навук зборніку *Творы Цёткі (Алоізы Пашкевіч)*, пад рэд. акад. І. Замоціна і Ал. Кучара, Менск 1934. У зборніку *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя* (Мінск 1956, с. 293–294) верш *Мужыцкая доля* надрукаваны ў раздзеле *Ананімныя творы* з пазнакаю: "Друкуецца ўпершыню. Твор у 1904 г. быў змешчаны ў нелегальным гектаграфаваным (sic!) зборніку *Песні*. Захоўваецца у Гісторыка-археалагічным музеі г. Гродна Беларускай ССР" (с. 348).

[3] Характэрна, што ў падрыхтаванай Васілём Барысенкам і выдадзенай пад грыфам Акадэміі навук анталогіі *Беларуская дакастрычніцкая паэзія* (Мінск 1967) сярод даробку Цёткі верша *Mužyckaja dola* няма.

[4] Гл.: *Выбраныя творы XIX і пачатку XX стагоддзяў*, Мінск 1966, с. 89–90.

[5] У. Казбярук, *Беларуская літаратуры XIX – пачатку XX стагоддзя: Дакастрычніцкі перыяд* [у:] *Выбраныя творы XIX і пачатку XX стагоддзяў*, Мінск 1966, с. 12.

[6] С. Александровіч, *За народнае шчасце* [у:] Цётка, *Творы*, Мінск 1976, с. 12, 14.

тры ананімна пададзеныя вершы, якія не належаць Ф. Багушэвічу: *Окліч* (Каруся Каганца), *Мужыцкая доля* (Алаізы Пашкевіч) і *...Ой, у полі вецер вые*. Апошні твор да нашага часу друкуецца як ананімны[1]. Аднак, мне думаецца, ёсць дастатковыя падставы аўтарам яго лічыць Цётку. На карысць гэтага сведчыць перш за ўсё ідэйна-тэматычная своеасаблівасць верша-песні, выразна антыпанскага <…>. У творы вар'іруецца матыў мужыцкае долі, так характэрны для Цёткі. Дарэчы, радкі апошняй страфы верша "Ой ты, доля, наша доля, Гдзе ты, гдзе ты запрапала?!" знаходзяць лагічнае развіццё ў наступным вершы (апошнім у зборніку) – *Мужыцкая доля*, які, дакладна вядома, належыць пяру паэтэсы ("Гдзе ж ты, мая доля. Гдзе ж ты захавалась?.."). <…> Аднак рытміка твора (так характэрны для паэтэсы харэічны памер), яго мова, характар вобразнасці, сінтаксіс, архітэктоніка таксама ў значнай ступені сведчаць пра аўтарства Цёткі"[2]. Такім чынам, адзін верш няпэўнага аўтарства (*Mižyckaja dola*) становіцца падставаю для атрыбуцыі іншага (*Ой у поли вецер вые...*).

Чаму мы сумняваемся ў тым, што верш *Mižyckaja dola* напісала Цётка? Па-першае, друкуючы свае раннія (1903–1906) творы і зборнічкі, яна карысталася псеўданімам Najгyła z Połocka (ці Najгyła) і ў яе, здаецца, не было прычынаў падпісваць адзін свой тэкст у *Koladnaj pisancy* адным псеўданімам, а другі – іншым. (Заўважым: у *Великоднай писанцы* абодва вершы А. Пашкевіч падпісаны псеўданімам Najгyła). Па-другое, толькі адзін з чатырох вершаў, надрукаваных у *Пісанках*, яна змесціць у зборнічку *Скрыпка белорусска*[3]. Чаму не ўвайшлі ў зборнічкі *Скрыпка белорусска* і *Хрест на свабоду* дастаткова дасканалыя вершы *Mižyckaja dola*, *Немаш, але будзе* і *Музыкант беларускі*? Няўжо яны не пасавалі да таго дваццаць аднаго верша, якім знайшлося месца ў зборнічках? Можа, паэтка не хацела друкаваць ужо апублікаванае? Чаму ж тады ў яе іншае стаўленне да верша *Mižyk nia zmianiйsia*? (Заўважым: у зборнічку *Скрыпка белорусска* ён надрукаваны дакладна гэтаксама, як і ў *Koladnaj pisancy.* Ці азначае гэта, што А. Пашкевіч мела ў 1906 г. асобнік са сваёй першай публікацыяй?). Патрэцяе, звяртае на сябе ўвагу той факт, што псеўданім Banadyś Asaka сустракаецца адзін толькі раз[4]. Чамусьці Najгyła z Pałocka прыдасца

---

[1] Як ананімны верш друкаваўся ў зборніку *Беларускія пісьменнікі другой паловы XIX стагоддзя* (Мінск 1956, с. 295–296) і хрэстаматыі *Беларуская літаратура XIX стагоддзя* (Мінск 1971, с. 55–56). Як аўтарскі, Каруся Каганца, – у выдадзенай С. Александровічам кнізе: К. Каганец, *Творы* (Мінск 1979, с. 115). Праўда, тут ён мае пазнаку: "Друкуецца ўпершыню" (с. 257). Атрымліваецца, што ўкладальнік забыўся пра публікацыю твора ў зборніку *Пес'ни* (1904)? Заўважым, аднак, што яшчэ ў 1928 г. М. Касьпяровіч сцвярджаў, што верш *Ой, у полі вецер* належыць Карусю Каганцу. Гл.: М. Касьпяровіч, *Карусь Каганец: Да 10-й гадавіны сьмерці*, "Маладняк" 1928, № 10, с. 78.

[2] В. Рагойша, *Кантакты: Літаратурна-крытычныя артыкулы, эсэ*, Мінск 1982, с. 15 [online:] http://kamunikat.org/usie_knihi.html?pubid=21841 [PDF, доступ: 7.02.2019].

[3] *Мужик не змениуся* [у:] *Скрыпка белорусска Гаурылы з Палацка*, [Жоўква] 1906, с. 12–14.

[4] Янка Саламевіч расшыфроўвае псеўданім Banadyś Asaka на падставе каментара С. Александровіча да верша *Мужыцкая доля* ў кнізе: Цётка, *Творы*, Мінск 1979, с. 291. Гл.: Я. Саламевіч, *Слоўнік беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў (XVI–XX стст.)*, Мінск

А. Пашкевіч у 1906 г. дзеля падпісання двух зборнічкаў паэзіі, а вось пра Banadysia Asaku яна, хіба, забудзе, падпісваючы публікацыі ў “Нашай Долі” псеўданімам Мацей Крапіўка. (Заўважым: у першым нумары “Нашай Долі” два мастацкія творы – верш і апавяданне – А. Пашкевіч падпісаныя гэтым псеўданімам). Па-чацвёртае, цікавай падаецца гіпотэза Ю. Туронка пра Каруся Каганца як укладальніка зборнікаў *Казки* (1904) і *Пес’ни* (1904): толькі ён у той час ужываў “памякчальныя знакі ў выглядзе апострафаў”[1]. То, можа, тут мы маем справу з тым, што гэта ён, карыстаючыся магчымасцю, да трынаццаці вершаў Ф. Багушэвіча далучыў свае тэксты? Што датычыць псеўданіма Banadyś Asaka, то, хіба, варта браць пад увагу сцвярджэнне Міколы Касяпяровіча пра выкарыстанне (хоць і рэдка, зазначае даследчык) Казімірам Кастравіцкім не толькі псеўданіма Карусь Каганец, але і Будзімір, К. Шашаль ды іншых [2]. Чаму сярод гэтых “іншых” не магло быць Banadysia Asaki?[3]

Высновы: патрэбны новыя важкія аргументы, каб лічыць верш *Mužyckaja dola* творам Цёткі[4].

Не менш клопату гісторыку літаратуры дае наступны верш *Koladnaj pisanki*. Ягоны тытул – *Chto ja*; падпісаны ён псеўданімам (?) J. Staŭbun[5]. Хутчэй за ўсё псеўданімам, хоць нельга выключаць, што сярод сяброў Круга беларускай народнай прасветы быў чалавек, які насіў такое прозвішча. Ідэйна-мастацкі змест ягонага верша не зусім адпавядае таму напрамку, які дакляраваў В. Іваноўскі ў сваёй праграме: лірычны герой, пэўна ж, любячы свой край і наракаючы на недастатак і нядолю, амбівалентна ставіцца да нацыянальнае самаідэнтыфікацыі. Яму ўсё роўна, хто ён: “palak, biełarus, ci litwin”; для яго больш істотна – быць чалавекам. Праўда, як вынікае з верша: чалавекам ён яшчэ не ёсць. Перадусім, яго, хіба, не лічаць за чалавека. Дык лірычны герой прагне працаваць “uwieś wiek”, каб заслужыць права называцца чалавекам. Менавіта – працаваць, а не якім іншым чынам дабівацца жаданага.

---

1983, с. 21.

[1] Гл.: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 48–49.

[2] М. Касьпяровіч, *Карусь Каганец: Да 10-й гадавіны сьмерці*, “Маладняк” 1928, № 10, с. 68.

[3] Дадзеная гіпотэза, што вынікае з дапушчэння: К. Кастравіцкі быў укладальнікам двух зборнікаў Круга беларускай народнай прасветы і мог у адным з іх змясціць свае вершы. Праўда, і тэматыка, і праблематыка, і паэтыка вядомых твораў Каруся Каганца не адпавядае тэматыцы, праблематыцы і паэтыцы верша *Mužyckaja dola*. Тое ж можна сказаць і пра верш *Ой у поли вецер вые*...

[4] Характэрна, што складальнікі даведніка *Кніга Беларусі* не расшыфравалі псеўданіма Banadyś Asaka. Гл.: *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 232, але, анатуючы зборнік *Пес’ни* (1904), верш *Мужыцкая доля* яны атрыбутуюць як твор Цёткі. Гісторык Уладзімір Ляхоўскі ў сваім даследаванні падае *Mužyckuju dolu* як верш Б. Асакі, а верш *Mužyk nia zmianiŭsia* – Цёткі. Гл.: У. Ляхоўскі, *Ад гоманаўцаў да гайсакоў: Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст.– 1-й палове XX ст. (да 1939 г.)*, Вільня 2012, с. 35.

[5] У навуковай літаратуры ініцыял імя звычайна перадаецца “кірылічнаю” літараю “І”, хоць, праўдападобна, больш падстаў выкарыстоўваць літары “Я” ці “Ю”, бо толькі імёны Ігнацы ды Ізыдар пачынаюцца з літары “I”, а не “J”.

Даўно вядома[1], што Р. Зямкевіч надрукаваў у газеце "Вольная Беларусь" (1918, № 19, 26 мая) гэты верш яшчэ раз, не згадваючы *Koladnuju pisanku* і не падаючы імя аўтара[2]. Асобныя лексічныя адрозненні [Usiak (KP) – кожын (ВБ), Boh tolki wiedaje praŭdu adzin (KP) – Бог праўду ведае толькі адзін (ВБ), pracawać uwieś wiek (KP) – працаваць увесь свой век (ВБ)] дазваляюць меркаваць, што знаны бібліяфіл карыстаўся нейкай іншай крыніцаю, а не *Koladnaju pisankaju*. Але, магчыма, гэта была рукапісная копія, зробленая з *Koladnaje pisanki*, пра што Р. Зямкевіч не ведаў. Нельга выключаць таксама, што розніца вынікае з-за рэдактарскіх правак Язэпа Лёсіка.

Верш *Wiecier* даў у *Koladnuju pisanku* Францішак Умястоўскі (1882–1840), у той час студэнт Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Гадоў праз дваццаць ён даволі крытычна выкажацца пра выданні Круга беларускай народнай прасветы, адначасна прыпісваючы сабе ролю ініцыятара першае беларускае легальнае газеты: "Гэта было летам 1906 году, калі я прышоў да праканання, што мінуў беспаваротна час *Колядных* і *Вялікодных пісанак*, якія мы ў гуртках беларускіх у Маскве і Пецярбурзе друкавалі на гектографах у некалькіх дзесятках экзэмпляраў"[3]. Засяроджаны на сваёй асноўнай задачы, ён не палічыў патрэбным прыблізіць чытачу гісторыю нацыянальнага руху пачатку XX стагоддзя. Можна дадаць, што да літаратурнай працы Дзядзька Пранук будзе звяртацца вельмі рэдка: спачатку перадрукуе ў "Нашай Долі" (1906, № 3, 15 сенцября) яшчэ раз свой першы і, хіба, адзіны верш з *Koladnaje pisanki* ды змесціць у беларускамоўных выданнях некалькі апавяданняў. Характэрна тое, што ён, сябра Польскай сацыялістычнай партыі[4], адгукнуўся ў 1903 г. вершаванымі радкамі на зварот В. Іваноўскагаператварыць беларускую народнасць у нацыю. Гэта сведчыць, што Ф. Умястоўскі, хоць і не меў вялікага таленту, але прагнуў служыць вялікай ідэі[5].

Рэдакцыя *Koladnaje pisanki* не падае аніякіх выходных дадзеных свайго выдання, калі не лічыць імі радок на доле апошняе старонкі, што Koło białoruskiej oświaty ludowej (так належыць расшыфроўваць абрэвіятуру K. B. O. L.)[6] атрымала грошы на сваю дзейнасць ад трох асоб, прозвішчы які схаваныя ў літарах з індэксамі ($B^2$ – а гэта значыць быў і $B^1$) ці крыптанімах і інш. ад непаінфармаваных.

---

[1] Гл.: *Беларуская літаратура XIX стагоддзя: Хрэстаматыя*, склад. А. Лойка, В. Рагойша, 2-е выд., перапрац. і дап., Мінск 1988, с. 483.

[2] Маецца толькі пазнака "З архіву Р. Земкевіча".

[3] Дзядзька Пранук, *Аб "Нашай Долі"*, "Беларусь" 1919, № 47 (17 сьнежня).

[4] Ф. Умястоўскі пярэчыў, што належаў да Польскай сацыялістычнай партыі, даводзячы сваё сяброўства ў Беларускай сацыялістычнай партыі, "якая працавала ў блізкім контакце з П. П. С.". Гл.: Ф. Умястоўскі, *Праўда аб рэдагаванні "Нашай Долі": Адказ на пісьмо С. Барывоя*, "Беларускі дзень" 1927, № 40 (24 сьнежня).

[5] Пра Ф. Умястоўскага гл.: H. Głogowska, *Franciszek Umiastowski i jego rola w ruchu białoruskim – od „Naszej Doli" do Katynia*, „Studia Białorutenistyczne" 2014, nr 8, s. 21–42.

[6] "Назоў пададзены польскі, бо складкі збіраліся пераважна ад краёвае інтэлігенцыі з польскай культурай". Гл.: А. Луцкевіч, *З-пад пылу архіваў* [у:] А. Луцкевіч, *Выбраныя творы: Праблемы культуры, літаратуры і мастацтва*, Мінск 2006, с. 102.

На сённяшні дзень вядомы два асобнікі *Koladnaje pisanki*. Адзін з іх захоўваецца ў Бібліятэцы Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх (Lietuvos mokslų akademijos Vrublevskių biblioteka)[1], другі – Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва[2].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1004, а. 1–3v.

[1] Гл.: *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 232.

[2] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1004: *Koladnaja pisanka. Вершы. Шклограф з экслібрысам Б.І. Эпімаха-Шыпілы*.

## |1| KOLADNAJA PISANKA

na 1904 hod

---

„Ja žaczek[1], biedny rabaczek,
Pa niebie biehaŭ, Susa Chrysta baczyŭ,
Kibieć, kibieć[2] – dajcie bliniec,
Prydatku – ałatku
Dyj … hroszy u okładku!"

DA CZYTACIELOU.

Wydajuczy ŭ swiet naszu „Koladnuju Pisanku" na nowy 1904 hod, prosim wybaczać, szto hetak kiepska wyhladaje „Pisanka" i szto mała ŭ joj napisana. Ale kali pamohuć nam pryjacieli, to na druhi hod wydamo lepszuju.

Kruh Biełaruski.

MALITWA.

O Bože, Spasie nasz,
Ty miłość nam pakaž,
Z niawoli wyzwol nas,
Zbudzi Ty nas ŭžo raz!

Ty woczy nam adkryj
I swietu nam paszlij,
Ty praŭdu nam pakaž,
O Bože, Spasie nasz!

K. K[ahaniec].

|2| RODNAJ STARONCE.

Ty nam raskinułaś lesam, bałotami,
Wydmaj piasczanaj, nieuradzajnaj,
Maci-Ziamlica! I umałotami
Chleba nad mierku nia dasz zwyczajnuju;
A syn twoj, biednaj,[3] adziet siermiahaj,
Z łyka plecionyje łapci abuŭszy,
Jedzie drabinami, czy kałymahaju,
Kaniom, szto ciahnie, jak|by zasnuŭszy!
Ŭsio ŭ tabie biedna. Czasta zapłacze
Mužyk araty dziela złoj doli,

Ciažko pracujuczy. Jon že adnacze
Z taboj rasstacca nia ždzie nikoli, –
I niepryhladnuju chatu z pažythami[4]
I pole skupoje, wyhan biez paszy,
My, apranuŭszysia starymi świtkami
Lubim i cenim − bo jany naszy.
Dość[5] Boh krywawym potam aratamu
Zdabryć piasczanu ziamlicu zdarycca,
Żyć dobra sytamu, choć nie bahatamu,
I dziela światа, czarka nam zwarycca,
Sonce nawuki skroś chmary ciomnyje
|3| Prahlanie jasna nad naszaj niwaju,
I buduć žyci dzietki patomnyje
Dobraju dolaj − dolaj szczaśliwaj.

Janka Łuczyna

## MUŽYCKAJA DOLA.

Ciažka žyć, trudzicca,
Kali nima doli,
Żyto nie radzicca
Na mužyckam poli.
Z kapy[6] umałotu
Nia bolaj aśminy[7],
I jesz za rabotu
Czorny chleb z miakiny.
Pryjdzie osień – treba
Zapłacić padatki,
A tut nima chleba
I ~~g~~[h]roszy ni chwatki.
I žywi, jak znajesz,
Z biady wyruczajsia –
Kali siłu majesz
Doli dažydajsia.
Hdzie|ž ty, maja dola,
Hdzie|ž ty zachawałaś,
Biez ciabie niadola
I biada astałaś!
Na rukach mazoli,
Dzień i nocz trudžusia,
Nie majučy doli,
Biednym spać łažusia
A ustaŭszy rana,
Waźmu kasu ŭ ruki
I idu da pana,
Kasić jaho łuki,
I za sorak hroszy
Dzień kasoj machaju.
Każuć – pan charoszy –
Daliboh nia znaju!
|4| Akonoma znaju,
Dy i jak nia znaci,
Szto dzień spatykaju
Tut na sianažaci
Szto dzień sł~~y~~[u]chać treba
Jak jon łajeć brydka:
Nia pražyć biaz chleba,
Ciarpi, moj Mikitka.
Ciarplu, ściaŭszy zuby,
I kasoj machaju,
Sonce suszyć huby,
S smahi pamiraju.
A damoŭ wiernusia –
Hdzie|ž tut addychaci –
I iznoŭ biarusia
Kasu paklapaci,
Kab na zaŭtra rana
Z wostraju kasoju
Sienažać u pana
Wykasić z rasoju.
Hdzie|ž ty, maja dola,
Hdzie|ž ty, adhuknisia!

Banadyś Asaka.

## MUŽYK NIA ZMIANIŬSIA.

Dziewiatnaście sotnioŭ,
Jak Jezus radziŭsia,
I za hetu poru
Mužyk nie zmieniŭsia.
Paszli hory dołam,
A dały harami,
Pierasochli mora
I stali palami.
A na hetych polach
Kamień pakryszyŭsia,
I za hetu poru
Mužyk nia zmieniŭsia.
Znajszli nowu ziemlu,
Porach wydabyli,
Stali papier tkaci,
Liter nasadzili.
Narabili ksionżak,
Ludcam pakazali
Ad chamuły woka
Tolki klucz schawali.
Napisaŭ Kopernik
Szto świet zakruciŭsia,
I za hetu poru
Mužyk nia zmieniŭsia.
Ach! astaŭsia ciomny,
Jak toj bor zialony,
Astaŭsia chamuła,
|5| Ŭsimi pryciśniony.
Ludzie papsawali
Swoi duszy, sercy,
Tolki „cham” astausia
U czystoj spancercy[8].
I Boh z nieba hlanuŭ,
Hlanuŭ, zdziwowaŭsia,
Szto za hetu poru,
Mužyk nie zmieniaŭsia.
Nu, ty, kaže, synku,
Prosi, szto patreba,
Usim adaruju,
Usio paszlu z nieba!
Ja chaczu, kab, synku,
Ty bolsz nie muczyŭsia,
Kab ty byŭ swabodny,
Z horam razłuczyŭsia.
O daj|že mnie, Bože,
Chacia nowu chatu,
Daj kabyłu siwu
I žonku bahatu.
Daj karoŭku z cielem,
Swinku, kurej kolki,
Daj žyta. My zmielim,
I ꞓhodzie – i tolki.
A za heta dziakuj,
Budu sabie panam,
Razłuczusia z horam
Na wiek wiakoŭ –
amen.

Haŭryła z Pałocka

## CHTO JA.

Pytajeszsia, bracie, chto ja, jakoha kraju:
Z za Wisły, z za Niemna, ci z za Dunaju?
Jest reczka Świsłocz małaja na świecie,
A tam szmat zboža i kwietak raście w lecie.
Tam dzieŭczata jak krasnyje kwietki,
A chłopcy – jak pinskije duby staletki.
Ziamlica maci bahata sływie,
Ale redka chto u dastatku žywie:
I kwietki wianuć czasta biez pary,
I dubki ssiekajuć ŭražy tapary;

|6| Kwietki ścinajeć nie susz, nie maroz,
Hinuć jany ad naszaj niadoli i śloz.
Usiak tam jencze, dolu praklinaje,
I hora pry czarcy adzin zapiwaje.
Ja czasam z druham pry czarcy zasiadu,
Zapiaju pieśniu, choć može biez składu.
U hetaj pieśni i radaść i ślozy maje –
Bracie, taho kachaju, chto ad sierca piaje.
Chto ja – palak, biełarus, ci litwin –
Boh tolki wiedaje praŭdu adzin.
Ja|ž chaczu pracawać uwieś wiek,
Kab zasłužyć imia – czeławiek.

J. Staŭbun

WIECIER.

Hudzić ŭ paŭnoczy i sosny łomić,
I płaczeć Wiecier ŭ bar~~y~~u,
I biełу śnieh da nieba honić.
Czamu tak, Wiecier, płaczesz ty?
Ach płaczu ja, szto nocz biez sonca,
Nihdzie darohi nie znajdu,
I tak kidajusia biez konca,
Nia znaju sam, kudy laczu!
Ŭ hrudziach balić, i serce mleje,
I tak markotna na duszy,
Kałi|ž dzianiok nam zajaśnieje,
Czamu tak serce, mlejesz ty?

Dziadźka Pranuk

---

Da ruk K.B.O.L. daszli hroszy: ad $B^2$ – 46 r. 76 k.; ad Asa 10 rs.; na Kwity 10 rs. 02 kop.

**Каментар**

[1] Жакамі ў даўнія часы называлі вучняў і студэнтаў.
[2] Кібець – удзельнік дзіцячае гульні ў "перепеліцю" (перапёлку), пашыранай на Украіне і беларускім Палессі. Кібець, кібчик (укр.) – сокал-шулёнак, ці кобчык
[3] Коска перакрэсленая.
[4] Трэба: *pažytkami*.
[5] Трэба: *Daść.*
[6] Капа – 60 снапоў.
[7] Даўняя мера сыпкіх рэчываў. На пачатку XX ст. раўнялася блізу 105 літраў.
[8] Тут: даўні, нязменны знешні і ўнутраны воблік. Спанцэрка – кароткая куртка ці іншае (фрак, жакет) верхняе адзенне. Модным сталася дзякуючы графу Джорджу Спэнсэру (1758–1834).

## *Великодная писанка* і яе тэксты

Вялікдзень у 1904 годзе каталікі святкавалі 3 красавіка, а праваслаўныя – 10 красавіка (28 сакавіка ст. ст.). Едучы на вакацыі ў родныя мясціны, студэнты з беларуска-літоўскіх губерняў везлі дзеля распаўсюджвання асобнікі адбітае на гектографе *Великоднае писанки* (магчыма, і *Wielikodnaje pisanki*). Хоць рэдактары (ці, можа, лепш: сябры “Круга беларускага”) і абяцалі ў *Koladnaj pisancy*, што выдадуць наступную і прыгажэй, і большага аб’ёму, але слова не стрымалі. Праўда, на гэты раз тэкст *Писанки* яны надрукавалі на машынцы (якая не мела “ў”), аднак колькасць памылак была дастаткова вялікай. Да таго ж асобныя літары не заўсёды выразна адбіліся на гектографе.

Зноў *Писанка* мае эпіграф, але цяпер ён адпаведны – узяты з велікодных песняў. І нават словамі з гэтых жа песняў[1] рэдактары завяршылі свой зварот *Да чытацелеу*. (Цікава, што звяртаюцца яны менавіта да чытачоў, а не да інтэлігенцыі, хоць, вядома, тыя некалькі дзясяткаў адбітых асобнікаў трапілі, безумоўна, да прадстаўнікоў гэтага класа, а не якога іншага).

Уласна аўтарскія тэксты ў *Великоднай писанцы*, як і ў *Koladnaj*, пачынаюцца вершам, падпісанага крыптанімам К. К., ці то Каруся Каганца, *Адважна брацце*... Гэты твор паэт надрукаваў яшчэ раз у двух – “кірыліцай” і лацінкаю – версіях *Беларускага каляндара “Нашай Нівы” на 1911 год* / *Biełaruskaha kalandara „Našaj Niwy” na 1911 hod*, даўшы яму тытул *Наш сімвал: Гімн* / *Naš simwoł*[2]. На жаль, мы не змаглі пазнаёміцца з гэтымі публікацыямі, дык не можам меркаваць пра тэкставыя адрозненні ў выданнях 1904 г. і 1910 г. Але можам параўнаць публікацыю ў *Великоднай писанцы* з вершам *Наш сымбол*, надрукаваным з “паперою К. Каганца” Язэпам Лёсікам у газеце “Беларусь”[3]. Адрозненняў няшмат, але яны даволі істотныя. Калі лічыць, што Я. Лёсік публікаваў з рукапісу 1893 года, то можна сцвердзіць, што гэта аўтар ці рэдактары *Великоднай писанки* ўнеслі пэўныя праўкі: “цвёрдай і правай ступою” (1893/1919) – “правай і смелай ступою” (1904); “За гонар грудзьдзю ставайце” (1893/1919) – “грудзьми сваими ставайце” (1904); “З праудай заусюды трывайце” (1893/1919) – “З Богам

[1] Адзін з варыянтаў гучыць так: “Не я б’ю, вярба б’е, // За тыдзень – Вялікдзень. // Не будзь санлівы, // Да работы лянівы. // Не будзь завіслівы, // А будзь здароў, як вада, // Расці, як вярба, // Будзь шмыткі, як пчала, // Будзь багаты, як зямля”. Гл.: А. Титовец и др., *Традиционная культура белорусов во времени и пространстве*, Мінск 2013, с. 142.

[2] Гл.: *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 215.

[3] К. Каганец, *Наш сымбол*, “Беларусь” 1919, № 45 (14 сьнежня).

заусюды трывайце” (1904). Амаль усе пазнейшыя публікацыі гэтага верша Каруся Каганца заснаваныя на адаптацыі надрукаванага Я. Лёсікам. У 5 томе *Залатой калекцыі беларускай літаратуры* верш публікуецца пад тытулам *Сымбола*[1]. Укладальнікі не пазначаюць крыніцы публікацыі, але, здаецца, яны карысталіся аўтарскім рукапісам, які захоўваецца ў Аддзеле рукапісаў Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі.

Наступны тэкст у *Великоднай писанцы* – верш А. Пашкевіч *Немаш, але будзе*, падпісаны псеўданімам Гаурыла. Доўгі час гэты твор быў невядомы даследчыкам і літаратуразнаўцам: толькі ў 1976 г. С. Александровіч апублікаваў яго (з невялікімі зменамі[2]) у зборніку Цёткі *Творы*[3].

Трэці тэкст *Великоднай писанки* – пераклад абразка *Да свайго Бога* Стэфана Жаромскага (1864–1925), відавочна падкрэсліваў “велікодны” характар альманаха: героі твора ідуць да передвелікоднае споведзі. Пераклад здзейсніў нехта Антон Дурны. Пэўна, гэта псеўданім некага з сяброў Круга беларускага, мажліва, самога В. Івановскага. На выбар твора для перакладу, апрача іншага, паўплывала вялікая папулярнасць кнігі вядомага польскага пісьменніка *Rozdzióbią nas kruki, wrony…*, у якую ўваходзілі сем (у другім выданні – шэсць) навэл. Першае выданне гэтае кнігі ўбачыла свет у Кракаве ў 1896 г., а другое – у 1901 г. у Львове. Менавіта апошняе і выкарыстаў перакладчык. Варта заўважыць, што ў хуткім часе Мар’ян Фальскі прапанаваў Кругу беларускаму надрукаваць у Кракаве сваю версію перакладу абразка *Да свайго Бога*. Аднак здзейснена гэта не будзе. Ю. Туронак меркаваў, што здарылася гэта “з прычынаў чыста тэхнічных: яно было занадта кароткае, каб скласці асобную брашуру, бо налічвала толькі дзве старонкі”[4]. Але думаецца, што В. Івановскі, маючы свой (?) пераклад дадзенага твора, ужо надрукаванага ў альманаху, не пагаджаўся на яшчэ адну яго публікацыю за сродкі, сабраныя Кругам беларускім.

Чарговы тэкст у выданні – верш А. Пашкевіч *Музыкант беларускі*, падпісаны псеўданімам Гаурыла. Аўтарка не ўключыла яго ні ў адзін са сваіх зборнічкаў 1906 года, а з гэтай прычыны твор фактычна застаўся па-за корпусам тэкстаў Цёткі, бо *Писанки* В. Івановскага вельмі кепска захаваліся. Выявіўшы *Музыканта беларускага* ў матэрыялах Б. Эпімаха-Шыпілы, Л. Бэндэ надрукаваў яго ў часопісе “Беларусь” (1947, № 6). Дзеля свае публікацыі ён размясціў строфы так, як гэта было ў *Великоднай писанцы*, але не ўлічыў, што беларускія выдаўцы 1904 года мелі свой спосаб размяшчаць строфы верша: у іх другая страфа ставілася не пад першаю, а справа ад яе. Так было пры публікацыі ўсіх вершаў, падзеленых на строфы. Магчыма, зразумеўшы памылковасць свайго спосабу, выдаўцы *Писанак*

---

[1] *Залатая калекцыя беларускай літаратуры ў 50 тамах*, т. 5: *Літаратура другой паловы XIX стагоддзя*, ч. 2, Мінск 2013, с. 487.

[2] Адзначым толькі памылковую пунктуацыя ў сказе: “Скажы, чуеш Езу, бита // Дзеда, бацьку, сына катам // Прадавалі”. Адасобленая ўкладальнікам першая частка сказа атрымлівалася незразумелаю: “Скажы, чуеш, Езус, бита. // Дзеда, бацьку, сына катам // Прадавалі”.

[3] Цётка, *Нямаш, але будзе* [у:] Цётка, *Творы*, Мінск 1976, с. 71–72.

[4] Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 50.

лічбамі пазначылі парадак строфаў у вершы. Аднак Л. Бэндэ карыстаўся не *Великоднай писанкаю*, а аркушамі пробнага (пра гэта гл. ніжэй) варыянту выдання, дзе пазначэнне парадку строфаў адсутнічала. У выніку другая страфа верша *Музыкант беларускі* стала шостаю, трэцяя – другою, чацвёртая – сёмаю, пятая – трэцяю, шостая – восьмаю, сёмая – чацвёртаю, восьмая – пятаю. Толькі ў адным выпадку Л. Бэндэ дазволіў сабе адступіцца ад "звыклага" парадку размяшчэння: заўважыўшы, што чацвёртая (насамрэч – сёмая) страфа сэнсава палучаная з восьмаю, ён восьмую зрабіў пятаю.

У вершы Цёткі назіраецца пэўная ўнутраная логіка: у першых пяці строфах лірычны герой, назавём так, "падахвочвае" сябе зайграць "аб мужыцкай долі", а пачынаючы з шостае – іграе і фіксуе першыя вынікі грання. Несвядомая перакамбінацыя Л. Бэндэ парадку строфаў прывяла да таго, што "падахвочванні" і "жаданні" лірычнага героя перамешаныя з "вынікамі" грання.

Гэтую недакладнасць заўважыў С. Александровіч, рыхтуючы зборнік *Творы* (1976). Але, пазначыўшы ў каментарах, што "строфы размешчаны ў зборніку (*Великоднай писанцы. – М. Х.*) крыху не ў такім парадку, як звычайна друкуецца гэты верш"[1], не стаў змяняць, створаную Л. Бэндэ, форму верша.

Завяршаецца *Великодная писанка* г. зв. "бібліяграфіяй беларускіх кніг і кніг пра Беларусь і беларускую мову"[2]. Думаецца, больш дакладна будзе назваць дадзеныя нататкі "парадамі будучаму беларусазнаўцу". Аўтар (В. Івановскі – ?) рэкамендуе набыць *Словарь бѣлорусскаго нарѣчія* (1870) Івана Насовіча (даючы адначасна кароткую характарыстыку выданню), а таксама *Программу для собиранія особенностей бѣлорускаго нарѣчія* (1896) Я. Карскага, шосты томік *Piosenek wieśniaczych z nad Niemna i Dźwiny* (1846) Яна Чачота, *Вязанку* (1903) Янкі Лучыны[3], артыкулы Мітрафана Доўнара-Запольскага *ГАПОНЪ: повѣсть въ стихахъ на бѣлорусскомъ языкѣ В. Дунина-Марцинкевича: Изъ исторіи бѣлорусской письменности* (1889) і *В. Дунинъ-Марцинкевичъ и его поэма Тарас на Парнасѣ*: *Очеркъ изъ исторіи бѣлорусской этнографіи* (1896), Аляксандра Ельскага *Białoruska literatura i bibliografia*[4] ды А. А. К. *Białoruski język*[5].

Як вынікае з каталогу *Кніга Беларусі. 1517–1917*, адзіны асобнік *Великоднай писанки* захоўваецца ў Львоўскай нацыянальнай навуковай бібліятэцы Украіны імя В. Стафаніка. У каталозе Відділу рідкісної книги пазначана,

[1] С. Александровіч, *Каментарыі* [у:] Цётка, *Творы*, Мінск 1976, с. 291.

[2] *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 221.

[3] Відавочна, вясною 1904 г. ні пецярбургскія *Казки*, ні кракаўскія выданні Круга беларускай народнай прасветы яшчэ не выйшлі з друку.

[4] Гл.: A. J., *Białoruska literatura i bibliografia* [w:] *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, t. VII, Warszawa 1892, s. 656–658.

[5] Гл.: A. A. K., *Białoruski język* [w:] *Wielka encyklopedya powszechna ilustrowana*, t. VII, Warszawa 1892, s. 658–660.

што зборнік мае 7 старонак, паходзіць са “Збірки І. Свенціцького”[1] і што гэта – “літогр. друк.”. Інфармацыя пра колькасць старонак, вядома, не з’яўляецца для нас новаю, бо дастаткова чытэльны мікрафільм добра перадае падзел тэксту на старонкі, хоць яны і ненумараваныя. А вось тое, што адмыслоўцы бібліятэкі вызначылі спосаб друку *Великоднай писанки* як літаграфічны, падаецца зусім нечаканым. Ці азначае гэта, што В. Іваноўскі знайшоў магчымасць друкаваць больш якасна, хоць і большым коштам? На жаль, паводле мікрафільму немагчыма ні аспрэчыць, ні пацвердзіць версію каталога аддзела рэдкае кнігі.

Пазнака пра паходжанне зборнічка са збораў Іларыёна Свянціцкага ў пэўнай ступені зразумелая і чаканая: хто ж, калі не аўтар працы *Відроджене білоруського письменства*[2] мог захаваць у Львове такое рэдкае выданне[3]? І разам з тым выклікае ўсё тое самае пытанне: чаму, маючы *Великодную писанку*, Цётка не ўключыла з яе аніводнага твора ў выдадзеныя ў Жоўкве зборнічкі свае паэзіі? Застаецца меркаваць, што І. Свянціцкі прывёз *Великодную писанку* толькі ў 1907 г. з Пецярбурга, дзе спыняўся на кватэры Б. Эпімаха-Шыпілы, калі збіраў матэрыялы пра беларускі нацыянальны і літаратурны рух дзеля свае працы. Аніякае іншае гіпотэзы мы не маем.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгінала паводле мікрафільму Нацыянальнае бібліятэкі Беларусі.

[1] У верхнім левым куце першае старонкі ледзь бачна прамакутняя пячатка, у якой чытаецца “<…> Святицького”.

[2] Спачатку друкавалася ў перыёдыцы [Д-р Іляріон Святицький, *Відроджене білоруського письменства*, “Діло” 1908, 23–25 січ. (Чис. 16–18); 27–30 січ. (Чис. 19–22)], а пасля выйшла асобна (Д-р Іляріон Святицький, *Відроджене білоруського письменства*, Львовъ 1908, 58 с.).

[3] Пра дачыненні Цёткі з І. Свянціцкім гл.: Т. Кабржыцкая, В. Рагойша, *Украінская літаратура і ўкраінска-беларускія літаратурныя ўзаемасувязі ў трох частках*, ч. 2: *XIX – пачатак XX стагоддзя*, Мінск 2015, с. 118–129.

## |1| ВЕЛИКОДНАЯ ПИСАНКА.

Не я бъю
Варба бъе
За тыдзень
Вялик дзень.

ДА ЧЫТАЦЕЛЕУ.

Выдаючы нашу великодную писанку дзякуем усим прыяцелем нашым, што памагли яе выдаць и працай сваей и грашми. Не вельми багата и у гэтай написана, дзякаваць добрым людзем, што больш, як у "каляднай". Усих их спатыкаем старай песьняй:

"Будзь[1] багаты, як зямля
Будзь[2] здаровы, як вода".
КРУГ БЕЛАРУСКИ.
у великим Тыдню 1904 року.

Адважна брацце у перад идзице правай і смелай ступою,
Кожнаму смела у вочы глядзице, прауду нясице з сабою −
За родну краину звычай та|мову грудзьми[3] сваими ставайце;
Та будзьце верны свояму слову, З Богам заусюды трывайце.
Тады вы усякую зможэце силу, варогам прыйдзе[4] скаране
Правым дасць Бог нараграадачку милу − счасце и радасць настане.

К. К.

НЕМАШ, але будзе[5].

1) Немаш хлеба, немаш соли,
Немаш щасця, немаш доли,
Як ля ранку сляза блисьне,
Жаль да ночы серцэ цисне.

2) Як зрадзиуся у хамскай доли
Цярпи жыце. З Божай воли
Гета|ж мука для нас звита?
Скажы, чуеш Езу, бита

3) Дзеда, бацьку, сына катам
Прадавалі. З нашым братам

4) Чаупуць паны, колькі могуць.
Пара, братки, а то змогуць,

|2| 5) Кали будзем патураци
Доси, крыкнем: "Мы у хаци
У Беларуси, у сваем краю.
Сведки сонцэ дубы з гаю,

6) Што не вы, а мы панами
Над зямлею, над лесами
О, прыдзе – пара настане
Што за крыуду мужик у стане,

[7)] Зробиць суд над панам катам
Альбо згине, альбо братам
Назавем, дамо зямлицы
Скольки у нас, нехай з жывицы

[8)] Паны живуць, з цяжкой працы
Строяць хаты, не палацы
Да спякоты, ды морозу
Прывыкаюць. Хутка з возу

[9)] Спадзе щасьце. Не чакайце
Нам зямлю паны аддайце
Пагаворим, патаукуем
Так раздзелим, як змяркуем

[10)] Каб ни многа и ни мала
Каб зямля матуляй стала
Для усих, каго зрадзила
Каб больш паноу не тварила.

ГАУРЫЛА.

## "ДА СВАЙГО БОГА."
З цыклю "roździobią nas kruki i wrony"[6].
Maurycy Zych[7]. Lwów 1901.

Бяжыць вузенькая дарожка праз лес чорний, густы з низу малоднякам паросшы – ледз у горэ крышку неба видаць. Суки дзяреу гнуцца ад навалнунаго снегу над гэтым лясным пяресмыкам[8], па каторым чуць знаць сьлед мужыцких развални. Дзеялася г_та[9] у марцы дзяниок был светлы, морозны. Ужо пад ночку ишло, мароз кр пчау[10] так, што снег гурбами ля инеу[11] панадыманы, сыпки зрабуюся, як мука. На небе чысценька... зорка вячерняя чырванець пачынае – кругом лес чорны, маучацы;[12] вяцярок прабяжыць тольки парой, скине з вяршынки жмелю снегу, размяце яго и нясець прамеж пнеу, як дым з неяких нявидных кадзелніц.

Цишына там глухая – бяз канца, як смерць.

Дарожкай гэтай пляцецца стары згорблены сивы як галубок мущына Хвалюк з унучкай сваіой Тафилькай – заткнул еу[13] полы сваіой благой сярмяги за дзяжку, кий далека ад сябе адстауляе, |з| широка нагами ступляе, сапиць, кашляе, ня пристае тольки, ня бачуччы на тое, што чырвоные яго вочы слезами забягаюць, што пот ручьями льецца па яго твары паморщэнай, ветрам высциобанай. Тафилька сваими вяликими чобатами у следы дзеда папасць старае, прыстане часам, хустку на грудзи ямчей зацягне – хоць заслабла зусим за дзедам пляцецца. Паглядаюць на зорку чырвоную и страх их бяре, шыбчэй исци намагаюць, а зорка усе плыве шырэй и шырэй. Чацьверты дцень[14] идуць яны так атпачываючы тольки крышку, чы гдце[15] пад стогам сена, чы у пуни пустой, начуючы у хатах чым далей ад віосак[16] стаячых, плятуцца так пустыняй безлюднай, лесами чорными|и глухими, праз гурбы снегу глыбокіе, праз лед чуць тольки снегам прысыпаны, так што пад нагами звяниць, идуць яны так дарожками бязлюдными, блудными глухими с над самога Драгичина, за Варшаву места, каб споведз ухапиць[17]. –

Год годоу ходзяць яны так скуль на веру чужую их записали. Грэшники яны вяликіе, здрайцы абодва...

Стары Хвалюк ящэ да гетаго сыну сваих пяць маргоу адписау, унучки дачакау нявестку пахавау и тольки на пячы сидзючы пацеры трепау, як яму на русскаго падписацца вялели. И сыну и унучцэ и усей весцы. Сам архерей з ими гаманиу як их у воласць прыгнали. Упіорлася віоска.

Аж прышли раз ночанькай марознай салдаты, людзеу з хат у поле щырое[18] павыганяли. Праз тры дни казаки у хатах стаяли, скацину рэзали, дабро марнавали и праз тры дни людзи з голыми галавами у поли у снегу стаяли, да Бога малючыся. Ня сцярпеу наканец начальник салдатау, разгневауся дужа – сеч казау. Рапранушы да гола мущын, кабет сякли вельми моцна... пашалеу народ – сам апратку скидау, сам пад нагайки лажыуся; не сцярпеу Хвэлькау сын с кулаками да начальника кинууся, на самего начальника Галавинскаго.

И настау судны дзень.

Били гэтаго Лявона нагайками да смерти, у шастех; адзежу скидали начальник шпорами шкуру на спине падзер, голаго умираушаго, и снягу у крыви свaей лежачаго, руками дзер, крычучи: "падпишысь"[19]. Не памагло гэта.

Не, не, не... стагнал той.

|4| Як памирау ужо, падняць з зямли прыказау, перад сабой паставиць и пытау: "ты русски".

Не – паляк, на польскай зямли радзиуся...

Так и усверк[20], шапчучы не, не, не...[21].

Тольки як унучку Хвалюка биць начали, ня вытрымаў Хвалюк, падписау и сваю душу и унучки на благую веру.

Ведамо старое у яго была серцэ, дзедаускае.

Як асины лист дыгатау, пад нагами маскалеу валяуся, боты ихние цалаваць пачынау и падписау.

С той пары год годоу перад Вяликаднем идуць перад Богам у сваим граху виницца. Дзед дарогу такую ведае, што не тольки жандарма, чалавека жывого не абачыш.

Іосць далеко за Варшавай местам касціол малы, стары: ксіондз там малады, добры, милосерны. Вочи у яго у слязах, словы цихне, разумные, салодкіе. Прыдуць ночкай, пастукаюць, дзед праз вакон пагамониць нешта, а той зараз их да касціола вядзець, споведз слухае, а сам миленьки слезами горкими плаче. Пасьля усе разам крастом да раницы ляжаць. А як адыходзяць іон их, гэта слуга Божы[22], вучыць усіогды так сама: "милуйце вашых варогау, милуйце братау вашых...[23].

Пакуль сонцэ узыдзе, пакуль людзи устануць яны ужэ далечэ. И цяпер пакуль дзень ня змерк, намагаиць каб на начлег вядомый патрапиць. Лес радзее, кругом поле щырае, снегам роуна загнаное, бязлюдное, далекое, халодное. На канцы лесу затрымауся Хвелюк, вочы рукой ад свету прыкрыу, з ноги на ногу переступае, губы яму дрыжаць. Поле ня спазнау, тут хат кольки быць павинна, ля гэтаго лесу.

“Ня гэтае поле” гаманиць іон. Вецер пасерод поля, сыпки снег пярасыпае, та размяцець, та як збожэ шуфлюе, то скрось поля за сабою як посциуку цягне, то staубком завярциць, то сказау|бы, клубы дыму с канца у канец пяраганяе.

“Зблудзиу я стары хрэн, зблудзиу”, кажэ іон, назад шапку ацягнуушы.

“За следам, дзедку, пойдзем”...

“Ня ужо|ж... за следам...”

Цянуцца изноу па калени у снегу. А снег у поли гурбами глыбокими ляжыць, вецер лютый, мяцелица гудзиць. Саломинки летышние, сухие, тонкие с пад снегу парой выглядаюць и ветрам калыхаючыць, што |5| за дзеучынкай гэтай заводзяць и свищуць ей у след: эй, эй...х Другие за спцдницу[24] яе хватаюць, як руки добрые, то затрымаць хочуць...

У абодвух чоботы прамокли, ноги застужали дышаць ужо не могуць.

Иш ты[25], унучка, як гэты вецер, маскалеу слуга ад Бога адганяець – бурчыць дзед.

Вые, дудниць нешта за ими. Гэта вецер на бор навалиуся. Закалыхау яго... застагнау іон... А цяпер мяцелица на их кинулас, адзежу разрывае, у вочы жменьями снегу, як сцякло востраго кидае. И здаецца часам, гэта дужец неяки жменем снегу з месца[26] пяракидае, здзирае яго да самай маци зямлицы и вышэй лесу размятае.

Камень вялики быу у тым поли, ледз дацягнулися, аддыхнуць прысели. Ночка чорная зайшла. Мяцелица гудзиць доуга, доуга... Як прытаицся парой, тагд[27] з неба высокаго на поле гэтае свет месяца идзе сваими ледовыми лучами асвещае гэтых людзей двое, што да сябе прыкуцнууты[28] на камени с дзяць[29], чапае их головы замерсшы , снегам прысыпалые, вочы аткрытые, поуные слез, што и саплюки ледовые замерзли.

Як уст~~о~~[а]ець и загараецца зорка румяная изноу на поли усе циха, тольки там у леси вяцярок парой прабяжыць, скине з вяршынки жменю снегу, размяце яго и нясе прамеж пнеу як дым з неяких нявидных кадзельниц.

Пяралажыу з польскаго АНТОСЬ ДУРНЫ.

МУЗЫКАНТ БЕЛАРУСКІ[30].

1) Заграю на дудцы,
Вытну на армони,
Заплачу на скрыпцы
Аб мужыцкай доли

2) Ды так сыпну смыкам,
Як агніом па струнах,
Што ад мого граня
Людзи енкнуць у трунах,

3) Надта|ж ужо цяжка
Душа з гора рвеца

4) Слезы так и льюцца,
Серц[31] з болю бъецца.

|6| 5) Ну дык плач жэ скрыпка,
Мо паны пачуюць
Як хамы бяз хлеба
Бяз страхи начуюць.

6) Ну играй жэ скрыпка
Хай ляциць там песьня
Альбо свет пачуе
Альбо душа трэсне.

7) И зацяу музыка
Смыкам ды на струнах
Птушки задрыжали
Пчолы зцихли у вулях.

8) Скрыпка хутка плачэ
Аж лес лямантуе
Тольки яе ноты
Сыты пан ня чуе.

9) Хаця|ж и пачуе
Музыканта злае
"Глядзи іон хамула
А роунасьци бае".

10) Музыкант галосиць
Скрыпка не махлюе
Хутка хамску песьню
Усенек свет пачуе.

ГАУРЫЛА.

Кто хочэ займацца беларускай моваю, таму можэм раиць ксенжки: Словарь Бѣлорусскаго нарѣчья составленный И.И. Носовичемъ. Изданіе отдѣленія русскаго языка и словесности Императорской Академіи Наукъ. С. Петербургъ 1870. Страницау 752. Каштуе у Академіи 2 р. 25 к. У ей больш 30.000 нашых слоу. Нема што казаць, не усе тут словы. Далей писань словы адные, як говорац, а адные зноу так, як пишуць па расейску. Заместа у пишэ в. Таки хоць магла быць лепшая, гэта дпбрая и патрэбная ксенжка. И гэта чаго вартуе, што писана яна тады, кали и з вучэных людзей шмат па наски гаварыла, затым и словы там такие есць, што цяпер меж мужикоу не сустрэнеш: ведомо больш розуму больш слоу. Хто живе на Белай Руси, таму грэх не меци: Программа для собиранія особенностей Бѣлорусскаго нарѣчья. Составлена Е.Ф. Карскимъ. Изданіе отдѣленія русскаго языка и словесности Императорской Академіи Наукъ. СП.Б. 1870. каштуе[33] |7| 18 к. 59 стр. Невеличка ксенжка, тым добра што прачытау ы[34] яе, ведаеш, як слухаць нашу мову и на што больш узирацца. Жывую мову и доси о граматыцы и правописьме знайсци можна у Czeczt. Pieśni wieśniacze z nad Niemna i Dzwiny, niektóre przysłowia i idjotyzmy w mowie Słowiano-Krewickiej, Wilno. Drukiem J. Zawadzkiego 1846. Цана поу рубель. Сто песьняю, есць и вельми пекныя и приказак жменя. А пачаток то варта усякому прачытаць. Мову писану можно знайсци: Вязынка. Янки Лучыны. (Ивана Неслухоускаго) Пецербургб 1903 року. Друковано у К.Л. Пенткоускаго. Б. Подъяческая 22, стр. 22. – Тую|ж мову и аб жыци и творах В. Дунин-Марцинкевича знайдзеце: М. Запольскій "Гапонъ". Повѣсть въ стихахъ на бѣлорусскомъ языкѣ В. Дунина Марцинкевича. Очеркъ изъ исторіи Бѣлорусской письменности. Изданіе редакціи Календаря Сѣверо-Западнаго Края. Москва 1889 стр. 40 каштуе 20 к. Типографія "Разсвѣтъ" Тверская, Гнѣздниковскій пер. домъ Любенкова.

Далей аб тым жэ В. Дунин-Матцинкевич и его поэма "Тарасъ на Парнасѣ". Очеркъ изъ исторіи бѣлорусской этнографіи М. Довнара Запольскаго. Витебскъ. Губернская Типографія 1896 стр. 22. Абедзве ксионжки М. Довнар-Запольскаго варта меци кожнаму. Тые кс~~и~~іонжки аб мове раим на пачатак. Пакуль што больш не раим, а тые и патрэбные, и танные, усе разам каштуюць крыху больш як тры рублі. Пачакаушы, напишем и больш

аб ксіонжках. Хто цекавы нехай прачытае: “Białoruska literatura i bibliografja”. Białoruski język. Wielka Encyklopedja Powszechna illustrowana, tom VIII. Warszawa. Druk Sikorskiego 1893.

## Каментар

[1] Мяккі знак дапісаны атрамантам.
[2] Мяккі знак дапісаны атрамантам.
[3] Мяккі знак дапісаны атрамантам.
[4] Літара “*з*” напісаная атрамантам замест надрукаванае нейкае іншае.
[5] Кожную страфу (у адным выпадку, з тае прычыны, што страфа размяшчалася ў розных месцах, – двухрадкоўі) верша рэдактары пранумаравалі.
[6] Кніга С. Жаромскага мае тытул *Roździobią nas kruki, wrony*.
[7] Літара “*Z*” напісаная атрамантам.
[8] У арыгінале: *przesmykiem* – вузкім праходам, сцежкаю.
[9] Трэба: *гэта*.
[10] Трэба: *крэпчау*.
[11] Тут і далей *пнеу* адбілася як *инеу*.
[12] Далей у арыгінале было: *niby wielki ejkonostas światyni greckiej* – нібы вялікі іканастас грэцкае святыні.
[13] Трэба: *ен*.
[14] Трэба: *дзень*.
15 Трэба: *гдзе*.
[16] Літара “і” надрукаваная на месцы “и”.
[17] У арыгінале слова *uchopić* узятае ў двукоссі і вылучанае курсівам. Дадзенае слова Зыгмунт Глогер занатаваў у Тыкоціне пад Беластокам. У песні *Hej pójdziemy bracia rzeczkę zagrodzimy* яно сустракаецца двойчы. Навуковец перакладае яго ў адным выпадку *ukraść*, у другім – *pochwycić* (*Pieśni przy zwyczajach dorocznych*, Warszawa 1892).
[18] У арыгінале: *na szare pole* – цёмнашэрае, папялістае.
[19] У арыгінале слова *podpiszyś* вылучанае курсівам.
[20] У арыгінале: *uświerkł* – 1. замёрз; 2. памёр.
[21] Далей у першым выданні кніжкі было: *w Siedlcach, w szpitalu* – у Седліцах, у шпіталі.
[22] Літара “*Б*” напісаная атрамантам.
[23] У арыгінале: *miłujcie nieprzyjacioły wasze, miłujcie nieprzyjacioły wasze* – мілуйце (любіце) ворагаў вашых, мілуйце (любіце) ворагаў вашых.
[24] Трэба: *спадницу*.
[25] Словы *Isz ty* ў арыгінале вылучаныя курсівам.
[26] У арыгінале: *z miejsca na miejsce* – з месца на месца.
[27] Трэба: *тагды*.
[28] У арыгінале: *przytulonych* – прытуленых.
[29] Трэба: *сядзяць*.
[30] Кожную страфу (у адным выпадку, з тае прычыны, што страфа размяшчалася ў розных месцах, – двухрадкоўі) верша рэдактары пранумаравалі.
[31] Трэба: *Серца*. Апошняя літара не адбілася.
[32] Трэба: *добрая*.
[33] Наступны радок (*18 к. 59 стр. Невеличка ксенжка, тым добра што прачытаушы яе*) напісаны атрамантам, хоць ён і надрукаваны на наступнай старонцы.
[34] Трэба: *прачытаушы*.
[35] Трэба: *песьняу*. Маецца на ўвазе тое, што ў томіку Яна Чачота было сто народных песняў (насамрэч – 99 і верш самога Я. Чачота).

# Дзве карткі з *Wielikodnaje pisanki*

Не выклікае сумнення, што выданні В. Іваноўскага друкаваліся ў двух версіях – лацінкаю і грамадзянскім пісьмом. Праўда, пра кірылічны варыянт *Koladnaje pisanki* звестак не захавалася, а вось асобныя карткі *Wielikodnaje pisanki* дайшлі да нашага часу. Знаходзяцца яны ў Беларускім дзяржаўным архівемузеі літаратуры і мастацтва (фонд Л. Бэндэ), куды трапілі з архіва Б. Эпімаха-Шыпілы. На нашую думку, гэта тыя старонкі *Pisanki*, якія паходзяць з працэсу падрыхтоўкі зборнічка да выдання. Надрукаваны на машынцы тэкст выдаўцы спрабавалі, відаць, "дастасаваць" да памнажальнага апарата. (Мы не можам адназначна сцвердзіць, што яны выкарыстоўвалі да капіравання – гектограф, шапірограф, шклограф ці нешта іншае). Магчыма, нешта іх не задаволіла і давялося, хіба, рабіць новую вёрстку зборнічка. Пазней пробныя карткі Б. Эпімах-Шыпіла склеіў па дзве так, што атрымаліся вялікія аркушы, прыдатныя для чытання. Захаваліся два такія аркушы. На першым – усяго 50 радкоў (21 на адной картцы і 29 – на другой, прычым лінія палучэння ідзе так, што частка радка знаходзіцца на адной картцы, а частка – на другой). На другім аркушы – 43 радкі (21 на адной картцы і 22 – на другой. Лінія палучэння "размешчана" як і на папярэднім аркушы). Максімальная колькасць знакаў у радку – 80.

Нашае меркаванне пра патрэбнасць новае вёрсткі для варыянту *Wielikodnaj pisanki* лацінкаю грунтуецца на тым, што "кірылічная" версія *Великоднае писанки* мае зусім іншую раскладку: максімальна 36 радкоў на старонцы, а ў радку – не больш за 65 знакаў.

Склееныя карткі *Wielikodnaje pisanki* выявіў у другой палове 1940-гг. Л. Бэндэ. Ён, звярнуўшы ўвагу на верш *Muzykant biełoruski*, далучыў яго, відаць, на падставе таго, што быў падпісаны псеўданімам Haurył̨a, да даробку А. Пашкевіч-Цёткі ды надрукаваў разам з вершам *Адкрый, пані, добра пані*... у часопісе "Беларусь" (1947, № 6).

У архіўнай справе побач з аркушамі *Wielikodnaje pisanki* захавалася старонка надрукаванага на машынцы верша *Музыкант беларускі* з характэрным прыпісам: "Гектаграфіраваны аркуш з нейкага зборніка, выдадзенага, як мяркую, напярэдадні рэвалюцыі 1905 года. Можа гэта і есць *Вялікодная пісанка*?"[1].

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу, які захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1001, а. 1–2: *Музыкант беларускі. Верш пад псеўданімам Гаўрыла. ["Казанне пра старога Хвалюка"]. Пераклад з польскае мовы Антося Дурнога. Шклограф. Экслібрыс Б.І. Эпімаха-Шыпілы, лл. 1–2.*

[1] Гл.: БДАМЛіМ, ф. 66, воп. 1, спр. 1001, а. 13.

# [WIELIKODNAJA PISANKA]

|1| […] Bili hetaho Lawona nahajkami da śmierci u szaścioch: adzieżu zdzirali[1] naczalnik szporami szkuru na śpinie padzior, hołaho umirauszaho u śniahu, u krywi swojoj leżaczaho rukami dzior, kryczuczy „padpiszyś”.

Nie pamahło i heta.

Ni, ni, ni… stahnau toj.

Jak pamirau użo, padmać z ziamli prykazau, pierad saboj pastawić i pytau: „ty ruskij”.

Nie – palak, na polskaj ziamli radziusia...

Tak i uświork, szepczuczy nie, nie, nie...

Tolki jak unuczku Chwelka[2] bić paczali – nie wytrymau Chwaluk: padpisau i swoju duszu i unuczki na błahuju wieru. Wiedamo staroje u jako óyła[3] sierce, dziadouskaje jak asiny list dryhatau[4], pad nahami maskalou walausia, boty ichnije caławać paczynau i padpisau. Z taje pary hod hadou pierod Wialikadniem iduć pierod Bohom u swaim hrachu winicca. Dzied darohu takuju wiedaje, szto ni[a][5] tolki żandarma, [cz]łowieka żywoho nie abyczysz.

Jość daloka za Warszawaj horadam[6] kaścioł mały, stary; ksiondz tam małady, dobry, miłosierny. Woczy u ja[h]o u ślozach, słow[y] cichije, razumnyje, sołodkije...

Pryduć noczkaj pastukajuć, dzied praz wakońce[7] pahamonić nieszta, a taj ich zaraz da kaścioła wiadzieć, spowiedź słuchaje, a sam, mileńki, ślozami horkimi płacze. Paśla usie razam kryżam[8] da ranicy lażać. A jak użo[9] adychodziać on ich, hety słuha Boży, wuczyć usiohdy tak sama: „miłujcie warohau waszych, miłujcie bratou waszych”...

Pokul sonce uzydzie, pokul ludzi ustanuć, jany użo dalecze. I ciapier, pokul dzień nie źmierk, namahajuć kab na naczleh wiadomyj patrapić. Les radzieje, kruhom pole szczyraje, śnieham rouna zahnanaje, biazludnaje, dalokoje, chałodnaje...

Na kancy lesa zatrymausia Chwaluk, woczy rukoj af[10] świetu prykryu, z nahi na nohu piarastupaje, huby jamu dryżać, pola nie spaznau, tut chat kolki być powinna la hetaho lesu.

Nie hetaje pole hamanić jon. Wiecier pasiarod pola sypki śnieh piarosypaje, to razmiacieć, to jak zboże szufluje, to skroć pole za saboj jak pościuku ciacne, to staubkom zawiarcić, to, skazau|by, kłuby dymu z kanca u kaniec pierahaniaje.

„Zbłudziu ja, stary chren, zbłudziu” każe jon, nazad szapku sciahnuszy.

„Za śledam, dziedku, pojdziem...”

„Nia użo|dz… za śledam…”

Ciahnucca iznou pa kaleni u śniahu. A śnieh u poli hurbami hłybokimi lażyć, wiecier lutyj, miacielicu hudzić. Sałominki letaszneje suchije, tonkije z pad śniehu paraj wyhladajuć wietram kałuchajuczyś, szto za dzieuczynkaj hetaj zawodziać i świszczuć joj u śled: ej, ej. A druhije za spadnicu jaje chwatajuć, jak ruki dobryje, szto zatrymać choczuć…

U abodwuch cz[o]baty pramokli na wylot, nohi zastużali, dyszać użo nia mohuć.

„Isz ty unuczka, jak hety wiecier maskalou słucha, ad Boha adhaniajeć – burczyć dzied. Wyje, dudnić nieszta za imi. Heta wiecier na bor nawaliusia, sakałychau jaho… zastahnau jon… A ciapier miacielica na ich kinułasia adzieżu razrywaje, u woczy żmieniami śniehu, jak ściokło wostrya kidaje. I zdajecca czasam, heta dużec niejakij żmieniem śniehu z miesca na miesce piarakidaje, zdziraje ja[h]o da samaj maci ziamlicy i wyżej lesu razmiataje.

Kamień wializny byu u tym poli, ledź daciachnulisia, addychnuć prysieli. |2| Noczka czornaja zajszła. Miacielica hudzić douh[a] Jak prytacca par[o]j tahdy z nieba wysokaho na pole hetaje świet miesiaca idzie swaimi led[owat]ymi łuczami, aświeszczajeć hetych ludziej dwoje, szto da siebie pryk[uc]nuuszy na kamieni siedziać; czapaje ich hołowy zamiorszyje, śnieham prysypanyje, woczy atkrytyje, pounyje śloz, szto u sapluki led[ow]yje zamierzli.

Jak ustajeć i zaharajecca zorka rumianaja, iznou na poli usio cicha, tolki tam u lesi wiaciarok paroj prabiażyć, skinie z wiarszynki żmieniu śniehu, razmiacieć jako[11] i niesie pramież pniou, jak dym z niejakich niewidnych kadzilnic.

Pierełażу[u] z polskaho ANTOŚ DURNY.

------~~xxxxxx~~------

MUZYKANT BIEŁORUSKI.

Zahraju na dudcy
Wytnu na harmoni
Zapłaczu na skrypcy
Ab mużyckaj dołi

Dy tak sypnu smykam
Jak ahniom pa strunach
Szto ad majho hrania
Ludzi jenknuć u trunach.

Nadta|ż użo ciażka
Dusza[13] z hora rwiecca
Ślozy tak i ljucca
Sierce z bolu biecca.

Nu dyk płacz że skrypka
Mo pany paczujuć
Jak chamy biaz chleba
Biaz strachi naczujuć.

Nu i hraj że skrypka
Chaj lacić tam pieśnia
Abo dusza treśnie
Abo świet paczuje

I zaciau muzyka
Smykam dy pa strunach
Ptuszki zadryżali
Pczoły zcichli u wulach.

Skrypka chutko płacze
Aż les lamentuje
Tolki jaje noty
Syty pan nia czuje

Chacia|ż i paczuje
Muzykanta złaje
“Hladzi jon, chamuła,
A rounaści baje”

Muzykant hałosić
Skrypka nia machluje
Chutku chamsku pieśniu
Uwieś świet paczuje.

HAURYŁA.

---~~xxxxxxxxxxxx~~---

Chto chocze zajmacca biełaruskaj mowaj, tomu możem haić[14] ksionżki: Словарь Бѣлорусскаго нарѣчья, составленный И.И. Носовичемъ. Изданiе Отдѣленiя русскаго языка и словесности Императорской Академiи Наукъ. С. Петербургъ, 1870. Strannicaj 752. Kasztuje u Akademji 2 rubli 25 kop. U joj bolsz 30.000 naszych słou. Nima szto kazać nie usie tut słowy. Dalej pisany słowy adny, jak każuć, a adnu znou tak, jak piszuć pa rasiejsku. Zamiesta u (y) pisze w (b). Taki, choć mahła być lepszaja, heta dobraja i potrebnaja ksionżka. I to heta nieczaho wartuje, szto pisana jana tady, koli i z wuczonych szmat hawaryło, zatym i słowy tam takije jość szto ciapier mież mużykou nie sustre- <..>.

**Каментар**

[1] У “кірылічнай” версіі: *скидали*.
[2] У “кірылічнай” версіі: *Хвалюка*.
[3] Трэба: *jaho była*.
[4] У “кірылічнай” версіі: *дыгатау*.
[5] Тут і далей у квадратных дужках падаём літары, якія адбіліся невыразна.
[6] У “кірылічнай” версіі: *местам*.
[7] У “кірылічнай” версіі: *вакон*.
[8] У “кірылічнай” версіі: *крастом*.
[9] У “кірылічнай” версіі гэтае слова адсутнічае.
[10] Трэба: *at*.
[11] Трэба: *jaho*.
[12] У “кірылічнай” версіі: *армони*.
[13] Літара “s” надрукаваная па літары “d”.
[14] Трэба: *raić*.

## Віленскія пераклады абразка *Do swojego Boga*

Абразок *Do swojego Boga* Маўрыцыя Зыха (Стэфана Жаромскага) з кнігі *Rozdzióbią nas kruki, wrony…* на пачатку XX стагоддзя няраз быў у полі зроку дзеячаў беларускага нацыянальнага руху. Спачатку Круг беларускай народнай прасветы выдаў дзве версіі[1] перакладу дадзенага твора ў *Вяликоднай писанцы* і *Wialikodnaj pisancy*. Пасля Янка Сваяк (Мар'ян Фальскі[2]) прапанаваў свой варыянт перакладу, які не ўдалося надрукаваць у Кракаве. Але ў тым жа 1904 г. абразок *Da swajho Boha* выйшаў у Вільні[3]. Гэта было

---

[1] Адрозненні (хоць у пераважнай большасці гэта памылкі людзей, што набіралі тэкст на машынцы), якія маюцца ў перакладзе, надрукаваным у *Вяликоднай писанцы* і *Wialikodnaj pisancy*, даюць падставы лічыць іх версіямі перакладу.

[2] Мар'ян Фальскі (1881–1974) – польскі (і беларускі – на пачатку XX ст.) грамадзкі дзеяч і педагог. Паходзіў з Лідскага павету; вучыўся ў Мінскай гімназіі, Варшаўскай палітэхніцы. У 1903–1904 гг. займаўся арганізацыяй нелегальнай беларускай выдавецкай дзейнасці ў Кракаве; разам з В. Іваноўскім падрыхтаваў *Biełarúski lementár, ábo Piérszaja nawúka czytańńia* (1906). Аўтар папулярнага польскага лемантара *Nauka czytania i pisania dla dzieci* ( Kraków 1910). Гл.: Ю. Туронак, *Удзел М. Фальскага ў беларускім выдавецкім руху* [у:] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, выд. другое, Вільня 2008, с. 20–21.

[3] "Супрацоўніцтва В. Іваноўскага з Кастравіцкімі мела цікавы і важны працяг. Жонка Амброжыя, Марыя з дому Багушэўскіх, памешчыца з Меншчыны, мела малодшага брата, Сцяпана Багушэўскага, які з 1901 г. вучыўся ў Ягелонскім Кракаўскім універсітэце і гасцяваў у сястры і швагра ў Лідзе. Тут летам 1903 г. з ім пазнаёміўся Іваноўскі і схіліў да ўдзелу ў новай выдавецкай задуме: выпуску беларускіх кніжак у Кракаве, які ў той час належаў Аўстра-Венгрыі. Відаць, Багушэўскі прыняў гэты праект ахвотна, бо пазней вельмі ўдала ажыццявіў яго. Перш за ўсё, ён прыцягнуў да супрацоўніцтва свайго сябра з часоў гімназічнага навучання ў Менску, Мар'яна Фальскага, студэнта Варшаўскай політэхнікі. Гэтак тры студэнты прыйшлі да патаемнага пагаднення і распачалі сваю дзейнасць. Пад псеўданімам Янка Сваяк М. Фальскі да канца 1903 г. паспеў перакласці на беларускую мову тры апавяданні: *Янка-Музыкант* Генрыка Сянкевіча, *Да свайго Бога* Стэфана Жаромскага і *Ведзьма* невядомага аўтара. Апрача таго, ён апрацаваў тэкст адозвы *Царская гаспадарка*, дзеля якой выкарыстаў пэпээсаўскія беларускія брашуры, галоўным чынам – *Гутарку аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць*. Нарэшце, быў падрыхтаваны томік беларускіх вершаў Багушэвіча, Пашкевічанкі і Кастравіцкага, называўся ён *Песні*. Гэтак жа, як і *Царская гаспадарка*, зборнік быў прызначаны для рэвалюцыйнай агітацыі, і таму выходзіў ананімна. Пра грошы клапаціўся Іваноўскі. Не дачакаўшыся падтрымкі ад ППС, ён звярнуўся да сястры сваёй нявесты, славутай піяністкі Кацярыны Ячыноўскай, якая ахвяравала неабходную суму на пакрыццё друкарскіх выдаткаў. На пачатку 1904 г. Багушэўскі перавёз рукапіс і грошы ў Кракаў. Ён пачаў са стварэння пры Ягелонскім універсітэце гуртка пад назвай Акадэмічнае краязнаўчае беларускае кола – гэта была абавязковая прыступка да таго, каб атрымаць юрыдычную падставу для самастойнай выдавецкай дзейнасці. Багушэўскі апрацаваў праект статута Кола, які 9 сакавіка ўхваліў універсітэцкі сенат, і пераслаў яго на зацвярджэнне кайзераўска-каралеўскаму намесніку графу Андрэю Патоцкаму ў Львоў. Аднак Патоцкі адхіліў праект статута,

выданне, выкананае на прымітыўнай памнажальнай тэхніцы [гектограф (?), шапірограф (?), шклограф (?)][1]. Усяго шэсць старонак вялікага фармату тэксту і вокладка. Наклад – некалькі дзясяткаў асобнікаў. Цудам захаваліся з іх два. С. Александровіч у 1960-я гг. выявіў у Цэнтаральнай бібліятэцы АН Літоўскай ССР (сёння: Бібліятэка Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх) асобнік гэтага выдання, які апісаў у кнізе *Пуцявіны роднага слова*[2]. Гэтае апісанне выкарыстана ў зводным каталозе Кніга Беларусі: "Żych (sic!) Maŭrycy (S. Żeromski). Da swajho boha. Pa polsku napisaŭ Maŭrycy Żych. Na biełaruski jazyk pierełażyŭ Janka Swajak [Марыян Фальскі]. S. l., 1906. 6 S."[3]. Яно не зусім дакладнае: адсутнічае месца выдання і памылкова пададзены год выдання.

Другі асобнік *Da swajho Boha* захоўваецца ў зборах А. Ельскага[4].

Як вядома, беларускамоўныя літаратурныя выданні пачатку XX стагоддзя друкаваліся невялікім, у адрозненне ад тэкстаў палітычнага характару, накладам. Але яны былі даступныя тым, хто цікавіўся беларускім пісьменствам; пазней іх часам выкарыстоўвалі ў мэтах папулярызацыі беларускай літаратуры. Так, В. Ластоўскі ведаў усе тры пераклады Янкі Сваяка і апублікаваў іх у газеце "Homan"[5]. Праўда, маючы свой адметны погляд на ўзнаўленне даступных яму рукапісаў і рэдкіх выданняў, В. Ластоўскі дастасоўваў даўнія дакументы да патрэбаў тагачаснага нацыянальнага жыцця. Публікуючы віленскае выданне *Da swajho Boha* 1904 года, рэдактар "Homanu" фактычна даў сваю версію перакладу абразка Маўрыцыя Зыха. Як прыклад, пададзім некалькі фрагментаў:

паводле якога членамі Кола маглі стаць не толькі студэнты Ягелонскага універсітэта, але «кожны, каго агульны сход прызнае да гэтага годным». Гэтае рашэнне было пераказанае 2 красавіка 1904 г. дырэкцыі кракаўскай паліцыі і сенату Ягелонскага універсітэта з пажаданнем азнаёміць з ім студэнта Багушэўскага не пазней як 12 красавіка. Пасля гэтага тэрміну Колу заставалася толькі выканаць фармальнасці, неабходныя для самаліквідацыі. Багушэўскі выкарыстаў паўнамоцтвы, адведзеныя правам для таварыстваў падчас рэгістрацыі, замовіў пячатку Кола і зрабіў фармальны заказ на друкаванне прывезеных рукапісаў у кракаўскай друкарні Уладзіслава Тадарчука. Тадарчук, дасведчаны спецыяліст, быў знаўцам гэткіх справаў і пастараўся выканаць заказ імгненна, таму ў першай палове красавіка 1904 г. Багушэўскі ўжо мог забраць з друкарні *Песні*, *Янку-Музыканта*, *Ведзьму* і адозву *Царская гаспадарка*. Засталося ненадрукаваным толькі апавяданне Стэфана Жаромскага *Да свайго Бога* <…>. Праз колькі месяцаў яго выдалі ў Вільні літаграфічным спосабам". Гл.: Ю. Туронак, *Вацлаў Іваноўскі і адраджэнне Беларусі*, Мінск 2006, с. 49–50.

[1] На нашую думку, літаграфічныя выданні звычайна маюць больш высокі ўзровень выканання.

[2] С. Александровіч, *Пуцявіны роднага слова: Праблемы развіцця беларускай літаратуры і друку другой паловы XIX – пачатку XX стагоддзя*, Мінск 1971, с. 121.

[3] *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 229.

[4] Гл.: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 29–35.

[5] Гл.: *Da swajho Boha*, „Homan" 1916, nr 14; *Janka-Muzyka*, „Homan" 1916, nr 16–17; *Wieźma*, „Homan" 1916, nr 42–45.

“Wuzieńkaja darožka ciahniecca praz husty, padszyty maładym saśniakom les, adkrywajuczy pramiž wierchawin sosan mały razdzieł. Haliny sosan, na katorych nalahlo śniehu, zhinajucca s cižaru nad hetaj lesawoj darožkaj, ledźwie aznačzenaj dźwiema biarazionkami śniehu, što prawiali sielanskije sani.

<…> Darożakaju teju idzie stary, zhrybieły, jak hałubiec siwieńki, sielanin Chwelka z unučkaj swajej Teafilkaj. Poły panošenaho kažucha za pojas zatknuŭ, kijom daloka pierad siabie ścihaje, šzyroka staŭlaje nohi, sapić i kašlaje, – ale nie prystaje, choć pačyrwanieŭšyje wočy ślazmi zabiehajuć, choć pot sciekaje marščynami pa ssochłym twary. Teafilka stupaje swaimi wialikimi botami u ślady dziedawy, što momant chustku na hrudziach uwiazywaje, i, choć zmahłasie, choć ledźwie nia padaje, dy nie adstaje ad staroha. Trywožna pazirajuć na zorku, što ŭsio jarčej świecić nad lesam, i paśpiešajucca dalej.

Čatyry dni iduć užo hetak, karocieńka spačywajučy pry stahoch siena i pustych pawietkach, načujučy pa chatach, adzinoka, zdalok za wioskami stających, pierebywajučy biazludnyje pustyni, ciomnyje i hłuchije; topčuć pa zaspach hłybokich, pa ladoch rek i wazior, śnieham pryparušenych, źwiniačych pad nahami, – ažno s pad Drohičyna: kab spowiedzi „uchopić”. <…>

Adnaje zimowaje načy najšło wojska, ludziej wyhnało s chat na atkrytaje pole u maroz traskučy. Try dni kazaki pa chatach abozom stajali, skacinku režučy i ništožučy dabytak. Try dni pierabyli ludzi na poli – z atkrytymi hałowami, na na śniahu, da Boha molučysia. Urešci wajenny načalnik wialikim hniewam źniaŭsia – dawaj bić! Da hołaho razdziewali mužčyn i žanok, bjučy pa čarodzie dy krepka! – Ażno ŭ kancy narod usiej wioski zaŭziaŭsia: staŭ sam razdziewacca,sam pad nahajki kłaścisia nawałam; a Chwelisioŭ syn, Lawon, s kułakami sunuŭsia da načalnika da Haławinskaho... Tož tahdy nastaŭ sudny dzień.

Bili taho Lawona nahajkami u szaścioch na śmierć, adziežu z jaho zdzierli, načalnik šporami plečy hołamu, na śniahu u krywi lažačamu, sam paroŭ, rawučy ŭ biezprytomnicy: „padpišyś!”

Nie pamahło!

– Nie, nie… – šeptaŭ toj.

To jaho, umirajučaho, padniać zahadaŭ, k sabie adwiarnuć, dy pytaŭ:

– Ty prawasłaŭny?

– Nie, unijat, tutejšy…

Tak i skanaŭ, šepčuč: nie – nie...”[1].

Рэдагуючы пераклад Янкі Сваяка, В. Ластоўскі “абеларусіў” яго: апусціў не толькі згадку пра месца дзеяння (Драгічын), але й замяніў адстойванне героем польскасці і каталіцкасці на тутэйшасць і ўніяцкасць. Дык і нядзіўна, што ў “Homanie” адсутнічае крыніца публікацыі (пазначаецца толькі: “z M. Zycha”), хоць яна лёгка пазнаецца.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу, які захоўваецца: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 29–35.

---

[1] *Da swajho Boha*, „Homan” 1916, nr 14.

# DA SWAJHO BOHA.

Pa polski napisaŭ[1] Maurycy Zych
Na biełaruski jazyk pierełażyu
Janka Swajak[2].

|1|[3] Wuskaja dorożka ciahniecsa pierez les husty, padszyty maładym saśniakom, odkrywajuczy pramiż wierchami dzierewa razdzieł mały. Halja sosan, na katorych palahli toŭstyje saplami paabwieszanyje winisl[4] śniehu, zhinajucsa z cieżaru nad hetaju lesnoj darożkaju, ledźwie aznaczenoju dźwiema baraznami śniehu, katoryje sani mużyckije adwiarnul[i][5].

Dzień byŭ u marcy – jasny a marozny.

Ciapier, jak na zachadzi nastaje sumierk sini, nawiet hury panawiernienyje wokoł pnioŭ, robiacsa sypkimi, jak muka. Na dziŭnie czystom jasnom prastory niebiesnym szto raźświeczwaje uże zorkaju wieczerniej – les staić nieruchomie, jakby jaki wializny mur cerkw[i] hreckaje; cichije wiecierki zsowajuć z wierchaŭ dzierewa drabniusieńkije pyły śniehu i płuwuć miż haljami jakby pabłytanyje cieni dymu, waschodziaczyje z niewidnych kadzilnic...

Ciszynia tam hłuchaja, biezkanieczna, śmiertelna...

Darożańkoju toju idzie stary, zhrybieły, jak hołub siwy, mużyk Feliś z ŭnuczkaju Tachwilkaju, – poły lichoho każucha za pojas utknuŭ, kijkom daloko piered siabie ścihaje, szyroko stawić nohi, sapie i kaszlaje, ale nie prystaje |2| choć jamu sczyrwianieŭszyje woczy ślezami nabiehajuć[,] choć pot ściekaje morszczynami sa ssochłoj, wietrom paściobanoj twary. Tachfilka stupaje swaimi wialikimi botami u śledy dziedawyje, szto moment chustku|na hrudziach macniej uwiazwaje, i choć zmahłasie, ledźwie szto nie padaje, no nie adstaje ad staroho. Z trywohaju pazirajuć na zorku, razharwajuczuju nad lesom i spieszacsa sztoraz bolej. Ad czatyroch dzion iduć tak, korotko sapaczywajuczy pry stahach siena i pustych adrynach, naczujuczy pa chatach, zdalok za wioskami stajaczych pierebywajuczy pustyni biezludnyje, lasy czornyje i hłuchije topczuć pa zasypiach hłybokich, pa ledoŭi rek i azior, śniehom pryparuszenych pad nahami źwieniaczych – iduć lesnymi dalokimi a pustynnymi darohami – z pad samaho Drohiczyna ażni za Warszawu-miesto, kab spowiedzi „uchopić”.

Każnaho roku iduć tak u dwaich – adkul na wieru czużuju zapisany. Hreszniki wialikije bo jany, zdradzicieli aboje.

Stary Feliś jaszcze pokul usich siłaŭ pierewaroczwać stali synu swaje pjać morhaŭ zapisaŭ, ŭnuczki daczakaŭsi[e,] |3| niewiestku pachawaŭ i adno paciery, pry pieczy siedziaczy admaŭlaŭ tolki, jak jamu raptoŭnie a niespadziewanie na ruskaho padpisacsa prykazali. Synu także, ŭnuczcy także – usioj wioscy... Sam archipop nieszto da ich hawaryŭ, jak ich usich u wołość sahnali. Wioska nie padałasie.

Niekataraje noczy ŭ zimoju wojska najszło, ludziej wyhnało z chat na adkryteje pole, u maroz treskuczy. Try dni kazaki pa chatach abozom stajali, bydło reżuczy i niszczuczy dabytok: try dni ludzi stajali z adkrytymi haławami na poli, na śniehu, da Boha moluczysie. Nakaniec naczalnik wajenny wialikim

hniewom zniaŭsie – dawaj bić. Da hołaho razdziewali mużczyn i kabiety, bjuczy paradkom a silnie – ażni narod usiej wioski zaŭziaŭsie, staŭ razdziewacsa sam, pad nahajki kłaścisie sam, nawałom; aż Felisioŭ syn z kułakami kinuŭsie da naczalnika da Gaławinskaho... Tož ciapier nastaŭ sudny dzień!

Bili taho Lewona nahajkami na śmierć u szaścioch, łachmany z jaho ździerli, naczalnik szporami śpinu hołamu, na śniehu ŭ krywi leżaczemu sam paroŭ, rawuczy biezpamiatno: padpiszyś!

Nie pamahło!

– Ni, ni, ni… – szaptaŭ toj.

To jako umirajuczaho padniać kazaŭ, k sabie adwiarnuć i pytaŭ:

|4| – Ty russki?

– Ni – Palak, na polskoj ziamli naradziŭsia... Tak jon i skonczaŭsie, szepczuczy da siabie ni-ni...

Jak paczali ŭnuczku Tachwilku bić – Feliś nie wytrymaŭ: padpisaŭ duszu swaju i ŭnuczkinu na złuju wieru. Staroje było ŭ jaho serce, dziedawo... Jak list dryżaŭ, u noh Maskalu walaŭsia, pryszwu botoŭ jamu caławaŭ, ażni padpisaŭsie.

Zhetul sztorok piered Wialikadniem iduć Bohu kajacsa za zdradu. Dzied takuju darohu znaje, hdzie nie tolki żandarma, no czaławieka żywoho nie napatkajesz.

Jest daloko, za Warszawoj-miestom, kaściołok maleńki, stary; ksiondz tam je małady, światabliwy a miłasierny. Woczy u jaho ŭ ślezach, słowo cichoje, a takoje razumnoje, a takoje mileńkoje!...

Pryduć u noczy, pastukajuć, dzied pierez szybku paszepcze, tut jon ich zaraz bocznaju furtkaju da kaścioła wiadzie, spowiedzi słuchaje, a sam płacze, szczyreńki, ślezami horkimi. Potym usie kryżem lażać aż da ranniaho świtu. Jak adychodziać, nauczaje ich hety słuha boży zaŭsiudy tak samo: miłujcie niepryjaciełу waszy, miłujcie niepryjaciełу waszy...

Pokul sonce syjdzie, pokul ludzi pracznucsa, użе jany ad |5| miesca taho daloko... Ciapieraczy, kali dzień chutko konczycsa, śpiaszacsa użе szto siły, kab na znajomy dziedu naczleh papaści. Les redczeje pakazwajecsa pole czystoje, śniehom roŭno pasłanoje, biezludnoje, dalokoje biezmiernoje.

Na bierezi lesu Feliś zatrymaŭsie, woczy rukoju ad blisku prykryŭ, z nahi na nohu pierestupaje, huby jamu dryżać. Pola taho jon nie znaje, chataŭ niekulki stajać tut pawinno pad lesom.

– Nie toje pole... zaszaptaŭ sam da siabie ŭ trywozi. Pasierod pustyni wiecier rwie sypkije hrudki śniehu, to ich raznosić[,] to wieje, jak zbоże szuflem, to cełу prahon pola ciahnie jak abrusa za saboju, to jaho daloko, daloko lejkaju ŭ horu padkinie, to jakby w kłubach dymu z kanca u kaniec lacić.

– Zabłudziŭ ja, stary dureń, ej! – każe cicho, nazad pasowajuczy szapku.

– Za hetym śledam chadziem, dziedu...

– Za śledam.

Probujuć znoŭ i topczuć pa kaleni. Snieh na poli hłybnioju lażyć, wiecier, luty bura idzie. Bylinki letasznije, ssochłyje, tonieńkije hdzieniehdzie nad śniehom tarczać, cialeblucsa u wichry żałasno, jakoy nad toju dzieŭczanaju,

hałasili, |6| jakby za joju świstali: ej, ej... Jaławiec, ad lodu i sapiel bliszczaczy, aściaki supszyny czaplajucja jaje spadnicy, jak ruki litaściwyje, szto chacieli strymać.

Boty aboim razmokli na wylot, nohi pramierzli, dóch zajmaje.

– Isz ty, ŭnuczka, jak nas hety wiecier, maskoŭski słuha, ad Boha adhaniaje – miamle na poŭ-zrazumieło stary.

Razam nieszto azwałosie i kipić hłucho za ima. To siwier u les wyciaŭ. I zakałychaŭsia les, zastoh. Ciapier bura pa ich bje, łachmany padmietaje, u woczy żmieniami śniehu, hostraho jak toŭczenoje szkło, kidaje. Szto moment jak żywy siłacz bieremia śniehu z miesca na miesce pierekinie, zdziraje jako[6] da ziamli hołaje i niasie wysoko – nad les.

Kamień tam byŭ wialiki na poli, da jako dawałaklisie, sieli sapaczyć...

Nocz zaścihła raptam ciomnaja. Bura u joj kipić – doŭho, doŭho... Czasam raptoŭnie prycichnie, tahdy z wyszyni niebiesnaje padaje na pustyniu bieły zimny, znikomy poŭświet miesiaca, datykaje ledzianymi łuczami prytulenych k sabie, astyhszych, śniehom pryparuszenych hałoŭ zimnych waczej adkrytych i śloz na ich wisiaczych, szto u sapieli lody zamienilisie... Jak waschodzić i haryć zorka ranniaja, znoŭ na raŭninie cicho, tolki a wierchaŭ dzierewa zsowajuć cichije wiecierki pyłok lohki śnieżny i płynie niby biełe znikomy, waschodziaczy z niewidnych kadzilnic...

## Каментар

[1] Тут і далей знак кароткасці (*й*) над літараю *и* дапісаны атрамантам.

[2] Збоку і ўнізе алоўкам дапісана: *(= Marjan Falski). litogr. Wilno 1904*[1]. Месца і год выдання Аляксандар Ельскі падкрэсліў чырвоным алоўкам.

[3] Тут падаецца нумарацыя старонак арыгінала.

[4] Незразумела. У арыгінале: *kiście śniegu*.

[5] Тут і далей у квадратных дужках падаём літары, якія адбіліся невыразна.

[6] Трэба: *jaho*.

---

[1] Ю. Туронак сцвярджаў, што гэта "ўласнаручная дапіска М. Фальскага". Гл.: Ю. Туронак, *Удзел М. Фальскага ў беларускім выдавецкім руху* [у:] Ю. Туронак, *Мадэрная гісторыя Беларусі*, выд. другое, Вільня 2008, с. 20.

# Ці быў Янка Мамыш Міншчуком?

У зборах А. Ельскага захоўваецца рукапісны вершаваны тэкст антыправаслаўнага зместу *Paznau praudu*[1]. Запісаны ён на шасці старонках паштовае паперы, складзенай так, што атрымаўся невялічкі сшытачак. Твор пачынаецца з трэцяе старонкі, а на першай маюцца запісы пазнейшага часу, чым асноўны тэкст і – вельмі верагодна – рукою А. Ельскага. Гэта звесткі атрыбутыўнага характару: “Ten wiersz napisany przez włościanina z Iwienca (powiat Miński) w roku 1905”. Крыху ніжэй: “W czasie przyjazdu Sp. Arcykapłana Szembeka do <нечыт.>”[2]. Відавочна, гаворка ідзе пра арцыбіскупа Ежы Юзафа Элізеуша Шэмбека (Jerzy Józef Elizeusz Szembek, 2.01.1851 – 5.08.1905), якога ў лістападзе 1903 г. прызначылі арцыбіскупам Магілёўскім і апостальскім адміністратарам Мінскае дыяцэзіі[3].

Пра гэты самы тэкст, “нѣсомненно, «нелегальнаго» происхожденія”, надрукаваны “русскимъ и польскимъ письмомъ”, паведамляе Я. Карскі і падае выходныя дадзеные “брошюрки”: “*Пазнаў праўду. Paznau praudu*. Вильня. 1906 (8˚ мал. 3 + 3). Злажыў Минщукъ (псевдонимъ Александра Валицкаго) на непокаляно Паченцѣ 1904 року”[4]. Я. Карскі цытуе апошнюю страфу верша і характарызуе яго: “Въ стихахъ разсказывается довольно неправдоподобная исторія о томъ, какъ православный священникъ, подавленный тяжелыми условіями жизни, на приходѣ, среди бывшихъ уніятовъ, перешелъ въ католичество”[5].

На падставе інфармацыі Я. Карскага, а таксама нейкіх іншых, відаць, крыніцаў у зводным каталозе *Кніга Беларусі* зафіксаваная наступная пазіцыя: “233. Міншчук [Аляксандр Валіцкі]. *Пазнаў праўду. Paznaū praūdu*. Злажыў Міншчук на Непокаляно Паченце 1904 року. Zlažyŭ Minszczuk na Niepokalano Paczęcie 1904 roku. [Wierš]. Вільня, друк. Адмунда Навіцкага, 1904. 33 с. 4000 экз. Беларускі тэкст лацінкай і кірыліцай. Агітацыйны верш, накіраваны супраць праваслаўя. Паводле Карскага, аўтарам гэтай кнігі быў А. Валіцкі”[6].

Пра месцазнаходжанне асобніка не паведамляецца.

---

1 AGAD, sygn. 140$_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 210–217.

2 *Ibidem*, s. 210.

3 Гл.: *Archbishop Jerzy Józef Elizeusz Szembek* † [online] http://catholic-hierarchy.org/bishop/bszem.html [доступ: 14.02.2019].

4 Е. Карскій, *Бѣлоруссы*, т. III: *Очерки словесности бѣлорускаго племени*, ч. 3: *Художественная литература на народномъ языкѣ*, Петроградъ 1922, с. 158.

5 *Ibidem*.

6 *Кніга Беларусі. 1517–1917: Зводны каталог*, склад. Г.Я. Галенчанка і інш., Мінск 1986, с. 243.

У дадзеным запісе выклікае сумненні не толькі колькасць старонак у брашурцы (33!), але і наўпраставае ўказанне друкарні, дзе яна ўбачыла свет: усё ж не дамо веры, каб вядомы віленскі друкар адважыўся легальна друкаваць падобныя тэксты. Што датычыць расшыфроўкі Я. Карскім псеўданіма "Міншчук", то і дадзеныя звесткі таксама нельга прызнаць за верагодныя: А. Валіцкі (1826–1893) падпісваў свае тэксты як Miściuk, Nowogrodzianin, Żeleźniak ды інш., але не Minszczuk, ды і ў ХХ стагоддзі ён ўжо не жыў, а змест верша паказвае, што ўзнік ён на хвалі пэўных пераменаў у дзяржаўнай палітыцы Расейскае імперыі ў дачыненні да пытанняў веры.

Існуе яшчэ адна гіпотэза адносна атрыбуцыі гэтага тэксту. І яна падаецца найбольш праўдападобнай. Спасылаючыся на Андрэя Зязюлю (сапр. Аляксандар Астрамовіч, 1878–1921), Адам Станкевіч у кнізе *Беларускі хрысьціянскі рух* даводзіць, што аўтарам верша *Paznau praudu* з'яўляецца паэт, клерык Пецярбургскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі Янка Мамыш (псеўд. Васіль Васілёк, ? – 1913)[1] і што напісаны ён быў лацінкаю ў 1904 г., а выдадзены нелегальна ў 1906 г. А. Зязюля ў 1905–1910 гг. вучыўся ў Пецярбургскай каталіцкай духоўнай сэмінарыі і, відаць, асабіста ведаў Я. Мамыша, сведчаннем чаго можа быць верш, апублікаваны ў гадавіну смерці клерыка[2]. У спасылцы да публікацыі паведамляецца, што "Janka Mamysz <…> pisau wierszy pa biełarusku i pierakłau hadzinki da N. M. Boskaj na naszu mowu. Wierszy padpiswau wydumanym prozwiszczam Wasil Wasilok"[3]. У беларускамоўных выданнях пачатку ХХ ст. псеўданімам Васіль Васілёк падпісаны, хіба, толькі дзве публікацыі[4]: вершы ў прозе *Какалуша* і *Пявун-Гаварун* у 19 і 20 нумарах "Нашае Нівы" за 1907 г.

Нацыянальны пафас асабліва выразна адчуваецца ў *Пявуне-Гаваруне:*

"Кукарэку", Беларусе! Песьняй цябе сваей ганю... Бо прайшоў час... аб прымусе не чуваць, дзе ни зирну...

Ты ў балоци сеў загразшы и ня видзиш сусим сьвета. Ты прысьлеп и не дабачыш, – кукарэку, кукарэку!

Гэй, брат, борза абудзися!.. Табе цяжка? – Спагадаю... Дзе-ж ёсць школа, не дзивися, кукарэку, ў нашым краю?"[5].

Вельмі вергодна, што А. Ельскі і А. Зязюля маюць на ўвазе адну і тую ж асобу: селянін з Івянца мог быць клерыкам духоўнае семінарыі. Пакуль жа, аднак, мы не маем дастаткова аргументаў, каб лічыць Янку Мамыша (Васіля Васілька) Міншчуком.

Друкуецца з захаваннем арфаграфічных і пунктуацыйных асаблівасцяў арыгіналу, які захоўваецца: AGAD, sygn. $140_2$: *Materyały bibliograficzne z zakresu literatury białoruskiej uzbierane przez Al. Jelskiego*, k. 212–217.

---

[1] A. Stankiewič, *Biełaruski chryściajnski ruch: Historyčny narys*, Vilnia 1939, s. 42–43. Гл. таксама: [online] https://be-tarask.wikipedia.org/wiki/Янка_Мамыш [доступ: 14.02.2019].

[2] A. Ziaziula, *Wasilok: Pamiaci Janki Mamysza (Wasila Wasilka): U hadauszczyny jaho śmierci 8/I 1913*, „Białarus" 1914, nr 2 (9 studnia).

[3] *Ibidem*.

[4] Цікавай падаецца наступная інфармацыя: "Мамышу. Даўно німа ад Вас вестак: Ці схавалі свае сілы? // Ці ёсць думкі маладые?". Гл.: *Пачтовая скрынка*, "Наша Ніва" 1911, № 42.

[5] Василь Василек, *Пявун-Гаварун*, Наша Нива" 1907, № 20 (25 мая).

## Paznau praudu.

Wioz Pranuk raz popa na stanćju „Zasłauje”,
Jon hutarku wieści naczau z Pranukom:
„Prymi, każe, lepiej nasze prawasłauje;
Sam widzisz, tut kiepska być katalikom,
Katolikam drenna tak żyć u Rasiei,
Naczalstwam nijakim nia można wam być,
(Choć pamieżdy wami szmat jość hramaciejau)
Musiajicie wieru swaju wy zmianić!
Budzie dla was dobra, budziecie bahaty,
Budzie i naczalstwa z waszych tady szmat,
Mnoha chto z was budzie mieć dobryje chaty,
Tady úsiaki budzie dla ruskich nas brat,
Tady...” – Ech, wyszou z ciarpienia!
Papowu tak mowu pieraniau mużyk –
Tolki u katalickaj wiery jość zbawienia
Daremnie mazolisz, popie, swoj jazyk!
Choć mnoha kaściołou wy nam adabrali,
Katolikou z naszych mnoha iszcze jość;
I ksiandzou nimała wy u Sibir sasłali,
Bo dla was ksiondz dobry, jak u horle kość;
Ale ksiandzou dobrych my nimała majem,
U nas ni zabraknie nikoli takich.
Tyje z Biełarusou, szto ciapier prasłauny
Buduć, Boh daść miły, usie kataliki:
Pacier[1] błudnaj wiery nichto|ż ich ni znaje,
Haworać takije, jak baćki, dziady,
Każny da kościoła achwotnie uczaszczaje
Spawiedacca chodziać czuć nia usie tudy.
Mnoho chto z ich pomnić, jak wy prymuszali
Kab błudnaju wieru pryniau nasz narod,
Tady szmat kaściołou ad nas adabrali,
Ale praca wasza ni pryniasie płod.
Pomni, popie, czasy kaliści nastanuć,
Szto u kraji naszym nia budzie papou,
Dzie cerkwy stajać, tam kaścioły stanuć
Budzie katalictwa u nas ćwieści znou.
Mauczau pop, bo prauda u woczy kałoła;
Bo znau jon, szto praudu kazau mużczok,

Znau, szto Biełarusy usie iduć da kaścioła,
Czuu, szto prawasłauju koniec niedalok
Jak sieu u wahonie zadumausie nadta
Ab|swojom pop życi i wiery swojej:
„Skora buduć ludzi światkawać Kalady
„A|ja muszu biedny z siamjoju haleć.
„Ach u kraji hetym mnoha ciarplu hora
„I hroszy ni maju[2] ani poúkapiejki
„Moża mnie władyka[3] daść miejsca druhoje,
„Bo i ni małuju|ż ja maju siamiejku
„A z|dzietak najmniejszaj paciechy ni maju;
„Jość synoczkou osiem, ale usie nieszczasny
„Dwa jość z ich kaleki czatyry hultai
„Pjanica jość siom, ośmy umieje kraści.
„Tolki u katalictwie, mnoha raz ja dumau
„Można być zbaulonym a ni u prawasławji,
„Tolki z ich duchounych widżu Boskich słuhau
„Jak nie|daść władyka mnie miejsca druhoha
„Dy iszcze chwalić budzie ksiandziou katalickich,
„Tady ja u Rasieji ni ~~p~~[n]abudu mnoha,
„Budu tady u Austryi ksiandzom choć unickim...”
Doúha tak ab swajom dumau ciażkim hory,
Aż pokol pryjechau u horad hubierski[4].
Władyku zastau jon na toj czas u domu
I uzajszou smutny u pałac archirejski:
„Budź łaskau, władyka, daj miejsca druhoje
„Bo u mojej parachii, dzie cerkwa z|kaścioła
„Ciarplu, daremnicaj pieranoszu hoład,
„Bo usie parachianie da kościoła chodziać”.
Musisz ty brać prykład z|ksiandzou katalickich
Kudy|b ich ni słali, tudy jany jeduć,
I u Sibyr nawet, da ludziej paudzikich:
„Najści, każuć, szczaście tolki można u niebie”,
A dla was katolik każdny nienawidzien,
Lubicie z|duchounych ichnych szydzić[5] wy
A na ich dla was ja dobry prykład widżu,
Bo adnamu Bohu addany jany”.
Tak ruski władyka sam papu pryznausie,
Szto praudziuszaj wiery liczyć katalictwa
Pop stau chwalić wieru, z jakoj naśmiewausie
Wyjechau z|władykam skora za hranicu.
Buduczy pry syzmie[6] Matku Bosku czciu jon,
Dyk paznau jon praudu za Jaje pryczynaj,
Za jaje madlitwaj adroksia jon syzmy,

I stausia jon synam toj wiery praudziwaj,
Wiery katalickaj pad Jaje apiekaj,
I za narod ruski tak Boha prasiu jon
I Niepokalanaj[7], nas hresznych Ucieczki[8]:
„Najświętszaja Matka! Praczystaja Dziawica!
Da Ciabie zanoszu modlitwy u pokory,
Kab usia Rasieja była katalickaj
Kab dzie ciapier cerkwy, sami byli kaścioły,
I nawiarnilisie usie syzmatyki
Za Twojej pryczynaj, o Niepokolana,
Niechajże paznajuć usie heretyki,
Szto Ty pataptała haławu szatanu!
Praszu najpakorniej Ciabie i światych Pańskich
Kab usia Rasieja syzmy adrakłasia,
I byu katalickim uwieś lud sławiański,
Kab adna na świecie auczarnia stałasia.
Ameń.

**Каментар**

[1] Pacier – малітваў.
[2] Літара *и* дапісаная алоўкам.
[3] Władyka – неафіцыйны тытул архірэяў (епіскапаў, архіепіскапаў і мітрапалітаў) у праваслаўных.
[4] Трэба: *hubiernski*.
[5] Szydzić (пол.) – кпіць, з'едліва і даткліва жартаваць.
[6] Syzma (*schizma*) – рэлігійны раскол. Так каталікі называлі Усходнюю царкву пасля расколу (з IX ст.) Ад грэц. schisma.
[7] Niepokalana – Прачыстая
[8] Ucieczka – збаўленне, выратаванне.

# Abstract

In Volume V of *Research and Materials*, one can find a variety of materials related to the history, culture and literature of Belarus in the period from the 19th to the early 20th century. The first section is devoted to the well-known and, at the same time, not thoroughly studied story of the rebellion of Kroshyn peasants against lord Stanislau Yuraha. These events, which took place in the Navahrudak area about 200 years ago, became the origin of the beautiful legend about the first peasant poet of Belarus, which has justified social trends in Belarusian literature for over a century.

We have published a case from the fund of Hrodna's civil governor, which was practically unknown to date, since only a few fragments of it had once been printed. It does not read easily, as it is not a novel, but only raw material for one. Nevertheless, by reading these documents, one can probably answer the question of whether the poem *Play, play, little boy…* was actually written between 1826 and 1829.

The second section of the book is an attempt (with the help of Piotr Kushyna) to recreate the life in Belarusian villages of the north-eastern region of Belarus during the decades of 1830 and 1840. The material published in the section is not an archival document, but it has the equivalent photographic accuracy. It explains the dark and hopeless life of a peasant abandoned to the will of fate who does not even try (unlike Kroshyn peasants) to seek a better future for himself. Of course, today's reader will definitely notice the hostility the author feels toward his own characters, although he allegedly hails from the same environment of "hetsyks" but has rejected them, learned the "language of culture" and, supposedly, has the right to look down on them.

The study of archival collections is necessary not only because it is possible to rely on the identification of high-level artistic works from a time when the Belarusian literary process was de facto inexistent (it manifested itself only within foreign-language literary processes) due to adverse socio-political conditions. Archival collections, more importantly, have preserved several treasures of our language, taking care of which is, perhaps, our most important task today.

Folklore and literary works were recorded by our ancestors - teachers and district scribes - probably in the hopes that their work will not be lost, that they will be once needed. Why did they undertake such a task? Because they loved their own culture, were aware of its value and saw the reigning contempt and, at the same time, a threat to it from the dominant culture.

Lukash Bende found sixteen literary works in Pavel Shein's papers. We are publish what he had copied, and there is hope that someone will publish it directly

from their original source (i.e. from P. Shane's papers), rather than the adaptation of L. Bende. And not only these works, but also other, unidentified by this formidable man with a revolver.

The section that contains the texts of Stanislaw Zambzhytski are not meant for the enjoyment of today's literary aesthetes, as Vyazynka's poet had not aspired to be published or have a career as a writer: he was just fixating pictures of the life around him (not of peasants, we should note, although peasants and their particular language did sometimes appear in his texts). He was "made" a poet by his granddaughters, especially one of them, Olympia Swianiewicz, who, in 1920-s and 1930-s, studied, and then researched and taught geography and ethnography. Later, being in exile, she will reproduce "skarbiec kultury białoruskiej" from memory in order to discuss it with Stanislau Pigon in the context of the dependence of *Dziady* by Adam Mickiewicz on Belarusian folklore and support her arguments by examples from the life and rituals of Vyazynka surroundings.

The obituaries of Vincent Dunin-Marcinkiewicz and Yaleha Prantsish Vul, found in old editions, allow the clarification of certain dates in the life of these prominent representatives of the Belarusian literary and socio-political movement of the 19th century.

Until very recently, we did not know anything about the fate of Yaleha Prantsish Vul (Eliha Francis Carafa-Korbut, 1835-1894) after the writer had been taken from Vitsiebsk to Siberia in 1864. Today, we can more accurately define his tortuous path, and even his place of eternal rest in Warsaw's Powonzki was found.

Regarding research on the life and works of Alherd Abukhovich, Belarusian literary critics have contributed significantly. It is, nevertheless, worth to take a closer look at his legacy once more. However, it should only be done without the fear that the discovery of new information can harm the reputation both of the writer himself and of the researchers who had once created the image of the first Belarusian fabulist. After all, the pursuit of truth cannot hurt a good cause.

For a long time, for obvious reasons, Belarusian Soviet historians and literature researchers have ignored the figure and the contributions of Vatslau Ivanousky. Because of this, the chain of renaissance events was missing an important link which unites Aliaxandr Jelski and Frantsishak Bahushevich with the *Nasha Niva* movement. Of course, *Koladnaja pisanka* or *Vyalikodnaya pisanka*, are works of little significance by present standards, but we cannot do without them. It will probably be long until Belarusian publishers will prepare facsimile restored works of the first national editions of the XX century, so they should be, at least, published in text until we can inspire them to do something even better.



Hutarka Staluka

II

Hej! u naszaho Ihnata
Da u jaho Kazimiery
Niewialiczka sabie chata,
Wuzkie wokny, nizkie dźwiery.
Ad paroha niedaleczka
Kominek i z cehly pieczka
Dajeć duchu na dwie izby
Z druhoj izby spiżareńka
Cieraz sionki piekareńka
Ganek z łaukaj kala pryzby
Pahladzież ty, Panie Bracie,
Szto robie sia u toj chacie.
Jak tut ciahnieć narod nasz.
Mirem jakby na kiermasz.
Tut i wosień pa kapustu
Jeduć jakby da adpustu,
Chto adnym, a chto na pary.
Inżyniery na dryzinkach,
Żydy kupcy u drabinkach
Jeduć kuplać tut tawary,

Першая старонка рукапісу *Hutarka Staluka* *Станіслава Замбжыцкага*
(хатні архіў Марыі Свяневіч-Нагенць)

